KRYVIČ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomeninio gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

## МЕСЯЧНІК ЛІТЭРАТУРЫ КУЛЬТУРЫ І ГРАМАДЗКАГА ЖЫЦЬЦЯ

ГОД 1924

№ 2 (8)

КРАСАВІК — СЬНЕЖАНЬ.

# ВЫДАНЬНІ
## Міністэрства Беларускіх спраў у Літве.

(Lietuva, Kaunas, Mickevičiaus g-vė).

„KRYVIČ“ mėnesinis literatūros, kultūros ir visuomenės gyvenimo laikraštis.

# КРЫВІЧ

месячнік літэратуры, культуры і грамадзкага жыцьця.

**Пад рэдакцыяй В. ЛАСТОЎСКАГА.**

Год выданьня другі

1924 г. КРАСАВІК — СЬНЕЖАНЬ, № 2. (8)

## Юбілейны год.

У 1925 годзе прыпадае 400-летняя гадаўшчына крыўскага (беларускага) друку. Гэтаму вялікаму культурнаму сьвяту будзе пасьвячаны цэлы 1925 год. На нашых культурных дзеячах ляжыць абавязак радам лекцій і юбілейных сабраньняў урочыста адсьвяткаваць гэты год разам з усім грамадзянствам па гарадох, мястэчках і вёсках. Акром таго, ў старой Вільні, на памяць гэтай 400-летняй гадаўшчыны, нашае грамадзянства павінна спрамагчыся купіць сабе дом імяні Скарыны ў якім былі-б памешчаны музэй і Навуковае Таварыства.

Мы зьвяртаемся да ўсяго крыўскага (беларускага) грамадзянства з клічам паказаць ў гэты юбілейны год, што мы жывы і хочам жыць і ісьці сьледам сваіх вялікіх мужоў да звальненьняся з пад ўсякіх чужых, культурных і палітычных ўплываў, хочам будаваць свой ўласны храм веды і красы, і на гэту мэту ўмеем быць ахвярнымі. Хай кожды з нас зложыць на будынак імяні Скарыны, што можа, і з малых даткаў стане векапомная справа.

Мы зьвяртаемся да прыяцеляў нашага народу з просьбай такжа прыйсьці нам з дапамогай ў гэты юбілейны год, каб змаглі мы стварыць першае вогніша нашай культуры і навукі.

Рэдакція.



Доктар Францішак Скарына з Полацка.
Партрэт рэзаны на дрэве (з Бібліі Скарыны).



Застаўка са скарынаўскіх друкаў, з гэрбам Скарыны.

В. ЛАСТОЎСКІ.

# Доктар Францішк Скарына.
## (1525 - 1925).

Безумоўна найвялікшай постацьцю нашай гісторыі зьяўляецца Доктар Францішк (Францыск) Скарына; першы чалавек з вучоным тытулам доктара на ўсходзе, гуманіста, перакладчык Бібліі на народную мову і друкар.

Родам ён быў з слаўнага места Полацка, са старой калыбкі крыўска-беларускай культуры, дзе яшчэ ў XII сталецьці пісаліся і перапісываліся кнігі, а пазьней існавалі, „лаціна-грэцка-рускія“ школы, праз якія шырылася вышэйшыя асьвета.

Скарына называе сябе у сваіх кнігах, „русіном“, „рускім“: „нароженый в рускомъ языку“ (ў прадмове да кніг Даніэля), сваю дзейнасьць пасьвячае „своей братии Руси“, сваю Біблію называе: „Бивлія руска выложена докторомъ Франциском Скориною.. богу ко чти и людем посполитым к доброму научению“. Гэта паказуе, што Скарына прыналежаў да ўсходняга, праваслаўнага абрадку, які ў нас называўся ад найдаўнейшыхъ часаў „русской верой“, і што ён, абычаем таго часу, не аддзяляў народнасьці ад веравызнаньня. Для ўсіх яго сучасьнікаў „руская вера“ была аднача́сна „руским языком“ і процістаўлялася шыранай ў тыя часы Ягельлёнамі „нямецкай“, або „ляцкай“ веры і што раз больш наплываўшаму ў край „ляцкаму языку“.

Францішк Скарына становіцца на старану свайго народу і дае ў яго рукі „працею і стараньем“ сваім Біблію на мове таго народу, з якога сам выйшаў: „иже мя милостивы Бог съ того языка на свет пустил“ (ў прадмове да Псалтыра).

Нажаль гэтага эпохіяльнага праваслаўнага мужа не спрамаглося ацаніць консэрватыўнае „рускае“ духавенства і наагул яго сучасьнікі. Духавенства сьлепа трымалася „сьвятой“ царкоўнай славяншчыны і з падозрывасьцю глядзела на вялікага значэньня нацыянальную дзейнасьць Скарыны, ня толькі ў XVI ст., але нават у пазьнейшыя сталецьці аж да нашых часаў. Бо й дагэтуль праваслаўныя вучоныя багасловы лічаць перакладъ Бібліі

Скарыны не кананічным, адзіна таму, што між іншымі тэкстамі, якімі карыстаўся Скарына пры перакладзе, быў тэкст вульгаты, прызнанай Рымам.

З дайшоўшых да нашых часаў актаў можна бачыць, што сямья Скарынаў прыналежала да заможных Полацкіх мяшчан—купцоў. Радзіўся Скарына каля 1485 году і быў хрышчоны імем Юрья (Георгій). Пачатковую асьвету атрымаў Скарына дома, пад бацькаўскім вокам і паводле старасьвецкіх традыцій свайго народу. Вучыўся мабыць на Псалтыру, які паводле яго слоў: „детем малым початок всякое доброе науки“.



Дрэварыт з кнігі Эстэр, друкаванай ў Празе ў 1519 г.

Кончыўшы школы ў сваім родным крывічанскім Полацку, здольны хлапец рваўся да вышэйшых навук. Бацька яго, Лукаш, паслаў яго у кракаўскі унівэрсытэт. Тагочасны Кракаў меў значную крыўскую калёнію, бо пасля жаніцьбы Ягайлы з каралеўнай польскай Ядвігай, найчасьцей Вялікі Князь Літоўска-Рускі (Беларускі) быў адначасна і каралёмъ Польскім, а знача, мусіў пражываць і ў Кракаве, а пражываючы там, меў сталую канцэлярыю для спраў В. Кн. Літоўска-Беларускага з выдатнейшых літоўскіх і крыўска беларускіх дзеячоў. У самым Кракаве была у тыя часы „руская“ царква.

У 1504 годзе, заплаціўшы 2 грошы ўступнога, запісаўся Скарына студэнтам на філёзофскі факультэт. У унівэрсытэцкія кнігі запісалі Юрья Лукашавіча Скарыну на лацінскі лад: Franciscas Luce de Polecko, прыданым яму

імем Франціш, а ня Юры. Сярод тагочасных кракаўскіх прафэсараў быў выдатны вучоны Ян Глоговчык (1507), які раней (1490 – 1492) быў вучыцелям праваслаўнага князя Івана Гашталда ў Вільні. Аб гэтым Глоговчыку гісторык Сымон Старавольскі перадае, што ён перакладаў Біблію на „рускую“ мову, гэта знача, — на мову, якой гаварылі і пісалі праваслаўныя, а знача — крывічы-беларусы у В. Кн. Літоўска-Рускім (Беларускім) Ма быць гэты Глоговчык ушчапіў у Скарыну любоў да кнігі і накланіў яго да працы над перакладам Бібліі на агульна зразумелую мову.

У 1506 гаду Скарына атрымаў на філёзофскім факультэце кракаўскага Унівэрсытэту вучоную ступеню бакаляра. Але, а кром філёзофіі, Скарыну цікавілі багаслоўе і мэдыцына. Мэдычнага факультэту у Кракаве ня было, і Скарына павінен быў шукаць гэтай веды ў другіх унівэрсытэтах на заходзе Эўропы. Шэсьць гадоў ён недзе вучыўся, але дзе, дагэтуль невядома. Ёсьць пашлякі, што быў на Пражскім унівэрсытэце, што бываў у нямецкіх гарадох. За гэтыя шэсьць гадоў ён здабывае сабе яшчэ адну вучоную ступеню доктара.



Дрэворыт з кнігі Юдыт, друкаваний ў Празе ў 1519 г.

У лістападзе 1512 году прыбыў Скарына у Італію, у горад Падую, які славіўся на ўвесь сьвет у тые часы сваім мэдычным факультэтам. Прыбыўшы у Падую, Скарына стануў перад віцэ-прыорам доктарам Тадэушам Мусаті, які ацаніў здольнасьці Скарыны і заапекаваўся ім. У гэтым часе Скарына быў у вялікім недастатку, бо бацька яго, Лукаш, памер, і малады вучоны ня меў чым заплаціць нават за доктарскі экзамен. Памог яму ў гэтым трудным палажэньні доктар Мусаті.

Таго-ж 1512 году 5 лістапада, на 5-ю гадзіну па палудні, склікаў віцэпрыор Др. Мусаті паседжаньне мэдычнага факультэту ў касьцеле Сьв. Урбана. На паседжаньні Мусаті спавесьціў, што з дужа далёкіх краёў прыбыў ў Падую нязвычайна вучоны, але бедны маладзён, які ўжо мае ступеню доктара навук (eximus artium doctor Franciscus gn. Domini Lucae Scorina de Polocko Ruthenus) і просіць пазволіць яму экзамінавацца безплатна (de gratia speciali ad amore Dei). Пасьля прамовы прыора на паседжаньне быў пакліканы сам Скарына, і ён сам аса-


Есдеръ :-

Починаетьсѧ книга Есѳеръ царици, онаже вызволила есть сыны Ізраилевы от руки Амановы. Иже былъ выпросилъ ихъ у царя Асвѣра. А имать главъ ѕі :-

Глава а :-

О пирований царя Асвера, егоже царица Вастъха нехотела йти къ царю на пиръ. И протожъ отогналъ ее, и установилъ абы жены послухали мужей своихъ :-

В однехъ Асвера царя, онже царствовалъ есть от Индии даже до Ефиопии, над стомъ и двадцетми и седми странами, егда саде на престолѣ царства своего. З Суза града было есть початокъ царства

Пачатная балонка кнігі Эстэр.

біста горача прасіў прафэсараў пазволіць яму бязплатна (amore Dei) трымаць экзамены на доктара мэдыцыны. Паседжаньне вырашыла справу ў карысьць Скарыны.

У суботу, 6 лістапада, у тым-жа касьцелі пачаліся ўступныя экзамены Скарыны перад 14 прафэсарамі мэдычнага факультэту. Гэтыя экзамены вытрымаў Скарына сьветна і аднагалосна быў дапушчан да доктарскіх экзаменаў. 9-га лістапада, у аўторак, сабралася ўся мэдычная калегія падуанскага унівэрсытэту у біскупскі палац, ў ліку 24 асоб, і, пад прадседацельствам вікарнага біскупа П. Забарэльлі, пачаліся выспыты Скарыны. Усе прафэсары задавалі яму пытаньні, ўсім Скарына адпавядаў надзвычай разумна і сьветла бараніў свае думкі. Урэшце Скарына аднагалосна быў прызнаны годным ступені доктара мэдыцыны і гэту годнасьць атрымаў з рук прафэсара Бартламея Борызоні. З гэтага часу Скарына да свайго подпісу зазвычай дадае: „в наукахъ вызволеныхъ и в лекарствахъ докторъ“, або: „в лекарскыхъ наукахъ докторъ“.

Дабыўшы вышэйшыя навуковыя ступені, Ф. Скарына вярнуўся на бацькаўшчыну; тут ён пазнаёміўся з тагочаснымі краёвымі грамадзкімі дзеячамі і братчыкамі, пабываў у Вільні, тагочаснай сталіцы В. Кн. Літоуска-Беларускага, пераняўся мясцовымі злыбедамі і пастанавіў пасьвяціць сябе прасьветнай працы, а галоўна – перакладу біблейскіх кніг на тагочасную літэратурную крыўска-беларускую мову. У той час у нас вельмі адчуваўся недахват поўнай Бібліі, так патрэбнай для царкоўнага і дамовага чытаньня. Тое, што было да яго перакладзена, не станавіла поўнасьці і траплялася ў злых паперакручаных сьпісках і то найчасьцей ў чужой, малазразумелай баўгарскай, царкоўнай мове. І Скарына задумаў перакласьці ўсю Біблію і выдрукаваць яе. Гэта на тыя часы быў вельмі сьмелы крок, бо славянскія народы толькі што яшчэ знаёмяцца з друкарскай справай.



Агалоўная балонка кнігі Акаѳисты, якая захавалася ў адзіным экз. ў Кракаўскай бібліатэцы.

Дзеля таго, што ў родным яго Полацку ня было спрыяйных варункаў, а ў Кракаве, дзе ён атрымаў вышэйшую асьвету, друкаваньне славянскіх кніг, разпачатае Фіолям у 1491 гаду, было спынена дзякуючы цемнаце і фанатызму тамтэйшага духавенства, то Скарына, сабраўшы патрэбныя старыя рукапісы, паехаў ў Прагу („старое место Пражское“). Прага маніла да сябе Скарыну таму, што там, у тыя часы, была поўная рэлігійная свабода, і ён спадзяваўся, што там яго ня сустрэне доля Фіоля.

Асеўшы у Празе, Скарына сарганізаваў друкарню і ўзасобіў яе літарамі, зробленымі паводле рысунку тых старых рукапісаў, якія вывез з роднага Полацка. Скарынаўскія літары адтвараюць лепшыя пробкі стара-крыўскага—Полацка—Смаленска—Тураўскага—кірылаўскага пісьма, выстылізаванага ў цэнтрах крыўскай асьветы. Прыгатаваўшы ўсё патрэбнае да друкарні, Скарына ў 1516—17 г.г. приступіў да друкаваньня сваіх кніг, пад агульным агалоўкам: „Бивлія руска выложена доктором Франціском Скорыною из славнаго града Полоцька богу ко чти и людем посполитым к доброму научению“. У гэтай вялікай справе дапамагалі Скарыне матэр'яльна Полацкіе і Віленскіе мяшчане і грамадзкія дзеячы, чк віленскія бурмістры Багдан Оньковіч і Якуб Бабіч, а такжа разпашырыныя у тыя часы ў нас брацтвы.


Молитва по акафістѣ :~
Збавителю наш г҃дн і҃се х҃рте вкоу та на кресте висящия, для превеликое милости юже имел еси к роду человеческому главу имяши наклонену, хотай всех нас молитвы выслухати. серце имяши отворено, хотай ласку свою всем дати. руце имяши розтагнены, хота всех к собѣ пригорнути. нозе имяши пригвождены хотай всегда съгрешными быти, нынѣ молю тися прегоркое ради смерти твоея, и чести ради креста твоего, услыши и приими молитвы моя, и подайми ласку свою, и пригорни мя к собѣ, и буди при мне въ час страшное и горкое смерти моея амин :~
Доконан ест акафіст чесному кресту г҃дню, працею и пилностию доктора франциска скорины с полоцка г҃оу ця :

Апошняя балонка з Малай падарожнай кніжыцы, друкаванай ў Вільні ў 1525 г.

Кнігі друкаваў Скарына некаторыя на царкоўна-славянскай мове (Псалтыр, Апостал), а іншыя на тагочаснай нашай літэратурнай мове. Псалтыр і Апостал былі вельмі пашыраны, дык Скарына агранічыўся толькі рэдакцыйнай папраўкай тэксту і дадаткам тлумачэньняў у крыўска беларускай мове, а такжа памешчаньнем на белягах кнігі слоў, незразумелых для чытачоў. Другія кнігі Бібліі, менш пашыраныя і вядомыя толькі у адрыўках, ён дапоўніў і прарэдагаваў, а некатарыя кнігі пераклаў нанова, карыстаючыся старымі рукапісамі, лацінскім тэкстам і тэкстам чэскай Бібліі, якая была надрукавана ў 1506 годзе.

Приступіўшы да працы, з 1517 году, Скарына выпушчае са сваей друкарні кнігу за кнігай: у 1517 годзе:—Псалтыр, Іова, Притчи, Сираха; у 1518 годзе: Екклезіастъ, Пѣснь-Пѣсней, Премудрость Соломона, кнігі Царствъ, Ісуса Навіна; у 1519 годзе: Юдит, Судей, Пятокнижие Моисея, Руѳь, Эсѳирь, Плачь Іеремии, Даниила.

Скарына многа старэньня клаў на тое, каб кнігі яго былі якнайлепшымі ня толькі тэкстам, але і са зьнешняга выгляду. І, запраўды, паводле друкарскай тэхнікі кніга Скарыны—гэта найлепшае, што было друкавана ў тыя часы. Яго друкі сталіся прыкладам для друкароў усей Заходнай Эўропы. Найлепшыя тагочасныя Венэціянскія і Нюрэнбэрскіе друкі не стаялі вышэй, а ў многім значна ніжэй скарынаўскіх друкаў. Скарына першы ўвеў у дру-

карстве рысункі ў тэксце, разьбіўку літар і слоў шпэціямі, і, грамаднага значэньня для друкарства рэч, увеў нумэрацію страніц, чаго да яго друкары не рабілі, а нумэравалі толькі аркушы ці сшыткі.

Слава аб выданьнях Скарыны разыйшлася па ўсім славянскім сьвеце, як роўна і яго кніжкі разыйшліся па найдалейшых нават закутках славяншчыны.

З невядомых для нас прычын Скарына пасьля 1519 году спыняе друк сваіх кніг у Празе і друкарню перавозіць у Вільню. Тут наладжвае сваю друкарню Скарына ў доме віленскага бурмістра Якуба Бабіча. Дом гэты, паводле мяйсцовай традыціі, знаходзіўся недалёка ад ратуша, каля „Інбараў“, але ў каторым з істнуючых тут дагэтуль старасьвецкіх дамоў памяшчалася друкарня Скарыны, напэўна невядома. У Вільні, каля 1529 году, Скарына ажаніўся з Магарэтай (Маргаритай) ўдавой на Юр'ю Адзьверніку, які быў віленскім дамаўласьнікам. Жонка прынясла ў пасазе Скарыне ўласны дом у Вільні, аб якім таксама няведама, дзе ён быў.


Божиы.

Кончаетсѧ книга рекомаѧ Премудрость. По моцию Бога в троици единаго. И матери его пречтое девици Марии. Повелением. Працею. И выкладом. Ученаго мужа влекарских науках доктора Франциска Скоринина сына с Полоцька. В славном Старом месте Празском. Лета по нароженин спасителѧ нашего. Тысещнаго пѧт сотаго и осмънадесѧтаго. Мца Генуарѧ дня девѧтаго надесѧть.

Апошняя балонка кніг Саламонавых.

У Вільні ён, каля 1525 году, выдае „Апостол“ і каля таго-ж часу „Малую подорожную книжицу“, якая зьмяшчае ў сабе: Псалтыр, Часословецъ, Акаѳисты, Каноны, Шестодневец, Святцы краткия и Пасхалию. Але скарынаўская друкарня ў Вільні не працуе так энэргічна, як у Празе: пасьля выпуску гэтых двох кніжак, невядома яшчэ дагэтуль, ці было што тут у яго друкарні надрукавана. Магчыма, што па надрукаваньні Бібліі, Скарына заняўся падгатоўкай новых рукапісаў да сваей друкарні, і гэтым тлумачыцца перарыў у яго працы. Але, вось, у 1530 годзе вялікі пажар зьнішчыў дзьве трэцьція часьці Вільні, і ў гэтым пажары была зьнішчана скарынаўская друкарня, а, магчыма, — разам надрукаваныя і не распрададзеныя яшчэ кнігі і прыгатаваныя да друку рукапісы.

Год сьмерці Скарыны невядомы, але яшчэ ў 1535 годзе ён жыў.

Многа рожных няпрыемнасьцяў дазнаў Скарына у Вільні. Скарына меў брата Івана, які заблутаў Францішка ў свае матэр’яльныя справы. Пачаліся суды, і яны давялі да таго, што маемасьць Ф. Скарыны была сканфіскавана. Даканаў урэшце пажар, так што Скарына закончыў сваё жыцьцё ў вялікім недастатку.

У асобе Скарыны мы бачым культурнейшага чалавека сваіх часаў, які нічым ня ўступаў тагочасным заходна-эуропэйскім дзеячам ні розумам, ні энэргіяй, ні сваімі шырокімі помысламі. Дабыўшы высокую асьвету ў Эўропэйскіх унівэрсытэтах, ён пасьвячае сябе выключна служэньню свайму народу. Гэту мэту свайго жыцьця ён усюды зазначае ў чысьленных прадмовах да сваіх выданьняў. Прыкладам: „всехсотворителю богу в тройци единому.. ко чти и всемъ небесным силам, святым и святицам божим ко славе и людем посполитым рускаго языка к доброму наученію“.

Выдае ён кнігі сьв. пісьма таму, што яны, згодна яго пераконаньню, абапертаму на тагочасным схолястычным сьветаглядзе, месьцяць у сабе ўсё, што патрэба для збаўленьня душы чалавека: „понеже не только докторове а люди вченые в нихъ разумеють. но всякии человек простый и посполитый чтучи их или слухаючи можеть разумеці что есть потребно къ душному збавению его“. У Бібліі месьціцца і ўся мудрасьць: „В сей книзе всея прирожоное мудрости зачало и конець, Бог вседержитель познаванъ бываеть... В сей книзе вси законы и права, ими же люди на земли справоватися имеють пописаны суть... В сеи книзе вси лекарства душевные и телесные зуполне знайдете... Ту научение седми наук вызволеныхъ достаточное. Хощеши ли умети граматику или по руски говорачи грамоту еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполнои Библии псалтыру, чти ее... Ащели же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делехъ чти книги Судей, или книги Махавеевъ. Более и справедливее в нихъ знайдеши нежели во александрии или во трои“.




Застаўка са скарынаўскага Апостала, друкаванаго ў Вільні ў 1525 г.

Акром гэтага ў яго прадмовах праглядае гарачае патрыотычнае пачуцьцё. Выдатным прыкладам гэтага пачуцьця зьяўляецца сказ у прадмове да кнігі Юдыт: „Понеже от прирожения звери ходящие въ пустыни знають ямы своя, птицы летающие по воздуху ведають гнезды своя. Рыбы плывающие по морю и реках чують вири своя, пчелы и тым подобная боронять ульевъ своих. також и люди игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають“.

Св. писаньне ён друкаваў, па магчымасьці, на зразумелай для народу мове. Ён не адважаецца яшчэ перайсьці на чыста народную гутарку, ў мове яго яшчэ многа баўгарызмаў у слоўніцтве і ў формах, але ўсё-ж такі ў аснову паложана народная крыўская (беларуская) мова з тымі асобнасьцямі, якія характэрызуюць старакрыўскую літэратурную мову. Часьцю гэта быў консэрватызм самога Скарыны, а часьцю прымушалі яго да гэтага аб’ектыўныя варункі: народная мова тады яшчэ ня была вывучана. Скарына і так зрабіў больш, чым можна было: ён унёс у сваю Біблію многа чыста народ-

ных слоў. Падходзячы, на сколькі пазваляў тагочасны стан моваведаньня, да народнай мовы, ён і так перарос сваё грамадзянства на цэлае сталецьце.

Біблія Скарыны была другой друкаванай Бібліяй (пасьля чэскай) ў славянскіх мовах і на дзесяткі гадоў папярэдзіла пераклад Бібліі на нямецкую і францускую мову.

Выданьні Скарыны вызначаюцца яшчэ мастацкай старанай. Новыя аддзелы яго кніг і агалоўкі аздоблены рысункамі і асобнымі прыгожымі літарамі ў рамках ды застаўкамі. Кнігі маюць дрэварыты, якія, акром прыданьня аздобнасьці кнігам, кіруюцца яшчэ мэтаю, паводле слоў самога Скарыны: „абы люди посполитыя, чтучи могли лепей разумети“. Аб рысунках Скарыны, расійскі бібліограф Стасаў кажа: „ў Апостале загалоўныя літары, гэрб Скарыны і манаграма з літарай Т выкананы так дасканальна, з гэткім дзіўным смакам, што перавышаюць ўсё вырытае ў падобным выглядзе ў Бібліі“. А гэты Апостал друкаваўся ужо ў Вільні. Пад крыптонімам Т. скрываецца адзін са спатужнікаў Скарыны, хтокольвечы з крыўскіх тагочасных мастакоў.


КАТИХИЅІСЪ.
ТО ЄСТЪ,
НАУКА СТАРОДАВНАЯ ХРІСТІАНЬСКАЯ Ѿ СВЕТОГО ПИСМА, ДЛЯ ПРОСТЫХЪ ЛЮДЕЙ ЯЗЫКА РУСКОГО, ВЪПЫТАНІЯХЪ И Ѿ КАЗѢХЪ СЪБРАНА.
Ѿ ПЕРЪВАГО СВЕТОГО АПОСТОЛА ПЕТРА ПОСЛАНІА ЗАЧАЛО ѯ҃.
Готови присно къ ѿвѣту всякому въпрошающему вы, слово ѡ сущемъ упованіи съ кротостїю и страхо, совѣсть имаще благу и прочая.

Агаловак Катэхізісу, друкаванага ў Несьвіжы ў 1562 гаду літэрамі скарынаўскай стылізацыі.

Асаблівa цэнны і цікавы скарынаўскія прадмовы да выдаваных ім кніг. Скарына ў гэтых прадмовах, паказуючы на зьмест кнігі, зазвычай стараецца падкрэсьліць яе маральнае, рэлігійнае і асьветнае значэньне, чаму ён лічыць патрэбным друкаваць гэту кнігу. Прыкладам, у прадмове да Псалтыра ён так кажа: „И видечи таковые пожитки в такъ малой книзе, я Францишек Скарынинъ сын с Полоцька, в лекарскых наукахъ докторъ повелѣлъ есми псалтырю тиснути рускими словами а словеньским языкомъ напред ко чти и к похвалѣ богу в тройци единому и пречистой его матери Марии и всемъ небесным чиномъ святым божьимъ, а потомъ к пожитку посполитаго доброго, наболей с тое причины иже мя милостивыи богъ с того языка на светъ пустилъ“.

У сваіх выданьнях Скарына часам дае вершы сылябічнага характару. Гэткія вершы знаходзім у канцы прадмовы да кнігі Эстэр:

Не копай под другомъ своимъ ямы
сам ввалишся в ню
Не став Амане Мардохею шибенице
сам повиснеш на ней.

У кнізе „Исход“ маецца вершам дзесяць загадоў божых:
Веруй в бога единого
А не бери на дармо имени его.
Помни дни святыя святити,
Отца и матку чтити.
Не забывай ни едина.
И не дѣлай грѣху блудна.
Не вкради что дружнего.
А не давай сведец(с)тва лжива
Не пожедай жены ближнего.
Ни именя или речи его.
Акром гэтага маецца чатырохрадковы верш ў кнізе Іова:
Богу въ Тройцы единому ко чти и ко славѣ,
Матери его Пречистой Маріи къ похвалѣ,
Всѣмъ небесным силам и светым его к веселию,
Людем посполитым къ доброму научению.

Дзеля больш яснага прадстаўленьня характару перакладаў Скарыны падаем адрыўкі з некатарых яго кніг:

**Песьнь-песьняў, раздзел I. (Владим., 338).**

Поцалуй мя поцалованиемъ оустъ своих яко лепшая суть милости твоя над вино Вoннѣйшая над масти драгие. Олей излиянъ имя твое, сего для отроковицы возлюбиша тебе. Тягны мя за собою: Побегнемъ въ добровонности мастей твоихъ.. Ввелъ ест мя въ покои свое тайныи, Возвеселимся и возрадуемся о тобе помняще на перси твоя, паче вина правии возлюбять тебе...

**Эстыр, раздзел 12 (Владим., 344).**

Асъверъ Царь пресилный владеющии От индии даже До еѳиопии. Ста и двадцати и седъми странъ княземъ, И воеводамъ под властию моею сущимъ Ласку свою всем указую. Понѣже над многими народы Царствую, И вси земли подбилъ есми под власть свою. А протож николи не хотехъ обращати ко злому моци свея превеликое. Но добротливостию мыслихъ всегда справовати свое подданые. Абы безо всякого страху, тише живoтъ свой ведучи, миру егоже вси люди жадають поживали .

**Кніга Судзьдзяу (Первольф „Слявяне“, т. III, 228).**

Тогда иде Гедеон и увари козля, и напече хлебовъ пресных съ муки, и вложи мясо въ кошъ и юху влил в горнецъ, и принесе все то подъ дубъ и пода ему. И рече къ нему ангелъ божии: Возьми мясо и хлебы и наклади на оную скалу, и юху на верхъ вылии... И ангелъ божии зъмизалъ отъ очию его...

Выданьні Скарыны мелі вялікае значэньне для свайго часу, яны разыходзіліся ня толькі па ўсіх крыўскіх (беларускіх) землях, але такжа па Украіне, Масковіі, ў землях Вялікага Ноўгараду, палуднёва-славянскіх, і, нават заходзілі далёка на Заход Эўропы. Выданьні скарынаўскія паслужылі прыкладам для друкарань Тюбінгенскай, Несьвіжскай, Тяпінскага. Мала таго, друкаваныя выданьні Скарыны, перапісываліся. Да нашых часаў захавалася некалькі рукапісных кніг якія былі перапісаны з друкаў Скарыны; у некатарыя з іх трапілі і лішнія кнігі, якія былі надрукаваны, але затрачаны Адны з гэткіх рукапісаў даслоўна перадаюць друкі скарынаўскія, з утрыманьнем прадмоў і імя Скарыны; ёсьць сьпіскі ў якіх пераменена правопісь Скарыны;

а також заменена імя яго другім, прыкладам у Галіцкім (Яраслаўскім) сьпіску 1568 году чытаем прыпіску: „протожь я василій жугаев снь зь ярославля В лѣкарскых наоуках докторь... казал есми списати книгоу стго іова рускым языком. б(г)у къ чти и людем посполитым къ наоученію“. Замест скарынаўскага правопісма тут модныта гочасны баўгарскі З рукапісаў скарынаўскага перакладу з лішнімі (раўняючы з дахаваўшыміся друкаванымі экзэмплярамі) кнігамі трэба адзначыць біблійныя кнігі 1575 г. Львоўскага Сьвята-Ануфрэеўскага Манастыря (паходзяць з Зенкава (Падольшчына) Прадоўжаньнем, гэтай апошняй рукапісі, зьяўляецца рукапісь Лукі Тарнопальскага 1569 г. Калі разгледзіць лішнія кнігі гэтых рукапісаў са стараны мовы, то яны акажуцца сходнымі з тымі, якія запраўды вышлі з пад пяра Скарыны. Згэтуль натуральны вывад, што яны, відаць, былі перакладзены Скарынай, які або іх ня сусьціг надрукаваць, або надрукаваў ды яны загінулі (Карскій „Бѣлоруссы“ Т. III).




Агалоўная балонка Евангельля Васіля Тяпінскага друкаванага літарамі скарынаўскай стылізацыі.

Скарына ў кнігах біблійных памесьціў 42 рысункі рытыя на древе. Некаторыя з гэтых рысункаў маюць на сабе вязаны подпіс ў які стала ўходзіць літара **Т** (ў Апостале). Пад партрэтам Скарыны вязь выразна мае тры літары: **Т. М. З,** гэта ёсьць подпіс мастакарысаўніка які аздабляў скарынаўскія друкі рысункамі. Гэты мастак рысаўнік, скарынаўскі сучасьнік, дагэтуль невядомы. Адно пэўна што ён, як і Скарына быў „русін“; на гэта паказуе пераезд яго, разам са Скарынай, з Прагі у Вільню і яго монаграма зложаная са славянскіх літар.

ПРАФ. В. АНДЭРСОН.

# Прыклады эстонскай народнай творчасьці.

## Наймiт на небе. [1])

Немаль лiтэральны пераклад гэтай народнай эстонскай песьнi, запiсанай ў Пэрноўскiм павеце, ў парохii Каркci (па нямецку Karkus), прыблiзна ў 1889 годзе. Тэкст надрукаваны ў першым томе, стр. 177—178, яшчэ не закончанага, монумэнтальнага выданьня: „Eesti rahvalaulud" (Эстонскiя народныя песьнi); лiк тамоў гэтага выданьня будзе станавiць некалькi дзясяткаў.

Гэта песьня, як шмат iншых эстонскiх песьняў, ведама i ў Фiнляндзii; раней лiчылi, што яна перайшла ад эстаў да фiннаў, але цяпер праф. К. Крон думае наадварот,—ад фiннаў да эстаў. Пададзены тут тэкст моцна рожнiцца ад фiнскiх варьянтаў гэтай-жа песьнi.

**Пачатак эстонскага тэксту:**

Kus ori une magasi,
Sulane vaene suigatelli?
Suure soo, laia laane,
Suure soo, keskeella,
Laia laane vaieella;
Süld tall vetta alla selja,
Säsu vetta alla sääre,
Küünar vett tall alla külje.

**Перакладны тэкст.**

Дзе заснуў наймiт бязроды,
Свой злажыў жывот гаротны?
На гразкiм балоце ў пушчы,
У цёмнай пушчы на дрыгвiне,
На дрыгвiне у лясочку;
Пад плячмi вадзiцы сажань,
Пад каленкамi крынiца, [2])
Пад баком вады зноў локаць.
На руках зязюля плача,
На вачах салоўка скача,
Авяльга пяе на пальцы, [3])

1) Эстонскае слова „ori" ў iстоце азначае „раб", „прыгонник", але з кантэксту вiдаць што мова iдзе аб найміце багатага селянiна.

2) Незразумелае эстонскае слова (säsu).

3) Лiтэральна: iграў на iнструмэнце. — Зоолёгiчнае найме птушкi „peoleo", якая упамiнаецца ў вершы 11 i 12, Oriolus Galbula L. (па нямецку Pirol).

Авяльга на ускаленках,
Травянічка [4]) на павеках;
Ды ня чуе бедны найміт,
Ня ўстае з зямлі гаротны!
Каб узьняць з зямлі найміта,
Прылынулі два анёлы,
Паднялі слугу на плечы,
І ўзялі яго на рукі,
Панясьлі слугу на неба,
Насупроць харом Марыі,
Да ўспарожкаў Божай Дзевы.
Вось, узяў найміт за клямку,
Бразнуў ў залаты заворы.
І сказала Сьвят-Марыя:
„Ты вайдзі ка мне, нябожа, [5])
Ой, вайдзі, ды сядзь на ўслоне!“
І глядзеў я ды ўзіраўся,
Як мяне вось тут пасадзяць?
Аж падалі ўслонец срэбны
Ды з сярэбраным падножкам: [6])
„Сядзь, нябожа, у выгодзе,
Шмат стаяў жывым ты, бедны“.
І глядзеў я ды ўзіраўся,
Што у рукі мне паложаць? [7])
Аж падалі мне у рукі
Пшон пірог і піва кухаль:
„Еш пірог ты, кмецю Божы,
Еш пірог і пій-жа піва!
Шмат разоў ты быў галодзен,
Быў галодзен, глытаў сьліну“.
І глядзеў я ды ўзіраўся,
Хто за мной усьлед дыбае?
Аж прышлі усьлед за мною
Гаспадар мой, гаспадыня;
Меру-локаць ён трымае
И трубку кужалю пад пахай:
„Ты прыступ да нас, нябожа,
Ды вазьмі сваю заплату!“
Я сказаў тут гаспадару:
„Гаспадару, гаспадынька,
Гаспадынька, красна пташка!
Затрымай сабе свой кужаль
І насі сукно трынітна:
Бо няўмела ты плаціці,
Награджаць пад сонцам ясным;
Мне Марыя заплаціла,
Сьвят нябёсмі нарадзіла“.
І глядзеў я ды ўзіраўся,
Дзе абодвых іх пасадзяць?

---

[4]) Kulu-lindu; kulu — няскошаная леташняя трава.
[5]) У тэксце песьлівая форма: orjakene=„рабочак“.
[6]) ўласьціва: з сярэбранай пракладкай.
[7]) Літаральна: прынясуць.

Аж падалі пень смаловы
Са смаловенькім падножкам:
„Сядзь, во тут ты, гаспадару!
Сядзь, ты побач, гаспадынька!
Хутка дроў для вас нашчэпяць,
Хутка вам цяпло загнецяць,
Ды ў агні вас ня часіну,
Ня другую пражыць будуць“. [7]

## Пярун і Чорт. [8]

Казка гэта запісана ў Вэйсэнштэйнскім павеце, парохі і Амбла (Ampel), ў 1895 годзе. Арыгінал: рукапіснае сабр. матэр'ялаў народнай вусменнай творчасьці праф. М. І. Эйзэна, балонкі 20718—20722.

Нямецкі пераклад надрукаваны ў „A. von Löwis of Menar, Finnische und estnische Volksmärchen, Jena 1922“, бал. 203—206, № 66.

У 1866 годзе было вельмі сухое, прыпарнае лета. Чаму-ж была гэткая посуш? Ваaskэ, знахар, выясьніў гэту сухасьць лета такім чынам:

Раз вясной ў сьпякоту лёг Пярун на прысанку спаць. Сваю грымотную дуду палажыў ён побач, а каб хтоколечны ня ўкраў яе, ён паклаў на дуду сваю руку.

Ажно праходзіў тудой Чорт і згледзіў, што Пярун сьпіць. Замануў Чорт украсьці ў Пяруна грымотную дуду, але ня мог узяць яе ў свае рукі, бо рука Пяруна ляжала на грымотнай дудзе

Падумаўшы, Чорт нацяміў. Ён, ўзяўшы на рукі, падняў свайго сына наверх, каб той украў грымотную дуду. Але сын таксама нямог падступіцца, бо Пярунова рука ляжала на грымотнай дудзе.

Пачухаў сябе Чорт за вухом і, злавіўшы жамярыцу, падаў свайму сыну, кажучы, каб той пасадзіў яе Пяруну за вухо, каб яна тамака яго ўкусіла. Як толькі Пярун пачухаецца, то можна будзе хлапцу выхапіць грымотную дуду.

Так яно і сталася. Вош стрыканула, Пярун паскроб галаву; хлапец схапіў грымотную дуду і перадаў яе Чорту.

Чым бардзей пабеглі яны ў пекла. Чорт зачыніў грымотную дуду за сем замкоў, каб ніхто ня мог яе стуль дабыць.

Калі выспаўшыся ўстаў Пярун і нідзе нямог знайсьці сваей грымотнай дуды, то ён крэпка замаркоціўся: скуль цяпер зямля дабудзе дажджу! Зразу дагадаўся Пярун, што гэта Чорт украў грымотную дуду, але няма рады!

Каб сьцерці час, пачаў Пярун са сваім сынам лавіць рыбу. Ловяць яны рыбу ужо да вечара і ніводнай ня могуць злавіць.

Раптам бачыць сын, што ўнізе нейкі маленькі чалавечак прарэжа ножыкам дзірку ў невадзе, высыпле рыбу ў свой мех і хутка, ізноў зашые дзірку.

Падцікаваўшы, злавіў Пярун таго маленькага чалавечка, што краў рыбу; ажно гэта быў сын Чорта.

---

7) Пераклад В. Л.

8) Дзеля таго, што блізка ўсе эуропэйскія народы маюць, з большага, адны і тыя-ж казкі, то і эстонскія казкі ў большасьці здарэньняў трапляюцца такжа ў Крывічоў. Але пададзеная тутака казка зьяўляецца выключнасьцю: акром эстаў яна блізка нікаму невядома. Асабліва цікава яна тым, што акурат той-жа асновы маецца казка ў зборніку стара-скандынаўскіх паганскіх песьняў. „Старшая Эдда“, у песьні пад агалоўкам „Thrymskvidha“. У Эстаў гэта казка запісана ў нескалькіх адменах, але ў цяперашні час яна блізка што забыта.

Хлапец стаў прасіцца: „У нас у пекле хутка будзе вялікае вясельле, і нам патрэбна сьвежая рыба, бо пякельная дачка выходзіць замуж“.

— „Датуль, пакуль ты мне не абяцаешь, што запросіш на вясельле,— я цябе ня выпушчу на волю“.

Праўда, чортаў сын не хацеў клікаць Пяруна на вясельле, але ўбачыўшы, што інакш ня выкруціцца, абяцаўся запрасіць.

Тады Пяруноў сын кажа: „Калі ты не запросіш мяне на вясельле, то мы адбярэм ад цябе рыбу, і вам трэ будзе гуляць вясельле бяз сьвежага мяса“.

Чарцяняці шкада было пакінуць рыбу, і яно запрасіла на вясельле і Пяруновага сына.

Восеньню, ў жніўні, прышло пісьмо з запросінамі: Пярун і яго сын павінны ісьці ў пекла на вясельле.

Пачалося вясельле. Пякельныя госьці шалелі з вялікай радасьці. Гарэлкі было гэтулькі, што хоць купайся! Усялякія музыкі — і дуда, і трамбоны, флейты, і бубны—верашчэлі адны прад аднымі. Сам Люцыпар разгуляўся і радасна пазіраў на вясельныя скокі, дзе ўсе жыхары пекла ішлі ў прытупку і прыскачку.

Пасьля ўспомніў Чорт, што ёсьць у яго яшчэ адна дуда, якая ляжыць зачынена за сямю замкамі. Ён пайшоў, і ўзяў яе, каб падмацаваць дутую капэлю. Сколькі ён ня дуў у яе, але ня мог выцягнуць ніводнага тону.

Пярун згледзіў гэта: „Глянь, дзе мая дуда! Ці не магу ўзяць яе ў рукі, можа я штоколечы з яе выдзьму“.

Усе пякельныя музыканты пробавалі дуць, але ніхто ня мог дуду асіліць. Урэшце пяруноў сын пытаецца: ці ня можна мне спробаваць, можа я й выцягну якіх пару тонаў!“

Падалі дуду пяруноваму сыну.

Хлапец агледзіў яе кругом, пасьля ўзяў і прылажыў да вуснаў. Усе пякельныя госьці сабраліся каля хлапца, каб паслухаць новую дуду.

Процьмы пякельныя! Як затрубіў хлапчук, — пасыпаліся з дуды маланьні-сьвігавіцы, загрымелі грымоты. Шмат вясельных гасьцей было на мейсцы пабіта маланкамі, а што асталіся жывымі, пусьціліся наўцекі.

Пярун і яго сын хадзілі па пустым пекле і нідзе не знаходзілі жывога стварэньня. Тады ўзяў Пярун сваю грымотную дуду і задудзеў так, што пекла разсыпалася.

---

ВЛ.

# Часы былі трывожныя.

## I.

Часы былі трывожныя. Увесь край – ад Усьвята да Турава, і ад Дрогічына да Смаленска — жыў ў напружаным чаканьні невядомага, што, як меч, вісела, але яшчэ ня ўпала ня галовы стрывожаных і змораных людзей. Гэтае напружанае чаканьне невядомага гнятло душу, напаўняла ўсіх палахлівою маўклівасьцю.

Загнаныя ў пушчы і крокаці сьвятары старой веры пачалі выходзіць ў сёлы і гарады. Словы іх былі горкія, а варожбы грозныя. Як крукі, яны каркалі аб маючых настаць для народу Крывічоў доўгіх сталецьцях падярэмнага жыцьця:

„Воля ваша будзе сьцерта, як зярно ў жорнах, верай новай і разьвеецца, як порсьць дарожная.

„Слава ваша забудзецца, а імя ваша будзе імем пагарджаных і паярэмленых.

„Нашчадкі вашы адвернуцца ад крыві сваей, і магілы вашы зьневажаць будуць.

„Плады зямлі вашай, кроў і пот вашы возьмуць чужынцы, і вы іх багоміць будзеце.

„Жоны і дочкі вашы стануць паслужніцамі ў тых, каторыя вамі валадаць будуць.

„Перад рабамі сваімі пахінеце каркі і зьнізіце аблiччы свае ў пакорлівасьці.

„Змоўкнуць вечавыя званы ў гарадох і песьні свабоды ў сёлах.

„І перапоўняцца воды сьлязамі вашымы, паветра стогнамі, а зямля крывёй вашай.

„І згінеце з аблічча зямлі, калі не ачуняецця і не скажаця ў сабе: зямля наша—дом наш, яна—магіла прашчураў і калыбка будучыхъ пакаленьняў нашых!..

II.

Пераадзеўшыся ў сяляцкі кажух і насунуўшы глыбока на чало калматую шапку, многа разоў ўжо слухаў князь гэтых прамоў, зьмяшаўшыся ў соймішчы. І кожды раз прамовы гэты глыбока парушалі яго.

Сьвятары старой веры вымагалі павароту да даўнай веры і выгнаньня з краю прапаведнікаў хрысьціянства, якія трымаліся ў гарадох пад княжай апекай. Па вёсках-жа, раскінутых паміж глухіх пушч, старая вера яшчэ ў поўні трымалася.

— Ды што па вёсках?! — дадаваў ў мысьлях сваіх князь.—У жаночых сьвятліцах маіх харомаў стаіць стод Пяруна побач з крыжом... Я сам малюся агню і Богу!..

— Але замяшаньне ў народзе шырыцца, і трэба ўчыніць канец гэтаму, —разважаў далей князь. — Або—Русы і Грэкі з навучонаю хітрасьцю, і вайна супроць ўласнага народу, або—з народам супроць чужынцоў.

— „Не, гордыя Крывічы не пахіляць карку перад ненавіснымі Русамі і Грэкамі, якія пазбаўляюць нас волі! Клікнем на помач Ятвягаў, Латгалу, Жамойдзь, — памерымся яшчэ з Русамі!..

III.

Да князя ў харомы прыйшоў біскуп. Ён апавядаў аб ўсёабыймаючай любові:

— Цяжка жыцьцё чалавечае на зямлі, — казаў ён, — і няма патолі нікому. Сьвет дагэтуль тонуў ў цемры нязнаньня... Чалавек чалавеку воўкам быў, бо не на любові, а на помсьце і ненавісьці будавалася жыцьцё людзкое. Хрыстос навучае нас за зло ня злом, а дабром адплату чыніці, палюбіць бліжняга свайго, як самога сябе... Крыжом трэба прасьвяціць бедны народ гэты, а з крыжом разам увойдзе ў душы людзей, ў гарады і сёлы, ў краіны, плямёны і народы ўсёабыймаючая, ўсёдаровуючая любоў. І калі ўсе плямёны і народы прыймуць Хрыста, між імі запануе любоў: ня будзе бедных і паніжаных, бяздольных і пакрыўджаных, ня будзе злосьці і помсты, вайны і забойства, Царства Божае запануе між людзей на зямлі...

— Старая вера, — думаў князь, слухаючы біскупа, —не дае ўсёагартаючай любові... А калі-б запанавала любоў між людзьмі, настаў-бы спакой і шчаснасьць.

— Дык, хай-жа будуць людзі братамі, хай палюбяць бліжніх сваіх!...
І схіліў князь чало перад ўладыкай, кажучы:
— „Благаславі, ойча,ісьці з Хрыстом ў народ!“

IV.

Часы былі трывожныя. Дружыны русаў абселі гарады і сёлы. Мячом церабілі шлях новай веры ў народ, і купалі яго ва ўласнай крыві. Руя і парубства шырыліся пад засьцю крыжа. Спуджаны народ палыханьнем зарніц гарэўшых вёсак уцякаў ў недаступныя дзікія пушчы, творучы брацтвы „лютых“, якія кляліся да апошняй кроплі крыві ў жылах бараніць сваей веры. З імі былі сьвятары старой веры, з князям—Русы і Грэкі, прагавітыя ўлады і багацьцяў.

Часы былі трывожныя...

---

МАТАЧ.

# За праўду.

— „Б-р-р-р!.. Сьцюдзена!.. Во, раздажджылася: ліе, як з вядра!.. Ніткі сухоі нямя... Падкладай гальлё, мо агонь большы будзе!..“

— „Ня можна агню, — яшчэ хто угледзіць“, прагучэла адповедзь.

Двоя сялян у старых даматканых сьвітках, прамокшы да касьцей, цісьнуліся к слабаму агоньчыку, які даваў больш дыму, чым цяпла. Адзін з іх, малады і высокі, трымаў у руцэ невялічкі пучок лому, патроху падкладаючы яго ў вагонь, а другі, відаць старэйшы, сядзеў на мокрай зямлі, скрыжаваўшы ногі, і панура глядзеў у сярэдзіну вогнішча.

— „Падкладай, калі кажу!“ зноў паўтарыў з гневам сядзеўшы на зямлі: „Каго нячысьцікі папруць у гэткую пару ў лес? А нам ня калець-жа тут?..“

Малады падлажыў хварасьця. Полымя на нейкі час патухла, а потым жыганула з лёгкім трэскам. Навокал стала сьветла. Перазябшыя сяляне пачалі грэць рукі над полымем. Пасьля некалькіх мінут маўчаньня старэйшы з іх паглядзеў на таварыша.

— „Каб, здаецца, хоць адным вокам зірнуць, супакоіць сэрца“, прагаварыў ён, і доўга хаваныя мукі пачуліся у яго голасе: „Жонка хворая, дзеці малыя, галодныя... Эх, жыцьцё, жыцьцё! Будзь ты праклята!..“

Зноў наступіла маўчаньне...

— „Дзядзька Тамаш!“ разам прагаварыў малады: „Давай прабяромся, паглядзімо хоць у ваконца, а там — пойдзям, куды вочы глядзяць“...

Той, які называўся дзядзькам Тамашом, хвіліну маўчаў, а потым раптам ўстаў.

— „Я таксама гэтак думаю, Хвядос: пойдзям, — тут блізка!..“

Падперазаўшы мокрыя сьвіткі і затушыўшы полымя, сяляне накіраваліся у цёмную гашчу лесу.

Восенская сьлязістая ноч зацягла зямлю чорнаю радзюгаю. У лесе панавала цемра, іісьці можна было наўгад, або толькі чалавеку, добра ведаючаму мейсца. Хвядос і дзядзька Тамаш, як называлі сябе незнаёмцы, напэўняка прабіраліся праз мокрую гушчыню леса. Гальлё дрэваў абсыпала іх буйнымі сьцюдзёнымі кроплямі. У працягу ўсяе дарогі яны ні словам не абмовіліся адзін з другім. Ішлі каля гадзіны часу. Урэшце лес скончыўся, і яны выбраліся на паляну.

— „Дарогаю ня пойдзям, а ровам“, сказаў дзядзька Тамаш.

Таварыш яго моўчкі пакрочыў за ім. Па балотністым глыбокім рове з дзунячаю на дне вадою ісьці было гразка і цяжка. Урэшце яны выбраліся і апынуліса перад цёмнымі гумнамі.

— „Дзе сустрэнемся?“ запытаўся Тамаш.

— „Тут прыдзецца, дзядзька“, адказаў малодшы: „Праз паўгадзіны, — глядзі, не спазьніся!“

Мужчыны разыйшліся у розныя бакі і пасунуліся асьцярожна, як цені, чмякаючы нагамі па гразкіх вулках.

З самага краю гэтай вёскі стаяла старэнькая, скрыўляная на бок, хатка. Дзядзька Тамаш, асьцярожна азіраючыся, накіраваўся туды. З вакна хаткі трымцела прысьлепае сьвятло. Падыйшоўшы да вакна, Тамаш прылажыў да яго твар. Потым два разы стукнуў. Адповядзі ня было. Тады ён пайшоў да дзьвярэй, якія рыпнулі ад яго лёгкага дотыку. Увайшоў у сені, потым — у хату.

Дагарала лучына. Па меры таго, як полымя яе зьменьшалася, з пад пала і лаваў выпаўзалі панурыя шэрыя цені, бытцам занепакояныя прагавітым жаданьнем хутчэй апанаваць усё магільнаю цемраю і засланіць ад Тамашовых вачэй тоя, што няцерпілася яму ўбачыць. Пры раптоўным павялічэньні полымя лучыны яны зноў, як-бы спалоханыя, уцякалі ў свае цёмныя куткі, выстаўляючы адтуль, бытцам у знак пакоры перад сьвятлом, белыя лапікі цьвіласьці. Па халодных сьлёзах, якія выступілі буйнаю расою на сьценах і столі, было відаць, што няцепляная хата плакала па сваім гаспадару. Цяжкае дыханьне Тамаша вылятала клубкамі белай пары, якая сьведчыла, што ў хаці было сьцюдзеня. Кругом панавала магільная ціша.. Нат паветра аддавала магільным трупехлым пахам...

Не пасьпеў Тамаш азірнуцца, як полымя лучыны раптам падскочыла і адарвалася, паглынутае цемрай, раптам запанаваўшай у хаці. Балючая думка, што гэты неспадзяваны вораг, які засланіў усё ад вачэй Тамаша і адабраў ад яго апошнюю магчымасьць убачыць сям'ю, як нажом рэзанула па яго сэрцы. Але, пастаяўшы хвіліну і як-бы што скеміўшы, Тамаш скіраваўся да печы, прывычнай рукою нашчупаў у пячурцы карабок з серчыкамі і засьвяціў новую лучыну.

Цяпер Тамаш разгледзяў усё ў хаці. Першае, што кінулася яму ў вочы, гэта пяцёхгадовы сынок, які спаў, лежачы клубочкам на голай лаўцы, палажыўшы галоўку на каленях свае старэйшае сястры. Яна таксама, абапёршыся аб стол, спала моцным сном, забыўшыся пра свой абавязак зьмяняць лучыну і падаваць мацяры ваду. Сэрца Тамаша сьціснулася, у вачох заблішчэлі сьлёзы... Не зачапаючы дзяцей, ён скіраваў у запечча, дзе быў пол. Стараючыся не шамрыць, Тамаш паціху падыйшоў да яго. Тут у цёмным кутку трудна было што-небудзь разгледзяць. Па дыханьню толькі можна было пазнаць сьпячага чалавека, ды зьверху радзюшкі бялела спалацелая высахшая рука. Тамаш дакрануўся да яе.

— „Тэкля, Тэкля!“ ціха прашаптаў ён.

Рука хворай здрыгнула. Потым пачуўся стогн.

— „Што?.. хто?..“ запытаўся, як-бы ў сонным маячаньні, слабы голас з пасьцелі.

— „Тэкля, табе усе няўздоліцца?“

Хворая расплюшчыла вочы і з мінуту ў няпрытомнасьці глядзела на Тамаша.

— „Тамаш?.. Ты?.. Не... не... гэта — хіба сон...“

Хворая закрыла рукою вочы.

— „Я, я... Гэта — я, Тэкля!.. Што з табой?..“

Тамаш сеў на край полу, баючыся дакрануцца да хворае сваёю мокраю сьвіткаю.

— „Дай... сьвятло, — пагляджу, хто... ты“.

Тамаш хутка дастаў лучыну і паднёс яе да пала, жадаючы і сам лепш разглядзець ляжачую.

Перад ім быў шкілет жанчыны, ў якой нельга было пазнаць яго прыгожай, ня так даўно здаровай жонкі, жвавай і вясёлай Тэклі. Увесь твар яе быў жоўты з сінімі плямамі. Шчокі яе запалі, вусны пасмаглі і пачарнелі, нос падаўжэў і загастрыўся, вочы ўваліліся і блішчэлі, як шкло, хваравітым агнём. Шырока расплюшчаныя, яны то блукліва перабягалі з аднэй рэчы на другую, то застывалі на хвіліну на Тамашы, то закочваліся пад лоб. Сухія вусны жанчыны варушыліся і штось-ці шапталі. . Тамаш нахіліў галаву да яе твару, але нічога не разслухаў з гэтага бязгучнага шаптаньня. Толькі па сьлёзах, якія заблішчэлі у вачох Тэклі, можна было дагадацца, што гэтыя вусны аб нечым прасілі, хацелі расказаць пра вялікую крыўду і жаль, аддаць апошняе разьвітаньне .. Але было ужо позна... Разам з дагараючай лучынай дагарала жыцьцё Тэклі... Раптам усё цела яе здрыгнула... Агонь жыцьця, як полымя тэй лучыны, астатні раз бліснуў у яе вачох... Тэкля глыбока і цяжка ўздыхнула,— і цемра сьмерці навекі заслала яе блакітныя вочы...

Тамаш доўга сядзеў, апусьціўшы галаву... Аслупянеўшы, шырока раскрытымі вачыма ён глядзеў на няжывы твар Тэклі, не даючы выяўнасьці таму, што зрабілася. Ён не адяуваў нат фізычнага болю ад гарачых вугальляў, якія падалі з дагараючай лучыны на яго рукі... Потым ён падняўся. Ўзрок яго, поўны безнадзейнасьці, упаў на калыску, вісеўшую ў кутку. Пасьвяціўшы ў яе, Тамаш ад убачанага ім адступіў назад і ўхапіўся рукою за грудзі... З калыскі дакорна глядзелі на яго блакітныя сашклеўшыя, як-бы зацягнутыя дымам, вочкі Зьмітручка. Тварык яго быў сіні, а з пачарнеўшых мёртвых ужо вусенцаў стырчэла сухая, зробляная са старызны, сусла...

Хістаючыся, як п'яны, Тамаш данёс да сьвечака лучыну, потым падыйшоў да стала і, палажыўшы на ім галаву, наўзрыд заплакаў...

Дзяўчынка прахапілася і, паціраючы заспаныя вочкі, на разе не магла нічога скеміць.

— „Тата!“ крыкнула яна ўрэшце і кінулася да бацькі. Цалуючы яго рукі, тулячыся да яго, дзяўчынка траслася ад плачу. Потым, ўспомніўшы аб нечым, яна раптам адарвалася ад яго і кінулася да сьпячага на лаве хлопчыка, стараючыся яго раскатурхаць. Але ён пачаў плакаць і не хацеў уставаць. Тады Тамаш падняў малога і занёс яго на печ, прыкрыўшы старою сьвіткаю.

— „Няхай сабе сьпіць, не зачапай яго, Аленка“.

Дзяўчынка, крыху супакоіўшыся, падыйшла да бацькі.

— „Татка, ты цяпер ня пойдзяш ад нас?.. А то мамка хворая... Хлеба ужо два дні няма“... прагаварыла яна ціха, апусьціўшы галоўку.

Тамаш, нічога не сказаўшы, пачаў яе гладзіць і лашчыць.

— „Даўно мамка ляжыць?“ з высілкам запытаўся ён.

Вусны дзяўчынкі задрыжэлі, і па твары пацяклі сьлёзы.

— „Даўно“, прагаварыла яна: „Як ты пайшоў ад нас, — яшчэ хадзіла. Але прыйшлі жандары, шукалі цябе, пыталіся у нас... А мамку білі, білі,— а потым павялі ў Беласток... Два дні яе ня было... Мы тут плакалі.. Ня мелі чаго есьці... Дроў ня было... Зьмітручок надта плакаў... А цяпер ось сьпіць“, дабавіла яна, паказваючы на калыску. „Мамка як прыйшла, дык твар у яе быў сіні-сіні, увесь ў крыві.. Дастала хлеба, пакарміла нас, схадзілі ў лес па дровы, печ нацеплілі... А потым, — як лягла, дык і не ўстае...

Дзяўчынка рупна паглядзеля сваімі, не па ўзросту турботнымі, вочкамі ў цёмны куток, дзе ляжала яе матка.

— „Ты мокры?“ заўважыла яна, водзячы худою ручкаю па вопратцы бацька, аб якой ён нават забыўся.

— „Ідзі спаць, Аленка“, сказаў Тамаш: „Я зарас прыйду“.

Дзяўчынка зьняверліва спазірнула на бацьку, потым — на паліцу, дзе калісьці ляжаў хлеб, і ўздыхнуўшы моўчкі палезла на печ да брата.

Тамаш стануў каля стала, абапёршыся аб яго абедзьвімі рукамі. Нешта надзвычайнае і безпадзейнае сьвяцілася ў яго вачох. Пераве̇ўшы іх на абраз, ён з мінуту пастаяў ня то молячыся, ня то праклінаючы. Потым, ні на каго ня гледзячы, ён выйшаў з хаты.

Падыйшоўшы да гумна, Тамаш прыкмеў фігуру Хвядоса.

— „Хутчэй!. Не марудзь!“ трывожна гаварыў той: „Спазьніліся, — ось ужо сьвітае!..“

Зірнуўшы на Тамаша, ён спалохаўся. Тамаш быў бледны, як палатно. Мускулы яго твару і губы дрыгалі і моршчыліся ня то ў усьмешку, ня то ў плач. Вочы расшырыліся, непакойна бегалі і гарэлі страшным гнеўным агнём. Грудзі яго высака і часта ўздымаліся.

— „ Ідзі!.. Ідзі адзін!“ прахрыпеў ён: „Ідзі!. А я застануся!.. Усё прапала, усё згінула!.. Мне ужо нямя чаго шукаць!.. Няхай арыштуюць, ссылаюць!. Я — ня злодзей, не разбойнік!.. Я — чэсны!.. Яны— разбойнікі, душагубцы!.. Іх — у турму, а не мяне!.. За маё ўласнае, за праўду губяць... Але... прыйдзе і ім канец!.. Заўтра адкрыта скажу ім!.. Дачакаюцца яны нашае помсты!.. Пр-р-р-аклятыя!..“

Тамаш гаварыў гэта, не даючы выяўнасьці сваім словам, якія сыпаліся з яго вуснаў бяз зьвязку і глуха. Пры гэтым голас і ўсё цела яго дрыжэла, і ён пагрожліва патрасаў кулакамі.

— „Ідзі...“ крыху супакоіўшыся сказаў ён: „Ты — яшчэ малады, тваё— ўсё ўперадзі... Ідзі... Ты — там, а я — тут...“

І ён нават піхнуў Хвядоса. Той крыху як-бы павагаўся, потым пасьпешліва накіраваўся да рову.

Пачынае сьвітаць... Дождж перастаў ліць, толькі імгла дробным пылком трусілася, як праз сіта...

Хвядос пасьпешліва прабіраўся сярод густога ляшчынніку. У вачох яго муцілася і ўставалі то плачучая з малым сыночкам пры грудзёх маладая жонка, то стары бацька з трасучайся сіваю галавою, то бледны, перакошаад мучэньня і злосьці, твар дзядзькі Тамаша.

-- „І калі канец усяму гэтаму?“ думаў ён: „Калі-ж ты, нашая зямелька, ўздыхнеш свабодна і будзеш роднай маткай і апякункай свайго ўласнага люду, а ня чужынцоў? .“

У грудзёх Хвядоса кіпела ненавісьць і помста... Жаданьне барацьбы дадавала яму сілы ісьці.

Цёмны лес праглынуў яго...

---

В. Л-СКІ.

# Новагорадзкая аўтокефальная мітраполія.

На ўсходна-славянскіх абшарах ў розныя часы былі заснаваны тры мэтраполіі грэцкага абрадку: Кіяўская, Новагорадзкая і Галіцкая.

Першая, Кіяўская мітраполія, заснавана ў канцы X ст. і абыймала ўсе землі, якія ў той час былі пад панаваньнем варажскай дынастыі русаў. Кіяўская мітраполія устанавіла па важнейшых тагочасных палітычных цэнтрах біскупствы. Да 1200 году былі ўжо біскупствы: ў Вялікім Ноўгарадзе, Чарнігаве, Пераяслаўлі, Белградзе, Юрьеве (Запольскім), Полацку, Галічу, Валадзімеры Валынскім, Перамышлю, Тураве, Холме, Смаленску, і, мабыць, Новагорадку.

Заснаваньне біскупстваў Тураўскага і Полацкага многія гісторыкі згодна адносяць да X сталецьця; біскупства ў Навагрудку магло паўстаць не пазьней сярэдзіны XII ст.

Першапачатковая цэнтралізацыя ўлады каля Кіява зыйходзілася з варажскімі падбоямі на ўсходна-славянскіх абшарах, але гэты цэнтралізм ня мог доўга ўстрымацца. Ужо пры Валадзімеры, ў тымжа X ст., мы бачым імкненьне аддзельных зямель да незалежнага існаваньня. Адны з першых выламываюцца з пад кіеўскай залежнасьці землі крыўскія, якія ў годы афіцыяльнага прыняцьця хрысьціянства выдзяляюцца, з невядомых нам прычын, ў асобную палітычную адзінку. Валадзімер, паводле летапісі, аддае іх Рагнедзе і сыну яе Ізяславу, як іх дзедзіну, каля 980 году. Як часьць крыўскіх зямель, [1]) ў гэтым часе выходзіць з пад залежнасьці русаў і Новагорадак.

---

[1]) Што землі гэтыя слылі пад назовам Крыўскіх, відаць з летапісных зьменак краёвых і заграчічных; між іншымі крыжацкі кронікар Дусбург (Dusburg cap. 315) пад 1314 годам піша: Frater Henricus Marschalcus... venit ad terram Crivitae, et civitatem illam, guae parva Nogardia dicitur cepit". (Брат Гэнрык Маршалак... прыйшоў у зямлю Крывіцiя і места яе, каторае Новагорадам завецца, здабыў).



Акладка Лаўрышаўскага Евангельля канца XIII ст.

Хрысьціянства усходнага абрадку ў Новагорадзкай зямлі арганізуецца і крэпне пры невядомых нам варунках. У другой палавіне XIII стагодзя яно нагэтулькі тут змоцнілася, што візантыцкі імпэратар Андронік Старшы ў 1291 годзе зацьвярджае ўжо аўтокефальную новагорадзкую мітраполію, а канстантынопальскі патрыарх Ян XII Салодкі (Glykys) назначае новагорадзкаму аўтокефальнаму мітрапаліце 82 пасад: „Litborum“ [2]) eadem et Litbada dicuntur, guae sunt vicina magnae Russiae, factae sunt metropolis obtinueruntgue thronum 82 per imperatorem domnum Andronicum sub sanctissimo patriarcha domno Joanne Glykys (Dulcis) anno 6800 (1291/2). (Тэкст з Андронікавага каталёгу рускіх біскупстваў, які знаходзіцца ў парыжскай Акадэмічнай бібліатэцы, № 1352).

Дагэтуль невядома, чым можна тлумачыць адносна высокае становішча празначанае маладой новагорадзкай мітраполіі ў герархіі грэцкай цэркві, бо на 110 біскупскіх крэсел, якія істнавалі ў тыя часы ў радзе Патрыарха, ей празначаецца 82-е мейсца. [3])

Новагорадзкая мітраполія на адзінадцаць гадоў старэйшая за Галіцкую, якая зьяўляецца трэйцяй з чароду. Галіцкая мітраполія ўстаноўлена тым жа імпэратарам Андронікам пры патрыарху Апанасе ў 6811 годзе, паводле хроналёгіі грэцкай, або ў 1303 годзе па Нарадж. Хрыста.

Усе дакуманты, датыкаючыя Новагорадзкай мітраполіі, загінулі, і толькі кароценькіе зьменкі,—ледзьзь сьлед таго, што істнавала яна,—знаходзяцца ў грэцкіх крыніцах. Адно пэўна, што Новагорадзкая аўтокефальная мітраполія істнавала ўжо да Гедыміна. Імя аднаго з першых новагорадзкіх мітрапалітаў было Тэафіль. З дыплёматара візантыцкіх патрыархаў відаць, што ў красавіку 1329 году, пры Гедыміне (1316—1341) [3]), мітрапаліт Товтвіль (Tovtvilus) прыймаў удзел у канстантынопальскім сынодзе (Acta patriarch. Constantin. I с. 147). Акром гэтага, новагорадзкія мітрапаліты ўпамінаюцца, як удзельнікі канстантынопальскіх сынодаў, ў 1317 г. (жнівень) і 1327 г. (студзень), але—безыменна. („Latopisec Litwy“. Выд Даніловіча стр. 72 і 143).

Устаноўленьне ў Новагорадку аўтокефальнай мітраполіі было вынікам змаганьня яго з цэнтралізмам кіяўскай мітраполіі, якая ўвесь час і пазьней напірала на канстантынопальскі патрыархат, дамагаючыся скасаваньня гэтай мітраполіі. Але Новагорадак упорна вёў змаганьне за сваю незалежнасьць, і, як аказуецца,—даволі ўдачна. Пацьвярджае гэта той факт, што ў ліпні 1361 году патрыаршым лістом акрэсьляюцца граніцы Новагорадзкай мітраполіі, ў склад яе ўходзяць: архібіскупія Новагорадзкая, біскупіі Тураўская і Полацкая. Урэшце ў гэтым часе Навагорадак выяўляе імкненьне ўзалежніць ад сябе ня толькі галіцкую, але і кіяўскую мітраполію.

Палітыка Альгерда (1355—1377) была скіравана на ўсход і імкнулася да утварэньня з Крыўскіх, Украінскіх і Літоўскіх зямель вялікай дзяржавы ад Балтыцкага да Чорнага мора. Дзяржаўнага аб'яднаньня ён сваей мудрай палітыкай дасьцігнуў: яго ўлада пашыралася на Вітабск, Смаленск, Вільню, Новагорадак і Кіяў. Але ён разумеў, што гэта вялікая дзяржава можа утрымацца толькі тады, калі жыхары яе будуць зліты ў адно цэлае рэлігіяй.

[2]) У грэцкіх дакумантах сустрачаюцца гэткія напісаньні: Litborum, Luthovia, Luthavia, Lethovia, Letoini, Letvani, Lutvani, Litheni, Letvoini. Новагорадак пісалі: Новогродополіс.

[3]) Гэта тлумачыцца можа тым фактам, што новагорадзкая княжая дынастыя членаў сваей сямы пасьвячала на вышэйшыя духовныя ўрады. З летапісаў мы дrepresentedываемося, што ў Лаўрышаўскім манастыры ў 1262 годзе быў мніхам Войшэлк (Лаўрын), а 1278 г.—сын Тройдэна, Рымант. Брат жонкі Альгерда (Марыі Яраслаўны, княжны Вітабскай), вітабскі князь Раман, ў першай палавіне XIV ст. быў Новагорадзкім мітрапалітам. Гэтая цесная сувязь дзяржаўнага кіравецтва з царкоўным хіба і было прычынай тэй высокай ступені, якой Патрыархат надзяліў новагорадзкую мітраполію.

Да гэтага акту спасобіўся Альгерд і, як здаецца, спасобіў да таго ўсе свае землі. Але перш ён хацеў мець у межах сваей дзяржавы кіравецтва праваслаўнай царквой. З гэтай мэтай пачаў дабівацца у канстантынопальскага патрыархату, каб брат яго жонкі (Марыі Яраслаўны, кн. вітабскай), князь Раман, мітрапаліт Новагорадзкі, быў высьвячаны на мітрапаліта „ўсей русі“, з аддачай пад яго зьверхнасьць мітраполіі Новагорадзкай, Галіцкай і Кіяўскай.

Гэтага апошняга баялася Масква і са сваей стараны рабіла захады перад патрыархам, каб яе кандыдат, Аляксей, быў высьвячаны на мітрапаліта кіяўскага і „ўсей русі“, з мейсцам прабываньня ў Валадзімеры-Суздальскім.

У 1354 годзе канстантынопальскі патрыархат, атрымаўшы ад абодвых кандыдатаў багатыя дары, абодвых-жа, і Маскоўскага—Аляксея, і Новагрудзкага—Рамана, немаль адначасова, высьвяціў на кіяўскіх мітрапалітаў і„ ўсей русі“.

З гэтага моманту пачынаецца доўгае і упорнае змаганьне за ўплывы над праваслаўнай царквой паміж Літвой і Масковіяй. Як вынік гэтага змаганьня, утвараецца яшчэ адна новая мітраполія — Валадзімера-Маскоўская. І Масква і Новагарадак імкнуцца заваладзець тытулам кіяўскага мітрапаліта. Масква з гэтай мэтай пачародна ўсіх першых сваіх мітрапалітаў кананізуе і ставіць на аўтары, акружае х аўрэолям сьвятасьці. Адна і другая старана добра разумее, што каля пытаньня аб цэнтры царкоўнага кіравецтва важацца лёсы пад кім об'ядваецца ўсходная славяншчына—пад нашчадкамі Гедыміна, ці Івана Каліты. Масковія была паярэмлена татарамі, Літва была вольнай. Усе шансы былі на старане Гедымінавічаў.

Ход гісторыі быў павернуты саўсім ў іншы бок сынам Альгерда, В. Кн. Літоўскім Ягайлам, які перайшоў у каталіцтва і злучыў Літву з Польшчай. Ягайлавічы сталіся пропагатарамі рымскіх ўплываў, а Масква атрымала не чаканы сукцэс: у яе рукі перайшло кіравецтва „рускай верай“ і,—што з гэтага вынікае, — народнасьцю. Вял. Кн. Маскоўскі становіцца адзіным праваслаўным манархам на славянскім ўсходзе.

Гэтае становішча стараўся ратаваць Вітаўт, яркі прадстаўнік дзяржаўна-незьлежніцкай думкі. Убачыўшы, што грэцкі патрыархат спрыяе Маскве, што імкнецца крыўска-літоўскую царкву паддаць пад зьверхнасьць маскоўскага мітрапаліта, а дзеля гэтага адмаўляецца высьвячаць ў Новагарадак аўтокефальнага мітрапаліта, Вітаўт склікаў у 1416 годзе праваслаўны духоўны сабор. На гэты сабор прыехалі ў Новагарадак біскупы полацкі, чарнігаўскі, луцкі, валадзімерскі (з Валадзімера Валыскага), холмскі, тураўскі і смаленскі. Сабор,—паклікаючыся на сваю гісторыю (на прыклад кананічнага высьвячэньня Кліма Смаляціча ў 1147 годзе саборам мяйсцовых біскупаў), на гісторыю іншых нацыянальных цэркваў (баўгарскай, сэрбскай), на каноны і традыціі,—выбірае сабе ў мітрапаліты Грыгора Цамблака, які катэдру сваю пераносіць у Вільню.

Гэта быў рэволюцыйны крок, які вёў да поўнага аддзяленьня крыўска-літоўскай цэркві ўсходняга абраду ад канстантынопальскага патрыархату і да установленьня самаістай нацыянальнай царквы. Наша мітраполія яшчэ не парывае з Канстантынопалям, прызнае яго зьверхнасьць над сабою, але цьвёрда выказуе волю быць незалежнай. Гэтак вызваляліся ўсе нацыянальныя цэркві. Нажаль становішча праваслаўя пры Ягелёнах не дало магчымасьці маладой цэркві акрыяць і ўзмоцніцца. Апынуўшыся на палажэньні „сызматыцкай“, яна зьяўлялася аб'ектам лацінізацыі; цэрква гэта прымушана была

ўрэшце здацца і шукаць сабе апоры ў Канстантынопалі і Маскве. Наступнікі Цамблака, Новагорадзка-Віленскіе мітрапаліты, пад напорам уніі, бароначы свайго абрадку, ўсе свае надзеі пакладаюць на ўзрастаючую ў сілу Масковію.

Гэтак былі змарнаваны аграмадныя высілкі раду пакаленьняў, якія імкнуліся да ўтварэньня нацыянальнай крыўскай цэркві. Ягельлёны цягнулі праваслаўную царкву праз унію ў каталіцтва, а дзяржаву, —праз ўнутраныя закалоты,— ў пропасьць.

Канчаючы гэты нарыс, трэба сцьвердзіць, што Новагорадак і новагорадзкая зямля займае адно з першых мейсц між тымі землямі, якія адыйгралі ў гісторыі нашага палітычнага і культурнага жыцьця выдатную ролю. Дзякуючы таму, што тут заснавалася мітраполія ў XIII ст., а біскупія істнавала шмат раней, Новагорадак быў цэнтрам, як даўней казалі, „кніжного почитанія“, г. зн.,—сабіраньня, перапіскі і начытаннасьці ў кнігах. З Новагорадзкай зямлі дайшоў да нас значны лік помнікаў нашай мовы— пэргаміновыя рукапісы пачаўшы ад XIII ст. Лаўрышаўскае Еваньгельле, —якое знаходзілася ў Лаўрышаўскім манастыры, заснаваным Лаўрынам, сынам Гедыміна, займае адно з першых мейсц як у гісторыі пісьменніцтва, так і ў гісторыі нашага мастацтва. Каля мітрапалічай сталіцы тут зьбіраліся лепшыя сілы краю, якія будавалі культуру і шырылі асьвету. Мусілі істнаваць тут і школы і бібліатэкі. Усё гэта цяпер разпарушылася: Лаўрышаўскага слаўнага манастыра і сьледу няма, Новагорадак стаўся малым провінцыяльным мястэчкам, бо заняпала сіла гаспадара зямлі ў чужацкай няволі.



Мітрапаліт Грыгоры Цамблак раздае хлябы.

---

В. Л.

# Крыўскі вар'янт быліны аб Ільлі Мурамцы.

Гэтым вар'янтам быліны зьяўляецца вядомы перапеў аб зьвязку Ільлі з бабай Латыгоркай і бітве яго з сынам.

Баба Латыгорка прыналежыць да ліку жанок-волатаў. Пры сустрэчы з Ільлёй паміж імі завязуецца бой, яны абоя утоптуюцца ў зямлю па калені, але Ільля перамагае Латыгорку і ўрэшце зблiжаецца з ей. На трэйці дзень Ільля разстаецца з бабай і дае ёй персьцень, кажучы,—што калі родзіцца сын, — каб яна аддала яму гэты персьцень.

Калі сыну скончылася 17 гадоў, ён папрасіўся ў маці „ў чыстае поле“. Маці, выпраўляючы засьцерагае, каб ён са старым харобрам, які „на каню сядзіць –ківаецца, бела галава яго прыкланяецца, сіва барада раздваяецца“, ня біўся, бо — „то будьзе родны бацька табе“. Сын выехаў ў старану

тэй заставы, дзе Ільля з шасьцю іншымі харобрамі стаяў. Раз, раніцай, Ільля выходзіць на раку мыцца і бачыць добрага маладца: „пад ім конь, як люты зьвер, сам маладзец, як ясны сокал“. Добра пасадка маладзецкая, гожа зброя ваяцкая. Вяртаецца Ільля ў шатро і апавядаючы выклікае, каб той, хто ўсіх сьмялейшы, ў каго конь нуднейшы, паехаў ў дагон за ім і выпытаў яго аб дзедзіне і айчыне. Вызваўся Алёша Паповіч і паехаў за маладцом. Едзе дзень, другі, а на трэйці даганяе і крычыць зычным голасам: „Ты пастой, пастой, добры маладзец! Ці ты рускі багатыр, ці засельшчына-вяскоўшчына; ты ці каня украў, ці мужыка забіў ды сюды заехаў, чванішся, чужым імем называешся?“

Маладзец, учуўшы гэты словы, павяртае каня свайго лютага, бярэ Алёшу за белыя рукі, зьнімае з каня яго, бярэ сваю пугу („шелепугу“) padoрожную, сьцябае Алёшу, садзіць яго ізноў на каня і адпушчае. Едзе Алёша назад, як п'яны: „ківаецца, на сядловы лук прысланяецца“. Убачыўшы гэта Ільля, кажа яму: „Казаў я табе, Алёша, наказываў: ня пій зялёна віна, ня еш салодкіх страваў“. Але Алёша адпавядае: „Напаіў мяне добры маладзец дапьяна, накарміў ён мяне дасыта пугай падарожнаю“. Ільля зара сам садзіцца на каня і едзе ў дагон. На другі дзень, на сьвітаньні, дагнаў яго. Ударыліся харобры паліцамі баявымі, — паліцы паламаліся. Скочылі з добрых коні і сталі біцца „на кулачны хват“. Зьбіў маладзец Ільлю на сыру зямлю, садзіцца яму на белыя грудзі і кажа: „Ты, базыга стары, зачым ты на малога хлапца накідаешся!“ Тут Ільля памаліўся, — яму сіл прыбыло, і падабраў пад сябе маладзёна. Але, убачыўшы на руцэ пярсьцёнак, спазнаў, што гэта сын, адпусьціў яго, кажучы кляняцца матцы і прыязджаць біцца, калі яму будзе 30 гадоў. Сын ад'ехаў, але пасьля раздумаўся: дома будуць з яго насьміхацца. Вяртаецца і нападае на сьпячага Ільлю з нажом. Нож трапляе ў сяміпудовы крыж на грудзёх Ільлі, — і ён, абудзіўшыся, забівае сына.

Ведама 28 запісаў гэтай быліны. Перайшоўшы ў вусных пераказах некалькі пакаленьняў, і, ўрэшце, апынуўшыся на далёкай поўначы і ўсходзе (ў Сібіры), быліна гэта, саўсім натуральна, немаль у кождым запісу мае іншыя імёны. Дзеля гэтага, як адгалосак XVII ст., часамі сам Ільля называецца данскім казакам; сын Ільлі: Падсакольнік, Сакольнік, Жыдавін, а па імю Барыс, Барыс Збут (у Кіршы), Петр, Кузьма, Васілі, Апалон шча Дадаровіч і інш.

Імёны бабы: Латыгорка, Златагорка, Сямігорка.

Мейсца дзейнасьці: на „Латынскай дарозе“, „пры літоўскіх заставах“ (Гільф. № 246, 250 і 260).

Змаганьне бацькі з сынам прыналежыць да вельмі пашыраных тэм сярэднявечных і старавечных эпосаў. Гэты матыў ўзьнік і разьвіўся на грунце старадаўных племянных і матрыархальных стасункаў. Адно племя стыкаецца з другім і перамагае яго; павадыр-пераможнік заваладзевае жонкай або дачкой забітага кіраўніка пераможанага племя, або, калі на чале паняволенага племя стаяла жанчына, — што ў даўнасьці часта бывала, — пастyпае з ей па праву вайны, г. зн., ўступае з ей ў часовую сувязь, прымусовую ці непрымусовую, — залежала ад акалічнасьцяў. Плодам гэткай прыпадковай сувязі зьяўляецца сын, які вырастае на мсьцежніка зьнявагі сваей маці. Рана-позна сын сустрачаецца з бацькам, і паміж імі завязуецца бой.

Адна легенда, запісаная Гэродотам, кідае цікавае сьвятло на гэткія легендарныя матывы У часе сваіх падарожаў грэцкі герой Гэракл трапіў раз у Скіфію, якая тады ня была яшчэ заселеным краям. Калі ён аднаго разу

заснуў, прапалі яго коні. Гэракл, прабудзіўшыся, абшукаў увесь край і не знайшоў коні. Урэшце ён прыйшоў у зямлю, якая называлася Гілеей (Лесавой). У аднэй ямязе тут ён знайшоў істоту, каторая напалавіну была дзяўчынай, а напалавіну — зьмяёй. Гэта дзяўчына-зьмяя і забрала Гэраклавы коні. Гэракл зыйшоўся з дзяўчынай і, пакідаючы яе, аставіў свой лук і пояс. З гэтай зьвязі радзіліся тры хлапцы, бацькі трох народаў: Агатырсаў, Гелонаў і Скіфаў.

Вышэй пададзеныя прыклады паказуюць, што ва ўласных імёнах нашага вар'янту быліны трэба шукаць канкрэтных назоў плямён народаў.

Баба Латыгорка, гэта — ня што іншае, як летапісная Латыгола, Лотыгола, Латыгора, Латигола, пад якімі найменьнямі ў летапісах выступае народ Летгола (Латышы). Другое імя, дававае быліннай мацяры сына Ільлі, — Земігорка, Семігорка, — пакрывае сабой імя літоўскага племя Земігола, Зімгола. Імя гэтае упамінаецца ў Пачатным Летапісу пад 1106 годам (у 1106 годзе Земігола разьбіла сыноў Усяслава Полацкага), а пазьней яно зусім зыходзіць з балонак летапісаў. У лацінскіх актах і кроніках XIII—XIV ст. пішацца: Semigalia, terra Semgalla, Semigalli, Semigalensis. У нашай пісьменасьці: „Жеймігола, Жемгалла, Жемігалла, Жемойть“.

Латыгола, сустрачаная пад 1200, 1228, 1242, 1264, 1281 г.г. зыходзіць з балонак летапісаў ў XV ст.

Латыгола і Жэмгола мелі закалоты толькі з Крывічамі, гэтым і тлумачыцца тое, што, акром Пачатнага Летапісу, імя Жэмголы іншыя рускія летапісы не падаюць: у іх ня было стычнасьці з гэтым літоўскім племям, якое жыло на левым беразе Дзьвіны, ніжэй цяперашняга Дзьвінска.

„Латынскай“ дарогай называўся даўней шлях па Дзьвіне да Полацка і Смаленска, па якім прыбывалі ў Крыўскую зямлю госьці з Захаду. У тарговых Смаленскіх умовах з Немцамі з 1229 і 1265 г.г. „Лацінскімі гасьцямі“ і „лацінскім языком“ названы нямецкія купцы. У „Софійскім Временніку“, пад 1271 і 1272 г „паганай лацінай“ называюцца кі ыжакі, а ў Пскоўскім летапісу — Швэды.

Слова „застава“ ужывалася даўней ў значэньні вайсковай дружыны, якая вартавала граніц дзяржавы. Акрэсьленьне „літоўская“ паказуе, што гэта застава стаяла на Дзьвіне для абароны Полацка ад двох суседніх народаў: Латыгогы і Жэмголы.

Гэтыя номэнклятурныя данныя пазваляюць устанавіць, дзе была зложана быліна: тэй тэрыторыяй была полацкая зямля. Можна устанавіць такжа, на аснове гістарычных данных, не пазьней якога часу гэта быліна была зложана. У пачатках XIII ст. Полацкая зямля ўходзіць у сувязь з Літвой, а знача быліна магла быць зложана толькі раней XIII ст.

Харобр Ільля сымволізуе сабой заваёўнікаў-Варагаў, якія галоўнае гняздо мелі ў Кіяве, дзе ім рана ўдалося згнясьці найслабейшае з паміж ўсходна-славянскіх плямён — Палянаў. Эпітэт Ільлі „Мурамец“ навейшага паходжаньня. Філён Кміта Чарнабыльскі (XVI ст.), аршанскі стараста, ў сваіх лістах да Астафія Валовіча, Троцкага ваяводы, раўняючы сваю пагранічную службу са службой Ільлі на „заставах“, называе яго „Муровленіном“; іншыя пісьменьнікі XVI і XVII ст. называюць: Моровлін, Муровіч, Muravitz, Murovitza, гэта — ня што іншае, як перакручанае першапачатковае: Мурманін, Урманін, што значыла: Норман, Нарманскі. І так, Ільля Мурамец азначае — Ільля Нарман, Нарманец. Што гэтак называлі Варагаў-заваёўнікаў,

сьведчыць т. зв. Іоакімаўскі летапіс, дзе вядомы заваёўнік Кіява, Алег, названы князям „Урманскім“.

Імя сына Латыгоркі і Ільлі ў некатарых одпісах—„Барыс“, „Барыс Збут.“ Гэтае імя сына зыйходзіцца з імёнамі некалькіх полацкіх князёў, ў гэтым ліку —і таго полацкага князя Барыса, якога гранічныя камяні, датаваныя 1171 годам, дагэтуль ляжаць па Дзьвіне ніжэй Полацка.

Аснова быліны гэтай зусім сходна такжа з легендай, запісанай у кіяўскіх летапісах аб жаніцьбе Валадзімера Кіяўскага з Полацкай князёўнай Рагнедай, плодам якога зьвязку быў сын Ізяслаў, протапляста дынастыі крыўска-полацкіх князёў. Крыўскія землі, як ведама, ніколі ня былі ўласнасьцю кіяўскай дынастыі і ня ўходзілі ў удзельную сыстэму гэнага княжага роду. Становілі яны саўсім асобную дзяржаўна-палітычную адзінку. Самі палацкія князі хоць па веры сябе называлі „русамі“, але, побач гэтага, мянаваліся „крыўскімі“. Гэта, ўсё ўзятае разам, дало права аўтару ці аўтарам быліны асоціязаваць патомкаў Ізяслава, — а па іх і ўсё крыўскае племя, — як мяшанцаў норманскай крыві з невядомым мясцовым племям. З гэтай прычыны пад сынам Латыгоркі і Ільлі сымволізаваўся Крыўскі народ. Мог тут заблутацца і яшчэ адзін гістарычны момант: Полацкі князь Барыс Гінвілавіч меў жану, па імю Баба, і дачку Софію, якую выдаў за нямецкага Рыцара Дзітрыха (Narbut III. 479).

Цяпер астаецца устанавіць час, у які кіяўскія Нерманы-Русь маглі трымаць заставу супроць Латыголы і Земіголы. Гэткі момант быў адзіны раз, між 1129 і 1132 годам. У 1129 годзе крыжовым паходам усіх князёў-рурыкавічаў была заваявана крыўская зямля, князе яе ўзяты ў палон і сасланы да іх сваяка Візантыйскага імпэратара ў Грэцію. Мсціслаў кіяўскі пасадзіў у Полацку свайго сына Ізяслава, ведама ж, з варажскай дружынай. Гэта дружына і стаяла на заставах крывічанскіх да 1132 году, калі іх паўстаўшы народ прагнаў.

Цікава адзначыць яшчэ адзін сымволічны эпізод быліны. Калі сын Ільлі варочаецца, каб напаўшы забіць бацьку (магчыма намёк на паўстаньне), то нож сына трапляе ў крыж, які ратуе жыцьцё Ільлі. Гэты эпізод саўсім згаджаецца з гісторыяй: кіяўскія Нарманы-Русь былі афіціяльнымі „апосталамі“ хрысціянства, і, калі сілы праціўнікаў у змаганьні былі і роўныя, то ўсё-ж на старане норманаў была яшчэ адна грамадная сіла — прадстаўніцтва хрысьціянства, зцэнтралізаванага каля Кіява.

І так, быліна Аб Ільлі Норманцу, бабе Латыгорцы і сыне іх Барысе была уложана на тэрыторыі полацкай зямлі норманскімі дружынікамі між 1129 і 1200 годам. Сымволізуе яна стасункі паміж Норманамі, Крывічамі і Літоўска-Латыскімі пляменамі. Быліна гэта ў XVI ст. была добра ведама і ў нас, як гэта відаць з ліста Кміты Чарнабыльскага да Валовіча.

Да заходнага, не мяйсцовага, паходжаньня Ільлі Мурманіна даюць вельмі цікавыя данныя старасьвецкія сьпіскі сьвятых. Як ведама, Ільля, праз сваю папулярнасьць ў народзе, быў палічаны манахамі ў лік сьвятых. У кіяўскім Пячэрскім манастыры паказывалі нават ў XVII ст. яго мошчы. Вось-жа у „сьвятцох“ Ільля Мурамец заўсёды фігуруе ў ліку сьвятых „левай“ стараны, гэта знача, — заходнай (бо „правай“ звалася усходная старана, затым ішлі староны: „южная“ і „сѣверная“). А ў адным сьпіску сьвятцоў (падае Буслаев у „Др. Русск. народ. поэз.“ СПБ. 1861, 356) ён пастаўлены побач з Сьв. Ульяніяй, княгіняй Альшанскай. Гэта яшчэ адзін лішні дакумант, які кажа, што ў старасьвеччыну ніхто ня думаў гэту мітычную асобу, сымволізуючую

Норманаў-Русь, залічаць да хоць-бы мітычных дзеячоў мяйсцовага кіяўскага, ці суздальска-маскоўскага паходжаньня. Цэрква, якая ішла рука ў руку з Русамі, добра ведала, што яны не мясцовага, а заходнага паходжаньня, і гэта зафіксавала, выкарыстуючы „сьвятасьць“ мітычнага „Мурманца“.

Пададзеныя тут вывады, разумееца, не выключаюць таго, што на Мурманца былі перанесены тытанічныя азнакі, ўзятыя з паганскага Пяруна; гэтае пытаньне тут не разбіралася, як ня ўходзячае ў закрэс гэтага нарысу.

---

АЛЕСЬ СМАЛЕНЕЦ.

# Да стацьці В-ста: „Аб паленьні кніг на Беларусі".

І той сьвяціцель, што аж да свайго мучаніцкага скону змагаўся за унію, і той, хто яе скасаваў, былі сынамі братняга нам украінскага народу: сьв. Іозафат, біскуп Полацкі, радзіўся ва Уладзіміры-Валынскім, мітрапаліт Язэп Семашко — ў Кіяўшчыне. Аб апошнім яго біограф*) піша: „ён не шкадаваў выдаткаў на куплю ў сваю асабістую бібліатэку найбалей выдатных твораў па багаслоўству, гісторыі, прырода-знаўству, а так сама — і найлепшых перыёдычных друкаў таго часу, на маскальскай і іншых мовах, асабліва, — французкай. З пачатку 50-х гадоў ён ня раз афяровываў кнігі са сваей бібліатэкі ў Літоўскую Сэмінарыю. Пасьля яго скону сэмінарыя атрымала багатую спадчыну: 4 шафы з кнігамі, вартасьцю блізка 3000 рубл.“ Пасьля адкрыцьця ў Вільні графам Тышкевічам музэю ён паслаў туды „Літоўскі Статут“ (на беларускай мове) і пісаў: „афяраваны мной статут напамінае, што Літоўская дзяржава ў часы сваей найвялікшай магутнасьці складалася на 9/10 з рускага народу, а руская мова была мовай урадовай да новых часоў...“ Ліст канчаўся словамі „заходна-рускі народ адчувае яшчэ і цяпер у жылах сваіх рускую кроў і памятае сваіх айцоў.“ Адкуль-жа ўзяў ён гэты Статут? — З Бэразьвецкага манастыра. Статут трапіў ў рукі Семашкі разам з тысячамі іншых кніг. Яшчэ на становішчы Літоўскага грэка-уніяцкага біскупа ў 1834 г. ён загадаў Літоўскаму духоўнаму кансысторыуму даць „указ“ ва ўсе парохіі адабраць з цэркваў старыя уніяцкія служэбнікі і іншыя кнігі пачаяўскага, віленскага і супрасльскага друку і выслаць іх да кансысторыума. Толькі маладольным сьвятаром, старэнькім панам-айцом, што не хацелі граць пад маскоўскую музыку, часова былі застаўлены старыя служэбнікі.

Надыйшоў 1839 год. „Возсоединеніе“ ўчынілася. Афіцыяльная гісторыя апісвае яго, як бязкроўны акт, які адпавядаў жаданьню ўсяго беларускага народу быць праваслаўным, але ў архівах беларускіх і сынодзкім (ленінградзкім) ляжаць тысячы дакумантаў, — нямых, але пэўных сьведкаў гэтага „безкровнаго возсоединенія“. Можа найлепш зхарактэрызаваў гэты акт родны брат мітрапаліта, сьв. памяці а. Іван Семашка: „пракляты: ён і сябе ўтапіў, і народ загубіў!“

Увесь час да скасаваньня уніі і пасьля яе скасаваньня, больш 20 гадоў забіралася старэнна ад беларускіх уніяцкіх сьвятароў рэшта уніяцкай стара-

*) Высокопресвященный Іосифъ Сѣмашко, митрополитъ Литовскій и Виленскій. Очеркъ его жизни и деятельности по возсоединенію западнорусскихъ уніатовъ съ православною церковью въ 1839 г. Сочиненіе Г. Я. Кипріяновича. Вильна, тип. И. Блюмовича, 1894. 22×15. 139 старонак.

сьвеччыны. У 50-х гадох адбылося некалькі вялізарных аута-да-фэ ў Вільні. Высока ў неба шыбалі языкі агня і, бытцам сьвятыя-мучанікі першахрысьціянскіх часаў, паліліся на вогнішчах цімьянамі вохнымі акаджаныя, воскам сьвячоным закапаныя, мазольнымі рукамі паноў-айцоў нашых дзесяткамі і соткамі гадоў перагартаныя аж да чорных плямаў кнігі сьвятыя, — уніяцкія, крывіцкія, — скурай бурай няжорсткай пакрытыя, з засьцёжкамі кудзебнымі, каштоўнымі... Аб адным паленьні ўспамінае жыцьцёпіс мітрапаліта, — за адзін раз была спалена 201 кніга. Але за тры гады ўсяго было спалена больш 2000 кніг, надрукаваных уніяцкімі друкарнямі.

Дзьвесьці гадоў дзеліць час жыцьця абодвых сьвяціцеляў. Першы застаўся ў памяці нашай як фанатык біскуп, які нішчыў схізму і загінуў у гэтым змаганьні. Аб абодвых сьвяціцелях нядобрая памяць засталася на Беларусі,—хай Бог Найміласьцівейшы будзе ім Судзьзёю... А паленьня кніг ніколі не даруюць Беларуская навука і гісторыкі. У іх вачох застанецца гэты па свойму культурны і высока адукаваны чалавек—барбарам.

Другі сьвяціцель, але ўжо сучасны...

У паветавым горадзе Смаленшчыны маей роднай, на пляцу, сярод дробных крам стаяла каплічка. На ганку яе сядзела старая недарэка Паланея; у яе куплялі сьвечкі, абразкі і прасвіркі. У беднай каплічцы ў стараветнай труне, ўзьнесенай на катафалку прад вялізарным крыжам, ляжаў Хрыстос, бытцам нябошчык. Быў ён кудзебна выразаны з дрэва і памаляваны алейнай фарбай, але дужа натуральна і зручна. Гэта ляжаў дзяцё-Хрыстос. Памятаю, хлопчыкам маленькім быў я і да гымназыі шэсьць дзён на тыдзень мусіў бегаць. Цудоўна памагаў нам Хрыстосік, ратаваў ва ўсіх прыгодах і збаўцай быў ад „двоек" і „адзінак", на што не сварыліся нашыя настаўнікі, палова якіх мела за сабой 25-30 гадоў пэдагогічнай службы. Асабліва дапамагаў той, салодкай памяці, Хрыстос хлопцам, прыехаўшым з двароў ды вёсак, на захад ад гораду ляжачых. З малых лет цяжка давалася ім навука, цяжка было пачынаць „какаць" пасьля „яканьня" дома. Ось гэтае „як" і было страшным, бо за яго настаўнік маскоўскай мовы крычэў на ўсю клясу і лаяў хлопца „хахлом", „мазьніцаю", „квачом" і іншымі словамі з невялічкага запасу „беларускіх" выразаў, якія зьмяшчала яго вялікая, прачаджаная гарэлкай галава... Два-тры гады вучыўся хлопчык, а потым рабіўся шчырым маскалём, — і па сягоньня шмат з выхаванцаў тэй славэтнай гімназіі не здабудзецца на адвагу „якнуць".

Дык, ось гэтаму Хрысту ставілі мы сьвечкі, маліліся і благалі ва ўсіх нашых жыцьця гаротах..

Прайшла першая маскоўская рэвалюцыя. Быў я ужо ў 4-й клясе і стаўся разумнейшым і адукаванейшым. З каплічкі часта цягнуўся я да царквы, адтуль — да званніцы. Потым пазнаёміўся я з сынам мяйсцовага благачыннага. Пачалі мы з ім хадзіць скрозь па царквох. Успамінаю я цяпер, колькі пабачылі мы там рожных стараветных рэчаў: драўляных рэзьбярскай працы фігур, кніжак, падсьвечнікаў, абразоў і іншых рэчаў, але такіх асаблівых, ня падобных да новых, якімі карысталіся цэркві ў наш час. Знайходзілі ўсё гэта ў пыле і брудзе на апошнім паверсе званніцы, ў скляпох пад сьвятынямі, ў спарахнеўшых шафах і скрынях рызьніц. Потым далучыўся да нас яшчэ адзін „археолёг", так сама гімназыст, сын камандзера гарматнага дывізыёну.

Аднаго дня пашыхавалі нас клясамі і павялі да гімназыяльнай царквы. Адбылася там Служба Божая, а пасьля яе блаславіў нас новы сьвяціцель Смаленскі, біскуп Пётр. Прыехаў ён да Смаленска. Пасьля гэтага хутка пры-

нёс нам сын благачыннага сумную навіну: атрымаў яго стары бацька загад са Смаленскага Духоўнага Кансысторыуму „По указу Его Императорскаго Величества“ адабраць усе старыя рэчы і паслаць да царкоўнаархэолёгічнага музэю ў Смаленску, загад выканаць як трэба: хутка і уважна, нічога не пакінуць...

Праз тыдзень ці два зайшоў я да каплічкі і боль пачуў у сэрцы: ня ўбачыў я майго дзіцячага Хрыста-Збаўцы. На катафалку стаяла тая самая труна, але ў ёй ляжала новая звычайная „плашчаніца“, кепска зробленая маскоўскімі майстрамі. Якраз на тое і дзяк зайшоў. Спытаўся я ў яго, што зрабілі з Хрыстом. Агледзіўся навокал дзяк, штурахнуў мяне ў бок ды, падвёўшы да труны, падняў зашклёнае века, адкінуў трохі плашчаніцу, і тамака ўбачыў я драўляныя апілкі і сярод іх частку абліччa Хрыста... Хітры быў сьвяціцель-біскуп, але наш парахвіяльны пан-айцец хітрэйшы за яго... Жаліўся дзяк, што кніжак старых шмат забралі і рызьніцу ператрасьлі добра, шукаючы старога...

Патроху пачынаў я ужо думаць аб матуры, калі даведаліся мы з кароткай весткі ў „Смоленскомъ Вѣстникѣ“ — што „въ ночь съ такого-то на такое-то сгорѣлъ Смоленскій церковно-археологическій музей“. Пасьля давялося мне чытаць аб усей гэтай бруднай гісторыі у „Новомъ Времени“ і іншых часопісах. Біскуп Пётр аказаўся здольным на усякія штукі і добрым гандляром. Ён прадаў, што пасьпеў, з музэю, частка і заграніцу трапіла, а калі даведаліся аб гэтым, дзякуючы княгіні Тэнішавай і палк. Жыркевічу,— музэй „въ ночь съ такого-то на такое-то сгорѣлъ“..., не дачакаўшы рэвізыі, што мусіла разпачацца зранку другога дня.

Пэўна, частку музэйных рэчаў уратавалі ад агня смаленскія пажарныя, але ж шмат загінула ў агні, а найбольш — кніжак.

Чакалі суда над сьвяціцелям, але дзе-ж там! Судзяць толькі звычайных злачынцаў. Паехаў наш біскуп-„архэолёг“ на супачынак да Нова-Ерузалемскага манастыра, а на яго мейсца сеў біскуп Феодосій (сучасны архібіскуп Літоўскі і Віленскі, які цяпер у Вільні).

---

В. Л.

# Віленская Грэка-Лаціна-Руская акадэмія.

Цэрквы і манастыры ў даўныя часы былі вогнішчамі,—калі ня культуры, то прынамні, — граматнасьці. На долю віленскага Сьвятатроецкага манастара выпала пачэсная доля быць запраўдным культурным цэнтрам у працягу даволі доўгага часу.

Сьвятатроецкая цэрква і манастыр заснаваны ў палавіне XIV ст. жаной Вял. Кн. Альгерда, кн. Юльяніей. Магчыма, што, як усюды ў тыя часы, так і тут пры манастыры была школа для навукі чытаньня і пісаньня, але дакумантаў, сведчучых аб гэтым, ніякіх не захавалася. Фундаваная кн. Юльяніай цэрква была дрэўляная.

Каля 1458 году пры Сьвятатроецкім манастыры утварылася брацтва *), якое ставіла сабе мэтай, між іншым, помач убогім і выхаваньне дзяцей.

Гэтае брацтва зацьверджана патрыархам у 1588 годзе.



Прывілей патрыярха Іерэміі Віленскаму Сьвятатроецкаму брацтву, які пацьвярджае брацкія грэка-лаціна-рускія школы
(З сабраньня В. Ластоўскага).

(„Вѣст. Юго-Зап. Росс." Т IV, 1864, бал. 9). З гэтага часу істнуе тут школа для дзяцей грэцкага абрадку.

У 1514 годзе князь Канстантын Іванавіч Астрожскі, ваявода Вял. Кн. Літоўскага, фундаваў тут мураваную царкву ў памяць перамогі над Масквой пад Оршай у 1513 годзе. Запісуючы значныя абшары зямель на манастыр, Астрожскі ў сваім фундушовым запісу (дахаваўся ў копіі пачатку XVII ст.) абавязаў мніхаў „мѣти школу для дѣтокъ хрестиянскихъ" і на гэту мэту асобна празначыў 400 коп грошы шырокіх літоўскіх.**) Аб праграме гэтай школы таксама не маем ніякіх данных.

У 1538 годзе В. Кн. Жыгімонт пацьвярдзіў Троецкае брацтва са школай, асобнай граматай. Гэткія-ж граматы дадзены былі каралямі Сцяпанам Баторым ў 1584 годзе і Жыгімонтам III ў 1588 годзе („Вѣст. Юго-Зап Росс." Т. IV).

З другой палавіны XVI ст. захаваліся датаваныя 1562 годам вучнёўскія выпрацаваньні з грэцкай граматыкі, пісаныя на чыстых балонках дакумантаў (Царкоўны архіў Сьв. Тройцы). Дзеля гэтага дату 1562 г. трэба прыняць, як пэўную, датычна істнаваньня тут школы вышэйшага тыпу. І гэта зыходзіцца з пазьнейшымі дакумантальнымі данымі.

У часе бытнасьці сваей ў Вільні Канстантынопальскі патрыарх Іерэмія, у 1588 годзе, застае тут школу ў доме брацкім „языка греческого, латинского и руского" и сваім прывілеям, пісаным у Вільні, пацьверджае гэтыя школы і само Троецкае Брацтва.

З прывілею караля Уладыслава IV, пісанага ў 1633 годзе, даведываемося, што, ў яго часы, ў Троецкім віленскім манастыры „у церкви служечи и у школах працуючы законницы знайдовалися" і што ў гэтым часе брацтва мелася перанясьці сваю школу ў новае памяшчэньне:

„А такъ теперъ впродменованые братие Брацтва церковного монастыра виленского, Домъ прозываемый Намшеѣвски каменицу муромъ и деревомъ побудовaную на вечность купили собѣ у ловчого нашого великого князства литовского урожоного Яна Нарушевича, а другии Домъ также муромъ и деревомъ побудованый вечностию надалъ имъ на тоежъ Брацтво ихъ церковное мѣщанинъ нашъ виленский Братъ ихъ до того Брацтва уписаный Якуб Кондратовичъ которые Домы обадва посполужъ съ собою лежатъ въ мѣстѣ нашомъ столечномъ виленскомъ идучы з рынку до Острое Брамы по лѣвой Руце... межы Домами з одное Филиповое Шишковичовое а теперешное Яновое Завишиное Настазыи Трызнянки а з другое стороны подле Дому мурованого детей мещанина нашого виленского зешлого Богдана Пашкевича Видбленина, тые обадва Домы заодно на Домъ Брацтва ихъ церковного злучоные на школы и на вы-

**) Дзеля таго, што аб фундаваньні іншых школ Канстантынам Іванавічам Астрожскім нічога ня ведаем, то трэба думаць, што надпіс на яго нагробку ў Кіява-Пячэрскім манастыры „ради отроковъ училища созда" адносіцца да фундаваньня гэтай віленскай школы (Зраўняй „Собр. документов" Гр. Румянцева I, 403 ў дапіску і „Obraz Litwy" Jaroszewicza, Cz. III, 216).

ховане въ немъ людей ученыхъ духовныхъ и свецкихъ... прывилеемъ нашымъ ствердили“.

Гэткім чынам Сьвятатроецкая брацкая школа ў пачатку XVII ст. ня магла ўжо памесьціцца ў сваім старым будынку, і Брацтва набыло яшчэ для сваіх школ два мураваныя будынкі, якія злучыла ў адзін. Гэта апошняе сьведчыць аб наплыве студэнтаў і папулярнасьці школы.

Пры гэтых школах была бурса для незаможных студэнтаў, што відаць з таго-ж самага прывілею, ў якім кажацца аб тым, што братчыкі „искали помешканя для убогіх студентовъ“. (Прывілей надрукаваны ў „Вѣстн. Запад. Росс.“ кн. VIII, балонкі 13—23).

Імёны прафэсараў гэтай вышэйшай крыўскай (беларускай) школы нажаль ня ўсе захаваліся, але і з вядомага ужо нам відаць, што гэта школа належала да важнейшых цэнтраў краёвай асьветы. У ліку прафэсараў яе былі такія выдатныя тагочасныя вучоныя, як: Сьцяпан Кукель (Зызані), ***) Кірыл Лукарыс, пазьнейшы канстантынопальскі патрыарх, Кірыл Транквільліон, Мелеці Сматрыцкі, Леонці Карповіч і інш. Некатарыя з іх самі вучыліся ў загранічных унівэрсытэтах і, паводле асьветы, нічым ня уступалі прафэсаром тагочаснай віленскай езуіцкай акадэміі. Полемічныя творы, якія выйшлі з пад пяра гэтых асоб і іх вучняў, маюць азнакі выдатнай вучонасьці (Зраўняй: Харламповіч „Зап.-русск. прав. школы“).

Школу падтрымлівалі праваслаўныя магнаты багатымі фундацыямі. У 1593 годзе князь Палубенскі запісаў віленскаму Сьвятатроецкаму брацтву вялікі фундуш „на школу для наукі рускога писменья и греческого и латинского, для твиченья и ученія въ оной школѣ дѣтей у наукахъ вшелякихъ, такъ языка греческого и латинского, яко и иныхъ“ (Первольф, „Славяне“ Т. III, ч. II, бал. 215). Кароль Жыгімонт III ў 1614 годзе надаў Святатроецкаму Братцтву вялікую маетнасьць Таракане (Wiszniewski, „Hist. Lit. Polsk“). У 1617 годзе Корсакі, запісуючы фундуш на брацтва, значную часьць яго выдзяляюць „на науку вшелякую въ Акадэмии Брацкой Виленской и на бурсу студентовъ бѣдныхъ“.

У наданьні Корсакаў першы раз Сьвятатроецкая грэка-лаціна-руская школа выступае пад найменьнем Акадэміі. Відаць, што назова гэта была прыватная, бо ўрад прызнаваў у Вільні тытул Акадэміі адзіна толькі школе езуіцкай.

Гэткіх і падобных ім запісаў, як відаць з Святатроецкага архіву, было нямала. З наданых „добродзеями брацтва“ фундушаў, брацтва, аплачывала прафэсароў і ўтрымлівала бурсу для бедных студэнтаў.

Як усюды, так і тут быў роблены асаблівы націск на навуку лацінскай мовы, якая тады была азнакай адукаванасьці і вельмі патрэбнай ў практычным жыцьці грамадзяніна. „Лацінская мова“,—кажа адзін тагочасны аўтор,—патрэбна, каб нашае беднае Русі не называлі глупай Русьсю, прастакамі, і каб бедны Русін на сэймах, сэйміках і судах разумеў, ў чым справа, і не траціў праз сваё нязнаньне лаціны (bez łaciny płaci winy); мовы грэцкая або славянская ня могуць замяніць, — кажа ён, — лацінскай, тым больш, што кніг лацінскіх ў галінах рожных навук многа“ (Lithos abo kamień z pracy prawdy... 1644).

***) Сцяпан Кукель ў судовым дакуманце з 1597 году называецца „бояриномъ господарскимъ повету Троцкого“ (Дакумант ў сабраньні В. Ластоўскага).

Дзеля гэтага навука лаціны займала ў гэтай школе першае мейсца. Затым, далейшая праграма навук нічым ня рожнілася ад праграмы ў езуіцкай віленскай акадэміі. Бачым мы тут тые-ж самыя безьмястоўныя публічныя дыскусыі, разыгрываньні містэрый, навуку багаслоўя, граматыкі — грэцкай, лацінскай, рускай і польскай, — рыторыку, дыялектыку, поэтыку, філёзофію, арытмэтыку, музыку і інш. Усяго нават зашмат, акром практычных навук, з якіх адно толькі права заслуговывала на увагу тагочасных акадэмій. Магчыма, што з бегам часу з гэтай акадэміі разьвілося бы запраўднае вогнішча веды, але гісторыя пайшла іншым шляхам: казацкія выступленьні на Украіне пацягнулі да сябе ад нас выдатнейшыя сілы, якія стаялі на стражы „рускага“ народу ў Рэчыпаспалітай, і ў выніку Кіяўская Могілянская акадэмія ўзяла ў свае рукі стырно „рускай“ навукі, а нашы грэка-лаціна-рускія школы, — Менская, Берасьцейская, Аршанская, Пінская, Віленская, Бельская, Слуцкая, Могілёўская, — пачалі падупадаць пад націскам школ езуіцкіх, асабліва з другой палавіны XVII ст.

---

# Праф. Карскі і яго „Бѣлоруссы“.

3-й кнігай *) 3-га тому праф. Аўгіяш Карскі закончыў сваю працу аб Беларусох (Крывічох). У апошняй гэтай кнізе разглядаецца новая беларуская (крывіцкая) літаратура На жаль крывіцкая мастацкая літаратура вельмі тут разгледжана слаба Кніга дае надта мала тым, хто знаёмы наагул з новай крывіцкай літаратураю, тым-жа, хто з нашай літаратураю незнаёмы, яна дае фальшывае аб ёй прадстаўленьне. Не задзержуючыся дзеля гэтага доўга на літаратурнай вазе гэтае кнігі Карскага, як гісторыі крывіцкае літаратуры, зьвярну тут вялікшую увагу на тое спэцыфічнае гледзішча й тэндэнцыі, з якімі падыходзіць п. Карскі да крывіцкага руху й крывіцкага народу. Тэндэнцыямі гэтымі, як чырвонымі нітамі, вышыты ўсе кнігі „Бѣлорусовъ“, але ў гэтай апошняй ім дасталося поўнага і мусіць канчальнага разьвіцьця.

Крывіцкая мова, якая й дагэтуль яшчэ не даволі з навуковага боку дасьледжана, 2 дзесяткі год таму назад зьяўлялася вельмі добрым і лёгкім матар'ялам дзеля навуковае працы. Праф. Карскі з гэтага скарыстаў і даў у сваіх „Бѣлорусах“ хоць далёка ня поўную і не канчальную, але ўсё-ж такі вялікую і цэнную працу аб крывіцкай мове. Але, працуючы навукова над крывіцкаю моваю, праф. Аўгіяш Карскі быў на толькі „тактычны“ чалавек, што ня толькі не спракудзіўся перад маскоўскай ўладаю і чарнасоценным маск. грамадзянствам, але, наадварот, яшчэ сваёй працаю ўбіўся ім у ласку і дастаў надгароду: ён ажно да апошняга часу быў на вельмі адказным і вымагаючым пэўннга чалавека пасту — быў рэктарам варшаўскага унівэрсытэту. Як відаць, доля не да ўсіх аднолькава: у той час, як адны крывічы даставалі ў турмах сухоты (Іван Луцкевіч), другіх ссылалі ў Сыбір (Прушынскі, Язэп Лёсік), парафразуючы словы з адрэсу апалячанае крывіцкае шляхты за Кацарыны II („живя не въ Польшѣ, мы чувствуемъ себя, какъ въ Польшѣ и даже лучше чѣмъ въ Польшѣ“), „наш“ Карскі мог аб сабе сказаць „Живя не въ Бѣлоруссіи, я чувствую себя, какъ въ Бѣлоруссіи“. Але, калі крывіцкая апалячаная шляхта XVIII стагодзьзя не заслужыла сабе ў

---

*) Е. Ф. Карскі „Бѣлорусы“. Томъ III. Очерки словесности бѣлорусскаго племени. 3. Художественная литература на народномъ языкѣ. Петроградъ, Россійская Академія Наукъ, 1922 г. бач. XVII+454 in 1/8.

Маскалёў гэткіх прыемных да сябе адносін у той час, як увесь крывіцкі народ стагнаў у страшным социяльным і нацыянальнымъ ярме, то п. Карскі ласку „заслужыў“. Да яго маскоўскія вучоныя, дзеля сваіх палітычных цэнтралістычных мэт, гукалі аб прарускім языку, гэтым самым прызнаючы, што ўжо цяпер няма ніякае агульнае „рускае“ мовы. Гэта „праруская мова“ ня была нікім давелзена, яна ніколі не існавала, была фікцыяй, патрэбнай дзеля дурэньня Крывічоў і Украінцаў. Але Карскі бяз ніякіх довадаў і гэты „прарускі язык“ замяніў на „общерусскій“ як у мінуўшчыні так і ў цяперашніні

І раней і цяпер у гэтай апошняй кнізе Карскі заве маскоўскую літаратурную мову ,,общерусскою“, а тымчасам, яшчэ да выхаду ,,Бѣлорусс'аў“ Карскага, Пецярбургская Акадэмія Навук у сваёй ведамай запісцы заявіла: „Основаній назвать русскую литературную рѣчь общерусскою мы не видѣли, ибо она не представляетъ амальгамы, въ которой бы, хотя и не равномѣрно, отразились особенности всѣхъ живыхъ русскихъ нарѣчій, и ее нужно назвать вполнѣ великороссійской“. Калі Карскі не згаджаецца з гэтай пастановаю Акадэміі, ён мусіў-бы выступіць у друку з довадамі проці яе, але зьбіць гэтую пастанову Акадэміі, абапертую на аб'ектыўных навуковых даных, немагчыма, — і ён абмежуецца тым, што выступае ў ролі агітатара на карысьць дэнацыяналізацыі крывічоў маскалямі.

Навуковая праца праф. Карскага зроблена такімі мэтодамі і з такімі ненавуковымі прыдаткамі, што яна перастава быць шкоднаю маскоўскай дэнацыяналізацыі. Наўперад, усё дзеіцца ў атм сфэры „общерусскаго языка“, хоць з такім-жа а напару і вялікшым правам паводле прыводжаных асаблівасьцяў, крывіцкую мову можна было-б радніць з усімі іншымі славянскімі мовамі. У неадумыслоўца робіцца ўражаньне (даймо), што крывіцкая мова запраўды зьяўляецца нейкім нарэччам маскоўскае мовы, а не асобным языком. Хоць па багацьцю тых асаблівасьцяў, якія прызнае сам Карскі, крывіцкая мова можа раўняцца кожнай з іншых славянскіх моваў, але самыя прыклады так дзіўна павыбіраны, што неяк забываешся аб гэных асаблівасьцях, у прыкладах асаблівасьці разьмінаюцца, дзе ё адна, там няма іншых, бо яны заступлены ў Карскага выражэньнем, словам, складам, гукам, на'т літарай маскоўскімі. З аб'ектывныхъ навуковыхъ даных, самым-жа ім дасьледжаных, п. Карскі ня робіць ніякіх консэквэнтных практычных вывадаў. Далей, агульныя асаблівасьці ён стараецца абязцэняваць, адмежуючы тэрыторыю іх пашырэньня, і робіць у навуцы русыфікацыйныя нацяжкі. Усё ў яго атручана маскоўскай сыстэматычнай тэндэнцыяй. Дык выходзіла ўсё добра; падобныя асаблівасьці нехта ўсё роўна раней ці пазьней паказаў-бы, але тут яны былі паказаны з такімі маскоўскімі хітра сплеценымі тэндэнцыямі, што здавалася ад іх цяжка будзе адчапіцца. І ня віна п. Карскага, а нас крывіцкіх (ці беларускіх, як каму любя) „сэпаратыстых“, што мы карыстаемся ягонымі працамі не паводле ягоных жаданьняў.

У ранейшых кнігах, аднак, самая тэма працы ня так дазваляла праф. Карскаму адхінацца ў бок і выказаваць свае палітычныя й грамадзка-нацыянальныя настроі. Затое ў гісторыі новае літаратуры ён выказуецца ўвесь. Усе адносіны праф. Карскага да Крывічоў, гэта адносіны няпрыязна настроенага пана, які ня хоча бачыць крывіцкага народу, але толькі крывіцкіх мужыкоў, пры гэтым — мужыкоў на толькі цёмных і дурных, каб яны не хацелі і не маглі мяшацца ў „панскія справы“.

Разглядаючы верш Л. Кондратовіча (Сыракомлі) — „Заходзіць сонца пагодняга лета“, аўтор „Бѣларус'аў задзержуецца на гэткіх радкох:

„Там на Заходзе праліваюць кроў,
Б'юцца для славы, свабоды і чэсьці
І робяць вольных людзей з мужыкоў"...

і робіць гэткую зацемку:

„Не знаю только, о свободѣ какихъ мужиковъ могла быть рѣчь въ 1848 году и въ предшествующее ему время: бѣлорусскіе мужики были въ рабствѣ до освобожденія ихъ Александромъ II; со стороны помѣщиковъ не было попытокъ дать имъ волю" (бач. 65). А тымчасам кожны вучаньнік ведае, што ў 1848 г. з Францыі па ўсёй Эўропе праняслася рэволюцыйная хваля. Карскі відаць ня хоча дапусьціць, каб беларуская думка выляцела за сваю вёску.

„Разсказъ „Рабы" Ядвигина Ш., — кажа Карскі, — даетъ історію жизни породистаго кабана, который пилъ, ѣлъ, спалъ и наконецъ умеръ, „праз усё сваё жыцьцё нікому благога нічога не зрабіў", но не сдѣлалъ и ничего добраго. Если разсказъ примѣнить къ людямъ, то трудно будетъ изъ нихъ подыскать соотвѣтствующій типъ, особенно изъ лицъ близкихъ крестьянской средѣ" (бач. 351). Значыцца, крывіч — толькі сялянін, і гэты сялянін сваёй думкаю ня мае тут ужо права пералезьці пераз свой плот. А я думаю, што сялянін няхай падумае і аб усялякіх панох...

Няма дзіва, што паважаны прафэсар не разумее, ці ляпей ня хоча разумець крывіцкіх пісьменьнікаў. Ён ня хоча верыць, што Пранцішак Багушэвіч праўдзіва апісаваў сялянскае жыцьцё, гэта ў яго „желчное озлобленіе", бо мусіць пад Расеяй не магло быць блага. Гэтаму-ж Багушэвічу ён робіць нагонку за тое, што той першы адважыўся лічыць крывіцкую мову ня горшай за іншыя. Аб Я. Купале, гэтым вялікім сымболістым, ён гэтак кажа: „Такимъ образомъ въ томъ произведеніи („Раськіданае гняздо") Луцевичъ обнаружилъ нѣкоторую склонность къ символизму". Калі Купала кажа ў вершы

„Любіць... каго, за што любіць?
А ненавідзець сіл няхват...",

дык аўтар пытаецца: „Я-бы спросилъ, -- кого и за что?" Ну дзе-ж тут дагадацца, — каго і за што!

А аб Якубу Коласе гэтак, паміж іншым, піша: „авторъ требуетъ земли и хлѣба, солнца и свѣта, жизни и свободы, — пожеланія очень умѣстныя, когда на Бѣлоруссію опять надвинулся призракъ новой иноземной неволи" (бач. 295). Што жаданьні гэтыя на месцы цяпер,—гэта шчырая праўда, але яны былі на месцы і тады перад вайною, як былі пісаны.

Як кожны Маскаль, што рукамі і зубамі дзяржучыся за Беларусь (Крывію), адначасна яе ганіць за ейную „брыдчыню і галіту", быццам гэта край толькі „балот, каўтуна і згорбленых людзёў", гэтак сама й Карскі мусіць пастанавіў давясьці, што крывіцкая прырода „бѣдна и неприглядна", і наўмысьля дзеля гэтага выбірае вершы. Поводле аўтара, адну гэтую беднасьць прыроды ўсе апісуюць: П. Багушэвіч, А. Пашкевічанка і К. Міцкевіч. Прыводжаныя Карскім вершы сьведчаць толькі аб пэсымістычным настроі іх аўтараў, але не аб брыдчыні крывіцкае прыроды. Затое аўтар абмінае ўсе тыя вершы, дзе апісуецца хараство нашае прыроды. Бо ці-ж не хараство крывіцкае прыроды апісана, прыкл., у гэтых вершах А. Пашкевічанкі:

„Ніва шуміць каласамі
Жыта сьпелага, аўса,
Уся прыбрана васількамі,

Як дзяўчына да вянца.
Веңярок па ёй гуляе,
Клоніць колас да зямлі,
Сонца зерне налівае,
Бусл клякоча на гумні.
А гляні на нашу вёску:
Весь палетак аж гарыць!“ і г. д.

Або К. Міцкевіч у „Новай Зямлі“:

. . . . . . . . . . . . .
„Лес наступаў і расступаўся,
Лужком зялёным разрываўся.
А дзе прыгожыя загібы
Так міла йшлі каля сялібы,
Што проста-б імі любаваўся.
Ўнізе кустоўнік рассьцілаўся
Ды густа з лесам ён сплятаўся.
. . . . . . . . . . . . .
Цякла тут з лесу невялічка,
Травой заросшая крынічка,
Абодва берагі каторай
Лазьняк, алешнік абступалі,
А ў іх цяньку бруілісь хвалі...
Зялёны луг, як кінуць вокам,
Абрусам пышным і шырокім
Ад хаты зараз пачынаўся
І ўшыр і ўдоўж ён расьсьцілаўся
Ды йшоў квяцістай раўніною
З высокай мяккаю травою...“

Яго-ж з „Сымона Музыкі“:

„О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей ёсьць ў сьвеце божым
Гэтых сьветлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе лясы-бары гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Нівы гутаркі вядуць?!
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе ўвясну лугі цьвітуць,
І шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?!“

У другім месцы прыводзіць і аўтар гэты адрывак, але з сусім іншаю мэтаю. Там аўтар не гамоніць аб беднасьці нашае прыроды, ён пры разглядзе поэмы „Сымон Музыка“ папераджае гэты верш гэткім комэнтаром:

„Части лирическаго отступленія, выражающія чувства поэта либо по поводу красот природы (ня крывіцкае прыроды, а наагул. Я. С.), либо по случаю разныхъ обстоятельствъ изъ жизни главныхъ героевъ. Очень типично въ этомъ отношеніи начало III-ей части, гдѣ изливаются чувства автора при мысли о судьбахъ Бѣлоруссіи. Вотъ начало этого мѣста:“ (бач. 306).

Аўтар у гэтай-жа кнізе, каб канчальна даканаць Беларусаў, бярэцца за крытыку й асуджаньне крывіцкага нацыянальнага й палітычнага руху. На яго думку крывіцкі рух — зьявішча штучнае, якое вызвала нездаволеньне ўладаю. Зацеміўшы, што крывіцкія адраджэнцы ссылаюцца на ўжываньне ў Літоўска-Беларускім гаспадарстве крывіцкае мовы, як урадовае, і што гэткае ўжываньне яе было юрыдычна аформлена законам Літоўскага Статуту „А пісар земскі маець поруску літарамі і словы рускімі усі лісты, выпісы і позвы пісаці, а не іншым языком і словы“, аўтар кажа: „Все сказанное фактически вѣрно, но только нуждается въ нѣкоторомъ поясненіи. Отпадаетъ ссылка на старый западно-русскій языкъ, который подъ польскимъ владычествомъ *послѣ Люблинской уніи* (Курсавыя літары мае. Я. С.) до того полонизовался, что сеймовымъ постановленіемъ, занесеннымъ въ Volum. Legum подъ 1696 г., въ судебно-административной практикѣ Западной Руси былъ замѣненъ польскимъ языкомъ“ (бач. 179). Нат хай сабе гэтак, дык усё-ж такі прынамся да Люблінскае уніі, значыцца 1569 г., існавала крывіцкая літаратурная ўрадовая мова. Дык, калі нат лічыць згодна з Карскім, крывіцкая літаратурная і ўрадовая мова існавала каля 4-х стагодзьдзяў: ад пачатку XIII да канца XVI ст. Калі ўспомнім, што маскаўская літаратурная мова існуе толькі ад Пятра I, а праўдзівей можна лічыць яе быцьцё ажно з палавіны XVIII стагодзьдзя, дык выйдзе, што старая крывіцкая літаратурная мова трывала даўжэй, чымся ўдвая за маскоўскую літаратурную мову. Але запраўды крывіцкая літаратурная і ўрадовая мова пачалася ў XI ст. і трывала юрыдычна да канца XVII ст., а фактычна прынамся да другой палавіны XVII ст., г. зн, — 6½ стагодзьдзяў. [2]) Аднак п. Карскі ня злуецца на маскоўскую літаратурную мову за яе меней, як 200-годняе быцьцё, але ня хоча даць правоў крывіцкай мове, ня гледзячы на тое, што яна, як літаратурная і ўрадовая, існавала паводле яго каля 4-х стагодзьдзяў, а па нашаму — 6½ ст.

Кажучы, што былі жальбы Крывічоў-каталікаў на рэлігійнае перасьледаваньне, Карскі дадае, што пасьля 1839 г. „положеніе іх (крывічоў-каталікоў) ухудшилось еще оттого, что, употребляя въ костелѣ въ дополнительномъ богослуженіи и проповѣди польскій языкъ, они считали себя поляками, хотя принадлежали къ бѣлорусской народности. Правительство въ такомъ недоразумѣніи усматривало распространеніе колонизаціи“. (бач. 184). Гэтак усюды, — маскоўскі ўрад рабіў добра. Пан Карскі ведае, але ня хоча сказаць, што ў цэрквах і касьцёлах была забаронена крывіцкая мова, а дазволена у цэрквах (проста ўведзена) маскоўская, а ў касьцёлах — польская тым-жа маскоўскім урадам, якога ён так сыстэматычна бароніць на шкоду ўсялякай праўдзе.

Усюды ён бачыць інтрыгі ў крывіцкай справе, наўперад, ведама інтрыгу польскую, але ахвотна верыць і Паляком, калі яны толькі кажуць проці Крывічоў. Гэтак, каб мацькмагчымасьць лішні раз выступіць проці крывіцкага руху, ён хапаецца (бачына 193) за словы Паляка Л. Васілёўскага, што быццам Пр. Багушэвіч і І. Няслухоўскі былі Палякі, Піша, што й дагэтуль крывіцкім рухам кіруюць каталікі, якія сваім крывіцкім шовінізмам адганяюць ад сябе праваслаўных Крывічоў і, як на прыклад, прыводзіць газэты „Звон“ і „Беларусь“, якімі каталікі ніколі не кіравалі. Нават Я. Купалу вінаваціць у яго „заходняй орыентацыі!“

Чым далей, тым балей увайходзіць п. Карскі ў шчыра нацыяналістычны маскаўскі патос; тут зьяўляюцца „нямецкія і польскія маркі“ і тэлеграма

---

[2]) Асобная крывіцкая народная мова існуе з 5 ст. пахрысьце.

Вільгельму і тут — жа ў нізе ў вынасцы паказывае, дзе можна знайсьці прозьвішчы тых, хто пасылаў гэтую тэлеграму. Ён сам, бачыце, ня піша іх прозьвішчаў, але паказывае, дзе іх можна знайсьці...

У канцы п. Карскі ласкава заяўляе „Держась строго педагогическихъ методовъ, въ самыхъ захолустныхъ мѣстахъ съ этого языка можно бы начать начальное обученіе“ (бач. 181). Які п. Карскі добры!

Паводле Карскага Крывічом трэба туліцца да цёплыхъ маскоўскіх грудзей і гэтым „пріобщить народъ къ культурѣ“. Што ён разумее пад гэтай културай і шчасьлівым крывіцкім жыцьцём пад крылом Масковіі, відаць з іншага месца. Вось, як ён піша аб чарнасоценныхъ лістках, якія займаліся правакацыйнай і пагромнай агітацыяй і гукалі народ быць паслухмяным царом і паном:

„Мнѣ извѣстны лишь адна брошюра и два стихотворенія, вышедшія изъ интеллигентной среды, имѣющія въ виду распространеніе среди крестьянъ-бѣлоруссовъ здравыхъ взглядовъ относительно видовъ правительства при освобожденіи крестьянъ отъ крѣпостной завнсимости и надѣленія ихъ землей“ (бач. 90).

Тут-жа падае й пачатак гэнае брашуры і вершаў, што, як ён думае, пашыралі паміж крывіцкіх гаспадараў „здравые взгяды“:

„Слово царское ни абы якое. Нашъ братъ падъ иншы часъ абицаиць, чаго пасля сполниць и нявсючыць и ня взможыць, а Царъ што сказавъ — свята...“ (там-жа,91).

„Братцы, братцы! падаждзеця,
На всіо въ свѣци іо свой часъ;
Ня гукайце ни гаманеця:
Царъ ни забудзицца пра насъ,

Бо царска слово ни абы якоя,—
Што тольки скажыць Царъ кому,
То завсягды суповниць тоя:
Бо ён і слову царъ свайму“ (бач.12).

„Паны Цару и краю служаць,
Въ совѣци изъ Царомъ сидзяць,
За всихъ насъ думаюць и тужуць
Законы суповниць хацяць.

Паны защитою для края,
У кожным дзѣлѣ всіо паны“ і г. д. (бачына 94).

Тыя, што жадаюць прыняць тэрмін „Крывіч“, „Крывія“, „крывіцкі“, як агульны назоў нашага народу, могуць быць здаволены і цьвярдзей перакаанацца ў справядлівасьці свайго дамаганьня. Непрыяцель нашага народу, п. Карскі, з усяе душы ненавідзіць і баіцца гэтага назову.

Асаблівае увагі заслужуе крытыка Карскім мовы нашых пісьменьнікаў. Наўперад цікаўна, што чымся пісьменьнік меней ведае крывіцкую мову, тым Карскі балей яго хваліць. Гэтак, зганіўшы за мову Пр. Багушэвіча, ён кажа: „Язык Ив. Неслуховскаго уже болѣе чистый“ (бач. 219). А тымчасам даволі прачытаць адзін-два вершы Няслухоўскага, каб угледзіць, што мова ягонная шмат горшая за мову Багушэвіча. М. Богдановіч чатырох год выехаў з Бацькаўшчыны ў Маскоўшчыну і там увесь час жыў. Народнае мовы ён сусім ня ўмеў. У яго харошая форма верша, але крывіцкая мова яго твораў такая, што некаторыя яго вершы можна даслоўна перакладаць на мас-

коўскую мову, і ад гэтага ня зьменіцца ні разьмер ні рытма. І аднак ніхто іншы, як М. Б., заслужыў у Карскага найвялікшую пахвалу за сваю мову. „Что касается языка Богдановича, — піша Карскі, — то онъ чистый разговорный языкъ. Въ этом его истинная красота. Нѣтъ въ немъ придуманныхъ хитрыхъ словъ только затѣмъ, чтобы отличить бѣлорусскую рѣчь отъ русскаго литературнаго языка, нѣтъ въ немъ рѣдкихъ выраженій“ (бач. 321).

Не падабаецца Карскаму і сучасная літаратурная крывіцкая мова. Тут ён зварочуе увагу: 1) На аканьне. Яно яму здаецца надта вялікім „Чрезмерное аканье (появленіе **а** съ предыдущимъ твердымъ и мягкимъ согласнымъ (**я**) на мѣстѣ всякаго **о** и **е** безударнаго) составляетъ отличительную особенность, собственно говоря, центра Бѣлоруссіи, да и то не во всѣхъ положеніяхъ въ отношеніи къ ударенію“ (б. 192). Тымчасам у І томе „Бѣлорусс'аў“ (б. 198) ў аб'ясьненьні да карты крывіцкіх нарэччаў ён кажа: „Сплошной красный цвѣтъ показываетъ сильное аканье въ соединеніи съ другими чертами; этотъ говоръ основной бѣлорусскій“. Значыцца, гэта нарэчча цэнтральнае, асноўнае крывіцкае, а што яно й найвялікшае, прызнае кожны, хто толькі гляне на гэную карту, ня гледзячы на тое, што на карце ня ўвайшлі ў гэнае нарэчча мясцовасьці, як Вялейскі павет і інш., якія трэба да яго аднясьці. Зразумѣла, што гэтае цэнтральнае, асноўнае, найхарактарыстычнейшае й найвялікшае крывіцкае нарэчча й трэ класьці ў аснову крывіцкае літаратурнае мовы.

Другі закід Карскага, — што быццам Крывічы выдумляюць арыгінальныя словы, каб толькі балей адрозьніць крывіцкую мову ад маскоўскае, — зьяўляецца ня меней несправядлівым. Кожны, хто хоць крыху ўважна прыглядаўся да мовы крывіцкіх пісьменнікаў і ўсіх пішучых пакрывіцку, мог лёгка зацеміць, што Крывічы стараюцца пісаць чыстаю роднаю моваю, бяз увагі на тое, ад каго гэта іх адлучае.

Ня выдзержуе крытыкі і пагляд аўтара, што трэба чужыя неславянскія словы ў крывіцкай мовѣ перадаваць з **дз** і **ц** мяккімі і **л** цьвярдым, а ня — з **д**, **т** цьвярдымі і **л** мяккім. Дзеля таго, што ў крывіцкай мове **д**, **т** мяккіх няма—**д**, **т** мяккія чужых слоў, зайшоўшы ў крывіцкую мову, цьвярдзеюць, бо інакш яны перайшлі-б у іншыя гукі: дз, ц. Прыкладаў на гэта маем шмат, як ў слоўніку Насовіча, так і ў этнографічных зборніках, а так сама — і ў працы самага праф. Карскага, які пры тым жа гэта самае прызнае і тэорытычна, кажучы: „Вслѣдствіе того, что въ бѣлорусскомъ нарѣчіи совершенно исчезли **д** и **т** мягкіе, когда приходится передавать иностранныя слова съ — ды — ты, — часто употребляютъ **д** и **т** твердые“. Што гэтак бывае ня толькі часта, але й заўсёды, кожны можа лёгка пераканацца на народнай мове; усюды кажуць „дырэктар, дыхт, дылёўка, дакляраваць, тыран, інстынкт, аптэка“ і г. п. Мякчэньне чужаземныхъ **д** і **т** ў сучасную пару крывіцкае мовы зьяўляецца простым маскоўскім уплывам; у гэнкіх мясцох або гэнкія людзі могуць гукаць і чыста памаскоўску. У чужых словах, пераймaных цяпер, або наагул у пазьнейшую пару крывіцкае мовы **л**—толькі мяккае. Довадам гэтаму могуць служыць такія агульна ўжываныя ў народзе словы, як „лямпа, дакляраваць“ (а не дзякляраваць) і г. п, шмат гэткіх слоў знаходзім у Насовіча й зборніках. У старыну, праўда, было начай. Але начай было ня толькі ў нас, а і ў іншых славянскіх мовах. Можна шукаць прычын гэтага зьявішча, але не адкідаць **л** мяккага чужых слоў. Гэткай прычынаю можа быць тое, што даўней у крывіцкай мове было мяккае, сярэдняе й цьвярдое **л**, а цяпер асталіся толькі маккае й цьвярдое. Некаторае значэньне мае й тое, што мы часта пераймаем чужыя словы ад суседніх з

намі народаў, як Немцы; мы гэныя словы можам часто чуць у роднай іх вымове, тады, як Маскалі або і Украінцы вымаўляюць іх так, як знаходзяць у друку, куды яны зноў лучаюць згодна з балей ці меней штучна ўстаноўленымі граматыкамі правіламі. Гэтае лічэньне з запраўднай чужой вымовай адзываецца, здаецца, і на Маскалёх, прынукаючы іх да гэткае неконсэквэнтнасьці, як ужываньне слоў „Финляндія, Курляндія, Эстляндія“ з мяккім **л** побач з „Голландія, Гренландія, Ирландія“ з **л** цьвярдым.

Нездаволены аўтар і беларускім правапісам. Разглядаючы выданьні супалкі „Загляне сонца і ў наша ваконца“, ён кажа: „Изданія О-ва дѣлаются русскими и латинскими буквами: первыми — съ пропускомъ **ъ** и **ѣ**, съ замѣной **и** посредствомъ **і**,—**щ** посредствомъ **шч**; а вторыми—съ введеніемъ чешских č, š, ž; такимъ образомъ польскій элементъ въ латинской орѳографіи былъ скрашенъ, но зато въ русской написанія **і** и **шч** приблизили къ польскому съ іх **i**, **szcz**. Вліяніемъ польской орѳографіи слѣдуетъ объяснять и слишкомъ частое употребленіе **ь** между согласными для обозначенія мягкости въ тѣхъ случаяхъ, гдѣ по-польски надъ согласнымп стоитъ знакъ ’ “. Зацемім тут, што гэткага правапісу кірыльскага і лацінскага, наколькі апошні ўжываецца, дзяржацца ўсе беларускія выдавецтвы, а ня толькі „Загляне...“

У старой крывіцкай мове быў стара-славянскі правапіс, дык і пісаліся два **і**: адно падвойнае **и**, другое адзіночнае **і**. У ст.-слав. мове дзьве літары гэтыя былі таму, што гэтак было ў мове грэцкай, з абецэды якое ўтвораны старaславянскія — глагольская й кірыльская — абэцэды. Два значкі дзеля аднаго гуку не патрэбны, а выбіраючы адзін з іх, ляпей узяць **і**, як практычнейшае, — займае меней месца й забірае меней часу пры пісаньні.

У крывіцкай мове няма гуку **щ**, але толькі **ш** і **ч**, дык дзеля няіснуючага гуку непатрэбна ніякага знаку. Праф. Карскі аб гэтым сам напісаў („Бѣлорусы, II, 1, бач. 20). Вось што ён там кажа: „Собственно говоря настоящій трезвучный согласный въ бѣлоруссомъ нарѣчіи не существуетъ. Тѣ сочетанія, которыя мы отнесемъ сюда, состоятъ изъ двухъ звуковъ, изъ которыхъ первый ничѣмъ не отличается отъ всякаго другого простого звука, а второй представляетъ сложный звукъ изъ двухъ, тѣсно сросшихся одинъ съ другімъ“. І на некалькі радкоў ніжэй кажа: „Безголосый **шт’ш** или **щ** (=шт’ш или ш+ $\frac{\text{т+шш...}}{2}$) тоже бываетъ только твердымъ: щука (шчука)“. А паказуючы пры помачы **ь** мякчыню сугалоснага гуку, мы гэтым толькі перадаём собствы нашае мовы. Бачым, што навет маскоўскім вучоным Карскім можна зьбіць Карскага маскоўскага публіцыстага й агітатара. Крывічы маюць правапіс навуковы, тады як вучоны Карскі хацеў-бы накінуць нам правапіс палітычны, тэндэнцыйны. Сусім ужо ня хороша вучонаму апэраваць гэткімі довадамі, як „да некага зближае і ад некага адлучае“. Калі ўжо на тое пайшло, дык найвялікшы віньнік у гэтым ня хто іншы, як сам маскоўскі цар Пётра І. Гэта ён, нягоднік, аддаліў стара-славянскую абэцэду, а ўвёў рэформованую, зблiжаную да лацінскае (а гэтым самым і да польскае) абэцэды. Добра ўсё-ж ткі быць царом: яго, вось, паны Карскія ня лаяць.

Выступае таксама аўтар проці формы: пяяць, пяяў. Як з „сеці, сею, сеў“ стала „сеяць, сею, сеяў“, таксама і з „пеці, пяю, пеў“ стала „пяяць, пяю, пяяў; значыцца, з асноў **сѣ**-, **пѣ**- ўтварыліся асновы **сѣя**-, **пѣя**-. Аснову **сѣя**- знаходзім ужо ў стара славянскай мове.

Пераходзячы да лексыкі, трэба суняцца (спыніцца) на слове „зара“, (зараз), проці якога ўжо даўно п. Карскі ваюе з нашымі пісьменьнікамі, лічачы

гэтае слова полёнізмам мусіць таму, што гэткую-ж скарочаную форму гэтае слова мае і ў польскай народнай мове. Але гэтага яшчэ не даволі, каб беларускае „зара“ лічыць полёнізмам. Гэткія скарочаныя словы ё ва ўсіх славянскіх мовах, і ў крывіцкай мове іх калі не балей, дык і ня меней, як у іншых. Вось некалькі прыкладаў: **мо** (=можа)—„Мат. Б.“ [3]) №№ 4-„Мог. г., 5 Слуцк., 10-Мозырск. 23-Менск., „мо трэба“ Кліх Навагор.; **трэ** (=трэба) Мат. Б. №№ 4 Мог. г., 5 Слуцк., 10 Мозырск., „трэ“ Федэроўскі I 305 Ваўкав., 306 ів., Кліх 242; **няма** (=ня мае) так сама агульна ўжываецца; **ку-ка** (=кажу, кажа) Федэроўскі II, 113 Слонімск; „**досыці**“ скарацілася ў „досыць“, потым у „дос“, як гэта маем у Магілёўшчыне (гл. „Антон“ М. Гарецкага), і далей у „до“ (Мат. Б. Мог. г.) і на ўсім захадзе Беларусі. [4]) Як настала скарочаньне ў гэтых і ім падобных словах,так сама і слова „зараз“ скарацілася ў „зара“. Што гэта не палёнізм, бачым з таго, што яно ўжываецца на ўсёй Беларусі, а тымчасам у польскай літаратурнай мове, з якой толькі яно магло-б быць узядзена, яго няма: там ё толькі zaraz. Дык сусім зразумела, чаму наш народ часта і лічыць, што „зара“ пабеларуску, а зараз“ папольску. У слове „зараз“ канцавое з магло тым лягчэй адпасьці, што гэнае-ж слова з націскам на канцы мае сусім іншае значэньне, яно значыць „за адзін раз“. Гэткім парадкам не паддзержаваны націскам, пры раўналежным націсьненым, склад-**раз** скараціўся ў-**ра**.

Дзеля характарыстыкі таго, як крытыкуе праф. Карскі, цікаўна заценіць ніжэйшае. Заценіўшы ў прадмове, што слоўнік М. Гарэцкага „очень далёкій отъ какой угодно полноты“, ён аднак далей, выступаючы проці слоў „сьцелюцца **мжакі**“, з гарадзкой нуды **адказеліцца**“, крыху **задлякаўся**“, „**калматы**“, „**кнеі**“, „пройдзе як **вейка**“, „з чатырох **дылёвак**“, „**бомы**“, „**смоўж**“, „кінь **дзяньгубіць**,“— апіраецпа на тым, што іх „нѣтъ въ словарикѣ М. Горецкаго“. Аднак палавіну гэтых слоў знаходзім у вялікшым слоўніку Насовіча: балона 284: **мжыць**—смыкать, жмурить. Мжыць вочы. **Мжыцца** — 1) смыкаться. „Вочы мжацца, — спаць хочам“; 2) у значэньні безасабовым — **мерещется**. „У вачох мжыцца“. Значэньне гэтых дзеясловаў сусім адпавядае назоўнаму іменьню **мжакі**; бач. 106: **вея** — буря, мятель. „Вея паднялася. Як ты ў вею паедзеш?“ Значыцца малая „вея“ будзе **вейка**. „Вейка“ ў некаторых мясцох яшчэ ўжываецца ў значэньні маск. „рѣсница“, як прыкл., у Рэчыцкім пав.; бач. 515: **смоўж** — улитка. „На лісьце смаўжа прынёс“; бач. 129: **дзяньгубіць** — терять напрасно время. Там-жа **дзяньгуб, дзяньгубка, дзяньгубства.** Так сама знаходзім у Насовіча іншыя словы, проці якіх у гэтай кнізе выступае праф. Карскі, ак **пекаць** (б. 395); **назола, назаленьне, назаляць, назольны** б. 307/8; **настольнік**—скатерть. „Настольнік белы палажы на стол“; побач з гэтым ужываецца і „абрус“; „грэбаваньне, грэбаваны, грэбаваць“ (б. 121), якім адпавядае прымета **грэблівы; лазобачка** умен. слова лазобка—кадушечка. „Лазобачка гарцы ў тры“ (б. 264).

Карскі, выступаючы проці слова „**багацьце**“, кажа, што „багацьцё“ ў Насовіча значыць драбяза. Праўда, на б. 11 маем „багацьцё“, якое перакладзена словам мелочь. „Сабрала ўсё сваё багацьцё ў кучу“. Але на б. 28 знаходзім „багацьце“ ў значэньні маск „богатство“. Запраўды-ж абодва гэтыя словы, як і шмат іншых, могуць ужывацца ў абодвух значэньнях: у простым значэньні азначаюць divitide, у значэньні пераносным, іронічным — драбяза. Іншых слоў, як „рэха, адказеліцца, длякацца, задлякацца, сноўдацца, калматы, дылёўка, азызнуць, азыс, прагавіты,

---

[3]) Матерьялы Бѣлоруссіи; скарочаныя словы, як Слуцк. і інш. паказуюць паветы.
[4]) Усе гэтыя прыклады, з выняткам апошняга, я ўзяў з Карскага „Бѣлоруссы“ II, 1, 502.

даражэнькі, прымака, памаўзаваць, памаўзьлівы, памаўза, маўклівы,"—няма ў сл. Насовіча, бо й ягоны слоўнік, хоць і шмат вялікшы за слоўнічак М. Гарэцкага, —так сама далёкі ад якое хаця паўніні, але яны агульна ўжываюцца ў народзе.

Выражэньне „**ветраць носам**" аўтар лічыць рэдкім, провінціяльным і мо выдуманым, каб балей адрозьніць ад маскоўскае мовы, і пытаецца, ці ня будзе гэта вярцець (круціць) носам? „Ветраць" паходзіць ад слова „вецер", „ветраць носам" — значыць, як бы нюхаць у паветры, быццам хочучы зьнюхаць, што чуваць, якія будуць навіны. Слова гэтае агульна ўжываецца.

**Філ. канд. Я Станкевіч.**

---

# Адрывак з Ай Кітабу.

Ай Кітаб (Сьвятая Кніга) — крывіцкі (беларускі) рукапіс XVI стагодзьдзя, які знайшоў у 1915 годзе археолёг і закладчык крывіцкага музэю ў Вільні, нябожчык Іван Луцкевіч. Знойдзены рукапіс гэты быў у Сорак Татарах пад Вільняй у малны Сьцяпана Палтаракевіча. Ай Кітаб зьяўляецца рэлігійнай кнігаю крывіцкіх мусульманаў. Напісаны гэты рукапіс у крывіцкай (беларускай) мове, але арабскімі літарамі, якія ўжываюць усе мусульмане. У знойдзеным рукапісе 138 лістоў in folio, ня гледзячы на тое, што ў ім няма ні пачатку, ні канца.

Ай Кітаб цяпер пры унівэрсытэце ў Празе транскрыбуецца з арабскага пісьма на лацінскае. Як будзе друкавацца вялікшая яго часьць, дык да яе мае быць прылучаны поўны разгляд рукапісу з боку літаратурнага і языкаведнага (лінгвістычнага). Цяпер-жа скажам тут толькі некалькі словаў, патрэбных дзеля зразуменьня друкаванага ніжэй кароценькага адрыўку.

У варабскай мове ё толькі тры галосныя гукі **а**, **у**, **і**, але кожны гэты гук бывае даўгім і кароткім. Даўгія галосныя гукі арабскае мовы абазначаюцца адпаведнымі значкамі даўжыні арабскае абэцэды. Дзеля абазначэньня крывіцкага **а** ўжываецца ў рукапісе арабскае **а** даўгое (транскрыбуем лацінскім ä), крыв. **е**, э абазначаецца арабскім **а** кароткім (транскрыбуем лац. **а**), крыв. **о** і **у** перадаюцца араб. **у** даўгім і **у** кароткім бяз розьніцы (транскр. пераз. лац. ū, u), крыв. **і**, **ы** перадаюцца арабскім **і** кароткім (звычайна), а напару—і даўгім (транскрыбуем пераз лац. **і**, **ї**). Аднак дзеля таго, што аўтар Ай Кітабу **хацеў** пісаць этымолёгічна, у рукапісе зьяўляецца шмат адхінкаў ад гэтага агульнага правіла.

З зычных ужываюцца ў рукапісе тры **z**: 1), якое называецца **dad** або **zad**; чуецца ў арабскай мове як глухое, на верхнім паднябеньні вымаўленае **d**, але ў турэцкай мове вымаўляецца як **z**, у нашай мове абазначае яно **z** цьвярдое, прыкл. у слове ізноў; 2) (zai) адпавядае францускаму **z** ў **zéro**, ім абазначаецца крывіцкае **z** мяккое, прыкл. у слове **зямля;** 3) (**zal**) адпавядае мяккому англіцкаму **th** ў **there**, абазначаецца ім таксама крывіцкае **z** мяккое. Часта гэтыя літары перадаюцца лацінскімі 1) **ḍ** (з пунктам у нізе), 2) **z**; 3) **z̲** (z з рыскай у нізе); гэтак і транскрыбуем арабскі тэкст. Аднак таму, што ў крывіцкай мове палятальнасьць (мякчыня) іх накшая, то дзеля меншае умоўнасьці і лягчэйшага чытаньня транскрыбуем

іх у крывіцкім тэксьце пераз: 1) z (звычайнае), 2) z' (z з паўколцам з правага боку на версе) і 3) ź.

Ё так сама тры с: 1) (säd), s вострае, глухое, вымаўлянае на верхнім паднябеньні, ім перадаецца крыв. s цьвярдое, прыкл у слове **голас**; 2) (**sīn**), ім абазначаецца, хоць рэдка, крыв. s мяккое, прыкл. у слове **тысяча**; 3) (sä) — вострае англіцкае **th** ў **thing**, ім заўсёды абазначаецца крыв. s мяккое, прыкл. ў **усім**. Часта яны перадаюцца лацінскімі пераз 1) ṣ (s з пунктам у нізе), 2) s і 3) s̱ (s з рыскаю ў нізе). Транскрыбуючы гэтак арабскі тэкст, у крывіцкім тэксьце дзеля тых-жа прычын, што і пры трох z, транскрыбуем іх пераз 1) s (звычайнае), 2) s' (s з паўколцам з правага боку наверсе), 3) ś.

З двох **к**, ужываных у рукапісе, мяккое транскрыбуем **k'**, а цьвярдое **k**.

**В** ў арабскай мове пасьля галосных перад зычнымі вымаўляецца гучна, падобна крывіцкаму ў; дзеля гэтага ўсюды там, дзе ў крывіцкай мове вымавілі-б— ў, мы арабскае **waw** транскрыбуем пераз ў. Але **u**, **хоць** яно і вымаўлялася ў многіх мясцох крывіцкага тэксту як ў транскрыбуем пераз **u**, бо інакш нельга было-б распазнаць, што стаіць у варыгінале **waw** ці **u**.

**Т** ужываюцца два: адно, — гэта ṭä (глухое), на верхнім паднябеньні вымаўлянае, транскрыбуем яго лац. **t**; другое—**t'**. У транскр. араб. тэксту ім адпавядаюць **ṭ**, **t**, **t'**; у крывіцкім тэксьце яны зьяўляюцца толькі адбіцьцем араб. правапісу.

Усе іншыя зычныя гукі маюць у арабскай абэцэдзе толькі па аднэй літары, дзеля гэтага мякчыня рэшты крывіцкіх зычных у рукапісе не паказана.

Дзеля крывіцкіх **c** і **dz** у Ай Кітабе прыдумана па аднэй новай літары. (ʻain) — востры гарлавы (грытанны) гук. Транскрыбуем яго прыдыхальным значком **ʻ** , прыкл. пäʻukä.

Арабізмы транскрыбуем так, як крывіцкі тэкст. Зацемім, што ў словах, пазычаных з арабскае мовы, адбіваецца ўплыў правапісу і вымовы крывіцкае і арабскае, дзеля гэтага правапіс іх не консэквэнтны. Арабскі тэкст ўзядзены намі ў скобкі, а таксама і зроблены намі яго пераклад у раўналежным тэксьце паводле цяперашняга крывіцкага правапісу. Раўналежны тэкст (кірыліцай) паводле цяперашняга правапісу мусілі даць, бо транскрыбцыя літара ў літару цяжка чытаецца. Усе асаблівасьці захованы і ў кірыліцкім тексьце, які гэткім парадкам зьяўляецца новай транскрыбцыяй да агульна-прынятага пісьма, толькі аканьне ў кір. тэксьце праведзена сусім паводле цяперешняга правапісу. Аднак, ведама, што ўгэтым тэксьце ня можа быць такое точнасьці і пеўнасьці, як у тэксьце, транскрыбаваным літара ў літару, якім ё тэкст лацінскі. У кірыл. тэксьце заместа й ужываем **j** (jот), пішучы яго адначасна ўсюды, дзе яно ё перад галоснымі, як гэта робіцца ў навуковых запісах. Знакі прыпынку і вялікія літары мы раставілі.

Бачыны і радкі арыгіналу пры транскрыбаваньні не ламаты.

У друкаваным тут адрыўку лічбы ў нізе паказуюць бачыны захаванае часьці арыгіналу, бачыны якога не нумэраваны. На кожнай бачыне сямнанцаць радкоў. У друкаваным тут адрыўку на „4а“ бачыне арыгіналу ё толькі пятнанцаць радкоў, бо два верхнія радкі адносяцца да папярэдняе стацьці, на „5а“ ё толькі 10 радкоў, бо ніжэйшыя 7 адносяцца да наступное стацьці.

Chalūpä Būžahū s Pänambūham räzmūvä.

(alchamdu lillähi). [1]) Chvälä Būhu. Käli chalūp Būžij [2]) hatij äjat' [3]) paja, 'äd Pänä būhä hūläs zäjdza: „I chalūpa mūj, katūramu Būhu chvälu činiš?" Chalūp račah: „(rabbi 'l'älamïna). [4]) Tämu Būhu, katūrij śamkrūt nabūs i z'ämli stvuriŭ i 'äśminäccäc t'is'ačaj śvatūŭ stvuriŭ". 'Äd Pänäbūhä hūläs prijdza: „I chalūpa mūj, Būhä tvähū 'u jäkūj mūci 'i pästäci räzumajaš?" Chalup račah: „('rrachmäni 'rrachïmi). [5]) Tūj Būh 'uśamū stvuranu riz'k [6]) däväci mūcan jast i ŭśim hrachi 'ädpūsklivij jast". Huläs zäjdza: „I chalūpa, tvähu Būhä 'učinäk jak'ij mäja bic?" Chalūp račah: „(mäliki jaumi 'ddïni). [7]) Dnä sūdnähu jūn pänam būdza i sūdzjuj". Hūläs zäjdza: „I chalūpa, ti kämu chalūpstvä i pädänstvä činiš?" Chalūp račah: „(ijjäka na ' budu) [8]) Būža mūj, Täba jä klänajūśa, Täba sväjū päddänstvä 'äddäjū". Hūläs zäjdza: „I chalūpa mūj, či säm 'äd śaba mna klänajaśśa, či z mäjhū prikazänäh?" Chalūp račah: „(va'ijjäka nasta'ïnu). [9]) Stvuricalu, läsk'i Tväjaj žädäju i Täba pälacäjūśa, käli Ti pän mūj

4a

---

Халопа Божага з Панамбогам размова.

(Хвала Богу) [1]) Хвала Богу. Калі халоп Божый [2]) гэтыј аjат [3]) пяјé, ад Панабога голас заjдзе: „І халопе моj, каторому Богу хвалу чыніш?" Халоп рачэ: „(Пану сусьвéту). [4]) Таму Богу, каторыj семкрот нябёс і зямлі стварыў і асьмінаццаць тысячэj сьвятоў стварыў". Ад Панабога голас прыjдзе: „І халопе моj, Бога тваго ў jакоj моцы і пастаці разумéеш?" Халоп рачэ: „(Міласэрнага, ласкавага). [5]) Той Бог усяму стварэньню рызк [6]) даваці моцан jéст і ўсім грахі адпусклівыj jéст". Голас заjдзе: „І халопе, тваго Бога ўчынак jакіj маjе быць?" Халоп рачэ: „(Караля дня суднага). [7]) Дня суднага jон панам будзе і судзьдзёj". Голас заjдзе: „І халопе, ты каму халопства і паданства чыніш?" Халоп рачэ: „(Табé служым!) [8]) Божа моj, Табé jа кланяjуся, Табé сваjо падданства аддаjу". Голас заjдзе: „І халопе моj, чы сам ад сябé мнé кланяесься, чы з маjго прыказаньня?". Халоп рачэ: „(да Цябé помачы гукаjем). [9]) Стварыцелю, ласкі Тваjёj жадаjу і Табé паляцаjуся, калі Ты пан моj

4a

mna läsk'i i pūmäči sväjaj na'ūčiniš, jäk Tväju 'ädzinū-
stvä znäc mäju". Znūvu huläs prijdza: „I chalūpa mūj, či dä pä-
klūnäŭ mäjich 'äd mana pūmäči žädäjaš?" Chalūp račah: (ihdinä
'ssirät̤a 'lmustakïma) 10) I Būža mūj, mana 'uprävädz 'u därūhu präŭdzivuju!"
Znūvu huläs zäjdza: „I chalūpa mūj, därūhä präŭdziväja?" 11) Chalūp račah:„
(şirät̤a 'llaz̤ïna an ' amta 'alaihim). 12) I Būža mūj, prärūckūju därūhu
däj mna, katūraj prärūk'i išli, prärūk'i bilï Tväja varnik'i,
nabilï židämi 'äni chrascänmi". Huläs zäjdza: „I chalūpa mūj,
katūraj därūhi bäjiśśa, jä caba, Būh tvuj, 'äd täja därūhi
'uścarähu?" Chalūp račah: „(gairi 'lmagd̤ūbi 'alaihim). 13) 'Ädzinij Būža mūj,
'äd rärūhi 14) židūūskäj i chraścänskäj navarnäj ścaraži.
'u präŭdziväju (!) därūhu 'uprävädz, 'äd k'äfirśkäj 15) ścaraži.
(valä 'd̤d̤ällïn) 16) Jä jastam tich därūh blūdzäščich. 17) Chalūp račah:
„ämïn". Katūrij čalavak 'u kūžnam namäz'a 18) alchamdu s'ūraj 19)
z 'äminam paŭ, 'uläśna ūśa čatiri knihi vipaŭ, späśanja
näbūdza. Vadäj, štū kur'än mus'ulmäns'käjä rädūśc, uśich knih
hälävä, zäslūžūnich skridlä, jadinäk'im taväri̇šam, hrašnim

4b

---

мнé ласкі і помачы сваjéj няўчыніш, jак Тваjо адзіно-
ства знаць маjу". Знову голас прыjдзе: „І халопе моj, чы да па-
клонаў маjіх ад мянé помачы жадаjеш?" Халоп рачэ: „(Вядзі нас
дарогаju простаju!) 10) І Божа моj, мянé ўправадзь у дарогу праўдзівуjу!"
Знову голас заjдзе: „І халопе моj, дарога праўдзіваjа?" 11) Халоп рачэ:
„(Дарогаju тых, jакім Ты міласьцівы). 12) І Божа моj, прароцкуjу дарогу
даj мнé, катораj прарокі ішлі, прарокі былі Тваjé вéрнікі,
нябылі жыдамі ані храсьцянмі". Голас заjдзе: „І халопе моj,
катораj дарогі баjісься, jа цябé, Бог твоj, ад таjé дарогі
ўсьцерагу?" Халоп рачэ: „(Ня тых, на jакіх злуjéш) 13) Адзіныj Божа моj,
ад дарогі жыдоўскаj і храсьцянскаj нявéрнаj сьцеражы,
ў праўдзіваjу дарогу ўправадзь, ад кяфірськаj 15) сьцеражы.
(а ня блудзячых), 16) Jа jéstам тых дарог блудзяшчых 17). Халоп рачэ:
„Амін". Каторыj чалавéк у кожнам намазе 18) алхамду сураj 19)
з амінам пéў, уласьне ўсé чатыры кнігі выпеў, спасеньня
набудзе. Вéдаj, што каран мусульманськаjа радасьць, усіх кніг
галава, заслужоных скрыдла, jадынакім таварышам, грэшным

4b

hrachi ‘äčiščäjūščim. Vadäjcah, z’a alchamdu s’ūraju [19]) pacju
s Pänambūham täk mnūhä räzmūvu činiš, [20]) käli-b s täbūju
śahūśvatnij pän kūlkä slūů vimūviů, tū-bi ti radäväůśa (!),
mūviů-bi: „S’ūhūdna i zä (!) mnūj pän hutäriů“, ‘ä tū pän näd
päni, krūl näd krūli, [21]) s käturim u namäz’a [18]) ‘u paci vächtäch [22]) räzmūvu
činiš, ‘ä narädujaśśa, namäz’ů [18]) naprisparäjaš, chibä ‘u päklūnäch
Būhu čināčim smäku naznäjaš, bū tū slūvä päväžnija
näd vižšimi vižšähu stvuricalä Pänäbūhä. Tähū späśanä, ‘äkrūm
Pänäbūhä, nichtū navadäja (alkitäbu bi‘auni ’llähi ’ lmaliki ‘l vahhäbi). [23])
Zä pūmūcū [24]) Būžaju Krūlä [21]) Däricalä läskävähū näd ūśimi.

5a

---

грахі ачышчајушчым. Ве́дајце, за алхамду сурају [19]) пяцьцё
з Панамбогам так многа размову чыніш, [20]) калі-б з табоју
сегасьве́тныј пан колька слоў вымавіў, то-бы ты радаваўся,
мовіў-бы: „Сягодня і за мноj пан гутарыў“, а то пан над
паны, кроль над кролі, [21]) з каторым у намазе, [18]) ў пяці вахтах [22]) размову
чыніш, а нярадујесься, намазу [18]) непрыспарајеш, хіба ў паклонах
Богу чынячым смаку нязнајеш, бо то слова паважныја
над вышшымі вышшага Стварыцеля Панабога. Таго спасеньня, акром
Панабога, ніхто няве́даје. (Кніга, з помачаj Бога, Караля Дарыцеля).
За помоцу [24]) Божају Кроля [21]) Дарыцеля ласкавага над усімі.

5a

## ЗАЦЕМКІ.

1) Ад alchamdu lillähi аж да valä ’ḍḍälīn ёсьць першая сура (разьдзел) карану, званая яшчэ фатыха; часта яе раўнуюць да хрысьцянскае малітвы Господняе (айчанаш). Alchamdu lillähi ё часць першага верша гэнага першага разьдзелу

2) Халоп значыць тут слуга.

3) Верш; арабізм.

4) Разьдз. 1, в. 1 (другая часьць).

5) Разьдз. 1, в. 2.

6) Будні хлеб, еміна; арабізм.

7) Разьдз. 1, в. 3.

8) Разьдз. 1, в. 4 (першая часьць).

9) Разьдз. 1, в. 4 (другая часьць).

10) Разьдз. 1, в. 5.

11) У сказе (казаньні) „дарога праўдзівая“ відаць прапушчана аўтарам слова „якая“.

12) Разьдз. 1, в 6.

13) Разьдз. 1, в. 7 (першая часьць).

14) Апіска заместа därūhi.

15) Ад арабскага k'äfir — няверны, нявернік, утворана ў мове нашых мусульманаў крывіцкае наз. імя кяфірын (як баярын) і прымета кяфірські. Чыста пакрывіцку тут трэ было сказаць „ад няверных“ (дарогі) або „ад нявернійцкае“.

16) Разьдз. 1, в. 7 (другая часьць).

17) Пачынаючы ад слова Jä цэлае апошняе казаньне (сказ) выглядае неяк перакручаным; апрача таго jastam—полёнізм.

18) Намаз—паперску малітва; пад уплывам арабскага правапісу ў рукапісе пішацца zal, а ня zad, хоць пеўна z вымаўлялася цьвёрда.

19) S'ūraj, s'ūraju творн. склон. адз. л., наз. адз. s'ūra=разьдзел; арабізм. Пад уплывам арабскага правапісу ў арыгінале пастаўлена sín а ня sad, хоць напеўна s у гэтым слове вымаўлялася цьвёрда.

20) Паводле сэнсу пасьля činiš трэба падразумяваць štū (што).

21) Krūli (кролі) і г д.—полёнізм, пакрывіцку было-б karali (каралі) і г д.

22) Арабскае väkt значыць пара, „у пяці вахтах“ значыць „у пяцёх порах“,—у пяцёх разох,—у якія поры мусульмане павінны маліцца што дня; згодна з уласьцівасьцямі крывіцкае мовы ў гэтым слове **k** перайшло ў **x**.

23) У рукапісе гэтыя словы не вакалізаваны.

24) Полёнізм, пакрывіцку было-б „помачаю“.

Транскрыбавала з арабскага пісьма на лацінскае, пераклала арабскі тэкст і зацемкі да яго зрабіла філ. др. **Марыя Тауэрава**.

Да друку прыгатаваў Філ. канд. **Я. Станкевіч**.

УВАГА. Дзеля таго, што ў друкарні нямя даўгога, **a**, **i**, заместа іх прышлося ўжыць умоўна, ӑ ĭ.

Рэдакцыя „Крывіча“.

# Першы крыўскі (беларускі) слоўнік 1596 году.

Гэты першы крыўскі слоўнік быў уложаны і надрукаваны Лаўрынам Кукелям (Зызанім) ў 1596 годзе ў Вільні. Зызані — слова грэцкае, служыла двом крыўскім пісьменнікам XVI ст. псэўданімам у іх літэратурных выступленьнях. Яно даслоўна перадае іх праўдзівую фамілію — Кукель

Слоўнік гэты становіць надзвычайную бібліяграфічную рэдкасьць і ў арыгінале немаль недаступен. З гэтай прычыны прышлося і нам, хочучы азнаёміць з ім шырэйшы круг нашых чытачоў, карыстацца перадрукам зробленым ў 1849 годзе Сахаравым (Сказанія Русскаго Народа, Т. II. СПБ., 1849).

## ЛЕКСИС

**сирѣчь реченія, въкратъцѣ събранны и из Словенскаго языка на простый Рускій діялектъ истолкованы Л. Z.**

### А.

**Абіе**, заразъ.
**Авва**, тато, отецъ.
**Агнецъ**, баранокъ.
**Агница**, молодая овечка.
**Адоніа**, господь, панъ.
**Адъ**, темность, невѣдомое мѣсце, преисподняя; по Грецку: адъ, исаідісъ.
**Азъ**, я.
**Акаѳистъ**, несѣдально.
**Акриды**, вершки деревянные, путя, и тыжъ коники.
**Алавастръ**, камень есть такъ названный, из того камени уробленный слоикъ; албо скрыночка.
**Алекторъ**, пѣвецъ.
**Алканіе**, ясти хотѣніе.
**Аллилуія**, хвала Богу; приходитъ Богъ; хвалите и вспѣвайте живаго Бога; Еврейскимъ бо языкомъ: **аль**, идетъ, явися; а **иль**, Богъ; а **уія**, хвалите, вспѣвайте.
**Алъба**, голодность.
**Алчу**, ѣсти хочу.
**Аминь**, заправды, або нехай, такъ будетъ.
**Ангелъ**, вѣстникъ албо повѣдачь.
**Анѳипатъ**, бурмистръ, старшій радца, албо справца въ якой земли.
**Апостолъ**, посланецъ.
**Ароматы**, запахи, и дорогія масти, и тыжъ коренье; албо зелье пахнучее.
**Архангелъ**, староста ангельскій.
**Архистратигъ**, цесарь и тыжъ стар. шій князь.
**Архитриклинъ**, маршалокъ, начальникъ тремъ всклоненіямъ.
**Ассарій**, пенязь, гарѣль.
**Афедронъ**, выходъ, закретъ.
**Аще**, если.

### Б.

**Багряница**, шарлатъ, албо едвабъ багровой фарбы.
**Багряница**, бѣль.
**Балій**, заклиначь, чаровникъ.
**Баня**, лазня.
**Баснь**, казка, слово, байка.
**Баснословіе**, некчемная мова.
**Бдитъ**, неспитъ.
**Бдѣніе**, неспанье.
**Бедро**, бокъ.
**Безбедно**, безъ упадку, безъ трудности.
**Безболѣзніе**, неознаменный, знагла будучій.
**Бездерзновенъ**, несмѣлый.
**Беззлобіе**, щирая добрость.
**Бездна**, пропасть, безстрастіе, нетерпленіе, незневоленіе отъ афектовъ.
**Безмолвіе**, тихость, негученье, тишина, затишье.
**Безмолвствую**, въ затишу живу, безъ гомону.
**Безмолвникъ**, еримита, который не въ гуку и беззатръвоженя свѣта того, безалазнено безъ погрѣшенія живетъ.
**Безмѣрный**, мѣры не маючій.
**Безмѣстный**, неслужный.

**Безотвѣтенъ,** отповѣди немаючій, не отповѣдный.
**Безпристрастіе,** незневоленье отъ мірскихъ красотъ и похотей.
**Безсловесное,** бестія.
**Безсловесіе,** нелюдзкость.
**Безпошествіе,** несблажненье.
**Безстудство,** невстыдливость.
**Безтчаніе,** не фрасовливость.
**Безуменъ,** дуренъ.
**Безуміе,** глупость.
**Безумство,** глупство.
**Безумствую,** дурѣю, глупѣю.
**Безчестіе,** зелжывость, сромота.
**Бисеръ,** перла.
**Благій,** добрій.
**Благоволю,** зезволяю.
**Благоволѣніе,** добрая воля.
**Благоговенствую,** набожный естемъ.
**Благовспріемлю,** вдячне пріимую.
**Благоговѣйный,** набожный.
**Благоговѣніе,** набожность, встыдливость.
**Благодареніе,** дякованіе.
**Благодарный,** подячливый.
**Благодару,** дякую
**Благодарственъ,** подячливый.
**Благодатель,** добротодавца.
**Благодатный,** ласковый.
**Благодать,** ласка.
**Благоденьствіе,** счастье.
**Благоденственъ,** счастливый
**Благоденствую,** счаститъ ми ся.
**Благодѣтельство,** добродѣйство.
**Благодѣтель,** добродѣй.
**Благолѣпіе,** оздоба.
**Благолѣпный,** оздобный.
**Благополучаю,** счаститъ ми си.
**Благополученіе,** счастье.
**Благополучный,** счастливый.
**Благопріятный,** до прынятя лацный, и тыжъ вдячный, милый.
**Благость,** добрость.
**Благостынный,** добротливый, щедробливый.
**Благостыня,** добротливость, щедробливость.
**Блазнь,** згоршенье
**Блаженство,** счастливость.
**Блаженъ,** счастливый.
**Блаженствую,** счастливый естемъ.
**Блажу,** хвалю, счастья кому признаваю.
**Благочествую,** хвалю, набоженство отправую.
**Благочестіе,** богобойность, побожность, набоженство.
**Близь,** близко.
**Блюду,** стерегу.
**Блюденье,** стереженье.
**Блюдо,** миска.
**Бляденіе,** плюгавое мовленье.
**Блядословіе,** шкарадная мова.
**Бодрость,** чуйность.
**Бодрствую,** чуюся, чуйность маю.
**Бождреніе,** чуйность, пильность, осторожность.
**Болій,** большій.
**Болѣзнь,** болѣсть.
**Болей,** надъ, больше.
**Болша,** больше.
**Борба,** боренье, валка.
**Бореніе,** боренье, валка.
**Боруся,** воюю.
**Бохма,** згола, надаремне.
**Бошію,** убо, бо.
**Бразда,** борозна.
**Бракъ,** женитва, веселье.
**Брань,** война.
**Брачуся,** женюся, веселье справую.
**Брашно,** покармидло.
**Брозда,** узда, уздяница
**Брегу,** стерегу.
**Бреженіе,** стереженіе.
**Бремя,** беремя, тлумокъ, и тѣжъ товаръ который въ кораблѣ, албо на возѣ.
**Бреніе,** глина, болото.
**Бренный,** глиняный, болотный, бѣдный, срокгій, и тыжъ потужный, и довтѣпный въ мовѣ.
**Будущій,** пріидучій, что маетъ быти.
**Былье,** зелье.
**Бысть,** сталося, былъ, была, было: бѣ тое реченіе значитъ превѣчность и присносущіе.
**Бытіе,** бытность.
**Бѣда,** упадокъ, небезпечность.
**Бѣдство,** срокгость, и тыжъ потужность въ мовѣ.
**Бѣгство,** утеканье.
**Бѣжденіе,** примушенье, бѣда.

## В.

**Ваіе,** розки съ квѣткомъ, лоза, багнята.

**Варяю,** чекаю, **предвараю,** упережаю.
**Васнь,** храпъ.
**Ваяю,** рию, рѣжу, выдовбую.
**Ваятель,** тотъ который рѣжитъ печати.
**Вдружаю,** утыкаю, угорожую.
**Ведро,** погода.
**Велерѣчую,** много о великихъ рѣчахъ мовлю.
**Велерѣчіе,** безмѣрное блекотанье, и тыжъ о великихъ рѣчахъ мовленье.
**Велерѣчивый,** многомовный, и тыжъ пліотка.
**Вериги,** пута.
**Весьма,** всяко.
**Вжделѣніе,** пожаданье.
**Вжделѣю,** пожадаю.
**Вжделѣнный,** пожаданный.
**Вжделѣваю,** пожаданья маю.
**Взбранитель,** забороняючій, оборонца.
**Взбранюю,** забороняю, и противъ кого валчу.
**Взбраненье,** забороненье.
**Взбраняю,** забороняю.
**Взвѣщаю,** оповѣдаю.
**Взвѣщеніе,** оповѣданье; умъ впераю; розумъ якъ розлегъчаю, албо тонко розмышляю.
**Взглашаю,** отповѣдаю, обволываю; и взгласитъ бездна съ весельемъ и закричитъ пропасть з веселемъ.
**Взглашенье,** обволанье, причины отповѣденье.
**Вздвизаю,** подвигаюсь, взношу.
**Вздвиженье,** подвигненье, взношенье.
**Вздержаніе,** вздержливость.
**Взнесеніе,** взнесенье.
**Взраженье,** спыханье, спротивленье.
**Взражаю,** вспыхаю, спротивляюся.
**Взрастаю,** уростаю.
**Взрастъ,** возростъ.
**Взываю,** закликаю.
**Взысканье,** шуканье.
**Взыскую,** вынайдую.
**Взысканный,** вынайдованный.
**Видѣніе,** огляданье, и тыжъ обличье.
**Видѣти остро,** смотрѣти быстро.
**Вижду,** вижу.
**Вина,** причина.
**Винительный,** тотъ, который причину отъ кого маетъ, албо тотъ который кого винуетъ.
**Виновный,** тотъ, который есть чему причиною.
**Виссонъ,** полотно тонкое.
**Вистнѣе,** упріимѣй, поймѣ, потужнѣй.
**Витія,** риторъ, ораторъ, красномовца.
**Владыка,** владарь.
**Владычество,** владарство.
**Владычествую,** владну
**Властельствую,** владзу маю.
**Власть,** владза.
**Властелинъ,** владца, владарь.
**Влаюся,** хвѣюсь.
**Внезапу,** знагла, на тыхъ мѣстъ.
**Внемлю,** зразумѣваю.
**Внимаю,** зразумѣваю.
**Вниманье,** зразумѣванье.
**Внутръ уду святилища,** въ самой церкви.
**Внутръ,** внутри.
**Внѣ града,** за мѣстомъ.
**Внѣ уду,** на дворѣ.
**Внѣ,** на дворѣ.
**Внѣшній,** надворній, зверхни, того свѣтній.
**Водосланенъ гробъ,** водою посланный гробъ.
**Возоръ,** тварь призрѣнье.
**Возатай,** возница.
**Воинъ,** жолнѣръ.
**Воинство,** жолнѣрство.
**Воинствую,** жолнѣрствомъ ся бавлю.
**Воистину,** за правду.
**Воплю,** ожидаю.
**Воруженъ,** ущепленъ, уткненный.
**Востволіе,** зелье есть, базановецъ.
**Врагъ,** ворогъ.
**Вражда,** ворогованье, непріязнь.
**Враждую,** ворогую.
**Враждую,** безъ правды, ворогую неслушне.
**Вразумляю,** напоминаю, урозумляю.
**Врата,** въротa, брона.
**Вратаръ,** воротный.
**Врачба,** леченіе.
**Врачебница,** домъ, гдѣ лечатъ, и тыжъ аптека.
**Врачеваніе,** лекарство, леченье.
**Врачество,** лекарство, докторство.
**Врачую,** лечу.
**Врачъ,** лекарь, докторъ.
**Вредъ,** нарушенье.
**Вреждаю,** нарушаю.

**Время,** часъ.
**Временный,** дочасный.
**Вредитель,** шкодца, который нарушаетъ.
**Вретище,** плахта, жалоба, жалобный убиръ.
**Врутка,** рура.
**Вручаю,** поручаю.
**Врученье,** порученье, вданіе, поданье.
**Всадникъ,** конный, верховный.
**Вселенная,** весь свѣтъ.
**Вселенскій,** патріархъ, отецъ начальный всему свѣту.
**Всессжеженіе,** офѣра цѣло спаляючася.
**Вскликновеніе,** выкрыканье.
**Всклицаю,** выкрыкаю.
**Вспять,** назадъ.
**Встлапляю,** отчинаю, вывертаю.
**Встлапленіе,** вывертанье, отогненье.
**Встремежливость,** всячески, вшелякимъ способомъ.
**Всхищеніе,** порыванье, драпѣжство, ухапленье.
**Всхищаю,** порываю, похапую.
**Всхлищаю,** устягаю, застоновляю.
**Всхлищеніе,** устяганье.
**Всячески,** дощидку.
**Вълненіе,** невольность.
**Въплощеніе,** втѣленье, чловѣчества принятье.
**Въчловѣченіе,** учоловѣченье
**Выизбранный,** валечный, выборнѣйшій въ битвахъ.
**Выну,** завжды.
**Выспръ,** высокость и высоко.
**Выя,** шія.
**Вѣденіе,** свѣдомость, вѣданье.
**Вѣжа,** цвичный.
**Вѣмъ и свѣмъ,** вѣдаю, вѣдѣти, вѣдати пѣвне.
**Вѣстникъ,** повѣдачь.
**Вѣтвь,** голь.
**Вѣщаніе,** повѣданье, голошенье.
**Вѣщаю,** повѣдаю, даю говору, голошу.

## Г.

**Гаданіе,** розмова.
**Гаданье,** загадка.
**Гажденье,** злорѣченье, поганбенье, тожъ значитъ, что и хуленье.
**Газофілакія,** сосудохранилница.
**Гананіе,** загадка, трудное и хитрое пытанье.
**Гибель,** утрата, погибель.
**Глаголанье,** мовленье.
**Глаголю,** мовлю.
**Глаголъ,** мова.
**Глезно,** голѣнь.
**Глумлю,** прохожуюся, проиджаюся, подражняюсь и цвичуся.
**Глумъ,** подражненье.
**Гнушаюся,** брыджуся.
**Голѣмо,** велико.
**Голѣмый,** великій.
**Гоненіе,** принаслѣдованя.
**Гонитель,** пренаслѣдовца.
**Гордыня,** пыха, гордость.
**Гордый,** пышный.
**Горджусь,** пышнюсь.
**Горесть,** горькость.
**Гортань,** горло.
**Гортанобѣсіе,** горне взбѣшенье; коханьеся въ роскошныхъ потравахъ; есть стрась обылокоты все идати хоть трохи, а подлыми потравами взгоржати.
**Господь,** панъ.
**Господствую,** паную.
**Господство,** панство.
**Гощеніе,** учта
**Гряду,** иду.
**Грань,** уголъ, часть, штука, **краеграніне,** початокъ стиха, албо строки.
**Гусли,** арфа, лютни, скрипица.

## Д.

**Да будетъ!** нехай бы такъ было, нехай будетъ.
**Даръ,** подарокъ.
**Даяніе,** упоминокъ, домостроительство.
**Дебелость,** грубость.
**Дебелъ,** грубый.
**Делва,** фаска, бочка.
**Демонъ,** бѣсъ, чортъ.
**Демонскій,** чортовскій.
**Державствую,** паную, въ посессіи маю.
**Держава,** можность.
**Держанье,** дужость.
**Дерзновеніе,** смѣлость.
**Дерзый,** смѣлый.

**Дерзаю,** смѣю, смѣлый естемъ.
**Десница,** правица.
**Десный,** правый.
**Діядима,** корона.
**Діяволи,** оболганіе, звада.
**Діяволъ,** оболгатель, звадца.
**Доблесть,** сталость.
**Добль,** сталый.
**Доблественнѣ,** стале.
**Доблествую,** сталый естемъ.
**Добродѣтельный,** цнотливый
**Добродѣяніе,** цнотливыя справы.
**Долгоденствіе,** долгій вѣкъ.
**Долготерпѣніе,** терпѣливость, негнѣвливость.
**Долготерпѣливый,** терпѣливый, не съ гнѣвомъ терпячій.
**Долгота дній,** долгій вѣкъ.
**Домостроитель,** шафаръ, справца дому.
**Дондеже,** ажъ пока, и тыжъ на вѣки.
**Досада,** зелживость, посоромоченье.
**Досадитель,** зелживость выряжаючій.
**Досаждаю,** лжу, сромочу.
**Досажденье,** зелженье, сромоченье.
**Добродѣтель,** цнота.
**Драчіе,** есть хойна, которая въ вине сварена, злѣ чуетъ ухаропы полны и очи уразовыи, т. е раненый, албо ударенный.
**Древодѣльство** или **древодѣланіе,** тесельство.
**Древодѣля,** тесля
**Древодѣльствую** тесельствомъ ся бавлю.
**Древле,** давно, оныхъ давныхъ часовъ.
**Дреколь,** алябарта.
**Духъ,** вѣтеръ.
**Духъ,** аггелъ.
**Духъ,** дыханіе.
**Духъ,** душа.
**Духъ Святый,** Богъ истинный.
**Дщи,** дочка.
**Дщица,** таблица.
**Дѣланіе,** робота.
**Дѣлатель,** роботникъ, справца.
**Дѣло,** учинокъ.
**Дѣльма,** дѣля.
**Дѣтель,** справца.
**Дѣтище,** дитя.
**Дѣяніе,** справа.

## Е.

**Евангеліе,** благовѣстье.
**Евангелистъ,** благовѣстникъ.
**Евнухъ,** скопленый человѣкъ.
**Егда,** кгды.
**Еда,** ци.
**Едва,** заледвѣ.
**Еже,** которое.
**Елико,** колько.
**Елика,** колькое.
**Елма значитъ,** колко, поневажъ, яко, иногда вмѣсто бо.
**Елои,** по Еврейски, Богъ
**Еммануилъ,** съ нами Богъ.
**Епаристрисъ,** ячанце, судина, дочерпаня, албо наливаня, накшталтъ каганця съ бѣлого желѣза.
**Естество,** прироженье.
**Етеръ,** нѣкій

## Ж.

**Жажда,** прагненье.
**Жатва,** жниво.
**Жатель,** жнецъ.
**Же,** а.
**Жертва,** заколеніе, офѣра.
**Животъ,** мешканье, и тыжъ скарбъ, гроши
**Жизнь,** животъ, живность, выхованье.
**Жилище,** мешканье, домъ
**Житіе,** мешканье.
**Жру,** заколю, зарѣзую, офѣрую.
**Жрѣніе,** офѣрованье.
**Жупель,** сѣрка.

## З.

**За динаръ,** за пенязь.
**Забрало,** пурканъ
**Забытіе,** забытье.
**Завертъ,** вихоръ.
**Завираю,** застановляю.
**Заври,** застанови.
**Заемлю,** позычаю.
**Заемникъ,** пожичаючій
**Зазираю,** окоеваю, обвиняю, осуждаю.
**Зазоренъ,** погуженый, подозрѣнный.
**Зазрѣніе,** окаеванье, осужденье.
**Зазоръ,** погуженье, порозумѣнье.
**Заколаю,** зарѣзую, заколюю.
**Заколеніе,** зарѣзанье.

**Законъ,** право.
**Законникъ,** перестерегаючій право, чернецъ.
**Заклатель,** рѣзникъ.
**Заключаю,** замыкаю.
**Заключеніе,** замкненье.
**Заключенъ,** замкненъ.
**Зане,** абовѣмъ.
**Занзаю,** уколюю.
**Запрещаю,** грожую, заказую.
**Запрещеніе,** загроженье, заказанье.
**Заря,** зоря, свѣтлость.
**Зарія,** костки ворцабныя.
**Заутрникъ,** снѣданье.
**Зеліе,** зелье.
**Зеленичіе,** есть древо, которое лѣтѣ и зимѣ зелено, подобное листье маетъ зельѣ, на которомъ черницѣ ягоды ростутъ.
**Зефиръ,** вѣтръ вдячный, отъ подлуня вѣючій.
**Зданіе,** зда, будованье, подстрѣшье.
**Зижду,** будую.
**Злакъ,** паша, трава съ роматнымъ зельемъ.
**Злоба,** злость.
**Злобивый,** злостливый.
**Злодѣйство,** злость.
**Злонравный,** злого обычаю.
**Злополученье,** несчастье.
**Злополучаю,** несчаститъ ми ся.
**Злопомненье,** храпъ, гнѣвъ застарѣлый.
**Злоумный,** злого разсудку человѣкъ.
**Золъ,** злый.
**Зракъ,** образъ.
**Зѣница,** зѣвка, человѣчокъ.

## И.

**Ибо,** абовѣмъ.
**Игемонъ,** вожь, староста.
**Иго,** ярмь.
**Иготь,** мождѣръ.
**Иждиваю,** выдаю гроши, накладаю.
**Иждивеніе,** выдатокъ.
**Иже,** которий.
**Изваяю,** рию, вырѣзую.
**Изваяніе,** вырѣзованье, вырытя.
**Извитіе,** хитрость, штука, извитіе словесъ, штучное мовленье, хитрость въ мовѣ.
**Извѣтъ,** доводъ.
**Извѣтованіе,** доводъ чиненье, доволенье.
**Извѣство,** пѣвность.
**Извѣстный,** пѣвный.
**Извѣствую,** упевняю.
**Извѣствованіе,** упевненье.
**Извѣстно,** певне, до певна
**Измѣна рызъ,** пара шатъ.
**Извергъ,** дитя мертво нароженое.
**Израдне,** выборне, особливе.
**Изсякаю,** высыхаю.
**Изящество,** выборность.
**Изящный,** выборный.
**Икона,** образъ.
**Иногда,** личь.
**Искони,** на самомъ початку, съ початку.
**Искушеніе,** до покуса, до свѣдченье, проба.
**Искушаю,** досвѣдчаю, пробую.
**Искуство,** умѣетность, свѣдомость.
**Искусный,** ученый, свѣдомый.
**Истина,** правда.
**Истненный,** стончаемый, стертый на порохъ.
**Истинствую,** правду мовлю.
**Истрясаю,** кару, ветую, плачу.
**Истрошаю,** выдаю грошѣ, роспорошую.
**Истуканъ,** вылитый болванъ.
**Истукаю,** выливаю.
**Истуканье,** выливанье.
**Истязую,** пытаю.
**Истязаніе,** пытанье.
**Исходище водное,** выхожденье водъ, теченіе воды.

## К.

**Кассія,** зелье неякое благоблагоуханое.
**Касаюсь,** дотыкаюся.
**Касаніе,** дотыканье.
**Касштеръ,** свинецъ.
**Каркинъ,** ракъ.
**Качество,** якость.
**Каѳоликъ,** по Грэцку соборный, по Латинѣ универсалисъ.
**Кидаръ,** киверъ, колпакъ Турецкій.
**Кидаръ,** клобукъ.
**Кидаръ шидяный,** киверъ виссонный, съ тоненькаго полотна.
**Кидарское селеніе,** домъ Татарскій.

**Кіченіе,** надутость.
**Кій,** который.
**Клевретъ,** товарищъ.
**Кличъ,** крикъ, гукъ, верескъ.
**Клосненъ,** хромъ.
**Ключаюся,** трафлюся.
**Ковъ,** пята, зрада.
**Коварство,** хитрость, довтѣпъ.
**Кожа,** скора.
**Кождо,** кождый.
**Козня,** скритое, зродливое ошуканье.
**Комкаю,** поживаю.
**Количество,** колькость.
**Конобъ,** котелъ.
**Коснeніе,** забавленіе.
**Котора,** сваръ.
**Коснею,** забавляюся, нерыхло иду, албо нерыхло что справую.
**Кощунство,** жартъ.
**Кощунствую,** жартую.
**Кощунникъ,** блазенъ, жартовливый.
**Крамала,** розрухъ.
**Крамалую,** тревожу.
**Кратиръ,** чаша.
**Ктому,** южъ больше.
**Кукшинъ,** збанъ.
**Кумиръ,** болванъ.

## Л.

**Ланита,** лице, челюсть.
**Ласкаю,** похлѣбую.
**Ласканіе,** похлѣбованье, похлѣбство.
**Ласкатель,** похлѣбца.
**Лаю,** выю, брежу.
**Лаяніе,** вытье, брехание.
**Лаятель,** брехачъ.
**Лесливый,** зрадливый.
**Лестецъ,** волоцюга, тулачь, зрадца.
**Лесть,** зрада.
**Лещу,** зраджаю.
**Ликъ,** танецъ.
**Ликую,** танцую.
**Ликоствую,** танецъ справую.
**Ликованіе** танцованіе. **Лікоствованіе,** танцованіе, танца справованье.
**Лицемѣръ,** облудный.
**Лицемѣрствую,** хитляю, облудне що справую
**Лицемѣріе,** хитляность, облудность.
**Лице,** особа.
**Лобжу,** цѣлую.
**Лобзаніе,** цѣлованье.
**Лобзатель,** лестный, зрадливый поцѣловачь.
**Лоза,** винная матица.
**Лоно,** колѣно.
**Лужду,** дуру.
**Лужденіе,** одуренье.
**Лучшій,** лѣпшій.
**Лучше,** лѣпше.
**Лщеніе,** зрада, зрады справованье.
**Лысть,** лытка.
**Лѣть,** пристоитъ.
**Лѣхъ,** мурава, пляцъ порожній, травою оброслый, четырогранный, якъ бываютъ городы.
**Людъ тяжекъ,** людъ поважный, честный.
**Лядвія,** клубы.

## М.

**Маніе,** покиванье.
**Махрама,** махіва; **кольбра,** албо простирало.
**Маяніе,** тоже.
**Месть,** помста.
**Медлю,** забавляю.
**Медленіе,** забавленье, замешканье.
**Мессія,** Христосъ, помазанецъ
**Мерзость,** мерзеность, бридкость.
**Местникъ,** помститель.
**Мечка,** медвѣдица.
**Мечтаніе,** привиденье.
**Мечтаюся,** привижуся.
**Мщеніе,** помсты чиненье.
**Милоть,** овечина, скорка овечая, или гуня.
**Миръ,** покой.
**Мированіе,** помиренье, поеднанье.
**Митрополія,** головнѣйшее мѣсто въ якомъ повѣтѣ.
**Митрополитъ,** старшина надъ Епископы.
**Міротвореніе,** того свѣта створенье.
**Міродержецъ,** державца того свѣта.
**Мітра,** Епископская корона, и тыжъ чепецъ.
**Младенецъ,** дитя и тыжъ выростокъ.
**Мна,** фунтъ.
**Мнѣніе,** мнѣманье.
**Море,** друню.
**Могутство,** моцарство.

**Молва**, гомонъ; гукъ, отъ мовы людской, окрыкъ и тыжъ тревога.
**Молвлю**, гомоню, гучу.
**Мотыло**, лайно.
**Мощи**, сила, моцъ нѣякая, и тыжъ тѣла святыхъ называются.
**Мракъ**, морокъ
**Мрачный**, морочный, темный.
**Мудрованье**, вырозумѣванье.
**Мудрътствую**, зрозумѣваю.
**Мщуся**, помсту чиню.
**Мѣлъ**, вапно, и тыжъ крейда.
**Мятежъ**, замученье, тревога.
**Мятежъ**, тръвожачій съ бою.
**Мятежникъ**, бунтовщикъ, справца трвоги.
**Мятеніе**, трвога.
**Мятуся**, тревожуся.
**Мvро**, масть.
**Мvрта, мvрсіна**, дерево есть въ Евлошехъ, котораго ягоды борзо смачны суть и тиснутъ изъ нихъ вино.

## Н.

**Наваждаю**, зваждую.
**Наважденіе**, звавжденье.
**Наводникъ**, звадца.
**Навѣтникъ**, изобрѣтатель, всякого подступку.
**Навѣтованье**, зражданье
**Навѣтую**, зраджаю.
**Навѣтъ**, зрада, подступокъ.
**Наказаніе**, каранье.
**Наказатель**, караючій, научитель, наупоминатель.
**Наказую**, кору.
**Наляцаю**, натягаю.
**Наляцанье**, натяганье.
**Наляцатель**, нагягаючій.
**Наслѣждую**, одѣдичую.
**Наслѣдіе**, одѣдиченье, спадокъ.
**Наслѣдникъ**, дѣдичь.
**Насущный**, тотъ, который тоихъ истности есть.
**Насыщаю**, накормлюю, тучу.
**Насыщеніе**, накормленье, тученье.
**Научаю**, наупоминаю.
**Наука**, научанье, наупоминанье.
**Не бо**, абовѣмъ не.
**Небрегу**, недбаю.
**Небреженіе**, недбалость.
**Небрежникъ**, небрегій, недбалый, нехлюя.
**Невѣстникъ**, чертогъ, палацъ.
**Негодую**, зазлемаю.
**Негодованіе**, зазлеманье.
**Негодователь**, зазлемаючій.
**Негли**, заледвѣ, ачей.
**Недоумѣваюся**, здумѣваюся, внутплю.
**Недоумѣніе**, вонтпленье.
**Недостойный**, негодный.
**Недугъ**, хороба.
**Недугую**, хорую.
**Недугованье**, хорованье.
**Недужный**, хорый, хоруючій.
**Неизреченный**, невымовный.
**Нелестный**, незрадливый.
**Немощъ**, хороба, недужность.
**Немоществую**, немогу, хорую.
**Немощный**, немоцный.
**Ненабожность**, безщность, закоснелость серъца.
**Неисчетемый**, незличенный.
**Неосяжимый**, неогорненный.
**Непостижимый**, недосцигненный.
**Непостоянный**, несталый, и тыжъ и тотъ, противъ котораго никто не можитъ стояти.
**Непреборимый**, незвалченый, котораго нѣкто звалчити не можетъ и перемочи.
**Непрелестный**, который не даетъ ся зрадити.
**Неприкосновенный**, недоткненный.
**Непутіе**, причина, подпора.
**Непщую**, мнѣмаю.
**Непщеванье**, мнѣманье, и неслушное вымолвленье.
**Непщеватель**, мнѣмаючій.
**Нестроеніе**, розрухъ.
**Нетлѣніе**, незопсованье.
**Нетлѣнный**, непсуючійся.
**Неунедостоивый**, который неучинилъ негоднымъ, але учинилъ годнымъ.
**Нечестіе**, незбожность.
**Нечестивъ**, есть инъ Бога присносущнаго, яко не суща помышляетъ.
**Неясыть**, по Грецку, пелеканъ, птахъ есть въ Египтѣ, подобный бусюлови.

**Нощное поприще**, долгость часа ночнаго.
**Нужда**, кгвалтъ, примушенье.
**Нужду**, понуждаю, кгвалчу, примушаю.
**Ныю**, унываю, ныдѣю.
**Нырище**, спѣску домокъ, ямка.
**Нѣкій**, нѣкто, нѣкоторый.
**Нѣсть**, нѣмашъ.
**Нядро**, пазуха.

## О.

**Обаваю**, заклинаю ужа, или гадину.
**Обаваніе**, заклинанье.
**Обаяникъ**, обаватель, заклиначъ.
**Обваждаю**, огиджую, зважаю, обрѣджую.
**Обиліе**, достатокъ.
**Обида**, кривда, ушкоженье.
**Обидѣніе**, укривжанье.
**Обиновеніе**, розваженье, розмышеленье, боязнь.
**Обижду**, шкоджу, кривджу.
**Обинуюся**, боюсь, розмышляю.
**Обличаю**, объявляю, упоминаю.
**Обличникъ**, который упоминаетъ.
**Облобызаю**, цѣлую, облапляю.
**Облобызаніе**, цѣлованье, облапленье.
**Обложеніе**, покритье, побитье.
**Обоюду**, на обѣ стороны.
**Обонѣ полъ**, на томъ, той сторонѣ, или о томъ, той стороны.
**Обрѣтаю**, найду обрѣтеніе, найденье.
**Обряща**, найденный.
**Одоленіе**, звитяжство.
**Озаряю**, освѣчую; **озаряюся**, освѣчаюся, объясняюся.
**Окаянный**, нендзный, мезерный.
**Окаяніе**, мезерность.
**Онагръ**, дикій оселъ, лѣсный.
**Онокентавръ**, звѣрь неякій, отъ головы яко человѣкъ, а отъ ногъ якъ оселъ, по Словенску китоврасъ.
**Онокроталъ**, птахъ, подобный кшталтомъ лебедеви, который носокъ уложившій въ воду, гукитъ якъ оселъ; **гупачъ**, гуковище.
**Опужда**, улжене.
**Опасно**, опатрне.
**Опасаюся**, остороженъ естемъ.
**Опасеніе**, опатръность.
**Оплизство**, хитлянство.
**Отраднѣе**, льжѣй.
**Оревъ**, стадникъ.
**Оружіе**, бронь, збруя.
**Оружникъ**, герциръ.
**Оскордъ**, клепецъ; **сокира**, которою мулярѣ камнѣе отясуютъ.
**Осклабляюся**, осмѣхаюся.
**Осклабленіе**, осмѣханье.
**Оскуно**, недостаткомъ.
**Ослушаніе**, огуренство.
**Отребы**, сметье.
**Отригаю**, выригаю.
**Отриновеніе**, отрученье.
**Отриновенъ**, приклонихся пасти; отрученъ бывши, мало не упалъ.
**Отрицаю**, отметую.
**Отрицаю**, отручую, отрину, отручу, отопхну, отрясу.
**Отрицанье**, отметованье.
**Отрицаюся**, отметуюся, запираюся.
**Отрыганіе**, выриганье.
**Отщетѣваюся**, тщету пріемлю.

## П.

**Паки**, еще, засъ
**Пакость**, перешкода.
**Пакостникъ**, перешкодца.
**Пакощу**, перешкажаю.
**Папа**, тато, отецъ.
**Пареніе**, летанье.
**Пекуся**, стараюся.
**Петеля**, петлица.
**Перханье**, пырцанье.
**Печаль**, утискъ, утрапеня.
**Печаленъ**, утрапеный, утисненый.
**Печалую**, въ утиску естемъ.
**Пира**, таистра.
**Площада**, заулокъ.
**Плѣнникъ**, невольникъ, въ полонѣ взятый.
**Плѣнитель**, полонъ беручій.
**Пленяю**, въ полонъ беру, плюндрую.
**Побѣда**, звитяжство
**Побѣдникъ**, звитяжца, рицеръ.
**Побѣждаю**, звитяжаю, звалчую.
**Поглощеніе**, пожертя, промкненье, прижитіе, природокъ, потомство.
**Подвигъ**, ширмѣрство, битва, валка.
**Подвигоположникъ**, розсужаючій битву.

**Подвизаюся,** ширмѣрскую, штуку показую.
**Подражаніе,** подражнѣнье, наигрованье, приуподобленье.
**Поемленіе,** скарги покладанье.
**Поемлю,** пріимую, и тыжъ позываю, скаргу покладую.
**Полкъ,** обозъ.
**Полчище,** обозокъ.
**Поне,** хотяй.
**Понеже,** поневажъ.
**Поношаю,** сромочу, легче поважаю, посмражаю, морщу, шпечу.
**Поношеніе,** сромота, сромоченье, легкое поваженье.
**Понужденіе,** примушанье.
**Понуждаю,** примушую.
**Попеченіе,** пильное старанье, позападанье.
**Порабощаю,** зневоляю.
**Порадокъ,** ягода терпкая, недозрѣлая, и звлаща винная.
**Порокъ,** подозрѣнье.
**Пороченъ,** подозрѣнный, макулу маючій.
**Поруганье,** насмѣванье.
**Послѣдованіе,** за кимъ хоженье, и тыжъ способъ.
**Похуленіе,** поганбенье.
**Правда,** справедливость.
**Праведенъ,** справедливый, праведникъ.
**Прежде,** даже, перше азъ.
**Преподобіе,** святобливость, ревность и благоговѣнство о Бозѣ.
**Препруда,** порфира; порфира есть жолвъ, албо рыба, которая съ себѣ пущаетъ шарлатный, т. е багровый потъ.
**Преторъ,** ратушъ, домъ судовый.
**Прещаю,** загрожую, запрещаю, заказую.
**Прощеніе,** заказъ, загроженіе.
**Прилежаніе,** пильность.
**Прилежно,** съ пильностью.
**Прилежу,** пильную.
**Призоръ,** привидѣнье, кугъ.
**Призорный,** кукглярскій.
**Призрачіе,** привидѣнье, кукглярство, омана.
**Приповѣданіе,** припоминанье, оповѣданье.
**Приповѣдую,** оповѣдую, ускаржаюся, припоминаю, розмовляю, пытанье чиню, и отповѣдь одержую.
**Призволеніе,** зезволенье, добрая воля.
**Протору,** не учтиве беру.
**Прочеежъ,** а далѣй, аболжъ, аинше потомъ.
**Прочій,** другій, потомъ, иншій, далѣй.
**Пругло,** сило.
**Пружіе,** вершки деревянные прутя, и тыжъ коники.
**Прузи,** коники.
**Пря,** споръ.
**Прясло,** мѣлча, толокно.
**Пыра,** жита.
**Пѣтелъ,** когутъ, пѣвенъ, пѣтухъ.

## Р.

**Рабъ,** невольникъ.
**Работа,** неволя.
**Рабочій,** служебный, невольничій.
**Раздоръ,** разорванье.
**Разореніе,** розмѣтованье, псованье.
**Разоритель,** скажца, псуючій.
**Раченіе,** мовленье, словко.
**Разнствіе,** розность.
**Разнствую,** розный естемъ.
**Разногласіе,** незгода, розность.
**Разоряю,** розмѣтую.
**Рака,** труна, гробъ.
**Рамна,** есть древо нѣякое кудерявое, ягоды родячее.
**Расколы,** розрухъ, отщепенство.
**Распря,** незгода.
**Рать,** война.
**Ратованье,** противленье, воеванье.
**Ратую,** войну точу, иногды уживается побиваю.
**Раченіе,** зезволенье.
**Рвеніе,** милованье.
**Ревнованье,** тоже.
**Ревную,** милую.
**Ревнитель,** милосникъ.
**Ревность,** знависти милость.
**Рекло,** слово, вѣршъ.
**Ретъ, рета** или **рота,** споръ, противленье, присяга, словное працованье.
**Ридаю,** хлипаю.
**Риданіе,** хлипанье.

**Ристаніе**, выбѣганье, гарцованье.
**Ристаю**, сристаюсь, збѣгаюся, вытѣкаюся, на купу схожуся.
**Ревоникъ**, ровъ, студня.
**Ропотъ**, нарѣканье.
**Роптаніе**, нарѣканье.
**Ропщу**, нарѣкаю.
**Ростыркъ**, риза, шата.
**Рочуся**, присягаю, спираюся, вымовляюся, божуся.
**Ругаюся**, шижду, наиграваю.
**Руганіе**, наиграванье, шидарство.
**Ругатель**, шидаръ.
**Рукомыкъ**, ручникъ.
**Рѣшеніе**, разрѣшеніе, розвязованье.
**Рѣшитель**, раздрѣшитель, розвязуючій, отпущаючій.
**Рѣшу**, раздрѣшаю, розвязую.
**Рѣю**, волоку, шарпаю, пхаю.
**Рѣяніе** или **рѣніе**, шарпанье, попыханье.

## С.

**Сандалія**, черевики.
**Сапогъ**, ботъ.
**Сата**, мѣрка.
**Свирѣпый**, дикій.
**Свирѣпіе**, дикость.
**Свирѣпство**, дичь.
**Свирѣпствую и свирѣпѣю**, дичаю.
**Свитокъ**, цидула.
**Свѣдитель**, свѣдокъ.
**Свѣдительство**, свѣдоцъство.
**Свѣдительствую**, свѣдчу.
**Свѣнь**, кромѣ, безъ.
**Свѣсть**, вѣдаетъ.
**Сглядаю**, шпякгую, на зрадѣ пересмотрую.
**Сгляданіе**, шпякгованье.
**Сглядати**, шпякгъ.
**Сгнушеніе**, мерзсность, бридливость.
**Селеніе**, мешканье.
**Селеніе**, тожъ намѣтъ, качька, мешканье.
**Село**, поле, лука, сѣножать.
**Синдонъ**, стойкого полотна простирало, албо раптухъ.
**Синети**, синій едвабъ.
**Скважня**, щѣлина.
**Скверна**, нечистость, плюгавость.
**Скверный**, нечистый, плюгавый покалъ.
**Сквозѣ**, скрозь
**Скименъ**, левъ молодый.
**Скимни**, дѣти львовы, львенята.
**Скинія**, сѣнь, тожъ намѣтъ.
**Склащеніе**, заколоченье, зафрасованье.
**Склащенный**, заколоченный, зафрасованный.
**Скнипа**, мушка.
**Скныпъ**, комаръ.
**Скоркъ**, утискъ, потлумленье.
**Скрань**, политокъ.
**Скудель**, глиняный збанъ
**Скудельникъ**, гончаръ
**Скутъ**, верхнее одѣяніе, албо плахта.
**Сладкось**, коренныи, дорогіи рѣчи.
**Сладость**, солодкость.
**Слатина**, розулъ, вода соляная скотороися соль родитъ.
**Случай**, трафунокъ, притрафленье, примѣтъ.
**Сляка**, скорченная, горбатая.
**Смерчь**, фортуна.
**Смиреніе**, покора, пониженье.
**Смиренный**, покорный.
**Смиреномудріе**, покорная мудрость.
**Смиреномудрый**, покорный мудрости.
**Смиреномудрствую**, съ покорою мудрую.
**Смирительный**, згодливый.
**Смиряю**, упокорую, понижую.
**Смоковница**, дерево фикговое.
**Сморщъ**, оболокъ, который съ неба спустившися воду съ мора смокчетъ.
**Смотрнѣ**, розмысля, небачне.
**Смотрѣніе**, зряженье.
**Смотрѣніе**, промыслъ, справа.
**Смущай**, смущенникъ, тревожачій.
**Смущаю**, тревожу.
**Смущаюся**, тревожуся
**Смущеніе**, тревоженя, тревога.
**Смыслъ**, розумъ.
**Смvрно**, ести нѣкое дерево въ Аравіи съ котораго запашный сокъ течетъ стакти называемый.
**Сноха**, невѣстка.
**Снузный конь**, изный конь верхомъ, верховный коменичный конь, возникъ возовый.
**Совѣсть**, сумнѣнье.

**Совѣтъ**, рада, порада.
**Совѣтованье**, порядженье.
**Совѣтую**, раджу
**Сосца**, цицъка.
**Сотникъ**, старшина надъ столы.
**Спира**, множество, рота, людъ великій военный.
**Сподъ**, рядъ, якій бываетъ на бесѣдѣ.
**Спудъ**, корецъ, албо нѣякая коробка.
**Срамъ**, соромъ.
**Срящаю**, стретаю.
**Стамна**, кгелетка, збанъ.
**Створеніе**, створенье.
**Створаю**, чиню.
**Стебліе**, солома.
**Стоква**, фикга.
**Страсть**, терпѣнье
**Страсть**, взрушенье, ефектъ; бѣда; упадокъ.
**Стратигъ**, жолнѣръ.
**Строй**, поправа, направа, порядокъ.
**Строеніе**, поправованье, порядокъ, направованье.
**Строитель**, рядця поправуючій.
**Строю**, поправляю, пристосовую.
**Струтъ**, зауренье, мѣста албо люду побитье.
**Стрѣтеніе**, зострѣченье.
**Стрѣтатель**, зострѣчаючій.
**Стужаніе**, обтяжанье, утискованье.
**Стужаю**, озлобляю, удручаю, засмучаю.
**Стяжаю**, набываю, достаю.
**Стяжаніе**, на бытье маетность.
**Стяжатель**, набываючій.
**Сударъ**, хустка, фацеликъ, и тыжъ подвика.
**Сужду**, суджу, зданье свое оповѣдаю, декретъ сказую.
**Суперникъ**, спорный, противникъ, который ся спираетъ и тягаетъ.
**Супостатъ**, супротивникъ, ворогъ.
**Супругъ**, пара.
**Существо**, истность.
**Схоль**, сушь, друзкъ.
**Сѣнь**, тѣнь.
**Сѣнный**, тѣнный, въ тѣннику будучій.
**Сѣмо**, сюды.
**Сѣтованіе**, плачъ, жалобы отправованье.
**Сѣтую**, смусчу, жалую, плачу.
**Сѣчиво**, борта, топоръ.
**Сѵртъ**, на море мѣсце небезпечное.

# Т.

**Талантъ**, вага, важачая 60 фунтовъ, которіи праве якъ вколь приносятъ 50 сотъ коронъ, т. е., чирвоныхъ золотыхъ Французскихъ; великій талантъ маетъ въ себѣ 80 фунтовъ.
**Таче**, для того; также, тыжъ, яко; потомъ.
**Таю**, растоплююся
**Таю**, затаюю
**Тварь**, створенье.
**Твердь**, небо, твердость.
**Твореніе**, чиненье.
**Творецъ**, створитель, работникъ, авторъ.
**Творю**, чиню.
**Тенета**, сѣть.
**Терпеніе**, терпливость.
**Тимѣніе**, болото грузкое.
**Тина**, болото грузкое.
**Тма**, милліонъ.
**Тма**, темность
**Тоземецъ**, обователь, населъникъ.
**Токмо**, точію, толко.
**Торжество**, ярмарокъ.
**Торжище**, ринокъ, торгъ.
**Тощъ**, тощій, порожній
**Треба**, офѣра.
**Требованіе**, потреба
**Требую**, потребую.
**Требникъ**, жертовникъ, офѣровникъ, мѣсце гдѣ офѣру заколюютъ, шпалтрыжнище.
**Тритъ**, позорище, мѣстце гдѣ ширмуютъ, албо куншты или комедію исправуютъ.
**Трoскоть**, посполите всякую траву мудръцѣ называютъ, а иногды выкладается подорожникъ, язычокъ, бобка.
**Трудъ**, праца.
**Трудолюбіе**, коханьеся въ праци.
**Трудолюбезный**, працовитый, кохачійся въ праци.
**Труждаю**, працую
**Тулъ**, сагайдакъ.
**Туне**, надаремне, порожне.

**Тщаливый**, стараючійся, и тыжъ спудей, жакъ.
**Тщаніе**, старанье.
**Тще**, тоще, порожне.
**Тщеславіе**, порожняя слава
**Тщеславный**, прожнохвальца.
**Тщета**, шкода.
**Тщету пріемлю**, шкодую, шкоду подыймую.
**Тщуся**, стараюсь.
**Тѣмъ же**, протоже
**Тяжательникъ**, работникъ.
**Тяжесть**, домъ, дворъ, вежа, и тыжъ корабль.
**Тяжусь**, правуюсь.

## У.

**Убо**, звыкло, яко, такожъ.
**Убѣждаю**, примушаю.
**Убѣжденіе**, примушанье.
**Увѣщеваніе**, упевненье.
**Увѣщеваю**, упевняю.
**Увѣщеваюся**, еднаюся, певнымъ бываю.
**Увясло**, клейнотъ, ношенье.
**Углебаю**, угрязаю, увязаю.
**Уена**, есть звѣрь дикій, окрутный, которій пришедши до пастуховъ притосовуетъ свой голосъ до чоловѣчого, и перевыкаетъ имена пастушіи и на змордованыи псы нападши, поидаетъ ихъ.
**Узы**, ланцухи, поровозье, вязаны узлы.
**Узылище**, вязенье, веселая издебка.
**Укараю**, осмѣвую.
**Укореніе**, осмѣванье, обруганье.
**Укоризна**, насмѣвиско.
**Уне**, лѣпше.
**Унщій**, лѣпшій.
**Унываю**, ныдѣю.
**Унылый**, фрасовливый, зныдѣлый.
**Уныніе**, унылость, зныдѣлость.
**Упражненье**, забавка.
**Упражняю**, зжижаю, потлумляю, нищу.
**Употребленіе**, уживанье.
**Употребляю**, уживаю.
**Усиліе**, праца.
**Утверждаю**, змоцнюю, твердо чиню.
**Утвержденье**, змоцненье.
**Утрачаю**, утрату подыймую.
**Уязвляю**, уранюю, побиваю, сѣку.

## Ф.

**Философъ**, мудрый кохаючійся въ мудрости.
**Философія**, мудрость, любенье мудрости.
**Фіяла**, кація, накшталтъ чашѣ, албо кубки, судина до кажденья.

## Х.

**Халуга**, улица.
**Хитонъ**, кошуля.
**Хитрость**, ремесло.
**Хищеніе**, шарпанина, драпежство.
**Хищникъ**, драпежца.
**Хлѣвина**, домъ, домище.
**Ходатай**, посредникъ, идначь.
**Хотѣніе**, хоть.
**Храбръ**, мужный, дужій.
**Храбрость**, мужность, дужность.
**Храмъ**, домъ.
**Храмина**, домъ, домокъ.
**Храненіе**, стереженье, пересторога.
**Хранильница**, комора, спижарня.
**Хранитель**, сторожъ, кустосъ.
**Храню**, стерегу.
**Христосъ**, Мессія, помазанецъ.
**Художество**, ремесло.
**Хула**, ганба, блюзнерство.
**Хуленье**, поганьбенье, блюзненье.
**Хульникъ**, блюзнеръца.
**Хулю**, ганю, блюзню.

## Ц.

**Царь**, кроль.
**Царство**, кролевство.
**Царствую**, пануую, кролюю.
**Церковь**, зобранье, домъ Божій.
**Цѣленіе**, леченіе, уздоровленье.
**Цѣлитель**, лекарь.
**Цѣлъ**, щирій, правый, зупольный, чистый, нефальшивый, простый, добрый.
**Цѣлость**, зупольность, цѣлость; **цѣлость тѣми**, здорове свѣжость.
**Цѣлость**, щирость, ненарушность, простость.
**Цѣлю**, лечу, уздоровляю.

## Ч.

**Чащь**, гуща, лѣсъ густый.
**Червленица**, шарлатъ.
**Черничіе**, фикгъ, дикихъ дерево.
**Чертогъ**, палацъ, теремъ.
**Четъ**, почетъ, войско ушикованое Іовъ гл. 1. конъница сътвориша четы три, конныи жолнѣре на три гуфы розшиховались.
**Чинъ**, порядокъ.
**Чиннѣ**, порядне.
**Чиновнѣ**, ведле порядку.
**Чресло**, бокъ, бедро, чересло.
**Чтилище**, чтимое, капище, божница.

## Ш.

**Шатаніе**, хелпленье, шемранье, дрижанье, шумленье.
**Шатаюся**, хелплюсь, шомру, дрижу, шумлю, и тыжъ якъ левъ ричу; такъ з Грецкого власне выкладается.
**Шествіе**, хоженье.

## Щ.

**Щапленіе**, брижованье.
**Щапство**, припстренье, албо чярка.
**Щедробливый**, гойный.
**Щедрота**, щедробливость, гойность.
**Щитъ**, тарча, заслона.

## Ю.

**Юность**, молодость.
**Юнота**, молодость, **юнотка**, молодиця.
**Юноша**, парубокъ, младенецъ.
**Юнота**, молодецъ.
**Юродъ**, дурень, глупый, близенъ.
**Юродливый**, дурный, близнуючій, дурѣючій.
**Юродствую**, дурѣю, близную.
**Юродство**, глупство, близенство.

## Я.

**Ядъ**, идъ, ядъ, страва, идло.
**Язва**, рана, побитье, поражене, яко о Іовѣ есть писано.
**Яко**, ижъ абовѣмъ.
**Яръ**, сердитый.
**Яровидный**, сердовитый.
**Ярость**, сердитость, запалчивость.
**Яростивый**, сердитый.
**Яруся**, запаляюсь гнѣвомъ, серджусь.

## Ѳ.

**Ѳиміямъ**, кадило.

## Ѵ.

**Ѵссопъ**, есть зелье, которое жидове вмочуючи въ ровъ покроплевалися и очищалися.

---

М. ЧАРНЕЦКІ.

# Хата, хатні і гаспадарскі рыштунак.

Ніжэйпададзеныя назовы сьпісаны са слоў жаўнераў б. беларускага батальёну ў Літве. У аснову паложаны назовы: вёскі Русакі Ражанскае валасьці, Лідзкага павету; Горадзенскага павету і сумежных з ім валасьцей. Дапаўненьні з іншых часьцей крыўскай (беларускай) тэрыторыі кожды раз адмечаны асобна.

1. П а д в а л а, п а д в а л і н а, дубовыя калоды або камяні, на якія кладзецца першы вянец будынку.

2. П а д м у р о ў к а, мураваныя падвалы, падваліны.

3. З р у б, зложаныя з бэляк чатыры сьцяны будынку.

4. Бэлькі, кладуцца папярок на зруб, а на іх насьцілаюць столь. У Меншчыне гэты бэлькі называюць маціцы.

5. Ачэпы, бэлькі, якія кладуцца паверх маціц на зрубе, для апоры кроквaў.

6. Кані, прарэзы ў ачэпах ў якія ўстаўляюцца кроквы У Вітабшчыне гэты прарэзы называюць засекі.

7. Кроквы, доўгія і тоўстыя жэрдзі, якія падтрымліваюць страху; зазвычай бяруць $^2/_3$ шырыні хаты.

8. Мечыкі, засечкі, зробленыя на верхніх канцох кроквaў, дзе яны злучаюцца.

9. Пята, засечка ў ніжнім канцы кроквы, якой яна сьпіраецца на ачэпы.

10. Паясы, папярэчкі, якімі зьбіваюць кроквы, каб яны не раз'язджаліся на будынку.

11. Гвазды, драўляныя цьвякі; імі зьбіваюць кроквы ў мечыках і інш.

12. Латы, латкі, прыбіваюцца на кроквах, на іх разсьцілаюць салому да пакрыцьця будынку. Згэтуль „лаціць“, прыбіваць латы

13. Штрахоўка, страхоўка, крыцьцё хаты кулявой саломай ўніз камлюкамі. Салома распускаецца на латах і раўнуецца драўлянай дошкай з ручкаю з аднаго боку і нарэзамі з другога. Гэтая дошка называецца „штрахарка“, „стрыхарка“, „стрыхта“: „крыць пад стрыхт“, знача—пад шчотку, роўна.

У некатарых мяйсцох Горадзеншчыны „штрыхарку“ называюць „шчоткай“, а самае крыцьцё — „пад шчотку“.

Па саломе кладуць павузьні, павузкі, паўзінкі, якія прыціскаюць шпілямі (кіёчкі аршына $1^1/_2$ даўжынёй, таўшчынёй цалі зо-два, крышку крываватыя) і прывязуць дубцамі да латаў. Калі крыюць каласамі ўніз, кажуць — „пад колас“.

14. Плёх, накладка з саломы паверх страхі; зазвычай з саломы мочанай у гліне.

15. Казлы, жэрдкі даўжынёй каля двох аршынаў, зьбітыя кшталтам кравецкіх ножніц. Кладуцца паверх „плёху“, каб яго ня зьдзіраў вецер.

16. Прычолак, пакрыты саломаю чалавы загіб страхі. Такое крыцьцё называецца „пад прычолак“. Калі будынак мае з усіх чатырох старон крытую страху, то гэткая страха называецца капяжом (Слуцк. пав.). У горадзенскім павеце прычолак называюць шчыт.

17. Гладкі або нямецкі вугол, калі канцы бэляк у зрубе сьпілаваны роўна са сьцяной; калі канцы бэляк выстаюць, то гэткі вугол называецца засечны. („Кут“, бывае ў сярэдзіне будынку).

18. Драч, жалубок у дрэве, каб у яго упушчаць засечанае палюхом дрэва.

19. Пазы, гэты-ж самы паз, ў в. Табала, Горадзенскага павету.

20. Тэбаль, гвозд аднолькавай усюды таўшчыні, а даўжынёй паводле патрэбы. Калі робяць будынак, — выкручываюць тоўстым сьвярлом

(„тэбалям“) дзіркі ў бэльках, кладуць адна на адну, і заганяюць у іх тэбалі, каб змацаваць. Гэткі будынак называецца „на тэбалях“.

21. Вушакі, ўстаўляюцца ў сьцены, абапал прарэзу для дзьвярэй.

22. Шапка, кладзеца, ў версе прарэзу дзьвярэй, на вушакі.

23. Парог, унізе дзьвярной скрыні.

24. Пазы, жалубы ў вушакох, якімі надзяваюцца яны на „палюхі“, што выстаюць з сьцяны.

25. Палюхі, дапасаваныя таўшчынёй і даўжынёй да пазоў ў вушаках засечкі сьцяны, якія ўходзяць ў „пазы“.

26. Дзьверы, бываюць аднастольныя і дубэльтовыя.

27. Ігліцы, папярэчныя змацоўкі дзьвярных дошчак, якія ўпушчаюцца ў выразаныя ў палавіну таўшчыні дзьвярных дошчак пазы, званыя пахамі.

28. Завесы складаюцца з дзьвёх часьцей: крукоў ў вушаках і завесаў, прыбіваных цьвякамі да дзьвярэй.

29. Клямка, складаецца з 4-х часьцей: 1) крука або зашчаўкі ў вушаку; 2) ручкі, за якую бяруцца адчыняючы дзьверы, 3) сьлізака, на які націскаючы, з другой стараны дзьвярэй паднімаюць клямку і 4) антабкі, або скабца, паміж якім ходзіць ўверх і ўніз вольны канец „клямкі“; „скабец“ не дае адпасьці ад дзьвярэй гэтаму канцу клямкі. У Вітабшчыне „клямку“ (ня ўсю прыладу, а толькі зялезны язычок, які западае на крук,) называюць „сныч“.

30. Філінговыя дзьверы, абітыя з сярэдзіны вузкімі дошчачкамі ў елачку, ці інакш. У іншых мясцох гэта самае называюць шалёўкай.

31. Шпугі, робяцца на рабрэ дашкі ў аднэй,—ва ўсю даўжыню равочак-паз, а ў другой — якбы палец; так што, калі складуць дошкі, дык у паз уходзіць палец. „Шпугаванымі“ робяць дзьверы, памосты і часам столь

32. Скрыня, так называюць два вушакі, шапку і падаконнікі, ў якія ўстаўляецца акно.

33. Рама, чатыракутнік, зроблены з драўляных планак, да вакна.

34. Біло, білы, папярэчкі з дрэва ў раме; у кождае більцо ўстаўляецца шыба, або балона шкла.

35. Падваконнік, адпавядае парогу ў дзьвярох, знаходзіцца ўнізе ваконнай „скрыні“.

36. Шалёўка, набіваецца з сярэдзіны хаты на ваконную скрыню; яна закрывае сабой „скрыню“ і шчэлкі паміж „скрыняй“ і сьцяной.

37. Прызба, насыпаецца каля хаты, калі яна без падмуроўкі і толькі на „падвалах“.

38. Сені, (у Горадзеншчыне прымен, ад слова „прымнуць“, „прыткнуцца“, (або „прымаць“ згодна з рас. „приемная“, літоўск. „prіemenė“).

39. Камора, сьвятлічка з ўходам з сяней, якая часта служыць да пераховy еміны.

40. Хата, агульная сьвятліца, якая служыць да жыльля і спаньня.

41. Бакоўка, адгароджаная ад хатняй сьвятліцы, меньшая сьвятлічка.

42. Варыўня, сьвятліца, ў якой знаходзіцца варыстая печь і дзе пражаць і вараць страву.

43. Істопка, другі канец хаты, ў якім знаходзяцца жорны, а зімой ставяць буракі, капусту, ссыпаюць бульбу.

44. Прысёнак, прыбудовачка перад уходам у сені (Рас. „крыльцо“).

45. Ганак або прыступні, зьбітыя з дошчак сходкі пры ўходзе ў прысёнак.

46. Акянніцы, дошкі, якімі зачыняецца акно знадворку.

47. Кaворка, балонка акна, якая ў патрэбе адчыняецца.

48. Душнік, атворына ў коміне, праз якую праветрываюць хату.

49. Жорны складаюцца з: 1) верхняга камяня або жарнака; сподняга жарнака або подніка; 3) коша або ручая (Лідчына),—круглай атворыны ў верхнім жарнаку; 4) порплііцы, паўпрыцы,—дрэўлянай ці зялезнай папярэчкі ў кошы; 5) верацяна,—доўгага кійка, які зьнізу праходзіць праз подні жарнак і, канцом упіраючыся ў порпліцу, падымае верхні жарнак; 6) Журaўкі,--калодачкі з дзіркай у сярэдзіне, прымацаванай да боку верхняга жарнака; 7) мелянa, млінa,—шосьціка, якога ніжні канец уходзіць у „жураўку“ і бяручыся за які круцяць жорны; 8) клопату або лапатня,—драўлянай лапаткі, адзін канец якой ўмацаваны ў сьцяну, каля якой стаяць жорны, а другі мае атворыну да ўстаўляньня ў яе верхняга канца „мялёну“; 9) рынка,—атворына збоку жарнавога жолабу, праз якую высыпаецца мука; 10) под,—ніз жолабу.

50. Паліца, дошка, прымацаваная да сьцяны да складаньня хатняга начыньня, а такжа—дашчаны чатыракутнік з некалькімі дашчанымі роўналеглымі да зямлі перагародкамі да стаўляньня міс і гаршкоў.

51. Лава, шырокая тоўстая дошка, якая служыць да седзіва ў хаце.

52. Драбіна або лесьвіца (ад „лезьці“),—прылада да узлажаньня на гару; зьбіта з двох жэрдзяў з папярэчкамі, якія называюцца шчэблямі.

53. Балея, нізкая шырокая абручная (бондарскай работы) лага да мыцьця хусьця (бялізны).

54. Дзяжа з векам, служыць да разчыняньня у ей цеста на хлеб.

55. Кублы або куфры, служаць да складаньня вопраткі. Першапачаткова „кубел“ — гэта вялікая дзяжа з векам і двумя па бакох вушамі, праз якія прасовываўся паверх века ўпапярок кій да замыканьня на замок; пасьля „кублы“ бывалі ляжачыя, гэта—доўгая круглая скрыня з круглым векам; урэшце, цяпер, робяць кублы, якія часьцей ужо называюць „куфрамі“, гэта звычайная чатырохкантовая скрыня з гарбатым векам.

56. Ражкі, дзежачкі, з векам і ручкай пры ім да трыманьня; служаць да нашэньня на поле стравы работнікам. Бываюць ражкі „спарышы“, падзеленыя ў сярэдзіне надвое.

57. Кадушка, дзежка бондарскай работы, бяз века, служыць да квашаньня у ей буракоў, капусты і інш.

58. **Бойка**, высокая, вузкая дзежачка да збіваньня ў ей масла.

59. **Скрыня**, чатырохкантовая, з плосмым векам, сталярная судзіна да складаньня ў ей адзеньня.

60. **Прыскрынак**, скрыначка, прымацаваная ўпоперак, ў сярэдзіне скрыні, да складаньня дробных рэчаў.

61. **Кадабок** або **яшчык**, выструганая з аднаго пня кадушка з дном і вечкам. „Кадаўбок“ — у Слонімскім пав. каля Моўчадзі.

62. **Кораб**, роблены з саломы кубел да ссыпаньня збожжа.

63. **Фаска**, кадушка з вушкамі і вечкам, шырэйшая ў версе, служыць да складаньня масла.

64. **Пасьвянцонка** (Горадзенскі пав), тая-ж самая фаска, але сьціпнейшай работы, служачая спэціяльна да важэньня на Вялікдзень ў царкву „сьвянцонага“.

65. **Карыта**, выдаўбак калоды, служыць у клецях да ссыпаньня збожжа.

66. **Корста**, тое-ж карыта, але з векам; даўней служыла замест труны. Корст мог служыць труной толькі галаве сям'і, які пад старасьць сам яго і выдоўбываў і аздабляў узорнымі нарэзамі. Выдаўбаўшы, корст стаўлялі ў клеці і напаўнялі збожжам бо забабон не пазваляў трымаць яго парожнім У здарэньні сьмерці галавы сям'і збожжа раздавалі убогім, а ў парожні корст клалі нябошчыка (Вітабшчына, Дрыс. пав. і Дзісеншчына).

67. **Градка**, шост ў хаце да вешаньня на ім вопраткі і нітак. У Горадзенскім павеце „градкай“ называюць паліцу да стаўляньня місак, солі, гарлачоў і інш.

68. **Шафка**, столік са скрыняй пад стальніцай, дзьверцамі збоку і палічкамі ў сярэдзіне.

69. **Шафарня**, вялікая шафа да стаўляньня начыньня і перахову наштоднеўнай еміны.

70. **Салянка**, **сальніца**, асобнай формы скрынка да перахову солі.

71. **Палонік**, **апалонік**, вялікая лыжка да наліваньня з гаршчка ў місу стравы.

72. **Ведры**, бондарскія начыньні да нашэньня вады; два вядры вады на карэмісьле — **суды**. „Прынёс адны суды, двое судаў вады.“

73. **Саганы**, чугунныя гаршчкі да варэньня стравы.

74. **Конаўка**, дрэўляны кубак з ручкай да вады. Конаўка робіцца з клепак, або выдоўбуецца з аднаго цяльпушка дрэва. Бываюць і мядзяныя з двумя ручкамі.

75. **Чарпага**, **чарпачка**, **чарпло**, бондарскай работы конаўка на даўгім кійку да чэрпаньня ею з гаршчкоў, як варыцца ў печы, або да даліваньня іх.

76. **Качарга**, прылада да выграбаньня з печы попелу і жару, гэта на даўгім цаўі драўляная, або зялезная папярэчка, ў адну старану выступаючая.

77. **Вілы**, **вілкі**, прылада даставаць гаршчкі з печы (рас. „ухват“).

78. П о ж а г, кій да мяшаньня жару з печы, зазвычай з абпаленым канцом.

79. П а м я л о, мятла з сасновых лапак да вымятаньня печы.

80. Ч а п я л а, шосьцік з зялезным пазуром на канцы да выйманьня патэльні з печы.

81. П а т э л ь н я або с к в а р а д а, плосмае чугуннае начыньне да скваданьня сала і пячэньня бліноў.

82. П а н і в а, тое, што і „патэльня“ (У Слонімск. пав. і Горадзенск.)

83. П а м а з о к, скварка сала, якой памазуюць патэльню, пякучы бліны. У Слонімскім павеце — „п а м а з л ы к“.

84. З а с л а н к а, дашка, якой засланяюць усьця печы.

85. Т о к або п о д, ніз печы, на якім гарыць агонь.

86. С к л я п е н ь н е або п а д н я б е н ь н е, верх печы ў сярэдзіне.

87. П е л ю с ц ь, уваход у печ, які прыкрываецца засланкай.

88. П р ы п е ч а к, тачок перад пелюсьцю печы.

89. Ч а р о н, надбудоўка над прыпечкам, якая зьяўляецца пачаткам коміну.

90 Ч а л е с ь н і к. першая брамка печы, перад прыпечкам.

91. П а п я л ь н і к ці я м к а, пазуха прыпечка, куды зьмятаюць жар і попел.

92. С т а ў б е ц, т у р, к о н, к н я з ь, стоўб каля печы, на які апіраецца столь, а такжа—стоўбік, на які апіраецца рог чалесьніку, калі прыпечак з дзьвёх старон адкрыты.

93. М у р о к, мураваны выступ пры коміне.

94. П я ч у р к і, схоўкі ў сьценах печы.

95. Л ю ш к а, прылада да зачыняньня коміну.

96. П а д п р ы п е ч а к, палочкі пад прыпечкам, служыць да складаньня сьцірак і стаўляньня гаршчкоў.

97. П а д п е ч а к, мейсца пад печчу, ў якім трымаюць зімой курэй.

98. С т о л складаецца з гэткіх часьцей: верхняя дошка столу — с т а л ь н і ц а, пад стальніцай—на на ножках—к о р а б столу, ў якім адна ці дзьве шупляды („шуплы“, пусты ў сярэдзіне).

99. З э д а л ь, доўгая, вузкая, на чатырох ножках лаўка.

100. У с л о н, той-жа зэдаль, толькі шырэйшы. У Лепэльшчыне ўслонам называюць лаўку з поручамі і апорышчам (ўслонам) для плеч.

101. З э д л і к, малая пераносная лавачка на ножках. для седзіва аднаму чалавеку.

102. С т о ў ч ы к, лавачка з чатырохкантовым верхам і чатырмя ножкамі (Рас. „табуретка“), каля Несьвіжа і Новагорадка.

103. Л о ж а к, складаецца з гэткіх часьцей: двох „грабянёў“ па канцох і „рэбраў“ — дошчак з бакоў.

104. Г р у б к а, печка да ацяпляньня з адкрытымі пелюсьцамі (Рас „камин“).

105. Ляжанка, печка да ацяпляньня, якая будуецца не ўвышыню а ўдоўжкі, роўналегла да зямлі.

106. Кахлянка, печка да ацяпляньня, пакрытая зьверху кахлямі.

107. Варыстая або пякарная печ, — печ да варэньня у ей стравы і пячэньня хлеба.

108. Пяколак, мураваная лава пры печы, да ляжаньня на ей.

109. Хлеў мае замест столі палаткі або накот (Вітабшчына) да складаньня саломы; загарадкі для статку; жолабы, карыты да пойла; яслі або драбіны да закладаньня жывёле пошыру.

110. Падваротніца, дошка да закладаньня падваротнай атворыны, каб не задуваў вецер у хлеў.

111. Driвочок — Дручок, жэрдка, якая закладаецца ў вушакі, каб не выходзіла статчына з адчыненага хлеву.

112. Шулы, стаўбы ў сьцюдзёных будынках (хлявох, гумнах), якія служаць папершае, як вушакі, падругое, як папярэчныя змацоўкі сьцен. Шула мае з аднэй або з абедзьвех старон пазы, каб упусьціць у іх, „палюхі“ сьцен, ніжні канец яе укапываецца ў зямлю.

113. Стаяк, тая-ж шула, толькі не ўкапываецца ў зямлю, а ставіцца на падваліну.

114. Гумно, будынак, у якім складаюць не амалочанае збожжа, сушаць і малоцяць.

115. Клуня, будынак, у якім складаюць усякае гаспадарскае рухмацьцё, а падчас і пошыр.

116. Вазоўня, будынак, у якім пераховуюцца ўсякія павозкі, упраж і іх часьці.

117. Пуня, будынак да складаньня у ім на зіму сена і саломы.

118. Асець, еўня, грыдня ці градня (ад „градкі“), цёплы будынак, у якім сушаць на градках перад малацьбой збожжа; часць гумна. (Вітабшч.).

119 Гумно, ня толькі будынак, але і гладкі глінабітны под, на якім малоцяць збожжа.

120. Застаронак, астаронак, устаронак, прыбудоўка пры гумне збоку, пад аднэй страхой; калі не аббудаваны зрубам, — называюць застрэшак.

121. Павець, паветка, страха на стаўбах бяз сьцен (ад „веяць“).

122. Сохі, высокія стаўбы ўверсе расахатыя, на якіх трымаецца страха ў халодных будынках.

123. Кладка, тонкая бэлька, кладзецца на „сохі“.

124. Ключы, гэта тыя-ж „кроквы“ толькі ў халодных будынках; іх ня зьбіваюць, а ў канец кождага „ключа“ ўганяюць „гвозд“ і ім зачапляюць за „кладку“.

125. Студня або калодзяж.

126. Зруб, упушчаецца ў выкапаную яму; робіцца з кароткіх бэлячак на гладкі вугол.

127. Ладышы, цэмантовыя вялікія руры.

128. Баба, тоўсты стоўб з расахатым верхам, ўкапываецца ў зямлю.

129. Каварот, або асьвер, ўстаўляецца ў расаху бабы і замацовуецца шворнам.

130. Жэрдка, шост, прымацовуецца да верхняга канца кавароту-асьверу простападна над калодзяжам.

131. Ключка, тая-ж самая жэрдка, што вышэй, калі ня мае прымацаванага вядра. У Горадзенскім павеце каварот — журавель, жэрдка (з вядром ці без вядра), ключ. У Гальшанскай валасьці кажуць: каварот — ковbooрат.

132. Сячкарня, да рэзаньня саломы, сечкі, рэзкі.

133. Нажы, у Горадзенскім павеце рэзакі.

134. Кольба, ручка да кручэньня сячкарні.

135. Дронак, друнок (у Навагрудчыне), доўгая, аршыны на 3 ручка, каб мог большы лік людзей рэзаць сечку (круціць кола).

136. Вось, на ей сядзіць кола.

137. Сьлімак, гвінтавая шасьцярня з нарэзамі.

138. Вужыкі, нарэзы „сьлімака“.

139. Вухі, у іх укладаецца вось.

140. Валак з зубамі, цягне салому; іх два: верхні і сподні.

141. Капішон, прыкрывае валкі.

142. Гіра, ці вага, пад скрыняю сячкарні. „Скрыню“ у Гальшанскай валасьці (Горадз.) завуць лядаю.

143. Барана або скарада, першая сталярскай работы, другая гнутая. „Скарада“ мае кругла гнуты наперадзе аблук (мяйсцамі—каблук), ўздоўжныя і папярэчныя пруты, якія ідуць парамі і на пярокрыжках змацаваны драўлянымі віткамі — грывенькамі, паміж якіх ўганяюць зубы; „барана“ (сталярскай работы), мае па бакох: вобжы, за якія цягнуць яе, а ўпоперак — паліцы якія разам называюцца рамай, ў „паліцы“ ўганяюць зубы.

144. Сошка, траіць ці абганяць бульбу. У Горадзеншчыне: „баразіць бульбу“, мае: паліцы разкідаць зямлю, і

145. нарог, ручкі, падошву, дышаль, зазубні.

146. Спрунжыноўка, зялезная барана на спружынах, мае: лапы— загнутыя сталёвыя кіпці; валькі з валкамі; ручку са спружынаю падымаць „лапы“; дуга з зазубнямі, на якой ходзіць спружына да падыйманьня і апушчаньня „лапаў“, г. зн.—да паглыбляньня барознаў ці наадварот.

147. Цэп складаецца: з цапільна або цапавіла, цапаўя (Дзісенск. пав.); біча,—кароткага драўлянага цяльпушка, які прымацаваны да цапільна вужыкам, вужком; прывязкі, якой прымацовуецца вужык да біча; галоўка,—заструганы кончык цапільна, на якім ходзіць (круціцца) вужык.

148. Плуг складаецца: з паліцы—зялезнай лапаты для перакіданьня зямлі; лямеш ці нож, рэжа зямлю, прымацовуецца да паліцы; стальніца, да яе прымацовуюцца ўсе часткі плуга, яна—над нажом і паліцаю;

падэшва,—кавалак зялеза каля паўлокця даўжынёю пад нажом і паліцаю, ідзе па разоры з левага боку, на яе апіраецца ўвесь плуг; у Горадзенскім павеце—падосак; зазубні павялічаюць ці зьмяншаюць глыбіню плуга; ворчык, — цяльпушок, на які чапляюць пастромкі („пастронкі“, кажуць у Гальшанскай воласьці).

149. Саха (запісана у Брацлаўскім павеце) складаецца: з рагача—ручак, за якія трымаюць саху; вобжаў,—дзьвёх аглабелін, за якія прывязуюць пастромкі, лапаты (у Рожанск. вол. Лідзк. пав. „падпалак“),—на якую насаджываюць лемяшы або нарогі (два); падсошніка,—папярэчкі, якая знаходзіцца пад лапатай каля лемяшоў, за падсошнік зачапляюцца іцьвіны, якія ідуць ад падсошніка, наўпоперак крыжуючыся, да вобжаў; надаўбка,—папярэчніца між вобжамі; пераклaдкі, разкідаць зямлю (у Горадзеншчыне „прысошнік“); падпоркі, між рагачом і лапатаю. У Лідчыне лапату завуць лемяшніца.

150. Сані (Брацлаўшчышна) складаюцца з гнутых палазоў, ў якія ўбіваюць капылы; капылы аднаго полаза з капыламі другога змацовуюцца вязамі, паверх вязоў на капылы накладаюцца намаразьні (Ашмян. пав, Кукуцяўск. вол.), наклiскі (Вілкамірскі павет, Селіцкая вол.); надаўбка, —тоўсты брус, кладзецца пасярэдзіне для возкі тоўстага бярвеньня; падсанкі, —прыстаўныя кароткія саначкі да перавозкі доўгіх бэляк (каля Усьвята,Вітабск. губ.—„касапні“ „,касаплі“, у Галынскай воласьці, Горадзенш.-„сучкі“, у Вілкамірскім павеце—„карукі“). „Надаўбка“ у Дзісенскім пав. — „лісіца“.

151. Шланкі, тыя-ж сані.

152. Воз або калёсы (Брацлаўшчына). Калёсы для сена — драбы (Горадз.), а так—вазок, драбкі, драбчак. У Дзісеншчыне—для сена і наагул для возкі—панарад, калёсы. Калёсы складаюцца з 4 кол, колаў, дзьвёх аглабель, галабель, адзякіх да восяў ідуць — атосы; атоса пятлёй надзяецца на вось, гэта пятля называецца гапка, на восі накладаюцца узлаўкі або падушкі (Дісеншч.); драбіны закладаюцца па бакох на ручкі, якія ніжнімі канцамі упушчаны ў узлаўкі (падушкі), каля іх на узлаўках ляжаць дзьве жэрдкі — аберніцы; шворан зьвязуе перадок з задком; трайніла, траніла, трамка злучае задні узлавак з пярэднім, разшчэпленым канцом ўпускаецца ў задні узлавак, а другі, не разшчэплены ўпускаецца ў пярэдні узлавак або аковуецца зялезам, пры гэтым у акуцьці робіцца дзірка для шворна; развод—, доўгае аглабельнае дрэўка, прымацовуецца да узлаўка; развод мае дзіркі, у дзірку паза-задні́м узлаўкам ўкладаюць затычку на патрэбную даўжыню разводу (у Горадзенск. пав „разворка“); снасьць —воз, складзены толькі з перадка і заду з узлаўкам і разводам (разворам); загваздка усаджываецца ў канцы восяў, каб не спадалі колы; люшні—адным канцом насаджываюцца на восі, апасьля затыкаецца загваздка, другі (верхні) падтрымлівае драбіны; вітка, робіцца з ялаўцу, лазы ці дроту, яна насаджываецца на люшню, абнімае верхнюю жэрдку драбіны і закладаецца на ручку; пярэдніца, вяроўка, зачэпленая абодвымі канцамі за пярэднія канцы споду драбіны; ею абкручываюць „жэрдзь“ пры ўцісканьні сена на возе; жэрдка, жэрдзь або парубень (Дзісенск. пав.), рубель (Дрысенск. пав.).

153. Калясо (Лідзк. пав., Ражанскай вол., в. Русакі) складаецца з калодкі або трубкі (Дзіс. пав.), ў яе ўпускаюцца „сьпіцы“ („шпі-

цы“); у сярэдзіне калодкі (трубкі)—дзіра, ў якую ўстаўляецца б у к с а—зялезнае акуцьцё, або цэлая чыгунная рулька (пры зялезных восях), каб не сьціралася калодка; р э х в ы, зялезныя кругі, яны набіваюцца на калодку (трубку), каб ня лопалася; а б о д (вобад), гнецца з аднаго кавалка ясеню; у яго ўходзяць сьпіцы, якія ідуць ад калодкі (калі абод ня гнуты, а выпіловываны з асобных кавалкаў дрэва („сабачак“), то называецца „званчак“); ш ы н а, зялезны тоўсты абруч, якім абцягаюць абады; з в о н і, тое-ж, што „сабачкі“,—асобныя кавалкі обада (Гальшанск. вол.). („Зусім ужо пабіліся мае „звоні“); к а р а с і, зялезныя даволі доўгія планкі, падкладаюцца падыспод драўляных восяў, каб не так хутка сьціраліся (у Горадзеншчыне і Дзісеншчыне — „падоскі“, „падвоскі“).

154. Х а м у т (Лідзкі павет). Аснова ўсягó хамута—двоя к л е ш ч а ў; ніз клешчаў з засечкай для сьцяганьня іх — г а л о ў к і; на самым выгібе клешчаў маецца па дзьве дзіркі—с ь в і ш ч ы, праз якія уцягаюцца ,,гужы“; да клешчаў прымацавана ,,прывязкамі“ х а м у ц і н а, якая робіцца з палатна або скуры і набіваецца саломай; паверх клешчаў з хамуцінаю нацягнута к а п а; з сярэдзіны хамуціна прыкрываецца л я м ц а м, бітым з воўны; ў клешчы ўцягаюцца г у ж ы, якія служаць да прымацаваньня хамута да аглабель; ніз хамута сьцягаюць с у п о н я й.

155. Ш л е і або н а б э д р ы к і.

156. Н а ш э л ь н і к, рэмень, што ідзе ад верху хамута і канчаецца пятлёй, ў якую прадзяюць конскі хвост.

157. У з д э ч к а (в у з д э ч к а); а б р о ц ь, уздэчка бяз цугляў.

158. П а д г о р л е, рэмень які ад уздэчкі ідзе пад конскае горла, каб не спадала уздэчка.

159. П е р а н о с ь с е, п я р о х р а п н я, рэмень, які абыймае конскія храпы.

160. П а в о д з ь д з я (повад), рэмяні ці вяроўкі, за якія трымаюць каня водзячы.

161. Л е й ц ы, доўгая тонкая вяроўка, прывязуецца да уздэчкі, каб кіраваць канём.

162. П а д с я д з ё л а к, кладзецца на хрыбет каню і падвязуецца пад бруха, на яго звісаюць аглоблі, якія ў свой чарод падтрымліваюць хамут, каб не націраў каню карку.

163. П а д п р у г а, рэмень, якім падвязуюць аглоблі праз падсядзёлак.

# Праца „Камітэту паняволеных Польшчай Націй“ у Парыжы і Жэнэве.

У часе пленарнага паседжаньня Лігі Націй ў 1923 годзе ў Жэнэве, было зроблена ўжо супольнае выступленьне паняволеных Польшчай Націй ў форме агульнага пратэсту супроць акупаціі беларускіх, украінскіх і літоўскіх зямель Палякамі. Пратэст гэны быў падпісаны ад беларусаў —Ластоўскім, ад Украінцаў -- праф. др. М. Лозінскім і ад Літвіноў — праф. Райнісам. Акром гэтага, да таго пратэсту далучыўся прадстаўнік пазнанскіх Немцаў, пратэстуючы супроць польскіх зьдзекаў і безпраўя, чыненага там нямецкай меншасьці.

Гэты завязак аб'яднаньня трох паняволеных Польшчай тэрыторыяльных націй змацаваўся радам конфэрэнцій, на якіх з прадстаўнікоў кождай старапы быў зложаны „Камітэт паняволеных Польшчай Націй“.

Супольная акція Беларусаў, Украінцаў і Літвіноў ў 1923 годзе ў Жэнэве не асталася бяз выніку. У траўні месяцы 1924 году рад найвыдатнейшых французкіх палітычных дзеячоў, на аснове дастарчаных ім матэр'ялаў апавесьцілі ў Парыжскіх часопісях „Пратэст супроць белага тэрору ў Польшчы“, які дзеля яго важнасьці падаемо тутака поўнасьцю.

### Пратэст—покліч французкіх палітычных дзеячоў.

„Хваля тэрору пераходзіць цяпер праз Польшчу. Краёвай прэсе нельга аб гэтым гаварыць, бо ей зачыняюць вусны, бо ўсе паступовыя часопісі, пасьля выхаду ў сьвет зара зачыняюцца, клюбы моладзі паддаюцца обыскам і закрываюцца, ад профэсіянальных сувязей адбіраюцца кватэры. Словам, ва ўсей сваей агідзе гэта ёсьць паліцэйская ўлада, злучаная з дзікімі перасьледаваньнямі. Польскія вязьніцы запоўнены цяпер звыш 3.000 палітычных вязьняў: работнікаў, украінскіх і беларускіх сялян вінавачаных за тое, што памыкаліся адзыскаць націянальную незалежнасць; інтэлігентаў, вінных што, арганізовывалі асьветную працу сярод шырокіх масс народу. Зьневажаныя ключнікамі, бітыя рэмянямі і палкамі, аджыўляныя выключна буракамі, пры чым страва гэта падавалася ў агідных начыньнях, зачыненыя са звычайнымі злачынцамі, абкраданыя з адзеньня, у сьцюдзёных і неахайных келятках, выданыя на пажэрку жамяры, без адвездзін, занядбаныя з санітарнай стараны, што нельга выказаць, — вязьні, якім здарылася гэткае жыцьцё, ў шмат якіх вязьніцах лепш жадаюць сьмерці, чым павольныя мукі, якім яны падлягаюць. Ня ўсе, зрэшта, пакорны. Сьвежа пераведзены лекарскі агляд (на жаданьне сваякоў заарэштаванай Ольгі Бэсарабавай, каторая „папоўніла самабоўства“ 14 лютага ў сваей келятцы) пазволіў сцьвердзіць, што сьмерць наступіла ў выніку біцьця і зьверскага трактаваньня. Ад 13 сакавіка у Кракоўскіх і Львоўскіх турмах колькісот вязьняў пачалі галадоўку з гэткімі вымогамі: каб ачысьціць келяткі ад жамяры, зьмена бялізны і купель раз на

тыдзень, палепшаньне ежы, лекарская дапамога, дазвол на адведываньне, дазвол мець алувок і паперу, чытаць кніжкі, штодня 2-гадзінная пахаджка. У імя найэлемэнтарнейшых пачуваньняў людзкасьці станоўча пратэстуем супроць гэткага безпраўя і вымагаем споўненьня элемэнтарных жаданьняў вязьняў".

Гэты пратэст падпісала некалькі дзесяткаў французкіх палітыкаў, пісьменьнікаў і вучоных эўропэйскай славы, між імі: Эрріо, Пэнлевэ, Блюм, Рышэ, Баш, Ролян, Бонкур, Адамар, Оляр, Бугле і інш.

Такі пратэст вельмі ўстрывожыў Палякоў. І вось Польшча пасылае ў Парыж аднаго з лідэраў партыі „Вызволеньне", п. Тугута. Апошні стараецца ў французкай прэссе апраўдаць Польшчу і давясьці, што ў Польшчы нацыянальным меньшасьцям жывецца вельмі добра і што апублікаваны французамі пратэст не адпавядае праўдзе. У адповедзь на заявы п. Тугута, падпісаўшыяся палітыкі зьмяшчаюць за подпісам прафэсара Сорбоны, В. Баша, у газэце „L'Ere Nouvelle" 24 ліпня 1924 году адкрыты ліст, ў якім пацьвярджаюць, што сказанае ў пратэсце французкіх дзеячоў — ўсё праўда.

У першых датах гэтага-ж ліпня месяца ўжо працаваў у Парыжы „Камітэт паняволеных Польшчай Націй" у гэткім складзе: Старшыня — праф. др. Лозінскі, Віцэстаршыня — В. Ластоўскі, Сэкрэтар — А. Петрушэвіч і прадстаўнік ад літвіноў Віленшчыны — п. Вайлёніс. Гэты камітэт, пасьля папярэдніх нарад, ухваліў выдаць покліч да ўсяго цывілізаванага сьвету, які і быў падпісаны і апублікаваны 5 жніўня 1924 году.

## Покліч да цывілізаванага сьвету.

„Украінскія, Беларускія і Літоўскія дэлегаты, якія прадстаўляюць свае народы, паняволеныя Польшчай, сабраўшыся ў Парыжы ў днях 2—4 жніўня 1924 году і абмяркаваўшы цяперашняе палажэньне названых народаў пад польскім панаваньнем, сцьвярджаюць:

Украінскія, Беларускія і Літоўскія землі, якія Конфэрэнція Амбасадараў пастановай з дня 15 сакавіка м-ца 1923 году прызнала Польшчы, заселены шчытнай масай украінскага, беларускага і літоўскага жыхаратства, якое творыць пераважаючую большасьць супроць нязначнай польскай меньшасьці.

Гэтыя землі аддадзены пад Польшчу супроць волі украінскага, беларускага і літоўскага народаў, якія імкнуцца да незалежнасьці, — наперакор забавязаньням галоўных дзяржаў антанты ў часе і пасьля вайны, якія запэўнялі паняволеным народам права на самаазначаньне,— і ўсупярэч духу мірных умоў, ў якіх прынцып плебісцыту прызнаны як conditio sine qua non ўсіх тэрыторыяльных зьмен, нават у стасунку да заваяваных народаў (Шлезвіг, Горны Шлезк, Усходная Прусія).

Украінскі, Беларускі і Літоўскі народы пад польскім панаваньем пазбаўляны магчымасьці разьвіваць сваё нацыянальнае жыцьцё.

Тыя міжнародныя забавязаньні, якія галоўныя дзяржавы антанты налажылі на Польшчу ў стасунку да названых народаў, — а ласьне забавязаньне завясьці аўтаномію Усходнай Галічыны

і выканаць умову з 28 чэрвеня 1919 году, аб абасьпечаньні праwоў меньшасьцяў, — саўсім не забасьпячаюць націянальнага істнаваньня гэтых народаў.

Тымчасам Польшча не выконывае нават гэтых, не забасьпячаючых забавязаньняў. Яна дагэтуль не завяла ва ўсей Галічыне аўтаномнага ладу і ня прытрымліваецца забавязаньняў умовы з 28 чэрвеня 1919 году.

Праекты польскіх законаў аб ужываньні украінскай, беларускай і літоўскай моваў ў адміністратыўных і судовых установах і ў школе, над якімі цяпер радзіць польскі сойм, саўсім ня маюць на мэце даць названым народам змогу вольнага развіцьця, а наадварот, — яны уложаны так, каб Украінцаў, Беларусаў і Літвіноў паніжаць, як грамадзянаў другой клясы, і маюць на мэце полёнізацію. Рэклям, якую робіць гэтым законам польская пропаганда заграніцай, аблічана толькі на тое, каб ачмуціць публічную апінію.

Польская палітыка на украінскіх, беларускіх і літоўскіх землях, рожнячыся ў практычных спосабах залежна ад партыйнай праграмы, мае адну і тую самую мэту: спыніць націянальнае развіцьцё названых народаў, аслабіць іх эканамічна, сполёнізаваць іх родную зямлю і гэткім чынам забасьпечыць сабе панаваньне над імі.

Польскі урад, кіруючыся да гэтай мэты ўсімі спосабамі, заахвочуе да гэтага польскае прамадзянства, нарушае міжнародныя забавязаньні, ламае свае ўласныя законы, топча правы чалавека і грамадзяніна, запаўняе Украінцамі, Беларусамі і Літвінамі турмы, дзе сярэднявечныя тортуры сталіся сыстэмай і г. д. і г. д. Лад даўнай Расіі і Прусіі, стасаваны супроць палякаў, проці якога Палякі паднімалі апінію цывілізаванага сьвету, бледне ў параўнаньні з тым, што церпяць Украінцы, Беларусы і Літвіны пад Польшчай.

Дзеля гэтага канфэрэнція украінскіх, беларускіх і літоўскіх дэлегатаў пастанавіла:

1) панавіць перад культурным сьветам урочысты пратэст гэтых народаў супроць іх анэксіі да Польшчы;

2) зьвярнуцца да Канфэрэнціі Амбасадараў, да урадаў галоўных дзяржаў Антанты і да Сувязі Націй, каб яны зрабілі рэвізію пастановы канфэрэнціі Амбасадараў з 15 сакавіка 1923 году ў духу права на самаазначаньне народаў, а да таго часу далі названым народам належную абарону для іх націянальнага істнаваньня.

3) запротэставаць перад цывілізаваным сьветам проці тэй сыстэмы вынішчаньня, якую праводзіць супроць названых народаў Польшча, і прасіць помачы ў іх змаганьні за вызваленьне з пад Польшчы;

4) выказаць прызнаньне аўторам французкага пратэсту ад 2 траўня 1924 году супроць белага тэрору ў Польшчы, добрародны выступ якіх ў карысьць прыгнечаных патрымлівае названыя народы на духу ў іх цяперашнім ліхалецьці;

5) прадаўжаць на міжнародным полі супольную акцію ў імені названых народаў з мэтай вызваленьня іх з пад панаваньня Польшчы.

Парыж, жніўня 4 дня 1924 году“.

П р а ф. Д р. М. Л о з и н ь с к и й,
дэлегат Украінскай Націянальнай Рады, б. таварыш Дзяржаўнага Сэкрэтара закардоных спраў.

В. Л а с т о ў с к і,
б. Старшыня Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі.

Л. В а й л ё н і с,
Дэлегат літоўскіх арганізацій Віленшчыны.

Пратэст супроць белага тэрору ў Польшчы, ліст праф. Баша і Заклік Камітэт разаслаў ў тысячах экзэмпляраў француэкай і ангельскай прэсе, палітычным і грамадзкім дзеячом, аддрукаваўшы іх асобнай кніжачкай.

Акром гэтага, Камітэт зьвярнуў у сваей чыннасьці асобную увагу на факты бязпраўя, якія дзеюцца над белар. паслом Баранам і украінцам др. Яраславам Селезенко. У гэтых справах зьвярнуўся Камітэт да Рады Сувязі Лігі Націй, да Канфэрэнціі Амбасадараў і да ўрадаў Англіі, Франціі і Італіі з асобнымі нотамі.

### Нота ў справе пасла Барана.

„На беларускіх землях, на ўсход ад лініі Керзона, ад канца 1918 да 1921 году шэсьць разоў зьмянялася ўлада: 1) нямецкая окупація, 2) літоўская ўлада, 3) польская окупація, 4) бальшавіцкая окупація, 5) другі раз бальшавіцкая і 6) трэйці раз польская окупація).

У часе ўсіх гэтых окупацій мяйсцовая беларуская люднасьць старалася аб'яднацца з прагалошанай ў 1917 годзе ў Менску Беларускай Народнай Рэспублікай.

Калі ўрэшце, за трэйцяй інвазіяй умацавалася польская ўлада, — палякі пачалі мсьціцца на беларускіх незалежніках за іх палітычную чыннасьць, перад умацаваньнемся польскай ўлады на гэтых землях.

Да гэткіх актаў помсты належыць Беластоцкі працэс 45-ці, які адбыўся ў пачатках траўня 1923 году.

Акт абвінавачаньня, каб ачарніць беларускі незалежніцкі рух, стараўся зьвязаць імёны шанаваных агульна беларускіх палітычных дзеячоў з бандыцкімі выступленьнямі, меўшімі мейсца ў той час на гэтай тэрыторыі, але нават польскі суд зьвязку гэтага не знайшоў.

Судзілі беларускіх палітычных дзеячоў адзіна на аснове даносаў правакатара Ленкевіча, аплачыванага польскім Урадам. Судзілі за жаданьне ўтварыць Беларускую Народную Рэспубліку на тых землях, дзе палякі становяць 8—10 % люднасьці, і якія землі ніколі да Польшчы не належалі і нікім да 15—III—1923 г. ня былі за Польшчай прызнаваны.

Суд прыгаварыў пасла польскага сойму С. Барана, А. Станкевіча, Жабінскага, Матэйчўка, Гораша і Трыпузу кождага на 5 гадоў цяжкой турмы і Веру Маслоўскую на 6 гадоў цяжкой турмы.

Протэстуючы проціў несправядлівага засуду і цяжкіх турэмных варункаў, у 20-х числах жніўня прошлага 1923 году вышэйназваныя асобы ў Беластоцкай турме апавесьцілі галадоўку. Пасьля некалькіх дзён галадоўкі турэмная адміністрацыя застасавала штучнае аджыўляньне. Пры кармленьні выкручывалі назад рукі, ўкладалі палку ў губу і ўсувалі ў горла гумовую трубку. Гэтае кармленьне пераходзіла ў оргію зьдзекаў.

У гэтым годзе 10 траўня вайсковы суд у Горадне вызваў пасла Барана як сьведку. Вяла яго ў суд паляцыя закаваным ў кайданы. Пасол Баран—сталы жыхар Горадні. Факт гэты сьведчыць ня толькі аб зьдзеку над паслом Баранам, але выказуе умыснае глумленьнеся палякоў над нацыянальным пачуцьцём беларускага народу.

Дзеля таго, што палітычная чыннасьць, за якую судзілі вышэйназваных асоб, мела мейсца ў той час, калі Польшча ня мела над гэтым краем праўнай ўлады (Землі на ўсход ад лініі Керзона прызнаны Польшчы радай Амбасадараў толькі 15. III. 1923), то нельга палітычную дзейнасьць гэтых асоб уважаць за дзяржаўную здраду супроць Польшчы, і мы просім Выс. Раду Лігі Нацый аб ласкавую інтэрвэнцію ў цэлю ануляваньня выроку засуду супроць названых беларускіх дзеячоў і звольненьня іх з вязьніцы“.

Карыстаючы з восенскага (ў верасьні) зьезду Лігі Нацый у Жэнэве, „Камітэт паняволеных Нацый“ таксама перанёс сваю чыннасьць ў Жэнэву. У Жэнэвэ ў працягу ўсей сэсіі Лігі Нацый Камітэт вёў чынную акцію, інформуючы прадстаўніцтва дзяржаваў і прэссу аб палажэньні Беларусаў, Украінцаў і Літвіноў пад Польшчай. Ад кождай паасобна нації, ўходзячай ў склад Камітэту, былі зложаны мэмор'ялы. Аб палаженьні Беларусаў пад польскай окупацыяй падаў мэмор'ял В. Ластоўскі.

### Мэмор'ял у справе беларускіх зямель пад Польшчай, пададзены на V сабраньне Лігі Нацый у Верасьні м-цы 1924 году. *)

„Маю чэсьць зьвярнуць увагу Высокай Сувязі Нацый на палажэньне беларускіх зямель, аддадзеных пастановай Канфэрэнціі Амбасадараў 15. III. 1923 г. пад сувэрэннасьць Польшчы.

Перад гэтай датай палажэньне беларускіх зямель прадстаўлялася так:

Беларускія землі да вайны цалком уходзілі ў склад Расіі і былі падзелены на губэрні: Менскую, Магілёўскую, Вітабскую, Гарадзенскую; часьці гэтай тэрыторыі уходзілі такжа ў губэрні: Віленскую, Смаленскую і Чарнігаўскую. Агулам тэрыторыя Беларусі абаймае 280.000 кв. кілёмэтраў з жыхарствам 16.000.000 душ. з якога ліку, паводле статыстыкі Расійскай Акадэміі Наук, прыпадае на беларускую нацыянальнасьць 12.000.000 душ жыхар-

*) Маецца надрукаваны асобнай кніжкай у французкай мове.

ства, а 4 мільёны — на націянальныя меньшасьці (расійцаў, палякаў, жыдоў і інш.).

У гістарычным мінулым Беларусы абладалі сваей незалежнасьцю, сьпярша самаіста, а пазьней (ад XIII ст.) — ў фэдэральнай сувязі з Літвою, ўрэшце (ад (XVI і да канца XVIII ст.) — у фэдэральнай сувязі з Польшчай. Пасьля падзелу Польшчы беларускія землі былі прылучаны да Расіі, ў складзе якой, да паловы XIX стал., карысталіся сваімі асобнымі законамі і некатарай аўтаноміяй у дзедзіне адміністратыўнай.

У 1917 годзе Беларусы, апіраючыся на здэкляраванае ваюючымі старонамі права народаў на самаазначаньне, на пастановы Расійскага Установчага Сабраньня і на свае гістарычныя незалежніцкія традыціі, — склікалі ў Менску Усебеларускі Устаноўчы Кангрэс, які вуснамі 1873 дэпутатаў ад націянальных арганізацій, сельскіх самаўрадоў і гарадоў прагалосіў незалежнасць Беларусі і выдзяліў з паміж сябе Выканаўчы Камітэт, які ў 1918 годзе быў перамянаваны ў раду Міністраў, пераняўшую ўладу у краю. Але таму, што беларускі край быў страшэнна зруйнаваны расійска-нямецкім фронтам ўсясьветнае вайны, а пасьля стаўся арэнай вайны Сувязі Радавых Саціялістычных Рэспублік з Польшчай і пастаянна чарадуючыхся пераходаў акупацыйных войск,—беларусы ня здолелі вытварыць так значнай рэгулярнай вайсковай сілы, каб маглі абараніць сваю незалежнасьць. У выніку гэтай слабасьці да 200.000 кв. клм. беларускай тэрыторыі з 12.000.000 жыхарства вытварылі незалежную Беларускую Радавую Рэспубліку, а 100.000 кв. кілм. па Рыжскаму міру 1921 году былі заняты Польшчай. У склад Польшчы ўвайшлі: Беларускае Палесьсе, Гарадзеншчына, часьць Віленшчыны і Меншчыны.

Найвышэйшая Рада міравой канфэрэнціі у адношаньні да гэтых беларускіх зямел стаяла на тым, што яны не павінны ўвайсьці ў склад Польскай дзяржавы. І так, арт. 87 Вэрсальскага дагавору пастанаўляў, што ўсходнія граніцы Польшчы будуць азначаны пазьней галоўнымі дзяржавамі Антанты, а Найвышэйшая Рада, на засяданьні 8 Сьнежня 1919 году, устанавіла провізорычную ўсходнюю граніцу Польшчы (г. зв. „Лінію Curzon'а)“, так што, акром паветаў: Аўгустоўскага, палавіны Бельскага, палавіны Беластоцкага і часьці Пружанскага, — акупаванныя Польшчай беларускія тэрыторыі знайходіліся на ўсход ад гэтай лініі.

З заяў прадстаўнікоў галоўных дзяржаў Антанты падчас Міравой Конфэрэнціі выходзіла, што вышэйназваныя беларускія землі, якія перад 28—VII—1914 г належалі да Рассіі, палвінны належаць да дзяржавы ці сувязі дзяржаў, якія утварыліся на мейсцы быўшай Расіі, але—ні ў якім прыпадку да Польшчы.

Конфэрэнція Амбасадараў, прызнаючы пастановай ад 15 сакавіка 1923 г. вышэйназваныя беларускія землі за Польшчай, прыняла гэту сваю пастанову:

а) супроць волі беларускага народу, засяляючага гэтыя землі, які, утварэньнем ўласнай незалежнай дзяржавы і змаганьнем супроць польскай інвазіі, даў доказ, што ня хоча належаць да Польшчы;

б) супроць папярэдніх пастаноў галоўных дзяржаў, а ласьне— супроць пастановы Найвышэйшае Рады ад 8 сьнежня 1919 году пра правізорычную усходнюю граніцу Польшчы;

в) супроць права самаазначаньня народаў, якое міравыя дагаворы стасавалі нават да пераможаных дзяржаў (у Шлезвігу, у Горнай Сілезіі, у Усх. Прусіі, у абласьці Сару і г. д.), а якога не дятасавана ў гэтым здарэньні, паддаючы беларускія землі пад Польшчу, ня даўшы жыхаром гэтых зямель змогі выказаць сваю волю.

У матывах пастановы Канфэрэнціі Амбасадараў, сказана:

„Зважыўшы, што ўмова заключаная між галоўнымі дзяржавамі Антанты і Польшчай дня 28 чэрвеня 1919 году, прадбачае для ўсіх тэрыторый, пастаўленых пад польскую сувэрэннасьць, асаблівая гарантыі ў карысьць меньшасьці расы, мовы, або рэлігіі“...

Прыведзены матыў Канфэрэнцыі Амбасадараў паказуе на гарантыі ў карысьць беларускага народу на землях пад сувэрэннасьцю Польшчы.

Якое-ж палажэньне мае адарваная часць беларускага народу ў граніцы Польшчы? На тэрыторыі, дзе, паводле даваеннай польскай статыстыкі (гл. Romer: Altas statystczny Polski, выданьне Кракаўскай Акадэміі Навук), палякі становяць нікчэмную меньшасьць 8—10% мясцовай люднасьці. Гэтыя 8—10% польскай люднасьці, то — сполёнізаваныя беларускія магнацкія і дваранскія роды. Аграмадныя зямельныя маёнткі, якімі валадаюць нашы памешчыкі-рэнэгаты, былі польскай дзяржаўнай думкай прыняты за націянальную польскую ўланасць на беларускіх землях. Вось на гэтыя землі Польшча ськівавала колёнізацыю беззямельнага польскага сялянства. Польскі Скарб траціць соткі мільярдаў польскіх марак, перасяляючы палякаў на беларускія землі.

Закон аб колёнізацыі беларускіх зямель ў пасьпешным парадку быў прыняты ў 1920 годзе Соймам, не зважаючы на тое, што беларускія землі, паводле міжнароднага права, да Польшчы не належалі.

Асадніцтва мае мэтай польшчыць беларускі народ.

Дагэтуль польскі урад перасяліў на беларускія землі больш 30.000 сямей польскіх сялян. І гэтым актам пасеяў на вечныя часы нічым непрымірымую ўзаемную ненавісьць паміж прыходцамі і мяйсцовай людйасьцю.

Палякі трактуюцца урадам і адміністрацыяй, як упрывільёваныя грамадзяне, або — паводле акрэсьленьня цяперашняга прэзыдэнта польскай рэспублікі Войцехоўскага — „народ-гаспадар“, а беларусаў і іншыя націянальнасьці ўсякімі спосабамі выжываюць з краю.

На аснове трактату, заключанага між Польшчай і Галоўнымі Дзяржавамі Антанты 28—VI—1919 г. (арт. 3 і 4), усе пражываючыя ў Польшчы ў часе ратыфікацыі гэтага трактату становяцца польскімі грамадзянамі без ніякіх фармальнасьцяў, аднак з цэлага раду інтэрпэляцый Беларускага Пасольскага Клюбу ў Польскім Сойме відаць, што Польшча гэтага забавязаньня не выпаўняе.

Польская адміністрацыя ад беларускіх грамадзян вымагае удаводненьняў, што яны — сталыя жыхары, пры чым тых, якія ня вылігітымуюцца дакумантамі, польскі ўрад апавяшчае нелегальна прыбыўшымі з Сувязі Савец. Рэспублік. Вылігітымавацца-ж дакумантамі ў краю, дзе больш 1.000.000 жыхарства было вывезена расійскім вайсковым камандаваньнем ў глыб Расіі перад наступленьнем Немцаў, а дакуманты або папалены, або загублены—ў часе эвакуацыі ў Расію і ў часе расійскай рэвалюцыі, — у большасьці выпадкаў справа немагчымая. Дзеля гэтага да 200.000 беларускіх сямей у сягоняшні дзень знайходяцца пад пагрозай высылкі, або ўжо высланы з краю.

Акром сялянства, Польшча выжыла з краю массу школьнай моладзі, зачыняючы беларускія сярэднія школы (у гэтым, 1924 годзе, закрыты 2 гімназіі — ў Гарадку і Несьвіжы з ліку існаваўшых 4-х) і зрабіўшы краёвы Унівэрсытэт у Вільні польскай вучэльняй, ды зачыніўшы дзверы яе перад беларускай моладзьаю. Больш сотні студэнтаў-беларусаў выэміґравала у Чэхію ў Пражскі унівэрсытэт, дзясяткі студэнтаў выехала ў Нямеччыну, Бэльгію, Францыю, Амэрыку, а найболей перабралася ў Радавую Беларусь (каля 1500 чалавек).

Побач з гэтым польская ў л а д а в ы ж ы л а з к р а ю р а д б е л а р у с к а й і н т э л і г е н ц ы і, якая асела ў Латвіі, Літве, Нямеччыне і ў Сувязі Савец. Рэсп. Да апошніх належыць аўтар беларускае геаграфіі Аркадзь Смоліч, культурны і палітычны дзеяч — Кузьма Тэрэшчанка, вучыцель беларускай гімназіі і аўтар гісторыі беларускай літэратуры — Максім Гарэцкі, журналіст, літэратар і сцэнічны дзеяч — Леапольд Радзевіч, вучыцель беларускай гімназіі — Генадзій Багдановіч, пазбаўлены права выкладаць як „obcokrajowiec“ (хоць яго родны брат, Вячаслаў Багдановіч, — польскі сэнатар (!), Язэп Лагіновіч — рэдактар белабеларускіх газэт, заўсёды канфіскаваных і закрываных польскай уладай, — ды некалькі сот вучыцялёў беларускіх школ, якіх з родных вёсах выжылі паліцэйскімі прасьледаваньнямі.

А д б у д о в у з н і ш ч а н а г а ў с я с ь в е т н а й в а й н о й б е л а р у с к а г а к р а ю ўзяла на сябе Польшча. Паводле справаздачы „Генеральнае Дырэкторыі Адбудовы“ за час ад Студзеня 1923 году адбудавана на тэрыторыі этнографічна-польскай: ў Лодзі 91%, у Кракаве 83, у Кельцах 74%, у Варшаве 65%, а ў нашым беларускім Палесьсі ўсяго толькі 22%, у Навагрудчыне 44%, а ў гэтай лічбе „адбудовы“ палічаны будынкі, стаўляныя для польскіх каланістаў. За гэты час адбудавана 137 касьцёлаў і ніводнае царквы, бо палякаў-праваслаўных няма.

Б е л а р у с к а я п р э с с а п р а с ь л е д у е ц ц а.

Нязвычайна цяжкое палажэньне беларускай прэсы пад Польшчай не дае магчымасьці кіраваць беларускай грамадзкай думкай; газэты канфіскуюцца і закрываюцца.

8—XII—1922 году пачала выходзіць беларуская газэта „Наша Будучына“. Сканфіскаваны №№ 2 і 6. Закрыта на 6-м нумары.

3—I—1923 г. пачала выходзіць газэта „Нашае Жыцьцё“, якая зачынена на 13-м нумары. Сканфіскаваны №№ 4, 8, 10 і 13.

У Траўні пачала выходзіць газэта „Новае Жыцьцё“, але зачынена на 6-м нумары, хоць толькі адзін нумар (першы) быў сканфіскаваны.

5—VI—1923 г. выходзіць „Наш Сьцяг“, якога ўдалося выпусьціць 24 нумары. Сканфіскаваны №№ 1, 2, 7 і 17.

Газэта „Вольны Сьцяг“ выходзіць 26—VIII—1923 г. і выпускае 20 нумароў. Сканфіскаваны № 1, 15 і 17.

28—X—1923 г. пачало выходзіць „Змаганьнё“, якоя выпусьціла 31 нумар. Сканфіскаваны № 15 у 1923 г. і № 1 у 1924 г.

14—II 1924 выходзіць газэта „Голас Беларуса“, якая зачынена на 21 нумары. Сканфіскаваны №№ 14, 15, 19 і 21.

18—V—1924 выходзіць „Сын Беларуса“, якога сканфіскаваны №№ 15, 17 і 23.

Газэта „Саха“ закрыта на № 1-м.

Газэта „Вясковы Пролетары“ закрыта такжа на № 1-м.

Вельмі цікава адмеціць, што канфіскуюцца і закрываюцца газэты без саставу праступленьня, бо дагэтуль ня было аніводнага судовага прыгавару, які-бы засудзіў рэдактара беларускае газэты, хоць рэдактары арыштовываліся ўладай і трымаліся ў турмах.

Прасьледаваньне беларускай прэсы не канчаецца канфіскатамі самых газэт і арыштамі рэдактароў. Выпісываць беларускую газэту ў Польшчы трэба цывільнай адвагі, бо паліція у падпісчыкаў беларускіх газэт робіць часта обыскі (Інтэрпэляція Бел. Пас. Клюбу). Беларускія газэты, якія прыходзяць на почту, паліція забірае з почты і, працэнзураваўшы, аддае або не аддае падпісчыкам. Словам, робіцца ўсё, каб не даць магчымасьці істнаваць беларускай прэсе.

Беларуская школа вынішчаецца. Прыходзячы на беларускія землі, польская ўлада застала тут звыж 400 пачатковых беларускіх школ і 7 сярэдніх школ (вучыцельская сэмінарыя у Сьвіслачы, гімназіі у Вільні, Навагорадку, Горадні, Буцлаве, Гарадцы і Барунах) Сягоньня істнуе толькі каля 20 беларускіх пачатковых школ і 2 гімназіі (у Вільні і Радашкавічах). Замест беларускіх школ польская ўлада паадкрывала тут школы польскія, ў якіх вучаць людзі без пэдагагічнага падгатаваньня, насланыя ў Беларусь з ўнутранай Польшчы, і якія адначасна служаць вывядоўцамі ў паліціі.

Які стасунак гэтых мужоў польскай асьветы да мясцовай беларускай люднасьці, найлепш сьведчыць прамова аднаго з такіх польскіх вучыцялёў, сказаная ім на прыватным вучыцельскім зьезьдзе ў Вяронскай школе (Дунілаўскі павет):..„я так ненавіджу беларусаў, што паліў-бы іх вёскі, а тут трэба вучыць гэтае мужыччо“. Ня толькі ніжэйшыя вясковыя польскія школы на беларускай тэрыторыі цесна зьвязаны з паліціяй, але такжа сярэднія і вышэйшыя. Гэтак, 1 Траўня г. г. усе сярэднія школы атрымалі ад куратара асьветы запытаньне, хто з вучыцялёў і вучняў ня прыйшоў гэтага дня ў школу. Гімназістам даручаецца шпігоўства за палітычнымі дзеячамі, а студэнты вышэйшых школ, разам з паліціяй ходзяць на обыскі і робяць аблавы на беларускіх палітычных

дзеячоў, а такжа экскортуюць арэштаваных ў турмы Пазнаня і Кракава.

Малалетніх беларускіх вучняў паліція арэштовуе, трымае ў турмах і тартуруе дзікім спосабам.

Польскія вучыцялі, набраўшы ў школы беларускіх дзяцей, высьмеіваюць беларускую мову, забараняюць вучням чытаць беларускія кнігі і газэты, співаць беларускія песьні і маліцца па-беларуску, прычым апошняе аргумэнтуюць дзікай формулай, што „Бог адзіна толькі польскую мову разумее“.

А галоўна, усё беларускае жыхарства жыве пад страшным польскім тэрорам. Бьюць сялян-беларусаў паадзіночку і цэлымі вёскамі, бьюць на полі, ў лесе, ў хаце, ў паліціі і нават—у цэрквах, бьюць паліціянты, вайсковыя, вучыцялі, чыноўнікі і памешчыкі. Пасол Тарашкевіч аб'ехаў ў пачатку гэтага году 2 паветы на Палесьсі і не знайшоў ні аднэй вёскі, а ў вёсцы — мужчыны, каторы бы ня быў палякамі ў брутальны спосаб скатаваны (Прамова пасла Тарашкевіча ў Польскім Сойме 8—VI—1924 г.).

Пасол Воліцкі, паляк, прыехаўшы на Беларускую тэрыторыю, знайшоў на адным толькі паліцейскім постэрунку ў в. Велюце ў працягу двох тыдняў пабітымі гэткіх сялян: 1) Ян Холад, быў пабіты два разы прыкладамі карабінаў і паранены штыком, — рана на лбе глыбінёй $1\frac{1}{2}$ сантымэтра; 2) Калістрат Холад, — уся галава у ранах, падбіты вочы, цела ў сіняках; 3) Ігнат Шмаль, — пабіты прыкладамі; 4) Дземян Гардзюк, 5) Марія Гардзюк, 6) Кацярына Наворыч, 7) Сцяпан Шыйц, 8) Матрона Холад, 9) Аляксей Холад, 10) Васіль Холад, 11) Макар Клімчук, 12) Адам Драбовіч, 13) Гардзей Каховіч, 14) Грыгор Муха, 15) Васіль Шуляк, — усе пабіты прыкладамі, паранены штыкамі.

Але польская паліція не агранічаецца звыклым біцьцём прыкладам карабіна, гумовай палкай ці кулаком, яна ўжывае цэлы шэраг вырафінаваных тартур. Да арсэналу польскіх тартур належаць:

а) прымушаньне піць ваду праз нос па 2 — 3 літры, што спраўляе невынасімы боль галавы; гэткі спосаб тартуры стасавалі 28. III. 1924. да В. Савасцьяновіча, І. Ленкевіча, В. Кедыша (14 лет) з в. Залесьсе, Сакольск. павету;

б) біцьцё па пятах кіямі, а пасьля прымушаньне бегаць (Інтэрпэляцыя Бел. Пас. Клюбу 6—VI—1924 г.);

в) Заганяньне іголак пад пазнокці (Сьцьверджана на Беластоцкім працэсе 45-ці);

г) цкаваньне раззлаванымі сабакамі, якія адрываюць кускамі цела з чалавека (Такі зацкаваны сабакамі,ўвесь паранены, з абарванай машонкай, І. Міленкевіч уцёк ў Літву і жыве цяпер у Коўне. Адрэс: Коўна, Міцкевіча вул., № 13);

д) біцьцё лінейкай па адцягнутых дзетародных органах цела (Інтэрпэляцыя Бел. Пас. Клюбу 18—IV—1924 г.);

е) біцьцё галавой аб сьцяну, падкіданьне зьвязанага арэштаванага ўверх і кіданьне на зямлю — (Газэта „Змаганьне“).

з) ўкладаньне паміж пальцаў алуўкоў ці патронаў і сьцісканьне рук;

ж) ўкладаньне патронаў між ног у кроку і сьціськаньне ног;

і) прыпяканьне агнём пад пахамі і пят.

За якія-ж праступкі бьюць і тартуруюць люднасьць? Падамо некалькі фактаў.

Арыштаванаму Грыгору Зімічу (Кажан Гарадок) за тое, што забіў цялё не замэльдаваўшы, зьвязалі рукі і ногі, заткнулі губу і білі праз мокрае палатно нагайкамі і кіямі па пятах.

Параска Арэхва, маючы хворага каня, не хацела даць паліцейскаму падводы. За гэта яе хворую, бо было гэта на другі дзень пасьля радоў, замкнулі ў арэшт, пакінушы 24-гадзіннае дзіця дома. Натуральна, дзяцё памерла.

Марку Клімчука два разы білі прыкладамі, пасьля зьвязалі яму рукі і завалілі на лаўку, так што галаву меў у нізе, а ўсё цела ў гарэ; адны паліціянты селі на ногі, а другія лілі ваду у губу і нос, каб прызнаўся да нязробленага праступку. А вечарам таго дня выпусьцілі, як нявіннага.

Гэткіх прыкладаў можна зацытаваць тысячы.

Асабліва узмаглося біцьцё і катаваньне беларусаў пасьля выбараў у Сойм і Сэнат. У часе гэтыхъ выбараў па сьпіску № 16 прайшло шмат паслоў і сэнатараў ад націянальных меншасьцяў. Каб памсьціцца за гэта на выбаршчыках, мяйсцовай паліціяй і адміністрацыяй разпачаты былі масовыя арышты беларусаў пад закідам розных палітычных і крымінальных правін. Ня маючы ніякіх доказаў выдуманых паліціяй праступкаў, палітычная паліція прыняла сыстэму біцьця і катаваньня арыштаваных, змушаючы іх прызнацца да не папоўненых він. Інтэрпэлюючы Міністра Унутранных спраў, Беларускі Пасольскі Клюб 19-III-24 так апавядае. У Дзісенскім павеце арэштавалі З. Міхасевіча і няпісьменных—матку яго, дзядзьку, швагра і 10-цёх-гадовага брата,--вінавацячы ў дзяржаўнай здрадзе, асоб ня маючых ніякага паняцьця аб палітыцы. Прымушаючы падпісаць пратакол з выдуманымі абвінавачаньнямі, мучылі гэткім спосабам: ушчамлялі рукі ў дзьверы, а ногі зьвязывалі і білі палкамі, зьнімалі боты, білі і палілі пяты, паміж пальцаў укладалі алуўкі і сьціскалі рукі, запалівалі паперу і клалі пад пахі, білі ў зубы, пад ложачку і галавой аб сьцяну, выймалі дзетародны орган і, адцягнуўшы, білі лінейкай, пасьля чаго катаваны траціў прытомнасьць, і яго адлівалі вадой. Гэтак было з Міхасевічам, якога адліўшы вадой, ў напоўпрытомным стане пасадзілі за стол і, водзячы яго рукой, падпісалі пратакол. Пасьля гэтых мук арыштаваных трымалі, ня пушчаючы да доктара. Калі раны і знакі ад катаваньня пагаіліся, швагра выпусьцілі дамоў, прыказуючы, каб нікуды не хадзіў жаліцца, а самога Міхасевіча пераслалі да сьледаваццеля, які звольніў яго.

Урад польскі протэгуе садыстаў у паліціі на беларускіх землях. Усё узрастаючы тэрор на т. зв. „крэсах“ ўстрывожыў нават некаторыя польскія палітычныя кругі, вынікам чаго была арганізавана „Соймавая Камісія“ для разгляду надужыцьцяў адміністрацііі на Усх. „Крэсах“, пад старшэнствам Ту-

гута. Камісія гэта у Марцінканскай гміне, Горадзенск. пав. выслухала да 100 сьведкаў аб страшэнным катаваньні народу камандантам паліцейскага постэрунку Кухэйдо. Усе сьцьвердзілі, што Кухэйда катаваў людзей (біцьцё кіямі па пятах, біцьцё нагайкамі і інш.) Камісія аднагалосна сцьвердзіла, што так паступаць можа толькі хворы на умысьле чалавек, садыст. Пасьля гэтага, праз нейкі час, Кухэйда атрымаў вышэйшае становішча каманданта адрэзку у горадзенскім павеце і далей упраўляе садызм (Інтэрп. Бел. Пас. Клюбу 6-VI-1924). Гэткія павышэньні садыстаў па службе сталіся нормай на нашых землях.

Паліцыя укрывае праступнікаў. Селянін Лявон Сялёдчык (Бытанскае гміны, Слонімск. пав.) у Сакавіку 1924 году, праходзячы праз лес, сустрэў паляка, які, нічога ня кажучы, выстраліў у яго і трапіў у шыю. Сялёдчык зьвярнуўся да сьледавацеля (II район, Слон. пав.), які адаслаў яго ў паліцыю ў Слоніме, дзе ня толькі не прынялі ад яго скаргі, але, сказаўшы: „вас-бы ўсіх трэба было пастраляць“, выкінулі за дзьверы (Інт. Бел. Пас. Клюбу 11-VI-1924). Падобных здарэньняў безпраўя зарэгістравана беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі некалькі дзесяткаў з розных мейсц.

Селяне в. Кучкуны пішуць 16-VI-1924 г. у Беларускі Пасольскі Клюб: „У нашу вёску прыехалі уланы ў лічбе 53, яны зрываюць стрэхі з дамоў, выламываюць дзьверы, ўламываюцца ў пуні і хаты, рабуюць усякую ядоміну, вопратку, бяруць жывы і мёртвы інвэнтар, выдаіваюць у нас кароў, а ў дзень выкашываюць траву на полі, пры найменшай патрэбе бяруць нашых коні дзеля выезду, не шкадуючы 2-х летніх жарабят. Калі гаспадар просіць пашкадаваць яго дабро, то такога бьюць бязлітасна. Мы зьвярнуліся аб помачы да староства. Стараста адказаў на нашу просьбу: „так вам і трэба“. Акром нашае, — гэткія рабункі робяцца яшчэ ў вёсках: Ячнае, Русаковічы, Ябланоўка, Мікалаяўшчына і іншых.

Уціск праваслаўнай цэркві Бюджэт рымска-каталіцкага вызнаньня у Польшчы у 67 разоў большы за бюджэт праваслаўнага вызнаньня, у той час, як працэнтны стасунак праваслаўнага жыхарства ў Польшчы маецца як 1 да 3 (лічучы разам беларусаў і украінцаў) Цыфры гэты красамоўна гавораць, што гэтае вызнанане ў Польшчы няроўнапраўнае, а церпіцца, як зло, якое трэба вынішчыць.

Дэпартамант рэлігійных вызнаньняў у Польшчы дзеліцца на 4 аддзелы: 1. рымска-каталіцкі, 2. эвангеліцка-лютэранскі, 3. жыдоўскі, 4. „іншых вызнаняняў“, да якіх адносяцца магомэтане, пагане і... праваслаўныя.

Згодна статыстыцы за першы толькі год гаспадараньня польскага ураду забрана звыш 400 цэркваў праваслаўных, з гэтага ліку ў аднэй толькі б. горадзенскай губэрні — каля 100 царквей. Гэта называецца „рэвіндыкацыяй“, хоць з ліку 400 царквей нязначная частка былі цэркві, якія расійскім урадам былі перароблены з каталіцкіх касьцёлаў, рэшта — або здаўна праваслаўныя, або былі калісь уніяцкімі цэрквамі, або нядаўна будаваныя.

На асабліваю увагу заслуговае абураючы спосаб адбіраньня цэркваў, які практыкуецца дагэтуль пры учасьці польскага ураду. Вось прыклад з соймавай інтэрпэляцыі:

„У сьвята Нараджэньня Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, ў часе імшы, ў царкву ў Новым Дварэ, ўрваўся паліціянт А. Бацькоўскі ў шапцы на галаве і з карабінам і голасна патрэбаваў спыніць імшу і выйсьці ўсім з царквы, бо ён павінен яе зачыніць. Як усе выйшлі, царква была апячатана, а пазьней — разбурана“.

Гэткімі-ж спосабамі, толькі з яшчэ вялікшым гвалтам, з выкіданьнем на вуліцу абразоў, царкоўных начыньняў і літургічных шат, былі адабраны цэрквы ў Беліцы, Беніцы і катэдра у Лідзе. Пры помачы падабраных ключоў былі захоплены царкві ў Вільні і ў шмат іншых мяйсцох, а царкоўныя рэчы былі прадаваны на рынках. Біскупальную царкву ў Вільні адабраўшы абярнулі на кінематограф (які істнуе дагэтуль), хоць будынак царкоўны быў куплены за грошы парахіянаў.

Колькі сот праваслаўных парохій намечана скасаваць, з гэтага ліку—250 на Валыні і Падольшчыне, 80 у Горадзеншчыне, 53 у Віленшчыне і-г.д. Пры гэтай рэдукціі праваслаўных парохій годна ўвагі, што касуюцца тыя парохіі, якія належаць да наймацнейшых, дзе добрыя будынкі, пабожны народ, ці добры сьвятар.

Дзеля аслабленьня праваслаўнай цэркві польскі урад дэкрэтам ад 16-XII-1918 г. пастанавіў адбіраць духоўныя землі і нярухомасьці для патрэб калёнізаціі і зямельнай рэформы. У стасунку да каталіцкага касьцёлу гэты дэкрэт не праводзіцца, а ў праваслаўнай цэркві больш, чым у 500 парохій зямля або ўся, або часьцю адабрана, акром гэтага, ў праваслаўных адабрана да 250 царкоўных дамоў.

Праваслаўная рэлігія рэдка выкладаецца ў школах, а праваслаўных дзяцей, якія знаходзяцца у дзяржаўных прытулкак, гвалтам прымушаюць вучыцца „польскае веры“ і „польскіх“ малітваў.

Праваслаўнаму духавенству не даюць права грамадзянства і выганяюць з краю. У адным толькі беластоцкім ваяводзтве, ваявода азнайміў 36 духоўным, што яны ня могуць далей аставацца ў Польшчы і „могуць ісьці з краю куды ім падабаецца“ (Прамова Кс. Станкевіча ў Сойме 1-VII 1914).

Праваслаўных прымушаюць працаваць у праваслаўныя сьвяты сьвяткаваць каталіцкія сьвяты.

Безпраўнае палажэньне беларусаў-каталікоў. Ні ў аднэй духоўнай каталіцкай школе у Польшчы ня выкладацца беларуская мова Беларусаў у духоўныя сэмінарыі не прыймаюць, або памылкова прынятых выкідаюць. Польскае духавенства не дапускае да касьцельнага ужытку беларускай мовы, а польскі урад не пазваляе ніякіх беларускіх каталіцкіх асоціяцій. Хочучы утварыць хоць адну беларускую каталіцкую асоціяцію, ў гэтым годзе група беларускіх ксяндзоў зьвярнулася да ураду з просьбай зацьвердзіць статут беларускага рэлігіийна-прасьветнага таварыства „Сьветач“, але урад адмовіў пацьверджаньня статуту адзіна таму, што таварыства мела ісьці з беларускім словам да беларускага народу Каталіцкі касьцёл на Беларускіх землях цалком знаходзіцца ў руках палякаў, і гэткім чынам больш мільёна беларусаў-каталікоў пазбаўлены духоўнай абслугі, бо польскай мовы народ наш не разумее.

**Польская ўлада забараняе зьбіраць ахвяры на галодных беларускіх сірот.** „Беларускае Таварыства Помачы Ахвярам Вайны“ апякуецца дзяцьмі сіротамі; каб на галадаючых сірот сабраць ахвяры, прасіла Несьвіжскага Старасту пазваленьня на гэта. Стараста сканфіскаваў паўнамочча пасланага ад Таварыства і забраніў зьбіраць ахвяры.

**Польская ўлада руйнуе беларускае жыхарства сыстэмай падаткаў.** Мэтоды польскага ападаткаваньня на беларускіх землях ськіраваны да матэр'яльнага зруйнаваньня мяйсцовага жыхарства і вельмі часта граніччыць з грабяжом і ашуканствам. Платнік ніколі ня ведае сколькі, калі і на якую мэту будзе абложан падаткам. Ападаткоўуюць жыхарства незалежна адны ад другіх: 1) цэнтральныя ўлады, 2) комунальныя ўлады, 3) вайсковая ўлады, 4) паліцыя, 5) мяйсцовыя ўлады. Вышыня ападаткаваньня у краю, вынішчаным вайной, у два разы перавышае скалю ападаткаваньня ў Італіі. Пры гэтым годна увагі, што на польскіх колёністаў гэта сыстэма падаткаў не разпашыраецца.

**Польская ўлада не дае магчымасьці беларускім паслом рабіць справаздач сваім выбаршчыкам.** Каб ізаляваць беларускіх паслоў ад народу, польская ўлада, супроць сваей канстытуцыі, сыстэматычна разганяе скліканыя беларускімі пасламі сходы.

8. V. 1924 у м. Даўгінаве, Вілейск. пав., беларускія паслы, кс. Станкевіч і Аўсянік, склікалі веча, на якім было да 2.000 народу. У часе другой прамовы зьявілася польская паліцыя, узброеная ў карабіны і з абнажанымі шаблямі павяла атаку на спакойную люднасьць.

25. V. 1924 г. у м. Картуз-Бяроза, Пружанскага пав., польскія каланісты, узброеныя рэвольварамі, сьцягнутыя адміністрацыяй з трох суседніх паветаў, разагналі мясцовае беларускае насяленьне, якое сабралася выслухаць справаздачу сваіх паслоў. Польская конная паліцыя, замест абязброіць асаднікаў, нарушаючых спакой, кінулася атакаваць безбаронны народ, бьючы кольбамі па галовах.

Гэткія і падобныя ім выпадкі на парадку дзенным, што відаць з інтэрпэляцый Беларускага Пасольскага Клюбу.

Наагул, парлямэнтарная акцыя беларускага жыхарства ў Польшчы засуджана на бязсільнасьць, бо, акром адміністрацыйных прасьледаваньняў, якіх дазнаюць беларускія паслы, ўсе польскія партыі солідарна стаяць супроць дамаганьняў, прапанаваных беларускімі пасламі у польскім Сойме і Сэнаце.

**Беларускіх дзеячоў гадамі бязвіна трымаюць у турмах.** Беларускага палітычнага дзеяча Якімовіча з Горадні арэштавалі, пратрымалі ў турме 13 мес. і 4 дні і выпусьцілі, як бязьвіннага.

Беларускага пасла Барана, Маслоўскую, Жабінскага, Станкевіча, Трыпузу, Гораша і інш. судзілі за палітычную дзейнасьць, меўшую мейсца да прызнаньня Канфэрэнцыяй Амбасадараў бела-

рускіх зямель Польшчы. Дзеячы гэты дагэтуль пакутуюць ў польскіх турмах.

У апошнія часы польскі Сойм прыняў законы аб ужываньні беларускай, украінскай і літоўскай моваў ў адміністрацііі, судзе і школе. Паводле польскіх цьверджань гэтыя законы даюць названым народам шмат больш упраўненьняў, чым дагэтага Польшча забавязалася на аснове умовы з 28 чэрвеня 1919 г., дык вынікам гэтага адпадала-бы прычына міжнароднай кантролі палажэньня гэтых народаў у Польшчы.

Гэтае польскае цьверджаньне не адпавядае праўдзе.

Папершае, успомненыя законы не адносяцца да ўсяго беларускага жыхарства ў Польшчы, а толькі да беларусаў Палескага, Навагорадзкага і Віленскага ваяводзтваў. Беларусы па-за гэтымі ваяводзтвамі (прыкл., беларусы ў Мазурскіх ваяводзтвах, на Валыні і ў польскіх землях) пазбаўлены ўсякіх упраўненьняў; вось-жа ў гэтым пункце спомненыя законы ёсьць выразным нарушэньнем умовы з 28-VI-1919.

Падругое, спомненыя законы аграніčаюць нават тыя правы, якія належаліся беларускаму жыхарству на аснове умовы з 28-VI-1919. Гэтак, на аснове спомненай умовы, у мясцовасьцях са значнай лічэбнасьцю беларускага жыхарства павінна быць беларуская народная школа. Замест гэтага спомненые законы пастанаўляюць, што на ўсей чыста-беларускай мясцовасьці, дзе толькі знойдзецца 25 польскіх вучняў, павінна быць школа з двумя мовамі (польскай і беларускай).

Сярэднія школы могуць быць толькі дзьвёх-моўныя, хоць дагэтуль беларусы маюць свае чыста беларускія дзьве гімназіі, а раней мелі больш гэткіх школ.

Упраўненьне беларускай мовы ў адміністрацыі і судзе зводзіцца да таго, што беларуская старана мае права зьвяртацца да гэтых установаў пісьменна ў беларускай мове, ужываць беларускай мовы пры пераслуханьню і прасіць, каб урадовая адповедзь мела побач польскага арыгіналу беларускі пераклад. Паза гэтым ніякі урадовы акт ня можа быць уложаны ў беларускай мове. Наагул, гэтае упраўненьне ня шмат рожніцца ад таго, што кождая дзяржава прызнае чужынцом, якія не знаюць яе мовы. Бо ў гэтым выпадку чужынец ужывае сваей мовы і перакладчыка.

Як адносіцца беларускі народ ў Польшчы да гэтых законаў, сьведчаць вось гэтыя факты.

Беларускія паслы у польскім сойме і сэнаце заявіліся супроць гэтых законаў, як новага спосабу полёнізацыі пад маскай упраўненьня, і на знак пратэсту усунуліся ад галасаваньня гэтых закоконаў.

Беларускія палітычныя і грамадзкія арганізацыі вынесьлі пратэсты супроць гэтых законаў.

Калі палякі прыходзілі на беларускія землі, іх клічам было: „роўныя з роўнымі, вольныя з вольнымі“ (маніфэст Пілсудзкага).

Якая гэта воля і роўнасьць цяпер, найлепш сьведчыць новапрыняты закон аб самаўрадах на беларускіх землях.

Закон аб самаўрадах нязгодзен нават з польскай канстытуціяй, якая прадбачае у Польшчы агульнае, роўнае, простае і тайнае галасаваньне.

Прынцып роўнасьці выбараў,—г зн., роўнасьці грамадзян у выбарнай ардынаціі, — да ўстаноў мясцовага самаўраду выкінуты зусім.

Паводле гэтага закону паляк ня роўны з беларусам. Закон прызнае, што кожды выбаршчык мае адзін голас, але мае дадатковы голас:

1. калі мае ня менш 4 законных дзяцей,

2. калі зьяўляецца дзяржаўным урадоўцам,

3. калі служыў у часе вайны у польскім войску, або зьяўляецца старым польскім ваяком (вэтэранам) з часоў паўстаньня, або страціў у польскім войску сужанца, сына ці дачку,

4. калі умее чытаць і пісаць па польску.

Кожды гэты пункт дае права на адзін лішні голас пры выбарах. Толькі разам адзін выбаршчык ня можа мець больш 4-х галасоў.

Знача, дэмократычная роўнасьць грамадзян у Польшчы зьмяшчаецца у тым, што адзін грамадзянін можа быць „роўны“ 4-м іншым.

Адвечны жыхар гэтых зямель, як ведама, 1) не прыймаецца нідзе на ўрадовую службу, 2) не ваяваў у часе расійска-польскае вайны, хоць-бы таму, што тады Антанта забараняла Польшчы набіраць тут жаўнераў..., 3) не залічаны да вэтэранаў і 4),—як агульнае правіла, — ня ўмее чытаць, а тым болей, пісаць па-польску.

Ці-ж можа быць лепшы довад малалічэбнасьці польскага элементу на „польскіх“ крэсах, чым той, які дала сама польская ўлада, штучна павялічаючы ў чатыры разы рэальную сколькасьць тутака істнуючых, нават нагнаных з Польшчы палякаў? З гэтага відаць таксама, як мала самі палякі вераць у тую польскую статыстыку, якую яны так шырока прапагавалі ў Эўропе.

Як выбарная ардынація закону аб самаўрадах, так і ўсе праектаваныя ім установы пабудаваны так, каб ўвесь апарат быў ў руках ураду, і каб мяйсцовая люднасьць ня мела ў іх ніякага голасу.

Закон гэты ня толькі ў самых сваіх падставах адкідае прынцыпы самаўраду, але найвыразьней гвалціць самыя асновы праўнай дзяржавы. Гэтым законам Польшча проста зьнімае свой подпіс з двох галоўных, падпісаных ею трактатаў: Вэрсальскага (дадатковага) і Рыжскага.

Дзеля таго, што анэксія беларускіх зямель да Польшчы і палажэньне беларускага народу пад Польшчай спрычынена пастановай галоўных дзяржаў Антанты,

дзеля таго, што Ліга Націй на аснове пакту і умоў паклікана стаяць на старожы выкананьня тых міжнародных забавязаньняў,

якія мае Польшча ў стасунку да беларускага народу ў сваіх граніцах,

дзеля таго, што Ліга Націй на аснове артыкулу 19 Пакту (які гавора, што „Сабраньне можа ад часу да часу прапанаваць членам Лігі прыступіць да новага прагляду умоў, якія сталі нестасоўнымі, як такжа міжнародных палажэньняў, якія, калі іх утрымліваць далей, могуць быць пагрозай сьветавога міру“,), ёсьць компэтэнтнай выступаць з прапазыціяй зьмены умоў і пастаноў, на аснове якіх беларускія землі прылучаны да Польшчы, —

Маю чэсьць ў імені беларускага народу пад Польшчай

1) панавіць урочысты пратэст супроць адданьня вышэйназваных беларускіх зямель пад сувэрэннасьць Польшчы пастановай Канфэрэнціі Амбасадараў з 15 Сакавіка 1923 году,

2) зьвярнуцца да Высокай Лігі Націй з просьбай:

а) выступіць на аснове арт. 19 Пакту з прапазыціяй рэвізіі спомненай пастановы ў духу здзейсьненьня права самаазначаньня беларускага народу на землях, падданых пад сувэрэннасьць Польшчы,

б) да часу перавядзеньньня гэтай рэвізіі запэўніць беларускаму народу пад Польшчай выстарчаючую і пасьпешную міжнародную абарону.

Жэнэва, Верасьня 1 дня 1924 г.

Ведама, праца Камітэту, якая раскрывала перад усім сьветам зьдзекі і мукі паняволяных Польшчай народаў, была непажадана для Палякаў, і дзеля гэтага яны шукалі асоб ці груп, якія-бы ўзяліся кампрамітаваць Камітэт. Група такая знайшлася: ею сталася хаўрузія з грам. Крычэўскім на чале, за якога подпісам польскі міністр замежных спраў п. Скульскі атрымаў у Жэнэву з Прагі „копію“ тэлеграмы, падпісаную п. Крэчэўскім, якою ён, ганьбячы Ластоўскага, адначасна ад імені Рады Б. Н. Р. даносіць, што Ластоўскі ёсьць літоўскі чыноўнік і ня мае права выступаць ў абароне беларускага народу. Гэта-ж самае публікуе кіраванае п. А. Цьвікевічам „Беларускае Прэс-Бюро“ у Коўне.

Але гэта хаўрузія ў сваіх захадах на карысьць Польшчы ня мела для апошняй вялікай вагі, бо польская дэлегація ў Жэнэве мела аж 40 асоб сваіх супрацоўнікаў.

У адповедзь на гэтую напасьць Ластоўскі злажыў выясненьне ў Сэкрэтар'ят Лігі Націй з далучэньнем рэзалюціі „Беларускай Сялянскай Сувязі“.

### Рэзалюція Беларускага Сялянскага Саюзу у справе „Камітэту Паняволяныхъ Польшчай Націй“.

„Дня 30 Жніўня 1914 году Беларускі Сялянскі Саюз, выслухаўшы даклад аб тым, што пасьля выступленьня „Камітэту Паняволяных Польшчай Націй“ з адозвай да цывілізаванага сьвету (гл. „L'ere nouvelle Nr. 2469) і мэморандумам да Лігі Народаў, ведамая група людзей, якая складаецца з п. п. П. Крэчэўскага, А. Цьвікевіча, В. Захаркі, Л. Зайца і Ц. Пракулевіча, каторая прысабечыла назову „Беларускага Ураду“ і каторая, апрача таго, завецца „Беларуская Рада ў Празе“, паслала Радзе Лігі Народаў заяву аб тым, што п. Вацлаў Ластоўскі ня ёсьць беларускім прадстаўніком і ня мае права выступаць у абарону беларускага насяленьня,

константуя, што:

1) у заяве гэтае групы няма праўды, бо п. В. Ластоўскі ў справе абароны перад цывілізаваным сьветам і яго установамі уціснутага Палякамі беларускага насяленьня ёсьць запраўдным прадстаўніком беларускага грамадзянства і Беларускага Народу;

2) ё яна (гэна заява) адначасна антыгуманнай, бо перашкаджае абароне Беларускага Народу Заходняе Беларусі, каторага Палякі нялюдзкім спосабам прасьледуюць;

3) ё яна такжа антыбеларускай і амаральнай, бо дзеля асабістых інтэрасаў жэртвуе доляй Беларускага Народу.

Беларускі Сялянскі Саюз пастанавіў а'бявіць гэтую рэзалюцію беларускаму грамадзянству і „Камітэту Панявольных Польшчай Народаў".

Перад выездам з Жэнэвы „Камітэт паняволеных Польшчай Націй" зрабіў рад візытаў да дэлегацій паасобных дзяржаваў і быў прыняты у поўным складзе старшынёй пленуму Лігі Націй др. Моттэ.

# Аб нацыяналізацыі чырвонных войск.

Мінуў год, як у сталіцы Сувязі Рад. Сац. Рэпублік адбылася 2-ая ўсевайсковая нарада загадчыкаў школьных аддзелаў, палітычных кіравецтваў Вайскавых Акругоў, Армій і Флёту (20 — 26 травеня 1923 г.). У кніжцы „Итоги и перспективы школьного строительства в красной армии", выданай у ліку 5000 экз. ў Маскве (1922 г.), апісана гэтая цікавая нарада, якая адбылася пры бытнасьці культурных працаўнікоў амаль не ад усіх акругоў і армій.

У сваім спавешчаньні памочнік загадчыка Аддзелу агітацыі і прапаганды Палітычнага Упраўленьня Рэвалюцыйнай Ваеннай Рады Сувязі, п. Шыфрэс, паміж іншым сказаў:

„У нашым чырвоным войску ёсьць значны лік украінцаў, татараў, беларусаў і інш. Калі у Закаўказьзі мы маем тры нацыянальныя дывізіі, дзе вучэньне вядзецца ў роднай мове чырвоных жаўнераў, дзе камандзерскі і палітычны корпус належаць да тэй самай нацыянальнасьці, што й жаўнеры, калі ў гэтых дывізіях нам няма чаго баяцца нязгоды паміж маскалямі і інш. нацыямі, — іначэй стаіць справа ва ўсіх іншых часьцёх чырвоннага войска, дзе украінцы, татары, беларусы ўлучаны асобнымі групамі і групоўкамі да масы жаўнераў-расейцаў.

У гэтых частках чырвонага вайска жаунераў іншай народнасьці мы навучаем граматнасьці не сваёй, але маскальскай. Іхнім камандзерам і палітычным працаўніком ня будзе ні украінец, ні татарын, ні беларус, але ў пераважнай большасьці — маскаль. І калі мы да гэтага часу яшчэ не зарэгістравалі ніводнага выпадку непаразуменьняў і нацыянальнай варажасьці на гэтым грунце, дык толькі дзеля тэй няўвагі, якую наш маскальскі, на 99% палітычны, апарат выяўляе ў стасунку да гэтага пытаньня.

І пэўне, калі Палітычнае кіравецтва Украінскага Вайсковага Округу што кольвек рабіла ў гэтым кірунку, дык Паліт. Кіравецтва Прыволжскага

В. О. працавала так, быццам ніводнага татарына ў яго часьцёх нямя, а Паліт. Кіравецтва Заходняга фронту, — быццам тамака ў часьцёх нямя ніводнага беларуса.

Я пэўны, што калі вы уважна спраўдзіце ўсё тое, што мела мейсца ў часьцёх вашага округу, вы пераканаецеся ў тым, што справа гэта ня зусім гладкая, як здаецца, што чырвоны жаўнер-украінец з большай прыемнасьцю вучыўся-б украінскай граматнасьці і з большай ахвотай служыўбы пад загадам камандзераў і палітычных працаўнікоў, якія говарылі-бы з ім на яго роднай мове.

Нам у бліжэйшай будучыне прыдзецца ў сувязі з ўсім тым, аб чым я казаў, паправіць сваю лінію працы сярод чырвоных жаўнераў немаскальскай націянальнасьці. Я не магу яшчэ даць акуратнага пляну нашай працы ў гэтай галіне. На гэтай нарадзе нам трэба толькі перш за ўсё абмяняцца сподумкамі па закранутаму пытаньню, праверыць стан справы ва ўсіх акругох і сказаць, што гэтае пытаньне і гэтая праца павінны стаць тэй трэцьцяй пазыціяй, якую мы павінны будзем заняць у бліжэйшай будучыне".

Разпачалася дыскусія.

Забраў голас п. Цукерман, прадстаўнік Паліт. Кірав. Украін. В. О. Ён адзначыў, што праца на Украіне пачалася у 1921 годзе з „учета" украінцаў „Вынікі былі зусім нечаканыя: украінцаў на Украіне не аказалася, бо чырвоныя жаўнеры запісываліся маскалямі".

„Перашкаджае працы нястача вучыяцялёў. Атрыманы загад правясьці ў войсках навучаньне украінскай мовы камандзераў і палітычных працаўнікоў; робяцца захады, каб завясьці украінскую мову ў школах дзеля украінцаў".

П. Каневскі (Асобная Каўказкая Армія) аб украінцах заявіў: „справа стаіць слаба, няма палітычных працаўнікоў, якія умеюць мову. У апошні час паднята пытаньне аб тым, каб атрымаць хоць-бы палітычных кіраўнікоў („політрукаў"), гаворачых па-украінску... У апошні-жа час заўважана, што чырв. жаўнеры-украінцы, навучыўшыся чытаць па расійску, усільна дамагаюцца украінскай літэратуры".

П. Смірнова (Туркестанскі В. О.) „.. Востра стаіць пытаньне з ліквідацыяй няпісьменнасьці сярод украінцаў, бо няма ні вучыцялёў ні лемэнтароў. Дзеля гэтага праца сярод іх вялася па-расійску. У будучыне, пры фармаваньні частак, прыдзецца вытрымаць некатарае змаганьне, бо трэба будзе зрабіць націск на адпаведныя установы, каб набыць патрэбных працаўнікоў..." П. Шыфрэс задае пытаньне: „ці ня было перашкод ў навучаньні украінцаў па-расійску і як яны да гэтага ставіліся?" П. Смірнова адказала: „Асобных перашкод не было. Пэўне, украінцы заяўлялі жаданьне вучыцца па-украінску, але не пярэчылі, калі навука вялася па-расійску. На навучаньне па-расійску глядзелі яны не як на мэту, але толькі як на спосаб навучыцца чытаць. Навучыўшыся, яны пыталіся украінскай літэратуры".

У іншых акругох праца з украінцамі вялася па-маскальску, бо паводле спавешчаньня п. Кузнецова (Маскоўск. В. О.) „культурных сіл мала, а тыя, што ёсьць, закажаны націяналістычнымі настроямі".

У канцы давялося пачуць зьезду і мудрыя словы п. Еўдакімава — прадстаўніка „Пузапа" (Паліт. Упр. Заходняга Фронту). Да яго прамовы варта прыслухацца:

„З украінцамі справа стаіць так сама, як і ў іншых акругох.

Цяжкая справа і з Беларусамі. Няма ведама, на якой мове навучаць няпісьменных дапрызыўнікаў і чырвоных жаўнераў у міліцыённых частках: на маскальскай ці беларускай. Асоб, умеючых беларускую мову ў Беларусі няма („Лиц, знающих белорусский язык, в Белоруссіи нет“). Чыста беларуская мова істнуе толькі ў пісьменьніцтве. Мова-ж, якой гавораць, асабліва ў вёсках, ёсьць мешаніна моваў: маскальскай, польскай, беларускай і часткаю украінскай. Настаўнікаў, умеючых белярускую мову, мы нідзе ня знойдзем. Што датыча самых чырвоных жаўнераў, дык яны саромяюцца, калі гавораць па-беларуску. Цяпер Беларусь складаецца з 4 паветаў, і нет ведама, ці патрэбна правадзіць навучаньне на беларускай мове. Калі-б давялося правадзіць навучаньне на ёй, дык гэта было-б дужа цяжка, — амаль немагчыма“.

Гарачаму абарноцу маскальшчыны і, мусі, сьвята шанаючаму запаветы сьв. памяці П. А. Сталыпіна — пану Еўдакімаву быў прымушаны адказаць сам п. Шыфрэс: „Таварыш з Заходняга фронту намагаўся давясьці, што беларускай нацыянальнасьці, ўласьне кажучы, няма саўсім у прыродзе. Таварыш, бязумоўна, памыляецца. Беларуская вёска—гэта самая забітая, самая паніжаная, самая убогая *). Яна ўвесь час была пад маскальскім або польскім нацыянальным уціскам. Але мы будзем падвышаць гаспадарку і культуру беларускай вёскі. Бо мы — Радавая ўлада. І па меры таго, як будзе йсьці наперад разьвіцьцё беларускай вёскі, беларускі селянін прыпомніць усе старыя нацыянальныя крыўды. І калі ён назвочна не пераканаецца, што яго нацыянальнай культуры у рамках Радавага ладу даецца поўная воля разьвіцьця, ён тады пойдзе не з намі, але супроць нас“.

Ось, якія прамовы чулі удзельнікі нарады.

Што-ж зрабілася праз год?

У „Красной Звезде“ — афіцыяльным органе чырвонага войска — час ад часу друкуюцца цікавыя ведамкі з мейсц. Сярод іх асабліва прыемных вестак што да нацыяналізацыи ня знойдзем.

Напрыклад, гэтая газэта падае такія ведамкі:

„На Украіне ёсьць „Объединенная школа красных старшин“, дзе толькі два дні на тыдзень чуваць маскальскую мову (№ 35), ёсьць тюркская вайскова-палітычная школа (№ 5), украінізуецца гэт. зв „Перакопская“ дывізія (№ 65)“... Адным словам, у іншых краёх Сувязі таксама што кольвек робіцца, каб благія языкі не казалі аб поўным абмаскаленьні ўсіх рэспублік Сувязі.

Толькі аб культурна-нацыянальнай справе у вайсковых частках сярод беларусаў гэтая газэта не падае жадных ведамак. Нат у спавешчаньні (у № 3 „Красной Звезды“) аб нарадзе клюбных працаўнікоў Заходняга Фронту ня ўспомнена, хоць адным словам, Беларусь. Але затоя у № 55 „Красная

*) Шыфрэс паходзіць, здаецца, з беларускіх жыдоў.

Звезда“ падае, што шэфства над Менскімі пешымі курсамі прыняў славэтны Менскі Унівэрсытэт, аб беларускасьці якога можна судзіць з яго друкаваных „Трудоў“, што маюць на 100 старонак маскальскага тэксту 10 радкоў беларускага.

Нічога ня піша аб Беларусі і беларусызацыі войска і пан А. Д. у статьці „Итоги сбора в Белорусской дивизии“, надрукаванай у 28 ым сшытку паважанага органу Заходняга Фронту „Революция и война“ (14—16 стр.)

Аднак, ў адным з апошніх нумароў (70) „Красной Звезды“ есьць цікавая запіска аб „нацыянальным пытаньні у Беларускай дывізіі“, дзе гаворыцца аб апошняй партыйнай дывізыённай канфэрэнцыі. Канфэрэнцыя „вымагае ня толькі уважнага адношаньня да мовы і культуры Беларусі, але і сумленнага навучаньнеся беларускай мовы і беларусазнаўства наагул... Навуку беларускай мовы пасьля канфэрэнцыі паглыбіць і вясьці гэткім тэмпам, каб хутчэй перайсьці да яе ва усіх стасунках з чырвонымі жаўнерамі-беларусамі“. У першы чарод хочуць беларусызаваць дывізыённую школу каманднага складу (быўшая „учебная“ каманда), у якой адразу перайсьці да выкладаньня агульных і палітычных ведаў па-беларуску. Не забылася канфэрэнцыя жыдоў і палякаў, якім забасьпечана у белар. дывізіі карыстаньне роднай мовай у палітычнай і асьветнай працы. Утворана, нават, камісія па перакладу на беларускую мову статутаў і падручнікаў па ваяўніцтву, будуць прасіць у цэнтры аб выдзяленьні асобнага друкфонду для дывізіі; складаецца каляндарны плян пераходу дывізіі на беларускую мову „с соблюденіем боеспособности“ і г. д.

Аднак гэта беларусызацыя сустрэла няпераможную перапону: аказалася, што у беларускіх частках каманды і часткова жаўнерскі склад — не беларускі. Трудна было выпадковым на Беларусі людзём пераняцца беларусызацыяй. Дзеля гэтага пад націскам Беларускай Камуністычнай Партыі была утворана „Беларуская тэрыторыяльная дывізія“.

У гэту дывізыю сагналі ураджэнцаў Беларусі ужо акуратна зрусыфікаваных ў расійскіх частках.

Утварылася дывізія, — і трэба пачынаць беларусызацію яе, але:

„У пачатку гэтай працы зачаліся спрэчкі паміж працаўнікамі наконт разуменьня самога слова—„беларусызацыя“.

Некатарыя гаварылі, што беларусызацыя — гэта камплектаваньне дывізіі беларусамі па нацыянальнасьці, а беларуская мова, культура і г. д. — пытаньне другой чаргі“ („С. Б.“ № 252).

Урэшце „беларускі шовінізм“ перамог, — пачалася праца:

„Некатарыя часьці (як дыўшкола) энэргічна узяліся за гэтую справу а некатарыя, і нават большасьць, — надта млява. Праўда, размяркаваньне заняткаў было зложана ўсюды, але праводзіліся яны абыяк. Прысутнічала (хадзіла на лекціі) 5 — 10 чалавек, галоўным чынам — малодшы камандны склад і малодшыя пісары, а большасьць складу жаўнераў (90%) і ўвесь старшы і вышэйшы комсклад мабыць і ня думаў, што вывучэньне мовы яго датычыць“ („С. Б.“ № 252).

Што да розных намечаных камісій, то пасьля году іх працы даведываемося:

„Аб працы першай Камісіі (па перакладу статутаў) сказаць пакуль што нічога ня можна, бо яна цяпер займаецца падборам матэр’ялаў.“

Гэтак пад апекай Комінтэрну разквітае беларусызацыя ў беларускай арміі.

Дзіўна толькі, якім гэта спосабам і калі няўмеючая і часта неразумеючая расійскай мовы беларуская вясковая моладзь забывае родную мову ў войску, калі аб русыфікатарскай рабоце усе радавыя часопісі маўчаць, а аб беларусызацыі крычаць як могуць?..

Ротмістр К-скі.

---

Ю. В.

# Пляновая асыміляцыя.

У сталіцы Беларускай (Крыўскай) Радавай Рэспублікі — Менску пяты год выходзіць штодзенны орган Беларускай Камуністычнай Партыі „Савецкая Беларусь“. Ужо сам агаловак штодзеньніка — „Савецкая Беларусь“ паказуе, які там размах мае русыфікацыя, калі рэдактараў гэтае газэты не разіць такі барбарызм, як слова „Савецкая“. Наша мова мае сваё слова для перадачы паняцьця „савет“, гэта—„рада“. Дык і трэба было-бы пісаць „Радавая Беларусь“.

Далей, калі зьвярнуць увагу на словасклад і звароты мовы, якой напісана ўся гэта газэта, то лёгка праканацца ў тым русыфікацыйным уплыве, пад якім (самахоць ці па занедбаласьці?) знайходзяцца супрацоўнікі рэдакцыі паважанай часопісі.

Для прыкладу падамо некалькі выпісак з кіраўнічага органу Радавай Беларусі „С. Б“. Пры гэтым, годна увагі тое, што большасьць новатвораў „С. Б.“ зьяўляецца перакручанымі па жаргоннаму расійскімі словамі.

Вопыт мінулага (№ 193), рас: „опыт прошлого“, замест „практыка мінуўшага, ці мінуўшчыны“.

Неабходнай умовай (№ 193), рас.: „необходимым условием“, замест — „абавязковым варункам“.

Толькі на падставе улічэньня якстаноўчых так адмоўных бакоў (№ 193). Гэты завілы сказ зьяўляецца даслоўным перакладам расійскага: „Только на основании учета как положительных, так и отрицательных сторон“. У нашай, як і ў другіх славянскіх мовах, ёсьць словы „бок“ і „старана“, але няма ніякай рацыі „старану“ замяняць „бокам“. Слова „улічэньня“ гэтак сама—брыдкі барбарызм, які мае ў нашай мове сваё слова „падрахунак“ —„падрахунку“.

Швэйнай прамысловасьці (№ 193), рас.: „швейной промышленности“, замест: „кравецкай прамысловасьці“.

Жывёлаводзтва (№ 192), рас.: „скотоводство“, замест нашага „гадоўніцтва“.

Праўленьне (№ 192 і скрозь), рас.: „правление“ замест „кіравецтва“. Кожды беларус (крывіч), слова „праўленьне“ зразумее ад „правіць“ нешта папсаванае, але ніяк не дагадацца, што гэта павінна значыць кіраваньне нейкай установай.

Снабжэньне сродкамі (№ 191 і скрозь); узята жыўцом з рас.: „снабженіе“, слова цалком кніжнае, г. зн., штучнае, нечуванае і дзіка

гучачае ў нашай мове, замест крыўскага „дастача“, „дастачаць“, „дастатчык“.

Рычажок культурнага пад’ёму (№ 190), замест „вага, важка культурнага уздойму“.

Можна запутацца (№ 190), замест: „можна заблутацца“. Путаюць у нас толькі коней путамі, а аб мысьлях, справах кажуць „блутаць“, „блутаюць“.

Выхаваўчаму удзейнічаньню (№ 190), рас.: „воспитательному содействию“, знача, па-нашаму: „выхаваўчай дапамозе“

Усвоілі (№ 190), жыўцом расійскае слова; па-нашаму: „прысвоілі“.

Вучасткі зямлі (№ 190 ў значэньні „дзялянкі зямлі“.

Перэўвялічываць (№ 190), жыўцом рас „переувеличивать“, знача: „перавялічаць“.

У абыходзе (№ 190 і скрозь), жыўцом расійскае: „в обиходе“, знача: „ў штодзеншчыне“.

Замыславатыя (№ 190), жывы русыцызм; трэба: „завілыя“.

Учот рэчаў абкладкі (№ 190). Па нашаму „абкладка“, „акладка“ бывае на кнізе. Аўтар відаць хацеў сказаць: „Падлічаньне рэчаў ападаткаваньня“.

Пасьпяхова (№ 197), замест: „пасьпешна“.

Вопыт (№ 197 і скрозь), замест: „практыка“.

Будуюць новыя сялібы на хутарох (№ 187). Слова „хутар“ у нашай мове—чужое, украінскае, яно роўназначна нашаму „сяліба“, адгэтуль—„сялібнік“, „сялібніцтва“, „сялібарства“. Дык „сяліба на хутарох“—масла масьлянае.

Выгадаваліся на шпальтах нашай газэты (№ 188). Папершае, трудна гадавацца на газэце, а па другое, замест нямецкага „шпальта“ ўсе менскія друкары ўжываюць слова крыўскае (беларускае) „гранка“; дык ужо хіба яны „гадаваліся на гранках газэты“.

Рамонтная праца ў партох (№ 188). Па-нашаму „парты“ — тое-ж, што і „порткі“, г. зн., вопратка на ногі; кажуць яшчэ „нагавіцы“, „ганавіцы“. А так, як першае слова французкае, нечуванае, то чытач „Сав. Бел.“ так і астаецца ў пераконаньню, што недзе нейкая вялася праца ў нейчых „партох“. Сказ гэты быў бы зразумелы тады, каб было напісана: „адбудоўчая праца ў тарговых прыстанях“.

Беражліва адносіцца (№ 189), замест: „уважліва адносіцца“.

Узнос падаткаў (№ 189). У нашай мове прыстаўка „уз“ паказуе скрай чаго што знаходзіцца: „узлесьсе“, „узрэчча“, „узпечча“. Дык і ў даным здарэньні атрымліваецца ўражаньне, што нешта знаходзіцца наўскрай носу. Відаць хацелі выразіць: „аплата падаткаў“.

Агульнае становішча (№ 182). Па-нашаму „становішча“ гэта мейсца, дзе стаяў „стан“, „абоз“ ці (кажучы мовай „Сав Б.“) „лягер“; так сама, як: „гарадзішча“, „торжышча“, „пагарэлішча“ і інш. Кажуць: „агульны стан спраў, рэчаў“.

Водпуск грошай (№ 182). Брыдкі жаргон з рас. „отпуск денег“. Трэба: „асыгнаваньне грошы“.

Ураган (№ 210), жыўцом расійскае слова замет „склока".

У гэтым напрамку (№ 210 і скрозь), замест: „ў гэтым кірунку".

Прыняты ўсе меры (№ 210 і скрозь), жыўцом расейшчына, замест: „зроблены захады".

Вучэбнымі пасобіямі (№ 210 і скрозь), замест: „вучомнымі падручнікамі, прыладамі".

Ажыўшы муравейнік (№ 206), замест: „ажыўшы мурашнік", бо па-нашаму не „муравей", а „мурашка".

Вокруг (№ 206 і скрозь), замест: „аколіца", „кругаколіца".

У трупе Галубка (№ 206 і скрозь). Кожды чытач зразумее, што ёсьць недзе труп Галубка, ў якім нешта мае стацца, а тымчасам паважаная Рэдакція хацела гэтым сказаць, што артыстычная дружына Галубка гатуецца даць прадстаўленьне.

Шляхавая справа (№ 206), нязручны новатвор паводле расійскай складні. Трэба: „справа шляхоў".

Вайсковы пабыт (№ 204). Плямы пабыту (№ 205), перажарганаваны нязручны украінізм.

Нормы перарахунку сенажацяў у пашню (№ 201). Архаічнае слова „пашніца", у нас азначае не ральлю, а тое, што сеюць: „жыта і пшаніцу, ўсякую пашніцу". „Запахаў авёс", знача не заараў яго, а засеяў. Слова „пашніца" зьяўляецца архаізмам, сустрачаным ў песеннай толькі мове і ў значэньні сяўбы, сеянага. Тут-жа ужыта расійскае „пахота" перажарганаванае ў „пашню" ў значэньні „ральля", „аромiна".

Умацовуюць смычку (№ 201 і скрозь). Саўсім дзікі новатвор. Замест: „умацовуюць сувязь".

Балаховіч вылазіць на паверх (№ 199). Дзеля таго, што слова „паверх" у нас тое-ж самае значыць, што у расійцаў „этаж", то і атрымліваецца ўражаньне, што Балаховіч вылазіць недзе на паверх не кай будыніны.

Ячэйка (№ 199 і скрозь), замест: „завязь".

Нагласць польскіх паноў (№ 196), чысты русыцызм і складні, акром таго рас. „наглость" тлумачыцца на нашу мову „нахрапнасьць". „Сьмерць нахрапам бярэ".

Барацьба з пасьледкамі (№ 194), замест: „змаганьне з вынікамі".

Дурман (№ 252), па нашаму „дурэц".

Учытывать камандзераў (№ 252), замест: „падлічаць".

Заняткі (№ 252), замест: „заняцьці".

Прысутнічала (№ 252), замест: „была пры тым", — „прытымбытнасьць".

Справа абстаяла (№ 250), чысты русыцызм.

Уточнены артыкулы (№ 250), замест: „акрэсьлены артыкулы".

Зямельнае вобчаства (№ 250). Слова „вобчаства" заводзіў у нас царскі урад, і яно заўсёды разьбівалася аб нашае „грамада". Каму і нашто запатрэбілася мярцоў зноў на сьвет выцягаць?

Бар цьба (№ 250). У нас маюцца два словы для акрэсьленьня гэтага паняцьця: „барацьба“ і „змаганьне“. Першае ужываецца ў значэньні фізычным: узяцца за плечы і бароцца; другое ужываецца ў значэньні адвалочным. Дык і тут, мова аб змаганьні з капіталам, а не аб фізычнай барацьбе з ім.

Бездазорнасьць (№ 249), замест: „бездагляднасьць“.

Узорная школа (№ 249), жывы полёнізм: „szkoła wzorowa“, замест: „спаказная“, або „наўпрыкладная“ школа

Даклад (№ 245), замест нашага: „спавешчаньне“, — „спавяшчаць“ (докладывать), „спавестнік“ (докладчик).

Кнігарням робяць ськідку (№ 244), замест: „кнігарням робяць уступку“.

Розных прадметаў (№ 243), замест нашага старога: „розных аб'ектаў“.

З гістарычнай практыкі ведама нам, да чаго гэткая асыміляцыя давяла нашу мову ў XVI ст.: давяла яна да таго, што ужо ў XVII ст. крыўская кніжная мова сталася аднолькавай з польскай. У некатарых помніках рожніца між аднэй і другой была толькі ў літарах, дык урэшце-рэшт крыўская (беларуская) мова, як мова палітычна слабейшай нацыі, павінна была уступіць мейсца польскай. Калі-ж у Радавай Беларусі (Крывіі) пойдзе далей такая асымілятарская работа, то ці ня станецца гэта самае і другі раз? Гісторыя, кажуць, паўтараецца...

А ў Радавай Беларусі (Крывіі) шмат спрыяючых гэтаму варункаў. Унівэрсытэт, у якім выкладаюццы лекціі ў чужых мовах, названы Беларускім. Школы бяз кніжак і вучыцялёў, вёска засыпаецца расійскімі агітацыйнымі друкамі.

Каб ня быць галаслоўнымі, падамо некалькі фактаў.

Лекціі у Менскім Унівэрсытэце чытаюцца па-расійску; знача, замест аслаўленай і разкрычанай „беларусызаціі“, вядзецца нахрапная „маскалізація“. Унівэрсытэт што-году выдае свае „Труды“, якія на 100 балонак друку маюць 10 радкоў ў беларускай (крыўскай) мове.

Аб праўдзівым палажэньні сярэдняй школы часам прасьлізаюць весткі ў „С. Б.“, прыкладам ў № 250 ад 28. X. 1924 г., у карэспандэнціі з Талочына (Аршаншчына) кажацца:

„У Талочынскай сямёхгадовай школе заняткі ідуць ужо некалькі тыдняў. І беларускую мову прыходзіцца выкладаць без ніякіх кніжак. У школе ёсьць адзін лемэнтар, па якому вядзецца навучаньне ў нулявой і першай групах“.

А тымчасам у гэтым-жа Талочыне з 1910 году істнавала патайная беларуская школа, і аколіца яго — сьвядомыя беларусы.

Ведама-ж, калі няма беларускіх кніжак, то вучаць на расійскіх, а ці-ж гэта не тая-ж самая, што і за часы царскай ўлады, — русыфікація?

У № 191 „Сав. Бел.“ ад 20-VIII-1924 г. у карэспандэнціі з Барысаўшчыны, тая самая ціхая і асьцярожная жальба:

... „адсутнасьць у школьных, цантральнай і клюбных бібліатэках беларускай літэратуры, а ў гарадзкіх кнігарнях — беларускіх падручнікаў“.

Палажэньне на вёсцы яшчэ горшае: „культурная праца у гэтых вёсках спынілася саўсім (мова аб вёсках Барысаўшчыны): газэты не чытаюцца, ніякія гутаркі з сялянамі не праводзяцца і г. д.“

А вось яшчэ карэспандэнція з Магілёва („Сав. Бел“ № 203 ад 3-IX-1924 году):

„Надыходзіць ужо час заняткаў у Магілеўскім пэдагогічным тэхнікуме, а разам і ў вопытна паказальнай школцы (практычна-спаказнай Рэд.) пры тэхнікуме. Заняткі хутка пачнуцца, але пытаньне—на якой мове пачынаць? Асабліва гэтае пытаньне датычыцца да паказальнай сямёхгодкі. Такое пытаньне паўстае таму, што Магілеўскі пэдагогічны тэхнікум лічыцца беларускім, а з гэтай прычыны мае пры сабе і беларускую паказальную школу, якая ня мае ніводнага беларускага падручніка... Дзіцяці трэба будзе даць беларускі лемэнтар, а яго нямашака у школцы ды і няма наагуль ва ўсім Магілеве“.

А у Слуцку:

„Беларусызацыя школ тут праводзіцца ужо трэці год, але пакульшто, далей трох груп не сягнула. Праўда, летась былі спробы асобных настаўнікаў выкладаць на беларускай мове і ў чацьвёртай групе, але ў гэтым годзе яны ўжо загінулі. Трэба сказаць, што ня ўсё добра ідзе і ў першых трох групах, бо ў трэцяй прыродазнаўства і грамадзяназнаўства вядзецца на расійскай мове... Ды наагул, нават і асобныя дыстыпліны беларусазнаўства ня ўсюды выкладаюцца. Так, выкладчык географіі яшчэ не распачаў да гэтага часу выкладаньня геаграфіі Беларусі“...

Гэткія жальбы вырываюцца толькі з грудзей сьвядомых сыноў зямлі, у большасьці-ж школ сядзяць русыфікатары, якія з данага палажэньня здаволены, і ўся іх работа па „беларусызацыі“ агранічаецца многаслоўнымі карэспандэнціямі аб тым, што „будзе зроблена“ або аб тым, што „вынесена шмат карысных пастаноў“.

Як, і ў якой прапорціі засыпаецца беларуская (крыўская) вёска чужой літэратурай, дае данныя адна карэспандэнція з Асіповіцкага павету („Сав. Бел.“ № 182, з 9-VIII-1924):

„З падпіскай на газэты справа стаіць добра. За жнівень выпісаны газэты: „Гудок“ (175 экз.), „Праўда“ (33 экз.), „Известия“ (14 экз.), „Звезда“ (7 экз.) і „Савецкая Беларусь“ (1 экз.)“.

І мімаволі, чытаючы Радавыя часопісі, прыходзіць на мысль сумная думка: ці вытрымае гэту асымілятарскую навалу наш народ? Асабліва, калі чытаеш аб такіх надзвычайныхъ націянальных здабытках ў пяты год істнаваньня Радавай Беларусіі, як пазваленьне „прыймаць тэлеграмы на беларускай мове ў межах Беларусі“ („Сав. Беларусь“, № 189, з 17-VIII-1924 г.). На ўсім сьвеце даўным даўно прыймалі і прыймаюць тэлеграмы ў беларускай мове: у Франціі, Італіі, Нямеччыне, Чэхіі, Англіі, Амэрыцы і інш. А ў Сувязі Радавых республік толькі ў гэтым годзе пазволена карыстацца на тэлеграфе мовай беларускай і то—толькі ў межах Рад. Беларусі!

Гэты апошні факт зьяўляецца мерай і вагой ўсей тамтэйшай „беларусызатарскай“ работы.

# ЗАПІСКІ.

АБ НАЙМЕНЬНІ „КРЫВІЧЫ". У пачатках гістарычных часаў тэрыторыя ад Дрогічына да Вялікага Ноўгараду і ад Вязьмы да Чарнігава выступае пад найменьнем крыўскай зямлі. Як ведама, ўсе усходна-славянскія землі ў IX—XII сталецьці былі падбіты немцамі-Варагамі, якіх у нас называлі Русамі, пераняўшы гэтае апошняе найменьне ад Фінаў. Гэтых „находнікаў" Русаў Пачатны Летапіс строга адрожнівае ад мяйсцовых славянскіх плямён, гэтак пад 862 годам чытаем:

„И идоша за море к Варягом, к Руси, сице бо ся звахуть Варязи Русь, яко се друзии Гъте, тако и си Русь". ...и отъ тѣхъ Варягъ прозвася Руская земля... преже бо бѣша Словени".

А далей летапісец паясьняе:

...„отъ Варягъ бо прозвашася Русью, а первое бѣша Словѣне, аще и Поляне звахуся, но словѣнскаа рѣчь".

У І-м Ноўгародскім летапісе сказана:

...„и отъ тѣхъ Варягъ, находникъ тѣхъ, прозвашася Русь, словетъ Руская земля".

У XI—XII стагодзьдзях імя „Русь" сталася прыналежнасьцю пануючай клясы, якая засымілявалася ужо са славянамі, і, відаць, падобна як і у нашы часы, патрэбен быў асаблівы націск на тое, каб вытлумачыць, што Русь нічога супольнага ня мае з падбітымі славянамі, дзеля гэтага летапісец робіць яшчэ націск на гэта:

„Се бо токмо словенск язык в Руси: Поляне, Деревляне, Новгородци, Полочане".

Крыўскія землі, як ведама, ніколі ня былі ўсе пад ўладай русаў. Полацкая зямля станавіла асобную палітычную адзінку, і дзеля гэтага палітычна імя „Русь" не разпасьцягалася на яе, — яна далей носіць сваё старое імя „Крывія". У стасунку да Полацкай зямлі імя „Крывія" сустрачаем:

а) у Лаўрэнціяўскім летапісе пад 1127 годам;

б) у Іпаціяўскім пад 1128 годам: „посла князь Мстиславъ братью свою на Кривичѣ четырми пути"; пад 1140 годам названы полацкія князе „Кривитьскими"; пад 1162 годам: ...съ кривськими князьми"...;

в) у Хлебнікаўскім сьпіску полацкія князе названы „Кривскыа";

г) у Васкрэсенскім сьпіску, пад 1129 г. „пославъ по Кривскіе (полацкія) князи".

В. Л.

АКАДЭМІК ШАХМАТОВ АБ ІМЕНІ „РУСЬ". Памершый ў часе ўсясьветнай вайны сябра Расійскай Акадэміі Навук, праф. Шахматов, апублікаваў ў 1914 годзе праз Расійскую Акадэмію Навук сваю працу: „Сказаніе о призваніи Варяговъ", у якой на 56 балонцы аб назове „Русь" кажа:

„Яшчэ ў XVIII ст. Тунманн зьвязаў гэту назову з фінскім найменьнем для Швэціі Ruotsi. Найменьне гэтае можна прызнаць агульным для ўсіх заходна-фінскіх дыялектаў; зраўняй Эстонск. Rôts, ў мове Воді (каля Нарвы)—Rôtsi, Ліўскае—Rûotsi,

Швэдаў Фіны называюць Ruotsalainen, Эстонцы—Rôtslaie, Водь—Rôtslainê, Лівы—Rùotsli.

Форма „Русь", як заўважыў і Томсен, так адносіцца да Ruotsi, як старасьвецкае Сумь (якое сустрачаецца ў летапісных артыкулах XIII ст., Сынод. и др. сьпісках Ноўгародзк. 1-й) да фінскага Suomi.

Мне здаецца, што элемэнтарныя мэтодолёгічныя мяркаваньні не пазваляюць адлучыць сучаснае фінскае Ruotsi ад імя „Русь".

З аднэй стараны ясна, што Варагаў, г. зн., Скандынаўцаў заправды на ўсходзе называлі „Русь", Rós... Зраўняй зьменку Бэрцінскіх аналаў аб тым, што людзі, якія зьявіліся ў Канстантынопалі ў 839 годзе і якія самі сябе называлі Ros, аказаліся, пасьля патрэбных выведаў, швэдзкага паходжаньня (eos gentis esse Sueonum); пісьменнік X ст. Ліудпранд двойчы атожсамлюе Русаў (Rusii) з Нарманамі (Nordmanni); Канстантын Багранароды процістаўляе Русі (Ros) славянаў (Крывічоў, Лучанаў і др.), а падаючы назовы Дняпроўскіх парогаў, пад rosioli разумее стара-скандынаўскую мову, што відаць і з самых гэтых назоў; арабскія пісьменнікі, прыкл., Ібн-Даст, так-жа процістаўляюць Русь (Rûs) славянам.

З другой стараны бачым, што краіна Варагаў, г. зн.Швэція, называецца „Русь" Фінамі (Ruotsi) і дагэтуль.

Дзеля гэтага, ня можа быць, як здаецца, ніякага сумневу, што да тожсамнасьці назову „Русь", дадзенага Варагамі Славянам, з назовам Ruotsi, які знача у Фінаў краіну гэтых самых Варагаў.

Нас можа не цікавіць этымолёгія імя „Русь"; этымолёгія гэтага імя, якой-бы яна ня была, ня можа нарушыць выводу, што Фіны і Славяне назвалі Скандынаўцаў „Русьсю".

Пакажу на праўдападобнасьць запазычаньня акурат ад Фінаў гэтага імя для азначаньня Варагаў. Фіны былі тым пасярэднім цэнтрам, праз які Варагі пранікалі да Славянаў. Ўспомнім, што бераге Балтыцкага-Варажскага мора былі заселены фінскімі плямёнамі; па Няве сядзела Водь, якая займала і палуднёвы бераг фінскай затокі, а на усьцях Дзьвіны і па ўзьбярэжжу Рыжскай затокі сядзелі Зямігала, Летгала і Лівы. Ўспомнім, што нават рачны шлях з Варагаў у Грэкі ішоў на поўначы праз фінскія краіны, толькі часьцю заселеныя Славянамі, якія ўрэзаліся клінам, сьпярша, відаць, вельмі вузкім, ў суцэльнае фінскае жыхарства, якое цягнулася ад берагоў Балтыцкага мора да Волгі і далей да ўсходу. Славяне запазычылі у Фінаў імя „Русь" для азначаньня Варагаў так сама, як яны запазычылі у іх-жа назовы рэк і вазёраў, засяляючы сабой пракавечна-фінскія землі. Гэтае імя „Русь" для азначаньня Варагаў перададзена Словенамі і Крывічамі такжа і палуднёвым славянскім плямёнам, перададзена так, як перадаюцца наагул запазычаныя словы".

А. С.

ІМЕНЬНІ З СУФІКСАМ-ІНЯ. Аднэй з важных цікаўных асаблівасьцяў. крывіцкае (беларускае) мовы зьяўляюцца назоўныя іменьні з суфіксам-*іня*, прыкладам: вялічыня, шырыня, глыбіня, даўжыня і г. д. Іменьні з гэтым суфіксам пашыраны па ўсёй чыста Крывіі (Беларусі). Прыкладаў на гэты суфікс знаходзім шмат паміж іншым у „Матерьялахъ Бѣлорусскихъ" №№ 4 Мог. г., 5 Слуцк[1]), 6 Дзісьн., 8 і 15 Ігумен., 7 і 23 Менск., 9 Бых,. 11 і 14 Новаалекс., 13 Сьвянц., 17 Рэчыцк., 25 і 29 Навагор., 28 Себеск.

У старых памятках крывіцкае мовы так сама маем словы з суфіксам-*іня*. Асабліва іх шмат у Бібліі Скарыны 1517 г.: дол*жиня* Б. 15, в дол*жиню* И 68 б і інш., шир*иня* Б. 15 і інш., выш*иня* Б. 15, во выш*иню* И 70, 72, свыш*ини* Бл. 4-б, глуб*иня* П. 36, во глуб*ини* Пр. 29 б; у зборніку XVI в.: выш*иня*, шир*иня* (Владим. „Обзоръ", 130). Статут Літ. 1588 г., верш Рымшы: „Дол*жиню* и широкость шнуром пазначити". У суфіксе-*іня і* заўсёды мяккое, цьвярдое яно бывае толькі тады, калі перад ім стаяць зычныя *р, ж, ч, ш*, якія ў крывіцкай мове мяккімі ня бываюць, прыкладам: цяпл*іня*[2]) блiз*і*ня, глыб*і*ня, але пярш*ы*ня, далеч*ы*ня, даўж*ы*ня, шыр*ы*ня.

У іншых славянскіх мовах суфікса-*іня* няма, там астаецца суф.-*іна*, прыкладам: ст.-баўг. глубина (glǫbina), нбўг.—высин*а*, вышин*а*, ширин*а*; сербхорв. глуб*и*на, шир*и*на, дуж*и*на, выш*и*на, вис*и*на; славен.—globina, širina, nižina; чэск. hlubina, menšina, vétšina; серб.—wyšina, nižina,

---

[1]) Скарочаныя словы як Слуцк і г. п. азначаюць паветы.

[2]) У фізыцы Трэпкі ўжыта „цяплыня" няправільна, у народнай мове скажуць толькі „цяпл*і*ня."

młodźina; польск. głębina; укр.—вишина, довжина; маск.—вышина, глубина, длина.

Другім цікаўным зьявішчам ё тое, што суфікс-*іня* ў крывіцкай мове істнуе ня толькі ў слоў, адпавядаючых ст.-слав. ці іншаславянскім з суф.-*іна*, але часта выцісну ў сабой іншыя суфіксы, як-*осьць*, *-ство*. Апрача вышэйуспомненых, прывяду яшчэ крыху слоў з суфіксамі-*іня*, якія я сам чуў у Ашмянскім павеце каля м. Крэва. Вось яны: ад таўсты—таўшч*ыня* і таўсьц*іня*, ціхі—цішы*ня* і ціх*іня*, чысты—чысц*іня*, просты—прасьц*іня*, добры—добр*ыня*, мяккі—мякч*ыня*, цьвярды—цьвярдз*іня*, салодкі—саладз*іня*, горкі—гарч*ыня*, цяжкі—цяж*ыня*, лёгкі—лягч*ыня*, быстры—быстр*ыня*, нізкі—ніз*іня*, густы—гусьц*іня*, моцны—мацн*іня*, гарачы—гарач*ыня*, худы—худз*іня*, дзікі—дзіч*ыня* ў значэньні абстрактным і „дзічына"—мяса дзікае птушкі; харошы—побач з *характво* ё і *харашыня*, дарагі—побач з дарагоўля, дарагатоўя, дарагоўя ё і *даражыня* востры—вастр*ыня*, брыдкі—брыдч*ыня*, грубы—груб*іня*, сыты—сыц*іня*.

Іменьні з суфіксам *-іня* маюць значэньне абстрактнае і толькі, як вынятак, ё „старшыня" з значэньнем конкрэтным. Ё як-бы й некалькі абстрактных, каторыя маюць-*іна* а ня-*іня*, гэта „дурн*іна*, стар*ына* і нав*іна*", але мне здаецца, што гэтыя тры словы даволі канкрэтызаваны: *дурніна* значыць якую-небудзь дробную, малазначную рэч або справу, тое, на што іншым разам скажуць „дрэнь", адпавядае маск. „ерунда"; „старына-ж і навіна" значаць старую або новую рэч ці вестку. Ад „танны" скажуць *таніна* (з—іна), мусіць, каб адрозьніць ад *таніня* (ад тонкі), якое могуць яшчэ вымавіць як *танчыня*.

Побач з іменьнямі, якія маюць суфікс *-іня*, ё шмат слоў з суфіксам-*іна*, але гэтыя апошнія значаць конкрэтныя рэчы, прыкл., „часіна, дубіна, вярбіна, сярэдзіна, мякіна, палавіна, жанчына, мужчына, дзяўчына" і шмат інш.

Іменьні на *іна* нашая інтэлігенцыя ўжывае добра, але суфіксы *-іня* пад уплывам суседніх славянскіх моваў, якія ня маюць гэтага суфікса, без патрэбы і на шкоду чысьціні мовы часта замяняюць іншымі суфіксамі. Каб гэтага ўсьцерагчыся, патрэбна запісаць і занесьці ў слоўнік усе словы на-іня.

Дык няхай кожны, хто цікавіцца роднай моваю і стаіць блізка да народу, прыслухаецца і запіша, ці скажуць у вас вышэйпрыведзеныя каля 40 слоў. Апрача таго адкажэце на пытаньні, як скажуць у вас *абстрактныя* (отвлеченныя) іменьні, адпавядаючыя ніжэйшым прыметам: рэдкі, крэпкі, дужы, слабы, слабкі, чужы, кіслы, прэсны, малы, роўны, чорны, белы, чырвоны, сіні, зялёны, жоўты, борзды, шпаркі, скоры, хуткі, ліпкі, шэры, меншы, вялікшы, большы, сытны, злы, позны, раньні, тупы, шчыры, крывы, сьветлы, цёмны, чэрствы, сьвежы, шыбкі, левы, правы, благі, хітры, тугі, пруткі, горды, сьпелы, гнілы, буйны, дробны, крупны, п'яны, цьвярозы.

Калі аднэй прымеце будзе адпавядаць некалькі абстрактных іменьняў з рознымі канчаткамі, дык запішэце іх і пакажэце, ці яны маюць сусім аднолькавае значэньне, ці мо разьняцца адценкамі. Запісуючы, пастарайцеся запісаць з *вусн народу* і фразу, у якой запісаванае слова было-б.

Не забудзьцеся адзначыць (адцеміць), у якой мясцовасьці слова запісана, прозьвішча таго, у каго чута, ступень пашырэньня слова з даным суфіксам (на колькі ўжываецца у старых, маладых, даўней і цяпер і г. п.) і па магчымасьці яго тэрыторыю. Ня верце ніколі сабе, але пастарайцеся *пачуць*. Стаўце націск. Усё запісанае прысылайце ў рэдакцыю „Крывіча", дзе яно будзе надрукавана[1]).

ГУК *Т* ПЕРАД МЯККІМ *В*. Усімі прызнана, што ў крывіцка-беларускай мове *т* перад мяккім *в* пераходзіць у мяккае *ц*[2]), прыкладам: Мацьвей, лацьвей, цьвярды, цьвярозы і г. п. Зьяўляецца пытаньне, ці будзе таксама Ліцьве, біцьве і г. п. *ць*, ці мо ў гэтых склонах (давальным, месным) *т* удзержыцца ад зьмякчэньня пад уплывам склонаў, дзе *т* стаіць перад цьвярдым *в*, як Літва, бітва—Літвы, бітвы—Літву, бітву і г. д. Каб разьвязаць гэтае пытаньне і ўстанавіць адпаведнае правіла, трэба сабраць шмат прыкладаў. Дык просім адказаць на пытаньне, як у вас будзе давальны і месны склон ад слоў Літва, бітва, дратва, брытва, характво, гультайства і г. п., значыцца, ці будзе: Літве, бітве, дратве, ці—Лі*ць*ве, бі*ць*ве, дра*ць*ве, бры*ць*ве і г. г.

Я. Станкевіч.

---

[1]) Аб словах з суфіксам—*іня* яшчэ ў Карскага „Бѣлорусы" II, 1; 406.

[2]) А *дз* перад мяккім *в* пераходзіць у *дзь*, прыкл., дзьве, дзьверы.

СЯБРА. У зборніку „Ученые Записки Высшей Школы г. Одессы" (Адэса, 1922) А. І. Сабалеўскі надрукаваў разгляд аб словах „семца" і „сябра". *Семца*—спачатна *сѣмьца* „малодшы член сям'і". *Сябр*—спачатна член сям'і (у тэй лічбе і чэлядзь) з *сѣм—брѣ*, блізкі з нямецк. haim і літоўскі kaim-; апошняе літоўскае пазычанае з праславянскага, калі ў гэтым слове яшчэ гучэла *х*, з менкаю праславянскага *х* на *к*.

Згодна з асаблівасьцямі крывіцкае (бел.) мовы пакрывіцку найчасьцей кажацца *сябра* (з *а* на канцы), жанчына будзе *сяброўка*. Выясьненьне Сабалеўскага сусім згаджаецца з значэньнем слоў *сябра, сяброўка* ў крыв. мове. Як ведама, у нас гэтыя словы значаць людзей, што маюць паміж сабой штось супольнае, духоўнае; словы-ж *таварыш, таварышка* значаць людзей блізкіх асабіста. Гэткім парадкам усе Крывічы паміж сабою сябры, бо маюць супольную ідэю—адраджэньне свайго народу, але таварышамі ня ўсе зьяўляюцца.

Я. Ст.

ДЫФТОНГІ УО, (ЮО=ІУО), ЫЭ, (ІЕ)—. Аднэй з галоўных ўласьцівасьцяў крыўскай (беларускай) мовы зьяўляецца арыгінальная вымова у імёнах і займях тых галосных гукаў, якія у расійскай мове чуюцца, як чыстыя *о, ё, ы, і*, а у польскай — *о, ó, іо, іó, у, і*. Для прыкладу возьмем такія словы, як „мост, воск, вол, мёд, лёд, пан*ы*, вал*ы*, мях*і*, дзяцюк*і*; *ён* мой, твой, свой—ма*е*, тва*е*, сва*е*. Калі-б напісаць гэтыя словы з захаваньнем крыўскага (беларускага) акцэнту, дык трэ было-б пісаць так: „м*уо*ст, в*уо*ск, в*уо*л, м*юо*д (м*іуо*д), л*юо*д (л*іуо*д), пан*ыэ*, вал*ыэ*, мях*іе*, дзяцюк*іе*; *юо*н (*іуо*н), м*уо*й, тв*уо*й, св*уо*й—ма*іе*. тва*іе*, сва*іе*.

Першы дыфтонг—*уо, (юо=іуо)* —распашыраны ў мове па усей этнаграфічнай Крывіі (Беларусі) і вымаўляецца ў імёнах і займях у сярэдзіне слоў пад націскам, толькі не заўсёды павінен быць там, дзе пішацца расійскае *о* (*ё*), бо, напрыклад, у словах „кар*о*ва, сал*о*ма, малак*о*, м*о*ра, сьл*ё*зы" і г. п. Крыўскае *о* (*ё*) гучыць так сама, як і ў расійскай мове (літэратурнай). Правіла, якое-бы цьвёрда акрэсьлівала калі трэба вымаўляць у словах *уо (юо=іуо)* і калі чыстае *о* (*ё*), няма: аб гэтым добра ведае толькі прыродны крывіч, або той з чужаземцаў, хто вучыўся-бы нашай мовы не па кніжцы, а па наслыху. Не памыліўся-бы ў гэтым выпадку і літвін, бо ў літоўскай мове дыфтонг **uo** вымаўляецца так сама, як і ў нас.

Другі дыфтонг—*ыэ (іе)*—вымаўляецца *заўсёды* пад націскам ў канчатках імёнаў і займяў назоўнага і вінавальнага склонаў лічбы многай, напрыклад: „Пан*ыэ* і маскал*іе* пралілі сва*іе* двар*ыэ* і апаражнілі капшук*іе* ад грошай". Гэты дыфтонг распашыраны ў мове крыўскага жыхарства, пачынаючы ад Пружан і далей на поўнач і ўсход праз Гарадзеншчыну, і, датыкаючыся Навагорадка, Несьвіжа і Слуцка, пераходзіць вузкім паясом праз Чарнігаўшчыну, ва ўсходнюю Смаленшчыну і праяўляецца у Вяліжскім і Вялікалуцкім паветах.

Цяпер, калі зьвернем увагу на тое, што з дыфтонгу *уо (юо=іуо)* у нашым правопісу пакінута *о*, г. зн., — тая частка дыфтонгу, на якой чуецца пры гаворцы большы націск, то па аналёгіі варта было-б зрабіць тое-ж і з дыфтонгам *ыэ (іе)*, якія вымаўляюцца з большым націскам на *э (е)*. Такім чынам, калі ўжо пайшло на тое, каб кождаму гуку ў нашай мове адпавядала толькі адна літара, то больш рацaverage было-б пісаць „зьвяр*э*, ваўк*е*", чым „зьвяр*ы*, воўк*і*", бо *э (е)* ў канцы слоў ня так ясна гучыць, як *ы (і)*, і таму лепш захоўвуе ўласьцівасьць дыфтонгу *ыэ (іе)*. У займях „ма*е*, тва*е*, сва*е*" гэта ужо зробляна, дык чаму-ж не пашырыць гэтага правіла і на імёны?

Наагул-жа, уніканьне у нашым правопісу прыгожых і арыгінальных акцэнтных ўласьцівасьцяў мовы спосабам замены данага дыфтонгу аднэй літарай расійскай абэцэды—зьявішча штучнае і надта шкоднае для захаваньня натуральнай чыстаты мовы. Акром таго, няяснае акцэнтаваньне дыфтонгаў стварае многа непаразуменьняў і труднасьцяў для тых, хто вучыцца мовы з літэратуры, бо, акцэнтуючы арыгінальныя дыфтонгі асобнымі літарамі расійскай абэцэды, мы зробім са сваіх кніжных вучняў такіх беларусаў, якія будуць гаварыць па-крыўску, але — з маскоўскім акцэнтам. А як цяжка вучыцца мовы тады, калі напісанае не адпавядае таму, як трэба чытаць,—у гэтым можа праканаўся кожды, хто спрабаваў вучыцца (з кнігі) ангельскай мовы, ў якой словасклад у большасьці французкі, не адпавядаючый ангельскаму акцэнту і вымове. Для прыкладу возьмем хоць такія словы: пішацца —idol, чытаецца—айдл—(балван); station—стэйш н—(мейсца); commission—комішн—(даручэньне); reason—різн—(прычы-

на, слушасьць) і г. д. Такія-ж супярэчнасьці могуць быць і для таго (з чужаземцаў), хто возьмецца вучыцца крыўскай мовы і, напр., у слове „соль“ павінен будзе чытаць *о*, як *уо*, а ў слове „вочы“,—як чыстае *о*. Дык ня лепш было-б пісаць так, як гаворыцца? Праўда, што на пісаньне цалком дыфтонгаў трэ было-б траціць час і, знача,—грошы, але на завучаньне таго, як і ў якім слове чытаць адну і тую-ж літару таксама трэба ня меньш часу.

Дык ўрэшце-рэшт, каб захаваць прыгажство і арыгінальнасьць нашай мовы, каб унікнуць непаразуменьняў і труднасьцяў пры навучэньні яе і каб ня ўмыліцца разам выгоднасьці ў абазначаньні кождага гука аднэй літарай,—варта было-б прыдумаць для дыфтонгаў *уо (юо=іуо), ыэ (іе)*, асобныя літары.

А. Матач.

ПАЧАЙНСКАЯ ДРУКАРНЯ. Акром Пачаява (на Украіне) істнаваў да 1635 году манастыр ў Пачайне, недалёка ад Оршы. Гэты манастыр меў сваю друкарню, якая каля 1630 году была перанесена ў Кутэйну, бо маетнасьць Пачайна перайшла ў рукі езуітаў. Ні ў расійскіх ні ў польскіх бібліографаў Пачайнская друкарня не адзначана. Друкі, выйшаўшыя з нашай Пачайны, імі адносяцца да друкаў ў Пачаяве (Украінскім), хоць на некатарых кнігах ясна абазначана „Почайна“, „въ Почайнѣ“, „Почайвѣ“, а—не „Почаевъ“, „въ Почаевѣ“. Гэта друкарня чакае яшчэ свайго дасьледчыка. У архіве Мсціслаўскага касьцёлу маюцца судовыя дакуманты (з манастыром Почайнскім) ў якіх упамінаецца і манастырская друкарня, перанесеная каля 1630 году ў Кутэйну. У хуткім часе, пасьля 1635 году, манастыр быў закрыты і больш не аднаўляўся. З гэтага часу Пачайна сталася рэзыдэнціяй Аршанскіх езуітаў.

Т. О.

АБ ЛЕСАЎЧЫКАХ. Адну з найцікавейшых страніц нашай вайсковасьці становіць вайсковая вольніца, якая дзеяла ў канцы XVI і пачатках XVII ст. На вялікі жаль, гісторыя гэтай крыўскай вольніцы дужа мала вядомая і зрэшта вельма аднастаронна асьветлена, бо толькі са стараны польскіх пісьменнікаў, якія шмат што прамаўчалі, шмат што сказілі. Усё-ж такі факт астаецца фактам, што гэта крыўская вольніца ў свой час шмат нагрымела. Між іншымі сучаснымі ім характарыстыкамі заслужывае асаблівай увагі кніга пад агалоўкам: „Przewagi Elearów polskich, co ich niegdy Lisowczykami zwano, które czynili w państwach cesarskich przeciwko heretykom za czasów niezwyciężonych monarchów Ferdynanda II cesarza chrześcijańskiego od 1619 aż do 1623 r. (Poznań 1623). Аўтор гэтай кнігі—Войцех Дубалуцкі (Dębołęcki). Дубалуцкі быў манахам ордэну францішканаў і спраўляў чыннасьць капэляна пры Лесаўчыках. Дубалуцкі родам быў з Падляся і ўславіўся, як піша А. Здановіч (Rys Dziejów literatury polskiej), немаральнасьцю жыцьця і буйнасьцю характару. Для яго абоз Лесаўчыкоў быў тым мейсцам, зкуль яго не магла дастаць духоўная старшызна і дзе ён мог мала зьвяртаць увагі на грозныя напамінаньні ня толькі францішканскіх провінцыяналаў, але і на напамінаньні самога папежа.

Гэты буйны францішканін прыймаў удзел ва ўсіх паходах Лесаўчыкоў і сьпісываў дзеннік іх чынаў. Нажаль, арыгінал таго дзенніка затраціў ён недзе ў сілезскіх горах. Вышэйназваную кнігу ён ужо сьпісываў другі раз з памяці. Пасьля прадмовы Дубалуцкі зьмест кнігі падаў вершам:

Położywszy Moskwę jako grad konopie,
Wołgę pomąciwszy, bieżą o swej kopie
Przez Dniestr, Ren i Dunaj. Po wszystkiej Europie
Padli jak snopie.

Кніга гэта дае вельмі цэнны матэр'ял да гісторыі Лесаўчыкоў. Гэта было свайго роду вайсковае брацтва, якое дзялілася на копы, ад 60 да 100 душ, і знаходзілася пад загадам выбарнай старшызны. Карны кодэкс Лесаўчыкоў быў вельмі строгі: кождая значнейшая правіна каралася сьмерцю. Дзеннік гэты вельмі падробна разпрацаваны, хоць і пераплецены Евангельлямі на кожды дзень, бо, бытцам Лесаўчыкі заўсёды толькі паводле Евангельля жылі і паступалі. Адкінуўшы фальшывы рэлігійны фанатызм, якім перасычана кніга, трэба прызнаць, што асобныя мейсцы яе расказаны надзвычай барвіста і цікава. Для прыкладу падамо некалькі выпісаў.

„Усе, мабыць, памятаюць, што праз увесь час валоскай вайны ня кім усе найгоршыя дзіры запіхалі, як Элеарамі, або па стараму—Лесаўчыкамі. Ледзь здоляў з якой стараны

паказацца вораг, то зара сыплюцца да гэтманаў просьбы даць каторую колечы харугаў Элеараў; так іх заўсёды наперад выпіхалі, як гончых... Ня было ніводнага нападу на Запарожцаў, у каторым Элеары не прымушаны былі-бы іх пасілкаваць, ня толькі полям штурмы перарываючы, але нават і пехатой перабегшы, з іх шанцаў Туркаў выганялі... Гэтак безмала штодзень бедныя Элеары ня толькі сваю, але і чужую пяньку атропывалі. А калі іх небаракаў, з прычыны пераводу Запарожцаў, бліжэй пад воражы абоз пасадзілі, праз тры дні на голым полі адкрытых, хто калі пасілкаваў, акром Бога самога“.

Лесаўчыкі любілі паказаць сваю удаласьць і жыцьця саўсім не цанілі. Між многімі прыкдадамі самапасьвяты і удальства Лесаўчыкоў, апавядае Дубалуцкі такое з часаў бытнасьці Лесаўчыкоў у Нямеччыне:

„Мінаючы адно мястэчка..., перад якім на аднэй старане дарогі, на скале, стаяла многа мяшчанаў з галябардамі (паводле тамтэйшага звычаю ў чэсьць пераходзячага войска), некатарыя з Элеараў думаючы, што гэта былі воражыя (а хочучы паказаць, што хоць яны там так высока, але, каб пазволена было, то ня ўседзілі-б), абралася іх з дзесятак, каторыя, на выстрэл луку ад іх, на другую яшчэ вышэйшую скалу, міма якой праходзіла вайска, пусьціліся адзін за другім, трымаючыся конскіх грываў. Узьехаўшы цудам на скалу, калі па ей гарцавалі, скруціў адзін другога, так што зваліліся з конямі, кожды асобна (вецьця на скале паросшага хапаючыся), як з найвышэйшай камяніцы. Як толькі ўпалі абодвы, і ён і конь, атросшыся абодвы, селі на коні і па полю езьдзілі. Мяшчане думаючы., што гэтак усе і іх коні ня могуць шванкаваць: пакуль валіліся, крычэлі з літасьці імя Езус! а калі ускочылі на коні, крычэлі віншуючы здароўя і цешучыся з такога народу на помач“.

Цікава апісуе Дубалуцкі тагочасную рабункову вайну, чым асабліва адзначалася войска Фэрдынанда, а між іншымі і Лесаўчыкі не адставалі.

„Вельмі хараша было бачыць (паміж многімі такімі іншымі) калі адзін язьдзец добра адзеты, конавак, пляшак і інш. кругом сябе навязаўшы, гусю з гусятамі яшчэ зеленюсенькімі ў горад заганяючы, з палкоўнікам элеарскім і некалькімі яго афіцэрамі сустрэўся. Другі за ім цялё, казу і авечку каню да хваста, як хартоў, на смычы прывязаўшы, а рабую кошачку, замест зайца, на руках трымаючы, бытцам з ловаў вяртаўся. Трэці, нездалёк за імі, сьвіню прывязаўшы да конскага хваста, з катлом на галаве, а гарлачом малака у левай руцэ, за імі, ляніва даганяючы, валок раздзертую пярыну, перакінутую праз каня, як торбы; у якой, разам з пёрамі, відаць было з аднэй стараны некалькі полцяў саланіны і пару індыкоў, а з другой—злоўленую жанчыну, якая седзячы абіралася з пёраў“.

У. С.

КРЫЎСКІ (БЕЛАРУСКІ) СТАРАДАЎНЫ ЛІСТОЎНЫ СТЫЛЬ. Стара-крыўская пісьменнасьць дагэтуль мала дасьледавана, хоць яна жыве яшчэ у сотнях тысяч дакумантаў, лістоў і інш., якіх найболей дайшло да нас з XVI і XVII ст. ст. Асабліва зьвяртае на сябе увагу сваім стылям прыватная перапіска, ў якой ня толькі адбіваецца быт і асьвета людзей, але також рысуюцца іх ўзаемаадносіны.

З пачкі маючыхся у мяне пад рукой старасьвецкіх дакумантаў падаю ніжэй некалькі выпісак старадаўнага нашага лістоўнага стылю.

Пачатак ліста пісанага ў 1540 годзе.

„Пане милы лесничы здоровья и всего доброго от пана Бога верне вашей милости зычу яко собе самому“.

Далей, з новай лініі, пасьля прыстойнага одступу, ідзе ліст.

Закончаны ліст гэткай звароткай:

„Затым ся зычливой прыязьни твоей поручаю. Станислав Андреевич Довойно, староста кобринский шовленский мерецкий“.

Да Радзівіла Чорнага піша ў 1562 годзе земянін гаспадарскі Здановіч гэтак:

„Мне вельце милостивому пану а пану на олице и несвижу княжати, воеводе виленскому маршалку земскому, канцлеру великого князства литовского старосте берестейскому и кобринскому его милости Миколаю Радивилу“.

Закончаны гэты ліст так:

„Вашей милости верне зычливы земянин господарски Остафей Зданович“.

У XVII стагодзьдзі лістоўны стыль набірае штучную завіласьць. Для прыкладу возьмем ліст Юрыя Міхановіча, пісаны ў 1672 годзе да Васіля Хронстовіча:

„Мне вельце милостивы а ласкавы пане, пане Василю Хронстовичу, здоровья и помысности от Бога верне вашей милости зычу яко собе самому“.

Пасьля заместу ліста.

„Затым ся я ласце твоей поручаю, негодны слуга слуг Вашых Юрый Михановичъ“.

Цікавую пробку тытулаваньня, паміж блізкімі сваякамі, дае ліст Анны Ляўданскай (Раўвічанкі) пісаны да яе роднага брата Раўвіча ў 1753 годзе. Пачатак ліста:

„Мне вельце милостивы Пане и любы брате“.

Заканчаецца ліст:

„Вашей милости пана зычливая сестра и покорная слуга Анна Ляўданская“.

Ліст Корыбута-Дашкевича з 1660 году да братавай Марыны (Абухавічанкі) гэтак тытулаваны:

„Мне вельце милостивая и шанобливости годная братовая, здоровья и радости зычу“.

Закончаны ліст:

„Вашей милости, братанец и до послуг готовы пахолок Дмитрей Корибут-Дашкевич, судья земски“.

К. І.

„ПРАГА“, „ПРОГА“. Калі гародзяць плот, то пакідаюць „прагаліну“, якую пазьней закладаюць жэрдзямі. Гэткая прагаліна ў плоце, заложаная жэрдзямі, называецца „прага“, а мяйсцамі—„прога“. Яна круглы год стаіць загароджанай і мала выдзяляецца. Калі ў такую прагаліну ўстаўляюць вароты, то тады ўжо яна прыймае другую назову. (Дзіс. пав. в. Пагост, Краснае і каля Шаркаўшчыны). У мястэчках каля гэтых ваколіц „прогай“, называюць прыбрамак (калітка). Мне здаецца, што словы „прага“, „прога“, выводзяцца ад „гал“, прагал“, што знача паміж нечым пустое мейсца, прарэха, „просвѣт“.

В. А.

СМЭРДЫ. Варажскія заваяванні на усходнай славяншчыне замацаваліся прыняцьцем хрысяціянства. Візантыйскія абсолютыстычныя формы і аўрэоля пашырыцеляў хрысьціянства на славянскім усходзе ператварылі простых заваёўнікаў у апосталаў хрысьціянства. На усходнай славяншчыне да хрышчэньня ведама была „варажская“ і „нямецкая“ вера, якую прыносілі з сабой Варагі з заходу; новае хрысьціянства усходнага абраду заслыло тут пад найменьнем „веры рускай“, г. зн., тэй веры, якую прынялі і шырылі русы. Гэту „рускую веру“ прышчапілялі Варагі галоўна вярхом заваяванага ўсходна-славянскага грамадзянства, ператвараючы яго з мяйсцовых пляменных старшын у „русаў“. Усё, што было хрысьціянскім, было варажскім, было „рускім“. Усё, што было мяйсцовым (славянскім), сталася паганскім, нячыстым, сьмярдзючым, пагарджаным. Сялянства для гэтых „рускіх“ вярхоў, якія тварылі ўладу разам з Варагамі, было да XIV ст. смэрдамі. Пад іменьнем „Русін“, „Рускі“ разумеліся князі, баяры, духавенства, купцы, а пад іменьнем „смэрды“, шырокія народныя масы. Імя „смэрд“ да XIV стг. заменяла імя „селянін„, усюды, дзе разпасьцягалася ўлада дынастыі русаў. І толькі, пасьля замены гэтай дынастыі іншымі дынастыямі, мяйсцовае жыхарства пачынае бараніцца ад крыўднага эпітэту „смэрд“ праз суды. Такую судовую справу за называньне „смэрдам“ прыводзіць Даніловіч („U skarbcu“, том II, 287); другая падобная справа ведама з львоўскіх актаў 1440 і 1443 г. (Akta grodzkie i ziemskie, XIV).

У свой чарод, са зменай дынастыі, або адыходу якой зямлі пад другое панаваньне, найме „Русь“, „Русін“ пачынае зыходзіць да значэньня селяніна. Гэтак у Бельскім прывілею 1501 г. слова „Русін“ азначае „селянін, мужык“, а слова „паляк“ роўназначна—„земянін, памешчык“. Для прыкладу прыводзім выпіскі з гэтага прывілею: „кды бы нѣкоторый съ земянъ былъ обвиненъ презъ Русина; естли бы нѣкоторый Русинъ позвалъ поляка; Русиновѣ земянъ нагабали; Русином на ся жалуючимъ“.

Ц. Л.

НЯПІСЬМЕННАСЬЦЬ СЯРОД БЕЛАРУСКІХ РЭКРУТАЎ ЛІТОЎСКАГА ВОЙСКА. Бранка 1922 г. дала найбольшы адсотак няпісьменных рэкрутаў з беларусаў—50%! (параўнаць з іншымі: палякі—41, 42%, літвіны—27,40%, латышы—20%, немцы—18, 28%, маскалі—15, 24% і жыды 14, 27%). Беларусаў, умеючых чытаць было 18, 18%; умеючых чытаць і пісаць, але не прайшоўшых ніякай школы—то-ж 18,18% і скончыўшых пачатковую школу толькі 13,64% (палякі—16,42%, літвіны—23,11%, жыды—27,17%, латышы—33,33%, немцы—33,57% і маскалі—35,56%).

„Mūsų Žinynas" 1924 г. 17 №.

БЕЛАРУСКАЯ МОВА У ЛІТОЎСКІМ ВОЙСКУ. У № 17 літоўскага двухмесячніка ваяўніцтва і гісторыі „Mūsų Žinynas" паданы лічбы веданьня розных моваў афіцэрамі літоўскага войска. Берарускую мову ведаюць: у галоўным Генеральным Штабе—9,7%; у кавалерыі—3,0%; у вайск.-санітарнай службе—2,6%; у гармаце—0,9%.

Д р—ы.

РУКАПІС ДУНІНА - МАРЦІНКЕВІЧА. Загадчыкам Мазырскага Павятовага Аддзяленьня Цэнтральнага Архіву Б. С. С. Р. тав. Даўгаполавым знойдзен у аднаго з грамадзян г. Мозыра рукапіс твору вядомага беларускага пісьменьніка XIX стагодзьдзя Вінцука Дуніна-Марцінкевіча.

Рукапіс напісаны пісьменнікам у 1860 г. на беларускай мове.

Па зьместу твор—гэта опэра пад назвай „Розна Міласьць бывае".

Цікава адзначыць, што да гэтых часаў ніхто ня ведаў аб істнаваньні гэтага твору.

Рукапіс у хуткім часе будзе куплены Інстытутам Беларускае Культуры і прывезены у Менск.

СЛОВА „ЗНАХАР". Апошнімі часамі слова „знахар" утрымалася толькі за варажбітамі і вясковымі нявучонымі лекарамі, фактычна-ж слова гэтае азначае паняцьце вельмі шырокае. Яно можа быць пературмачана расійскім—„знаток", польскім—„znawca", лацінскім—doctor. Яно характэрызуе чалавека, каторы што - колечы вельмі добра дасьледаваў і „знае". Ня толькі „ведае", але больш, чым ведае—знае.

Няма дзіва, што у старадаўнасьці гэтым словам сталі называць людзей, якія умелі („зналі") найважнейшую рэч ў жыцьці чалавека, гэта—лячыць хваробы, хоць можна думаць, што словам „знахар" азначалі і наагул вучоных людзей (даўней кожды вучоны павінен быў умець варажыць па зьвёздах і лячыць).

Дзеля гэтага цяпер варта было-бы ужываць гэтае словае ў першапачатным значэньні, тым больш, што хутка надойдзе той час, калі „знахараў",—вясковых дамовых лекараў ня будзе, і гэтае, вельмі прыгожае і правільна збудаванае народнае слова, можа загінуць.

Гэткім чынам варта называць: доктар філёлёгіі—знахар мовы, доктар мэдыцыны—знахар лячэньня, доктар-інжынер—знахар-інжынер, вучоны аграном—знахар аграноміі.

К. Д у ш...

ПЕРШАЯ КНІЖКА АБ ПІВЕ. Спрэчка паміж палякамі і немцамі аб тым, хто з іх раней выкрыў спосаб варыць піва і чыім яно павінна быць націянальным напіткам, ня мае сэнсу. Грэцкія і рымскія пісьменнікі успамінаюць аб напітку, вырабляным з росчанага ячменю яшчэ да нараджэньня Хрыста. Дзеля гэтага ужываньне піва трэба аднясьці да вельмі даўных часаў і да старавечных ратайскіх народаў Азіі.

У нас на крыўска-беларускіх землях, паводле вестак з XVI ст., славілася піва Горадзенскае, Несьвіжскае і Аршанскае. З апісаньня (рэестраў) двароў і замкаў відаць, што пры кождым немаль дварэ і замку, а такжа манастыры былі піваварні і мёдаварні. Летапісы аб „мядушах" упамінаюць у нас у XII ст. Пры гэтым, з тых-жа летапісаў відаць, што ў удзельных князёў бывалі аграмадныя запасы пітных мядоў. Варэньне піва дагэтуль практыкуецца нашымі сялянамі хатнім спосабам. Гэткае пашыранае ужываньне піва рана выклікала патрэбу апісаньня тэхнікі вырабу яго. І запраўды, ужо ў 1673 годзе паяўляецца друкаваная ў Слуцку кніга з піваварскімі рэцэптамі пад назовай „Земянін або гаспадар Інфляндзкі". Гэта ёсьць першая, з усяго славянства, друкаваная кніжка аб піваварстве.

А. Г.

СЛОВА „ПУГАЎКА". У заходняй часьці Дзісенскага павету (Каля Шаркаўшчыны, Друі) балотных п'явак называюць „пугаўкамі", мн. лік: „пугаўкі", адзіночны лік: „пугаўка". У Слонімскім павеце названьне балотнай п'яўкі „пугаўка" ужо занікла, але захавалася ў выводных, прыкл,: „напугаўся квасу, вады", зн.— напіўся ўволю, безперапынку.

Ю. В.

# Прафэсар Казімер Буга.

У тужлівы восенны дзень данёс тэлеграф з Каралеўца сумную вестку аб сконе Казімера Бугі, вядомага літвіналёга, ардынарнага прафэсара Літоўскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту у Коўні.

1 сьнежня навекі-вечныя заснуў гэты выдатны літоўскі вучоны.

Праф. Казімер Буга радзіўся 25 кастрычніка 1879 г. у вёсцы Пажега Дусяцкай парохіі, Зараскага (Азёрскага ці Новаалександроўскага) павету. У 1890 г. ён пайшоў да пачатковае школкі ў Дусятах, а ў 1891 г. перайшоў да Новаалександраўскай паветавай школы. У 1892 г. бацька завёз малога Казюка да Пецярбурга і пакінуў тутака у сваей радні — нейкага павозчыка. У Пецярбурзе К. Буга вучыўся і дайшоў да 4 клясы гімназіі, адкуль выступіў і на жаданьне бацькоў пайшоў вычыцца на ксяндза. Але ужо праз год, ў 1898 г., К. Буга выйшаў з сэмінарыі, чым адразу сапсаваў сабе стасункі з бацькамі, бо яны, зразумела, хацелі бачыць сына у ксяндзоўскай сутане. Пачалося жыцьцё, поўнае клопатаў і напасьцяў. Служыў ён у Галоўнай Мікалаяўскай Фізычнай Абсэрваторыі. У Пецярбурзе пазнаёміўся К. Буга з праф. Вольтэрам, канонікам Тумасам, праф. пралатам Дамброўскім, акадэмікамі Фортунатавым і Шахматавым і, ўрэшце, — з вядомым знаўцом літоўскае мовы, праф. кс. Яўнісам. Добрыя знаёмыя парадзілі нябошчыку падрыхтавацца і набыць матуру. І ў 1905 г., маючы 26 гадоў, К. Буга здаў экзамены пры V гімназіі разам з сучасным праф. А. Вольдэмарасам.

Шэсьць гадоў, г. зн., аж да 1911 г. быў Буга студэнтам у Пецярбурскім Унівэрсытэце, затым, што, як сам ён піша: „шмат перашкаджала мне апрацоўка маіх навуковых твораў“. Скончыўшы унывэрсытэт, К. Буга застаўся пры ім гатовіцца у прафэсары пры катэтры параўнаўчага мовазнаўства (праф. Ян Бодуэн-дэ-Куртэнэ). У 1914 г. Бугу паслалі загранiцу, але праз некалькі месяцаў ён мусіў вярнуцца, бо ўсясьветная вайна ўжо вісела ў паветры, і толькі за тры дні да зачыненьня расійска-нямецкай мяжы пасьпеў ён выехаць з Каралеўца да Коўны. У 1916 г. Буга здаў магістарскі экзамен і атрымаў правы быць прыват-дацэнтам Петраградзкага Унівэрсытэту, але трапіў ён дацэнтам у новаадчынены Пермскі Унівэрсытэт. Тутака ў 1917 г. яго падвысілі ў экстраардынарныя прафэсары, а ў 1920 г. праф. Буга вярнуўся на Бацькаўшчыну і стаўся прафэсарам Літоўскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту (перш — вышэйшых Курсаў) ў Коўні.

З маленства рупліва зьбіраў К. Буга філёлёгічныя матэр'ялы літоўскай мовы, ўсё жыцьце сваё ён аддаў дзеля вывучэньня гэтай мовы, і вялікі навуковы скарб пакінуў пасьля свае сьмерці. Асобнымі кніжкамі выданы яго працы: „Aištiški studijai“, Peterburgas, 1908; „Kalbos dalykai“, Kaunas, 1910; „Lituanica“, С.-Петербургъ, 1912; „Kalbų mokslas bei mūsų senovė“, Kaunas, 1913; „Priesagos -ūnas ir dvibalsio uo kilmė“, Kaunas, 1921; „Kalba ir senovė“, Kaunas, 1922; „Aisčių praeitis vietų vardų šviesoje“, Kaunas, 1924; „Lietuvių kalbos žodynas“, I sąsiuvinis, Kaunas, 1924. У літоўскіх, расійскіх і польскіх навуковых журналах і зборках пакінуў ён так сама шмат вялікіх і малых артыкулаў высокай навуковай вартасьці.

Праф. Буга быў першы з літоўскіх мовазнаўцоў, — літвін, які атрымаў належную філёлёгічную адукацію, і яго працы маюць вартасьць ня толькі для літвіноў, але і для кождага філёлёга-вучонага. Нажаль, вялікі жаль, яго „Žodynas“ (слоўнік) застаўся не закончаным: ён здолеў выдаць толькі першы сшыток (a—ančtraukas) і прырыхтаваў да друку другі сшыток.

Цяжкую страту мае літоўскі народ,—памёр вялікі вучоны, які шмат ужо зрабіў на навуковай ніве, але яшчэ больш меўся зрабіць: меўся навучыць вучняў сваіх, меўся пакінуць па сабе наступнікаў, каб яны далей цягнулі распачатую ім цяжкую навуковую працу. Ня здолеў, бо сіл не хапіла, бо у полымю навукі згарэла і згасла жыцьцё...

Чэсьць яго сьветлай памяці!

*АЛЕСЬ СМАЛЕНЕЦ.*

# Кнігопісь.

„СТУДЭНСКАЯ ДУМКА“. Грамадзка-навуковы і літэратурны месячнік беларускага студэнства. № 1, Сьнежань. Год выданьня I. Вільня, 1924. 17×24 цм., стр. 40, у акладцы.

З ь м е с т: „Ідзі па дарозе і церням усланай“ (верш) — В. Курачыцкі. „Ад Рэдакцыі“. „Кудой ісьці“ А. Н. „Патрэбы вёскі“— А. З. „Харашуха без пасагу“ — Алёкса. „Да назову „Крывічы“, „Крывія“ — А. Станкевіч. „Адам Міцкевіч на Беларусі“ — Ельскага. „Соціальнае пытаньне“—Ант. Матуля. „Скудзельства“—А. Н. „Княжэньне“—А. Н. „Музэй Івана Луцкевіча“—Фр. Грышкевіч. „Што чытаць па беларуску?“ — Язэп Сьвятазар. „Песьня глядыятараў“ — Янка Палын. „Рыбкі“—З. В. ***—В. Сумны. „Гісторыя аднае сьмерці“—П. С—к. „Беларускі сокол (верш) —С. Глебаў. Пад тым-жа агалоўкам проза В. Леўскага. „Гэнрык Матук“ — Натусэвіч. Хроніка.

Як можна бачыць з вышэйшага, зьмест часопісі даволі рожнаякі і багаты. Маюцца ў часопісі і навуковыя і бэлетрыстычныя і вершаваныя працы. Але таму, што пытаньне аб беларускай студэнцкай часопісі для нас вельмі важнае, мы затрымаемся больш падробна над гэтым.

Як зусюль чуваць, студэнцтва у нас ў апошнія часы намножылася. Факт вельмі радасны, бо растуць новыя інтэлігэнцкія сілы, якія павінны прыйсьці на зьмену старому пакаленьню да грамадзкай і будаўніча-дзяржаўнай працы. Здаецца, ўсё добра. Але закрадаецца ў душу мулкае, як мазоль, пытаньне: а ці, запраўды, прыйдуць? Ці многа будзе з цяперашняй акадэмічнай маладзежы ратаёў і сейбітаў на роднай ніве?

Прычын да гэткага пытаньня многа, а галоўнае, — маладзеж разьвіваецца і расьце ў ненармальных варунках, пад чужымі культурнымі ўплывамі, вучыцца ў чужых школах, жыве ў чужых і варожых яго нацыянальнаму разьвіцьцю дзяржавах. У лепшых з нацыянальнага боку варунках знаходзіцца студэнцтва, якое апынулася заграніцай, асабліва, — ў Чэхіі, але гэтае апошняе, дзеля адарванасьці сваей ад народнай стыхіі, ня можа мець кіруючага ўплыву на массу крыўскага (беларускага) студэнцтва, галоўны лік якога знаходзіцца ў Радавай Беларусі (Крывіі).

У Менску лічыцца цяпер, бадай, звыж 2000 студэнтаў, якія вучацца ў „Беларускім“ Дзяржаўным Унівэрсытэце. Здавалася-бы, кіраўнічая роля павінна належаць гэтаму менскаму студэнцтву. Аднак так ня ёсьць.

Спроба менскага студэнцтва выдаваць сваю студэнцкую часопісь была запачаткавана толькі ў гэтым 1924 годзе, ў кастрычніку месяцы. Першы нумар іхняй часопісі выказаў няўменьне радавымі студэнтамі сваей роднай мовы, нязнаньне граматыкі, нястачу эстэтычнага пачуцьця. Нават „Савецкая Беларусь“, часопісь даволі няпераборчывая да-

тычна чыстасьці мовы, і тая, робячы агляд менскага „Белорусского Студент'а“, ў № 249 кажа: „калі беларускую мову будуць аздабляць такімі выразамі і слоўцамі, якімі аздоблен „Белорусский студент“, дык гэта будзе ня мова, а нейкая недарэчнасьць, нікому незразумелая“. І даканчае часопісь свой агляд засудам: „Адным словам, — першы блін комам“.

Мы абходзім маўчаньнем іншыя дацяперашнія спробы нашых студэнтаў стварыць сваю студэнцкую часопісь.

Але аб віленскім першым нумары „Студэнскай Думкі“ нельга сказаць, што гэты першы блін стаўся комам. Пры рожных, неўнікнёных недахватах, выплываючых з нашага маладога адраджэнчага жыцьця, „Студэнская Думка“ выказуе, безумоўна, плодны высілак. Мова даволі добрая, дабор матэр'ялу прадуманы. І толькі астаецца пажадаць „Ст. Д.“, каб на будучыну больш аддала увагі бэлетрыстычнаму матэр'ялу, ды каб у артыкулах менш было агульных мейсц. Кароткае апавяданьне, верш—узгадовуе пісьменьнікаў, прымушае аўтараў працаваць над мовай і, ўрэшце, ўзбагачуе мову. Моладзь мае многа гарачых, яркіх перажываньняў, вось яна і павінна даваць прыгожую пісьменнасьць. Навука, досьлед — прыналежнасьць старэйшага веку.

Нястачай часопісі зьяўляецца також даволі імгліста абрысаваны яе палітычны сьветагляд. Мы жывём у часы яркіх клічаў, кантрастаў, выразна зарысаваных кірункаў. Выразнасьць захоплюе і пацягае. Гэта выразнасьць і павінна праяўляцца ў часопісі, якая мае на мэце даць кірунак крыўскай (беларускай) маладзежы.

*Ю. В.*

ЗОСЬКА ВЕРАС. Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік. Выданьне газэты „Голас Беларуса“. Бач. 76 іп 16⁰. Вільня 1924.

Невялічкі слоўнік Зоські Верас зьяўляецца запраўды радаснай навіною. „Складаючы гэты слоўнік,—кажа аўтарка ў прадмове,—я карысталася працамі: М. Фэдэроўскага „Lud Białoruski, tom I (ваколіцы Саколкі, Сухаволі, Янава, Карыціна, Ваўкавыска, Слоніма й Ліды), слоўнікам М. і Г. Гарэцкіх і ўласнымі матар'яламі, сабранымі ў Сакольшчыне пад Гораднам, і дапоўніла назовамі, ўжыванымі ў паветах: Лепельскім, Дзісенскім і Пружанскім, паводлуг матар'ялаў, сабраных п. В. Ластоўскім“. Як бачым, у слоўнік увайшоў даволі розны матар'ял. Вялікая шкода, што аўтарка пры кожным назове не паказала, дзе гэты назоў запісаны або адкуль (з якіх матар'ялаў) ён ўзяты. Другою, праўда шмат меншай, ганай слоўніка зьяўляецца, што не пастаўлены націск у крывіцкіх (беларускіх) назовах яго. Гэтыя дзьве заганы зрабілі тое, што слоўнік утраціў вялікшую часьць свайго навуковага значэньня. Будзем спадзявацца, што яны будуць папраўлены пры новым выданьні. Думаю, што пры выдаваньні прац, якія маюць лінгвістычнае значэньне, трэба канечна радзіцца лінгвістых (языкаведаў), тады падобных абмылак ня будзе.

З асобных слоў адцемлю тыя, якія зьяўляюцца або відавочнымі барбарызмамі, або відавочна няправільна перакладзены.

Гортанка пакрывіцку ня можа быць, калі-б і быў гэткі назоў, дык магло-б быць толькі грытанка, бо прасл. ръ дало ў крывіцкай мове ры. Грытань (=маск. гортань) знаходзім у крывіцкай Чэцьі 1489 г. Проці ўжываньня „грытанкі“ ё тое, што яно выглядае выведзеным тэорэтычна, а не запісаным з вуснаў народу. Тады астаецца ўжываць другі пададзены ў слоўніку назоў тае-ж расьліны — гэта скочка.

Ігруша досыць было надрукаваць, бо памешчанае яшчэ груша зьяўляецца тымжа словам, толькі што бяз крывіцкае асаблівасьці. Дурнап'ян також чыста крывіцкае, а „дурман“ бяссумлеву маскалізм.

Канцэдалы добра, што пастаўлены як провінцыяльны назоў бульбы, але картоплі лішняе, — гэта полёнізм, куды ён таксама увайшоў з нямецкае мовы.

Падсолнух — страшны маскалізм. Гэта-ж паходзіць ад слова сълнце, а ў крывіцкай мове *л* у гэтым слове (які і ўсюды па *о* з *ъ*) або пераходзіць у *ў* — соўнца, або найчасьцей сусім гіне—сонца. Таксама сланешнік—полёнізм, пакрывіцку магло-б быць сонечнік.

Хварбідла сваім *д* паказуе, што гэта полёнізм; пакрывіцку было-б хварбіла (як мыла). Дык ужо ляпей хай астаецца адзін іншы назоў прыведзены ў слоўніку тае-ж расьліны—жаўтазель. Іншыя крывыцкія сло-

вы слоўніка вельмі добрыя. Слоўнік укладзены акуратна і з вялікай любасьцяю працы. Надрукаваныя показі лацінскіх, польскіх і маскоўскіх назоваў расьлін робяць яго вельмі выгодным пры карыстаньні.

Трэба спадзяваецца, што паважаная аўтарка не абмежыцца гэтаю працаю, а будзе працаваць і далей у гэтым кірунку. Сама яна кажа, што назовы ў яе слоўніку „можна лічыць толькі невялічкай часткай тае расьліннасьці, каторая пакрывае Беларусь", і абяцае што „з часам лік матар'ялаў пабольшыцца і пазволіць апрацаваць далейшы працяг слоўніка". Пры гэтым добра было-б, каб аўтарка запісавала такжа назовы частак расьлін. Пажадана было-б таксама зьбіраць і засушаваць колекціі крывіцкіх расьлін; гэта вылучыла-б усялякую магчымасьць абмылкі пры перакладзе крывіцкага назову расьліны на чужую мову і дало-б пачатак крывіцкаму батанічнаму музэю. Ад расьлін найбліжэйшы пераход быў-бы да малое жывёлінкі —жужлаў, скузуляк.

Пажадайма-ж аўтарцы ўдачы ў яе карыснай, дарагой працы!

Нельга тут ня спыніцца, каб не пашкадаваць, што крывіцкія студэнты-прыродаведы, мэдыкі, аграномы не займаюцца зьбіраньнем крывіцкіх назоваў рошчы (расьліннасьці) і жужлаў; мэдыкі пры гэтым павінны былі-б зварочаваць увагу на ўжываньне расьліны ў мэдыцыне. На Украіне украінскія студэнты пілна гэтым займаюцца і ўжо дайшлі значных рэзультатаў. Трэба з гэтым сьпяшацца пакуль не павымiралі вясковыя бабулі-лякаркі, знахаркі, знахары, чараўніцы, бо як вымруць, тады з імі шмат будзе ўтрачана. Гэтыя людзі—гэта скарб зьбіральнікам назоваў рошчы.

Філ. канд. Я. Станкевіч.

**„БЕЛАРУСЬ". Нарысы гісторыі, экономікі, культурнага і рэволюцыйнага руху. Колектыўная праца пад рэдакцыяй—А. Сташэўскага, З. Жылуновіча і У. Ігнатоўскага. З дапамогай А Смоліча, С. Некрашэвіча і Я. Пятровіча. Выданьне Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускае Савецкае Социялістычнае Рэспублікі. Менск, 1924. 18 × 27 цм., балонак 322, з прыдаткам карты Беларусі.**

Гэта першая кніжка, выданая ў Радавай Беларусі (Крывіі) эстэтычна. На асаблівую увагу заслуговуюць застаўкі і канцоўкі, зробленыя, як відаць, аднэй рукой і з вялікім мастацкім смакам. Матэр'ялам да гэтых прыгожых у поўным слова значэньні рысуначкаў паслужылі, пераважна, матывы слуцкіх паясоў. Нажаль, імя мастака у кнізе не адзначана.

Зьмест кнігі: „Тэрыторыя і насяленьне Беларусі". В Друшчыц—„Галоўныя моманты гісторыі беларускага народу". Пр. У. Пічэта—„Клясавыя супярэчнасьці ў Беларусі напярэдадні рэволюцыі". Я. Лёсік—„Культурны стан Беларусі к моманту Лютаўскае рэволюцыі". Л. Мышкоўскі—„Асьвета жыдоў на Беларусі да Лютаўскае Рэволюцыі". Я. Дыла—„Социялістычны рух на Беларусі" (І. Расійская Социял-Дэмократычная Работніцкая Партыя). І. Сосіс—„Асноўныя моманты ў гісторыі жыдоўскага рабочага руху ў Беларусі". А. Зіміонка—„Социялістычны рух на Беларусі" (II. Партыя социялістых рэволюціянераў). А. Бонч-Асмалоўскі —„Лібэральна-опозыцыйны рух на Беларусі". А. Бурбіс — „Беларуская Социялістычная Грамада ў першым пэрыядзе яе працы" (1903—1907). З. Жылуновіч—„Люты-кастрычнік ў беларускім нацыянальным руху". У. Ігнатоўскі—„Вялікі кастрычнік на беларусі" (X-1917—II/VII-1920). В. Кнорын—„Комуністычная партыя на Беларусі". М. Гуткоўскі—„УтварэньнеСавецкае Социялістычнае Рэспублікі". У. Ігнатоўскі—„Комуністычная партыя Беларусі і беларускае пытаньне" Я. Каранеўскі—„Пасьля-Кастрычнікаўскі пэрыяд". С. Некрашэвіч—„Становішча культурна-асьветных установаў на Беларусі пры НЭП'е". А. Славінскі—„Зямельнае пытаньне". А. Сташэўскі—„Сучаснае становішча Беларусі". З. Жылуновіч—„Беларускае пісьменства".

Зьмест паказуе, што і гісторыя і пісьменнасьць і палітыка,—ўсё падпарадкавана комуністычнаму сьветагляду і яго патрэбам. Адны і тыя самыя перапевы, да ўтомы.

Затое цікава вельмі мова гэтай кнігі. Дзеля нястачы у нас мейсца падамо выпіскі толькі з аднаго артыкулу п. Зіміонка, які безумоўна заслужыў гэтым артыкулам сабе бязсьмерце ў нашай пісьменнасьці. Мала чым

уступае і „навуковая“ мова некатарых другіх аўтораў, між іншым,—З. Жылуновіча. Прыклады:

1) ... „(моладзь) у провінцыяльнае беларускае жыцьцё уносіла новыя падыханьні“ (бал. 150); на іншым мейсцы у кнізе „падыханьні рэволюцыі“. І ваабразіце сабе, чытачу, што аўтор не ад слова „дохнуць“ выводзіць паняцьце „ павевы рэволюціі“!?

2) „Ефім Абрамавіч Гальпэрн у якасьці падзёншчыка працуе“ (бал. 150).

3) „буйны памешчык“. Аўтар не хацеў сказаць, што памешчык буян, але,— што ён багаты.

4) ... „уладаўшай выстыркаючай кадрай тэорэтыкаў“ (бал. 151). Запраўды аўтар належыць да „выстыркаючых“ стылістаў!

5) ... „жаніўся на Барбары (бал. 152). Жаніцца можна толькі з кім-колечы, а ехаць можна на каламажцы, ляжаць на ложку, быць на балі і г. д.

6) „забезпакоеныя вобыскамі“ (бал. 153).

7) „насельніцтва Беларусі“ (бал. 153).

8) ... „ад надзьмутай наплывам радыкальных інтэлігентаў арганізацыі“ (бал. 153).

9) „прысутнічалі“ (бал. 153). Есьць слова „сутка“, гэта сажваны хлеб, завінуты ў рызіначку, які даюць ссаць дзіцяці, кажуць: „зрабі сутку“, „сутку ссе“. Ці гэту сутку аўтар меў на ўвазе?

10) ...„ня ўспухканую глебу“ (бал. 155).

11) „гэта зьявілася вялікім штуршком да консолідаваньня“... (бал. 156).

12) „сьціслa датыркаліся“ (бал. 157).

13) „пропаганда па гэтаму пляну у серадзе рабочых“ (бал. 158). Чаму ў „серадзе“ а не ў субоце?

14) „абзьліяньні“ (бал. 160).

15) „атрымоўвае прытоку“ (бал. 161).

16) „там памяшала старожасьць паліцыі“ (бал. 161). Мяшаць можна кашу, паняцьці, родную мову з чужой, а тут відочна аўтор хацеў сказаць: „перашкодзіла чуткасьць паліціі“.

17) „новую прытоку юнацкага энтузыязму“ (бал. 162).

18) „гэта было незахаванае заклікаyьне да тэрору“ (бал. 162).

19) ...„кінутай са страхі хаты бомбай у разьяжджаўшых акропных драгунаў“ (бал. 163). Што зназа гэтае „акропных“,—зьяўляецца загадкай.

20) „моцныя вобыскі кіруючых арганізацыяў“ (бал. 163).

21) „суды ня дзейнічаюць“ (бал. 163).

22) „пануе не абмаляванае гнеўнае ўзбуджаньне“ (бал. 164). Чаму-ж ужо такі „выстыркаючы“ пісьменьнік не абмаляваў яго?

23) „і пачуцьцё страты завострывала перажыткі“ (бал. 164). Бываюць перажыткі культуры, паняцьцяў; тут, відаць, аўтор хацеў сказаць „перажываньні“.

24) ...„шыбеніцы вымагалі адплаты, ахватвалі мазгі і штурхалі іх рукі да бомбаў“ (бал. 165).

25) „Пры вызваленьні быў забіты наглядаючы турмы“ (бал. 166).

26) „Цела яго толькі праз некалькі месяцаў было выкрыта сьнегам“ (бал. 166).

27) ... „вельмы слабыя былі даказаньні“ (бал. 168).

Ну, што можна сказаць аб поступах „беларусызаціі“ у Радавай Беларусі (Крывіі), калі Ц. В. К. папісуецца такімі кветкамі мовы і стылістыкі?!

А прафэсары „Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту“,—яшчэ мацнейшыя ў „роднай“ мове і стылістыцы!!!

ШЛЮБСКІ Ал., Сябра Інстытуту Беларускае Культуры. Паны і сяляне ў першай палове XIX стагодзьдзя. Менск, 1924. 17×13 цм., 24 балонкі, 300 адн.

Нет ведама, калі будзем мець звычайныя стастункі з нашым блізкім Усходам, напры-

клад—з Менскам. Цяпер ён здаецца нам далейшым нават за Далёкі Усход, бо весткі з Далёкага Усходу прыходзяць барджджэй, чым з Менску. І калі ў Маскоўскіх часопісях дзе-колечы можна адшукаць перапіску з г. зв. БССР аб партыйных зьездах БКП, аб упартым змаганьні камсамольцаў з „Богам і бажанятамі", аб рэзалюціях пратэсту проціў ўсяго, аб чым загадана пратэставаць з Масквы, аб культуры, аб навуцы,—самі маскале пішуць мала, а атрымаць адтуль што-кольвек з гэтай дзедзіны цяжка. Толькі выпадкова набываеш кніжкі і часопісі з усходнай Беларусі (Крывіі).

Аб Ал. Шлюбскім, здольным маладым дасьледчыку ў дзедзіне крыўскай гісторыі і народаведаньня нічога не было чутно з 1922 г. У № 4 „Беларускага Сьцягу" (1922) мне давялося пісаць аб яго журнале „Белорусский Этнограф" (Вітабск, 1922) і кніжцы „Сведения по собиранию устного народного творчества в Белоруссии (Вяліж, 1919). У 1920—1921 г. г. А. Шлюбскі працаваў у Вітабску, як архівар і выкладчык народаведаньня ў тамтэйшым Архэолёгічным Інстытуце аж да часу яго закрыцьця. З агалоўку кніжкі даведываемся аб тэй пашанотнай пасадзе, што мае цяпер п. Шлюбскі.

Студыя аб панох і сялянах цалком абапёрта на досьледах аўтара ў архівах колішняга Менскага Губэрнатара і Губэрскага Шляхоцкага Дэпутацкага Сойміку. Мэта выданьня кніжкі—высьвятліць пытаньне аб стасунках паноў і мужыкоў, „выявіць Беларускім сялянам польскага пана-ката"... (1 балонка), бо „на колькі бедна гістарычная літэратура дзеямі аб паншчыне на Беларусі, — сьведчыць прыклад, што калі ў 1911 г. „Наша Ніва" сьвяткавала 50-гадовы юбілей звальненьня сялян ад паншчыны і калі газэта хацела даць малюнак цяжкага жыцьця на Беларусі пад панскай уладай, то матэр'ялу такога не знайшлося; прышлося апісваць паншчыну Наўгародзкай губэрні з агаворкай, што паншчына Наўгародзкай губ. „мала рожніцца ад таго, што было ў нашай старонцы" (2 балонка).

Па сподумцы аўтара „дакуманты сьведчаць, што якімі лютымі польскія паны былі да нашых сялян у вайсковых абставінах у час апошняй польскай акупаціі Меншчыны, такімі яны былі і сто год назад у мірным жыцьці. Відаць,—ужо такая натура польскага пана" (1 балонка).

Толькі-ж паважаны дасьледчык лічыць, што „ў першай палове XIX ст. на Беларусі, апрача польскіх паноў, ніякіх іншых паноў ня было" (3 бал.), а сярод **польскіх** паноў знаходзім і гэткіх, як, прыкладам, смаленскай шляхты графіню Каменскую (14 балонка), потым разстрэлянага ў 1812 г. „за верность и любовь к Царю и Отечеству" Энгэльгарда (20 балонка), нават арлоўскай шляхты князя Трубецкога (10 балонка). Як ураджэнец тамтых краёў,—крыўскіх крэсаў,—я досыць добра знаёмы са шляхоцкім іх станам, і прызнаць праўдзівасьць цьверджаньня аўтара аб тым, што вышэй памянёныя паны ёсьць палякі,—ніяк ня можна.

Наагул бяручы, кніжка—цэннае наданьне ў крыўскую гісторыю, але свае мэты яна не дасягне, і апошнія словы кніжкі „так няхай-жа ведаюць змаганцы і сяляне сучаснай Заходняй Беларусі, зноў папаўшай пад польскі бот, што толькі іх моцная і бязлітасная барацьба з польскім панам за свае правы звольніць іх ад новай паншчыны"—застануцца толькі словамі, бо тыраж гэтай навукова агітацыйнай кніжкі... 300 адняцоў.

Ал. Ружанец-Ружанцоў.

**ЮЛІЯН БАЧИНСЬКИЙ.—„Украіна irredenta". Трете выданє, Бэрлін 1924.** Кніга вельмі цікава сама па сабе, але набывае яшчэ большую цану, дзякуючы даложанай да яе перапісцы паміж аўторам і вядомым украінскім дзеячом- эмігрантам М. Драгоманавым. Кніга напісана перад 1900 годам. Цікава, што Драгоманаў ў тыя часы пісаў: „Не Одеса —порт Великоросії, а Петербург і Рига,—а Либава спільный порт части Велик. і Укр." (бал. 181). Хоць гэты-ж самы Драгоманаў на тэйжа балонцы вышэй журыць аўтора: „В Ваших поділах Росії на 3 части зовсім щезли Літва, Біло-Русь, Остзейскі країни".

**„ТАБОР". Военно-науковий журнал. Орган молодоі украінськоі арміі. Ч. 1. Київ, Липень, року Божого 1923. Видавництво „До зброі". 151 бал.**

Гурток старшын 3 стр. Зялезнай дывізіі, апыніўшыхся у табору інтэрнаваных у Калі-

шу, пастанавіў, карыстаючы з дазволу польскай вайсковай ўлады, выдаваць журнал з вышэй паданым тытулам. Сярод рэдактараў маем імёны вядомых украінскіх вайсковых пісьменнікаў—В. М. Куща, М. О Капустяньськага і В. К. Прокоповіча.

Зьмест першага сшытка ось які: М. Капустяньський, Палітыка і стратэгія. В. Кущ. Дух ці мятэрыя? В. Сігарів, Значэньне рушнічнага агню. С. Дельвіг. Пяхотная гармата, О. Ряст, Табор. ⁂ Чаму нямеччына капітулявала 10-XI-1918 г. П. Шандрук, Бітвы зялезнае дывізіі. А. Ляшенко, Нямецкая ваенная дактрына. П. Шандрук, Арганізація узброеных сіл С.С.С.Р. В. Евтимович, Да панаваньня у паветры. У аддзеле кнігопісі даны агляды маскоўскай, польскай і украінскай вайсковай літэратуры. Сярод рэцэнзіяў асаблівую цікаўнасьць мае рэцэнзія на кніжку. Dr. Jan Dąbrowski, Polska a przyszła wojna. Krakow, 1923.

Цікавы журнал, і шкада, калі ён спыніцца на першым нумару. Аб другім пакуль ня чуваць, хоць маніліся яго выдаць ужо даўно.

А. Ружанец,
Майор В. Літ.

ЦЕНТРОАРХИВ. Архивное дело. Выпуск I. Москва, Государственное Издательство, 1923. 1000 экземпляров. 172 стр.

„Архивное Дело" — першая проба стварыць у Маскоўшчыне фаховы орган архівазнаўства.

Зьмест багаты і цікавы. Для Беларускіх навуковых працаўнікоў асабліва цікавымі будуць стацьці Н. Ліхачова „Да пытаньня аб складаньні сьпіску выданых рускіх актаў", В. Шэрамэтэўскага „З сэмінарыума архівазнаўства" і М. Вішнеўскага—„Кроніка архіўнага жыцьця правінцыі ў 1920 г.". З апошняй стацьці можна бачыць, як страшэнна нішчаць архівы бязглуздыя агенты савецкай ўлады „на местах"; дамо толькі дзьве выпіскі: „архіўныя фонды раськіданы па памешканьнях рожных установ і знаходзяцца больш у клунях, скляпох і каморах, дзе яны робяцца здабычай грызакоў, вільготнасьці і агню..." і „няасьцярожныя загады мяйсцовай адміністрацыі вялі часам да масовага зьнішчэньня ці руйнаваньня архіваў, нават—да поўнага зьнішчэньня іх на паперных...". Між іншым, падае кроніка сьпіс архіўных фондаў, трапіўшых у 1920 г. да Цэнтральнага Вітабскага Губэрніяльнага Архіву. Адпаведныя працаўнікі гэтага Архіву аб'ехалі у 1920 г. 20 панскіх двароў, дзе, паміж іншым, знайшлі патаемны архіў вядомага нішчыцеля вуніятаў, арцібіскупа Лужынскага (ў дварэ Любашкова). Загінула зусім у часе вайны і рэвалюціі 48 архіваў Вітабшчыны, варта падаць назовы нішчыцеляў: немцы—11 архіваў, палякі — 15, латвійцы—3, чырвоныя —4, пажар—9, лютаўская і кастрычнікавая рэвалюціі—14, нейкія белыя (?)—7 і скарыстана Камбедамі і Рэўкомамі на канцэлярыйныя патрэбы—5 архіваў.

Яшчэ горш стаіць архіўная справа у Магілеўшчыне. Тутака пацярпелі архівы ад ўсіх ўрадаў: і ад Маскоўскага, і ад польскага, і ад нямецкага, і ад агентаў Шклоўскай паперні. У 1919 г. упоўнаважэным Губэрніяльнага Архіву довялося сабраць у Цэнтральны Архіў ўзвыж 900.000 справ. Дужа каштоўны архіў і бібліатэка былай Царскай Галоўнай Кватэры загінулі: з архіву пакарысталіся немцы, а бібліатэку зьнішчылі камуністы.

У аддзеле бібліаграфіі ёсьць рэцэнзіі аб кнігах: „Описание дел Архива М Н. Просвещения. Том I. Петроград, 1917" (дакумэнты Віленскай Акадэміі і іезуіцкіх калегіяў: Віленскай—Сьв. Ігната, Сьв. Рафаіла і Горадзенскай, а такжа вельмі добрая стацьця праф. І. І. Лаппо па гісторыі асьветы у літоўска-рускай дзяржаве з другой паловы XVI стагодзьзя), „Описание дел бывшего Архива Министерства Народного Просвещения. Казенные еврейские училища. Том I. Петербург, 1920", „Описание документов и бумаг, хранящихся в Московском Архиве Министерства Юстиции. Книга 21. Книги Литовской Метрики VII—XXVIII. Москва, 1916".

Наагул, першы сшытак „Архивного Дела" дае добрае ўражаньне.

Ал. Ружанец-Ружанцоў.

LA REVUE ESTUDIANTINE. Publiće par l'Union Nationale des Associations d'Etudiants d'Ukraïne „CESUS" Prague. Septembre 1924.

Для прапаганды сярод эўропэйскай унівэрсытэцкай моладзі украінскай справы выдаецца гэта часопісь студэнтамі-украінцамі на двох мовах—француcкай і ангельскай. Часопісь рэдагуецца старэнна і з вялікай тэхніч-

най здольнасьцю. На пахвалу украінскай моладзі трэба сказаць, што ў справе украінскай палітычнай прапаганды заграніцай яна кладзе шмат працы, ўзяўшы на сябе абавязак інфармаваць аб украінскіх справах францускае і англіцкае студэнцтва, як праз часопісь, так і праз перыёдычныя зьезды і прыватныя стасункі. З гэтага боку нашае студэнцтва асталося далёка ззаду за украінскім.

**KNYGOS. Bibliografijos ir kritikos žurnalas. Выдае Міністэрства Асьветы, рэдагуе прафэс. Вацлаў Біржышка.**

Дырэктар бібліатэкі Ковенскага Дзяржаўнага Унівэрсытэту праф. Вацлаў Біржышка яшчэ у 1922 годзе пачаў выдаваць бібліяграфічны журнал „Knygos". Нажаль, грашовыя цяготы, якія асабліва адчуваліся ў Літве у 1923 г. часова спынілі выданьне. Цяпер мы дачакалі працягу гэтай паважнай працы, і трэба спадзявацца, што Міністэрства Асьветы парупіцца адшуканьнем сьродкаў на выданьне адзінага (калі ня лічыць вузка-фаховага „Паказчыка Вайсковай Літэратуры"—„Karo Lietuvos Rodyklė") бібліяграфічнага журналу.

Нумар 4—6 дае шмат матэр'ялу. В. Біржышка надрукаваў артыкулы „Міжнародны абмен друкаванымі выданьнямі", „Аўторскае права ў Літве", „Праэкт зьменаў у „Статуце Друку" (Spaudos Įstatymas). Грам. Гудайтис зьмясьціў „Літоўскія песьні Г. Нессельмана", П. Гаучіс падаў вельмі цэнную дзеля вывучаючых літоўскія песьні „Літэратуру аб песьнях, знаходзячыхся у Коўні" (у бібліатэках), гэта сэмінарыйная праца студэнта гуман. факульт. Ковенскага Унівэрсытэту у 1922—1923 г. П. Галаўне даў кавалак успамінаў аб бібліатэцы гр. Хрэбтовічаў, што давялося ему бачыць у Маскве у 1921 г.

Вац. Біржышка апрацаваў „Псэўдонімы" і даў 334 псэўдонімы 175 літоўскіх аўтараў. Сьпіс ня поўны. Не кажучы аб новых імёнах у гісторыі літоўскай літэратуры, я не знайшоў у сьпісу і псэўдоніму, нават, самага паважанага рэдактара—Smutkelis...

Сярод рэцэнзіяў ёсьць адна аб кніжцы праф. Е. Ф. Карскага „Бѣлоруссы. Томъ III. Очерки словесности бѣлорусскаго племени. Книга 3. Художественная литература на народном языкѣ. Петроградъ, 1922", напісаная палк. К. Езавітавым.

З бібліатэчнага жыцьця варта адмеціць шпаркі ўзрост унівэрсыт. білліатэкі у Коўні: у пачатку 1923 г. яна мела 40 тамоў, а у чэрвеню 1924 г. ужо 28.140 тамоў!

Са славянскай бібліяграфіі і бібліятэказнаўства шмат піша журнал аб чэхах, украінцах і паляках.

Бібліяграфічны аддзел (рэгістрацыя друкаў) вялікшы за мінуўшыя №№.

Падае журнал некалькі адозваў па-беларуску, што былі выданы Камітэтам Абароны Літвы і іншымі арганізаціямі у 1920—1921 г. у часе нападу гэн. Жэлігоўскага на літоўскія землі.

160. Грамадзяне вызваленага краю... Зьвязак Літоўскіх Стрэльцоў. Коўна, Ліпеня 22 дня 1920 году. 31×23.

187. Грамадзяне Літвы... Міністр Абароны Палкоўнік Жукас. 31×24.

188. Што-ж маем рабіць?... Зьвязак работнікаў і сялян. 31×24.

289. Браты-салдаты! Нас ашукалі... Салдаты Польшчы. 32×24.

190. Што мы сегодня павінны рабіць. Глаўны Камітэт Абароны Літвы і зьвязах Літоўскіх Стрэльцоў. 39×33.

191. Да абароны ад палякаў... Камітэт Абароны Літвы. 40×48.

З адозваў, надрукаваных палякамі у Віленшчыне пададзена:

217. Селянскі Саюз „Адраджэньне". Брацьця Селяне!... Камітэт Селянскага Саюза „Адраджэньне".

У дадатку да журналу ідзе асобнай пагінацыяй „Літоўская Бібліяграфія", зложаная Вацл. Біржышкай, ўласне, — першая частка XVI—XVIII стагодзьзя. Праца вельмі паважная і шмат паўнейшая за бібліяграфію Балтрамайтіса.

Ал. Ружанец.

**„ГОЛОС ЛИТОВСКОЙ ПРАВОСЛАВНОЙ ЕПАРХІИ". Издается въ Ковнѣ Литовскимъ Епархіальнымъ Совѣтомъ. № 3. Іюнь — Августъ. 16×24 цм. Стр. 16 (35—5).**

Гэты цененькі галасок аднак-ж груба ігноруе верных сваіх,—праваслаўных беларусаў, з якіх пераважна і складаецца „Литовская Епархія". Ні ў „Голасе", ні ў царкоў

ным жыцьці Літоўскую Епархію мова таго народу, якому яна празначана служыць, не абавязуе, і, мабыць, дзеля гэтага сьвятары і первасьвятары Літоўскай Епархіі абслуговуюць патрэбы сваіх верных ў чужой расійскай мове. Прынамні, нам ня ведама, ці ёсьць надрукаваны хоць-бы катэхізм ў беларускай мове для навукі праваслаўнай веры, або хоць-бы малітаўнік.

А час, вялікі час перастаць праваслаўным пастырам ўлаўліваць душы ў Маскальскія цянёты.

## „NARODNA STARINA" Nepovremeni časopis za povijest kulture i etnografiju južnih Slovjena. Uredio Dr. Josip Matasovič. Zagreb.

Вельмі цікавая часопісь, пасьвячоная Юга-Слаўскай, а галоўна—харвацкай гісторыі і культуры, а также —этнолёгіі і этнографіі. Выходзіць аддзельнымі сшыткамі па 6 аркушаў друку. Вельмі падробна апрацовуецца ў гэтым выданьні народная тэрмінолёгія. Сьпісываюцца назовы ня толькі аддзельных часьцей вопраткі, прылады і інш., паводле прыложаных фотографічных зьнімкаў, але также—кождая частка арнаманту. Старасьвецкія народныя вопраткі і вышыўкі харваты ня толькі зьбіраюць ў музэі, але і распрацовуюць пры дапамозе мастакоў і рысаўнікоў.

## „СТУДЕНЧЕСКІЕ ГОДЫ". № 6 1924 г.

Прага. На эміграціі шмат маладзежы з абшараў б. Расіі апынулася загранiцай. Часьць гэтай маладзежы, дзякуючы расійскім арганізаціям, прыстроілася вучыцца ў загранічныя унівэрсытэты. Духовае кіравецтва яго ўзяла ў свае рукі расійская рэакція, якая прапагуе адзінства расійскай націі ў духу спраціўленьня „сепаратистическому націонализму среди нѣкоторой части малорусской (отчасти бѣлорусской) вѣтви русскаго народа". „Долг чести малоруссовъ"...(бал. 28). Круцячы паньцыямі, фальшуючы гісторыю, „С. Г." набівае галовы сваіх чытачоў абсурдамі аб адзінстве „русскаго" народа, аб яго мэсыянізме ў першы чарод сярод свайго-ж адзінства, г. зн., Беларусаў і Украінцаў, якія павінны служыць пагноям пад „великую русскую культуру" і ня маюць, нібы-то права змагацца за лепшую, свабодную сваю будучыну.

# Зьмест.

Redaktorius-leidejas K. DUŽ-DUŠIAUSKAS. Рэдактар-выдавец К. ДУЖ-ДУШЭЎСКІ.

## ВЫЙШАЎ З ДРУКУ

коштам Выдавецтва Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве

**ПАДРУЧНЫ**

**Расійска-Крыўскі (Беларускі)**

# СЛОЎНІК

**В. ЛАСТОЎСКАГА.**

Слоўнік мае 832+XII балонак пэтыту і зьмяшчае каля 40.000 крыўскіх (беларускіх) слоў.

ЦАНА **2** ДОЛЯРЫ.

Выпісываць можна са складу:

**LIETUVA, KAUNAS,** Mickevičiaus g-vė, 15/23 Nr.



Š. Neumano spaustuvė Kaune, Laisvės al. 72. Telef. Nr. 1090.
Друкарня Ш. Нэймана, Коўна, Лайсвес Алея, 72.